Пераклад Васіля Раманава 2014 год

Астольф дэ Кюстын.

# Расія ў 1839 годзе

## Прадмова

Які кіраўнік народа, такія і служачыя пры ім; і які начальнік над горадам, такія і ўсе, хто жыве ў ім.
Кніга мудрасьці Ісуса, сына Сірахава, 10, 2. (14)

Смага падарожжаў, якую я адчуваў у сваёй душы ад нараджэння і пачаў здавальняць ужо ў ранняй маладосці, ніколі не была для мяне данінай модзе. Ва ўсіх нас у той ці іншай ступені існуе жаданне пабачыць свет, які ўяўляецца нам цямніцай, бо мы не выбіралі яго сваім прыстанішчам, аднак я, мабыць, не змог бы са спакойнай душой пакінуць гэты цесны маленькі свет, не даследаваўшы ўсе яго куткі. Чым больш назіраю я сваю турму, тым больш прыгожай і прасторнай становіцца яна ў маіх вачах. Дэвіз вандроўцы – бачыць, каб ведаць, – гэта мой дэвіз; я не выбіраў яго, ён падказаны мне прыродай.

Параўноўваць жыццё розных народаў, якія насяляюць зямлю, вывучаць іхную манеру думаць і адчуваць, адшукваць сувязі, якія злучаюць, па волі Госпада, іх гісторыю, звычаі і аблічча, адным словам, падарожнічаць – значыць для мяне здабываць невычэрпны запас[1] дадзеных для дапытлівасьці, вечную крыніцу ўзбуджэння для думкі; перашкодзіць мне вандраваць па свеце – усё роўна, што выкрасьці ў кніжніка ключ ад кніжнай шафы.

Але, як бы далёка ні заводзіла мяне цікаўнасць, сямейныя прыхільнасці вяртаюць мяне дадому. Тады я падводжу вынік сваім вандроўным уражанням і выбіраю са сваёй здабычы ідэі, якія, як мне ўяўляецца, было б карысна ведаць усім. Пакуль я ездзіў па Расіі, маёй душою, як заўсёды, калі я выпраўляўся ў падарожжы, авалодвалі два пачуцці: каханне да Францыі, якое вымушае мяне быць суровым ў маіх меркаваннях аб іншаземцах і нават пра саміх французаў, бо сапраўднае захапленне не ведае ласкі, і любоў да чалавецтва. Ураўнаважыць гэтыя два прадметы нашых зямных прыхільнасцей – бацькаўшчыну і род чалавечы – вось прызначэнне ўсякай ўзнёслай душы. Здзейсніць гэта здольна толькі рэлігія, што да мяне, то я зусім не магу цешыць сябе надзеяй, што дамогся гэтай мэты, аднак я магу і абавязаны сказаць, што ніколі не пераставаў імкнуцца

[1] Гэта адчуванне сфармавалася ў Кюстына яшчэ ў юнацкія гады; пар. яго прызнанні ў лістах: «Мне трэба пакідаць самага сябе; іншы раз я адчуваю такую патрэбу туляцца па свету, нібы, змяніўшы месца знаходжання, змагу змяніць сваю істоту» (маркізу дэ Лагранжу, 14 жніўня 1818 г.), ці: «Я па-сапраўднаму раблюся самім сабой, толькі знайшоўшы незалежнасць вандроўніка» (яму ж, травень 1822 г.; цыт. па: Espagne. P. VI). 3. 11.

да яе з усёй мгутнасьцю на яку здольны, не звяртаючы ўвагу на капрызы моды. Я захоўваў у сваім сэрцы рэлігійныя ідэі, жывучы сярод людзей абыякавых, а сёньня я не без радаснага здзіўлення заўважаю, што маладыя розум новага пакалення праяўляюць немалую цікавасць да дарагіх мне ідэй[2]. Я не належу да ліку людзей, якія бачаць у хрысціянстве святое пакрывала, якое розум, няспынна ўдасканальваючыся, павінен рана ці позна разарваць. Рэлігія знаходзіцца пад пакрывалам, аднак пакрывала не ёсць рэлігія; калі хрысціянства разважае сімваламі, то не таму, што ісціна цёмная, але таму, што яна ззяе занадта ярка, а вочы чалавечыя занадта слабыя: чым лепш удасканаліцца чалавечы зрок, тым далей прасякне позірк людзей, але гэта не зменіць сутнасці справы; ў цемры гібеюць не рэчы, але мы самі. Людзі, якія не вызнаюць хрысціянства, жывуць раз'яднымі, а калі і аб'ядноўваюцца, то толькі для таго, каб утварыць палітычныя супольнасці, інакш кажучы, пайсці вайной на іншых людзей. Адно толькі хрысціянства можа аб'ядноўваць людзей у імя міру і свабоды, бо аднаму яму вядома, дзе шукаць свабоду. Хрысціянства кіруе і будзе кіраваць зямлёй тым больш паспяхова, чым больш часта будзе яно ўжываць сваю боскую мараль да чалавечых дзеяньняў. Раней хрысціянскі свет больш цікавіў містычны, чым палітычны бок рэлігіі: цяпер для хрысціянства надыходзіць новая эра; магчыма, нашы нашчадкі пабачаць Евангелле ў падмурку грамадскага ўладкавання. Але блюзнерствам было б лічыць падобнае становішча адзінай мэтай нябеснага

---

[2] Зласліўцы былі схільнымі ўспрымаць прадмову да «Расіі ў 1839 годзе» як плён кюстынаўскай крывадушнасьці, як спробу «падтапіць лёд і набыць прыхільнасць Сэн-Жэрменскага прадмесьця» (рэцэнзія з ангельскага часопіса «Quarterly Review», перакладзеная ў выд.: Bibliotheque universelle de Geneve. 1844. T. 52. P. 105). Падобным чынам сакратар рускай місіі ў Парыжы Віктар Балабін у дзёніку ахарактарызаваў гэтую прадмову як «смутную, сумнеўную, дзе ён <Кюстын> тлумачыць пра сваю рэлігію, якую, напэўна, ведае вельмі неглыбока, і пра нашу, якую не ведае цалкам», як «саступку існуючаму зараз накірунку <…> палкай рэлігійнасьці, які пануе ў французскім грамадстве», дзе «няма турыста, няма вандроўніка, які б не лічыў сваім абавязкам глыбока даследаваць рэлігійнае пытанне — і адзін Бог ведае, як яны яго даследуюць» (Balabine. P. 125; запіс ад 19 траўня 1843 г.). Сапраўды, спачуванне лёсу польскіх каталікоў, якія зведвалі пераследы ў Расійскай імперыі, адрознівала некаторую частку французскіх легітымістаў і азмрочвала іхнае бачанне Расіі, наогул вельмі станоўчае (адсюль — шматлікасць матэрыялаў пра пераследы каталікоў у Расійскай імперыі). У развагах Кюстына на рэлігійныя тэмы не варта, аднак, бачыць простую саступку палітычнай кан'юнктуры. Кюстын напружана разважаў пра рэлігію з юнацкіх гадоў. «Я адчуваю самую жывую, самую настойлівую патрэбу зрабіцца вучнем! і да таго часу пакуль я не адшукаю свайго Месію, мне не зведаць заспакаення! Усе мае няшчасьці, магчыма, адбываюцца таму, што я шукаю настаўніка на зямлі; мне патрэбна было б нарадзіцца васямнаццаццю стагоддзямі раней, каб зрабіцца цалкам шчаслівым … вера здольна замяніць шчасьце!», — пісаў ён да маці 31 траўня 1815 г., а яна, у сваю чаргу, паведамляла ў тую ж пару сваёй маці, што Астольф сур'езна збіраецца пайсьці ў кляштар (Maugras. P. 492) — Рахілі Варнгаген, якой ён паведамляў свае самыя патаемныя намеры, Кюстын пісаў 6 студзеня 1817 г.: «Нашы падахвочванні не залежаць ад нас, але мы маем права абіраць паміж процілеглымі падахвочваннямі, галоўную крыніцу нашай магутнасьці <…> — уменне зразумець, якое із гэтых падахвочванняў больш пагадняецца з задумамі Бога. Як вынік, адзіны наш прытулак — малітва; у ёй знаходзім мы цягу да той згубленай спадчыны, якую нам так напышліва распісваюць пад імем волі. Сапраўдная наша воля — ва ўсведамленні нашага рабства…» (Lettres a Varnhagen. P. 117) — Паказальна, што загалоўныя героі першага і апошняга раманаў Кюстына, Алаіс і Рамуальд, надзеленыя некаторымі аўтабіяграфічнымі рысамі, абіраюць рэлігійную ніву. Лёсам каталіцкай царквы ў царскай імперыі пісьменнік працягваў цікавіцца і пасьля выдання «Расіі ў 1839 годзе»; у 3-е выданне ён дадае шырокія ўрыўкі із кнігі нямецкага багаслова А. Тэйнера «Выпрабаванні каталіцкай царквы абодвух накірункаў у Польшчы і ў Расіі» (1841; фр. пер. 1843; гл. у другім томе Дадатак 2).

заканадаўцы; гэта – усяго толькі сродак... Звышнатуральнае святло можа зазззяць чалавецтву толькі пасьля таго, як душы уз'яднаюцца па–за і звыш усіх зямных праўленняў: духоўнае грамадства, грамадства без межаў – вось надзея свету, вось яго будучыня. Іншыя сцвярджаюць, што гэтая мэта абавязкова будзе дасягнута і без дапамогі нашай рэлігіі[3], што хрысціянства, якое спачывае на такім гнілым падмурку, як першародны грэх, струхлела і што для выканання свайго сапраўднага, да гэтага дня яшчэ нікім не зразуметага прызначэння, чалавек павінен падпарадкоўвацца адным толькі законам прыроды.

Першаступенныя славалюбцы, з дапамогай свайго вечна маладога красамоўства ўліваць новае жыццё ў гэтыя старыя дактрыны, вымушаны, каб іх не папракалі ў непасьлядоўнасьці, дадаваць, што дабро і зло – не што іншае, як утварэнні чалавечага розуму, і чалавек, які сам стварыў гэтыя прывіды, вольны сам жа іх і знішчыць.

Нібыта новыя доказы, якімі яны падмацоўваюць свае тэорыі, не задавальняюць мяне; але, будзь яны нават неабвержнымі, што змяніла б гэта ў маёй душы?.. Ці скінуты чалавек у прах грахом ці ж знаходзіцца там, куды пакорлівай Госпаду прыродзе вольна было яго змясціць, ён – не хто іншы, як жаўнер, завербаваны паза яго воляй з самага нараджэння і звальняючыся ў адстаўку толькі па смерці; зрэшты, і тады пабожны хрысціянін толькі змяняе адны сувязі на іншыя. Вечны закон чалавечага жыцця, запаведаны Богам, –

[3] Напачатку 1840-х г. у Францыі ў чарговы раз абвастрыліся спрэчкі пра месца каталіцкай рэлігіі ў сучасным грамадстве; вясной 1843 г. прафесары Калеж дэ Франс Э. Кіну і Ж. Мішле пачалі чытаць курсы лекцый, у якіх сцвярджалі натуральнае паходжанне ўсіх рэлігій і выступалі супраць езуітаў, за поўную секулярызацыю народнай адукацыі. Гэтыя пагляды працягвалі даўнюю французскую традыцыю ўспрымання каталіцкай царквы і яе самага магутнага «атрада» езуітаў — як крыніцы ўсіх грамадскіх няшчасьцяў (пра асабліва міфалагічны характар гэтых уяўленняў гл.: Leroy M. Le mythe jesuite. DC Beranger a Michelet. P., 1992.). З іншага боку, чым мацнейшымі рабіліся ў грамадстве сацыялістычныя тэндэнцыі, тым актыўней пачыналі некаторыя мысляры шукаць выратавання ад разбуральнага сацыялізму ў рэлігіі: «…яшчэ ўчора езуітаў гналі і адлучалі ад народнай адукацыі, і раптам усё змянілася; пудзіла, якім яшчэ нядаўна былі езуіты, ультрамантанскае святарства, каталіцкая няцярпімасць (згодна звыказваннямі тых гадоў), упала перад тварам небяспекі больш відавочнай. Сацыялізм, агідны сацыялізм стаяў каля нашых дзвярэй! Уздрыгаючыся ад жаху, французскае грамадства заклікала сабе на дапамогу ў змаганні з гэтым жудасным ворагам усіх, каго толькі можна: біскупаў, кюрэ, манахаў, нават езуітаў. Ілжывыя жахі, хімерычныя баязні, тактычныя сумневы ўсё знікла пры выглядзе сапраўднай пагрозы…» (Nettement A. Souvenirs de la Restauration. P., 1858 P. 253; пар. падобную пастаноўку пытання: каталіцтва ці сацыялізм у дачыненні да рускага грамадства ў брашуры рускага езуіта Я. С. Гагарына «Каталіцкія тэндэнцыі ў рускім грамадстве», 1860 г.). Дададзім, што скептыцызм Кюстына адносна «каталіцкай пагрозы» падзялялі і яго рускія апаненты; так, не прыняўшы яго кнігу П. А. Вяземскі хутка пасьля яе з'яўлення на свет (30 кастрычніка 1843 г.) выказаў у прыватным лісьце падобныя пагляды: «Ці можна ў наш час баяцца езуітаў і духоўнага дэспатызму? Тым часам жахліва бачыць, як уладкаваны нашы так званыя хрысьціянскія грамадствы. Рэлігія павінна была б быць у іх падставай і краявым каменем, а замест гэтага яна ўсюды камень спатыкання. Усюды асьцерагаюцца яе і імкнуцца выдаліць із агульнага народнага жыцця. Яе дакладна ўспрымаюць як патрэбнае, але згубнае зло, ад якога нямагчыма дастаткова адгарадзіць, застрахаваць, наладзіць грамадства так, каб і яно да яе не мела дачынення і не зведвала б яе ўплыву. <…> Духоўная ўлада — людзі, вядома, як і ўсе, грэшныя і слабыя і схільныя да злоўжыванняў: выпраўце іх, але не чапайце духоўную ўладу і не зневажайце яе вашымі падазрэннямі і жахамі. Каму ж навучаць хрысціянаў, як не духоўным пастырам, а тым часам толькі таго і баяцца, каб святарства якім-небудзь чынам не ўзяло ўдзел у выхаванні юнацтва. Што за блытаніна, што за зменлівасць у поглядах! Воля ваша, усё гэта недарэчна» (РАІЛІ. Ф. 309. № 475 163; ліст да А. Я. Тургенева).

праца і барацьба; баязлівасць здаецца чалавеку самагубнай, сумневы для яго – катаванне, перамога – надзея, вера – адпачынак, а падпарадкаванне – слава.

Такім з'яўляецца чалавек усіх часоў і ўсіх краін, але, перш за ўсё, такі чалавек, узгадаваны рэлігіяй Ісуса Хрыста.

Вы сцвярджаеце, што дабро і зло – выдумкі самога чалавека? Але калі прырода дыктуе чалавеку гэтыя дакучлівыя прынцыпы, як уратуецца ён ад самога сябе? І як пазбавіцца ад гэтай падступнай здольнасці выдумляць, калі хочаце – хлусіць, – здольнасці, не пакідаючай яго, паза яго і вашай воляй, ад стварэння свету?

Да таго часу, пакуль вы не заменіце трывогі майго сумлення спакоем вашага, вы нічым не здолееце мне дапамагчы... Спакой!.. Не, якія вы ні дзёрзкія, вы не зможаце сцвярджаць таго, што ён вам ведамы!!! І ўсё ж... заўважце сабе, спакой – гэта права, гэта абавязак тварэння, надзеленага розумам, бо, страціўшы спакой, яно апускаецца ніжэй жывёлы; аднак вось у чым загадка! загадка, невырашальная ні для каго – ні для вас, ні для мяне: нам ніколі не дасягнуць спакою сваімі намаганнямі, бо, што ні кажаце, усёй прыроды не хопіць для таго, каб дараваць спакой адной-адзінай душы[4].

Пагэтаму, прымусь вы мяне нават пагадзіцца з вашымі рызыкоўнымі сцвярджэннямі, вы толькі далі б мне новыя доказы таго факту, што нам патрэбен лекар. Выкупляльнік, які ўмее лекаваць душу чалавека – гэтага разбэшчанага стварэння, пастаянна і непазбежна нараджаючага прывіды, пастаянна і непазбежна загрузаючага ў змаганьннях і супярэчнасьцях і па прыродзе сваёй пазбягаючага спакою, без якога яно, аднак, не можа абысьціся, стварэння, якое ў імя міру распальвае вайну, сеючага навокал ілюзіі, хаос і гора. А калі патрэба ў Выкупляльніку не падлягае сумневу, то вы прабачце мяне, калі я зьвярнуся за выкупленнем не да вас, а да Ісуса Хрыста!!! Вось у чым корань зла! Розуму трэба пакарыць ганарыстасць, прызнаць сваю недасканаласць. Калі прыходзіць да канца крыніца разваг, пачынаюць біць ключом пачуцці; варта душы прызнаць сваю бездапаможнасць, як яна становіцца ўсемагутнай; яна не загадвае, але моліць – і, схіліўшы калені, чалавек набліжаецца да мэты.

Але калі ўсё схіліцца, калі ўсё будзе гібець у пыле, хто на зямлі застанецца стаяць горда і прама? Хто будзе кіраваць смяротным светам?.. Царква і яе першасьвятар...

Калі з ўлоння гэтай Царквы, дачкі Хрыста і маці хрысьціянства, выйшлі адступнікі, віной таму яе жрацы – бо яны таксама людзі. Але Царква зноў набудзе адзінства, бо людзі гэтыя, якімі б нязначнымі яны ні былі, тым не менш, з'яўляюцца прамымі нашчадкамі апосталаў; са стагоддзя ў стагоддзе іх высьвячалі ў святары біскупы, на якіх таксама са стагоддзя ў стагоддзе,

[4] Найбольш падрабязная апалогія прынцыпу аўтарытэта і традыцыі, супрацьстаўленага «тупой упартасьці ці неразважнай ганарыстасьці» адзінак, была дадзена ў нашумелай кнізе Ф.-Р. дэ Ламенэ (1782–1854) «Досвед пра абыякавасць у вобласьці рэлігіі» (1817–1823): «Хіба разумней і надзейней вымаўляць: „Я веру ў сябе“, чым: „Я веру ў род чалавечы“? Каму із гэтых двух аўтарытэтаў аддаць перавагу: вашаму розуму ці розуму чалавецтва?» (Lamennais F.-R. de. Oeuvres completes. P., 1844. T. 1. P. 6-8) Менавіта да падобных «традыцыяналістскіх» уяўленняў узыходзіць каментаваны пасаж Кюстына.

пачынаючы са Святога Пятра і Ісуса Хрыста, сыходзіў Святы дух, а з ім – аўтарытэт, неабходны для таго, каб паведамляць ласку адроджанаму свету. Уявіце – бо Гасподзь усемагутны, ці не так?.. – Уявіце, што род чалавечы сур'ёзна пажадае вярнуцца да хрысціянства: няўжо ён стане шукаць веру ў кніжках? Не, ён адшукае людзей, якія растлумачаць яму сэнс гэтых кнігжак. Такім чынам, аўтарытэт неабходны заўсёды: у ім маюць патрэбу нават прапаведнікі незалежнасьці, а із двух аўтарытэтаў той, што абраны самавольна, не варты таго, за якім стаіць адабрэнне васемнаццаці стагоддзяў. Ці верыце вы, што расійскаму імператару роля зямнога кіраўніка Царквы належыць больш, чым рымскаму прэлату? Рускія абавязаны верыць гэтаму, але ці вераць яны на самой справе? І ці верыце вы, што яны гэтаму вераць? А менавіта гэтую рэлігійную ісьціну яны прапаведуюць зараз палякам! Але вы жадаеце быць паслядоўнымі і ўпарта адмаўляеце ўсякі аўтарытэт, акрамя аўтарытэту індывідуальнага розуму? Вы рвецеся ў бойку ад таго, што розум сілкуе ганарыстасць, а ганарыстасць сее разлад. О, хрысціяне не спасцігаюць, якога скарбу добраахвотна пазбавілі яны сябе ў той дзень, калі ўявілі, што Цэрквы могуць быць нацыянальнымі!.. Зрабіся ўсе цэрквы свету нацыянальнымі, інакш кажучы, пратэстанцкімі або праваслаўнымі[5], сёння б ў нас не было хрысціянства: яго месца занялі б багаслоўскія сістэмы, падначаленыя палітыцы, якая змяняла б іх згодна сваім капрызам, у залежнасці ад абставін і мясцовых звычаяў.

Паўтаруся: я хрысціянін таму, што лёсы чалавечыя здзяйсняюцца не на зямлі; я каталік таму, што па–за каталіцкай царквой хрысціянства перакручваецца і гіне.

Зрабіўшы вялікую шкоду, парушыўшы адзінства, пратэстанты, самі таго не ведаючы, стварылі вялікае шчасце: яны пераўтварылі пакінутую імі Царкву. Гэтая царква за час, які прайшло пасьля эпохі Лютэра і Кальвіна, зрабілася такой, якой ёй належала быць заўсёды: больш евангелічнай, чым палітычнай. Але і пратэстанты абавязаны ёй неацэньваемым дабром – жыццём: бо пратэстантызм, чыя сутнасць – адмаўленне[6], ужо даўно б загінуў, калі б не было

---

[5] Ідэі, узыходзячыя да кнігі Жозэфа дэ Местра (1753–1821) «Пра папу» (1819, ч. IV, гл. 6): «Адлучыўшыяся цэрквы выразна адчуваюць, што ім нехапае адзінства, што над імі няма ўлады, што ў іх няма месца, дзе яны маглі б сабрацца і параіцца. Адна думка першай прыходзіць на розум і ўражвае яго: „Сутыкніся такая царква з нейкімі цяжкасьцямі, зведай адзін із яе догмаў пераследы, які суд вырашыць гэта пытанне, калі над цэрквамі няма ні чалавека, які іх узначальвае, ні Сусветнага Сабору?“» На сувязь каментуемых разважанняў Кюстына з ідэямі дэ Местра, «якія, нават будучы няправільнымі, заўсёды новыя і пікантныя», паказаў К. Лабінскі (Labinski. P. 49–54), які папракнуў Кюстына ў тым, што, абаранячы памяркоўнасць, ён не выказвае такой у дачыненні да некаталіцкіх рэлігій. Думку пра тое, што нацыянальная царква — не больш, чым дзяржаўная ўстанова, падпарадкаваная кіраўніку дзяржавы, Кюстын мог запазычыць і ў паслядоўніка дэ Местра графа д'Арэра, аўтара кнігі «Пераследы і выпрабаванні каталіцкай царквы ў Расіі» (гл.: Persecutions et souffrances de l'Eglise catholique en Russie. P., 1842. P. 16–17), якую чытаў пад канец працы над «Расіяй у 1839 годзе» і на якую спасылаецца ніжэй (гл. гэты том, стр. 282; т. 2, стр. 314). Пра нацыянальныя цэрквы гл. таксама т. 2, з. 95–97.

[6] Услед за Ж. дэ Местрам, які пісаў у кнізе «Пра папу» (ч. IV, гл. 1), што «кожная царква, якая не з'яўляецца каталіцкай, ёсць царква пратэстанцкая <…> бо што такое пратэстант? Гэта чалавек, які пратэстуе, а ўжо супраць менавіта якой догмы ён пратэстуе, — усё роўна», Кюстын нязменна падкрэсліваў «адносны» характар пратэстантызму, пазбаўленага, згодна з яго перакананнем, абсалютных каштоўнасьцей: «Гэта рэлігія набывае магутнасць толькі пад час асвечаных эпох; супраць

ў яго неабходнасці змагацца супраць станоўчай рэлігіі. Менавіта неўміручасць рымскай Царквы стала залогам даўгавечнасці тых сектаў, што выйшлі з яе ўлоння. Я аб'ехаў большую частку цывілізаванага свету і падчас гэтых падарожжаў усімі сродкамі імкнуўся вывучыць таемныя спружыны, рухаючыя жыццём імперый; я вёў назіранні з вялікім захапленнем, і вось якое меркаванне склаў я аб будучых лёсах свету.

З чалавечага боку гледжання, наперадзе ў нас – усеагульная раз'яднанасць розумаў, якая вынікае з пагарды да адзінага законнага аўтарытэта ў галіне веры, інакш кажучы, знішчэнне хрысціянства не як маральнай і філасофскай дактрыны, але як рэлігіі... – аднаго гэтага дастаткова для падмацавання маёй думкі. Са звышнатуральнага боку гледжання, наперадзе ў нас трыумф хрысціянства ў выніку зліцця ўсіх цэркваў у адзіную маці-царкву, у царкву пахіснуўшуюся, але непарушную, чые вароты з кожным стагоддзем раскрываюцца ўсё шырэй, каб усе што пакінулі яе маглі вярнуцца назад. Свет павінен стаць альбо паганскім, альбо каталіцкім: яго рэлігіяй павінна зрабіцца альбо больш ці менш вытанчанае паганства, якое мае храмам прыроду[7], жрацамі адчуванні, а кумірам розум, альбо каталіцтва, якое падтрымліваецца святарамі, сярод якіх хоць бы жменька сумленна выконвае запавет настаўніка: «Царства маё не на гэтым свеце».

Вось дылема, якая вечна будзе стаяць перад чалавечым розумам. Усё астатняе – альбо падман, альбо ілюзіі.

Я ведаю гэта з тых часоў, як пачаў думаць; дарэчы, ідэі майго стагоддзя былі такімі далёкімі ад маіх уласных, што мне не хапала не столькі веры, колькі адвагі; адзінота ўсяляла ў маю душу пакутлівае адчуванне бездапаможнасці; тым не менш, я ўсімі сродкамі спрабаваў адстаяць маю веру. Сёння ж, калі вера гэтая распаўсюдзілася сярод часткі хрысціянскага свету, сёння, калі свет хвалююць менавіта тыя вялікія мэты, што заўсёды вымушалі часьцей біцца маё сэрца, нарэшце, сёння, калі бліжэйшая будучыня Еўропы залежыць ад вырашэння пытання, над якім нястомна біўся такі цёмны чалавек, як я, – сёння я разумею, што мне ёсць месца ў гэтым свеце, я адчуваю падтрымку калі не ў маёй айчыне, усё яшчэ заражанай філасофіяй разбурэння, вузкай, адсталай філасофіяй, якая аддаляе добрую палову сучаснай Францыі ад вялікай бітвы за чалавецтва, то, па меншай меры, ў хрысціянскай Еўропе. Менавіта гэтая падтрымка дапамагла мне больш выразна растлумачыць мае ідэі ў гэтым творы і зрабіць з іх канчатковыя высновы.

Вяршэнства рымскага першасвятара, які ведае правамі і дэкрэталіямі царквы, – залог пастаянства веры; вось праз што вікарый Ісуса Хрыста застанецца

варварства яна нямоглая. <…> Магутнасць пратэстантызму – гэта магутнасць водгуку; гэтая рэлігія да самага канца будзе несьці на сабе адбітак свайго паходжання і ўпадзе сама сабой у той момант, калі на свеце не застанецца рэчаў, якія будуць патрабаваць рэфармавання, і ад царквы запатрабуецца здольнасць да стварэння» (Memoires et voyages. P. 342)

[7] Намёк на пантэістычныя тэндэнцыі, небяспеку якіх адэпты традыцыйнага каталіцызму ўвесь час падкрэслівалі ў 1830-40 гг. (так, у пантэізме вінавацілі Ламарціна за выдадзеную ў 1836 г. і хутка забароненую царквой паэму «Жаслен», а ў 1839 г. абат Марэ выдаў цэлую кнігу выкрывальнага характару пад назвай «Доследы пра пантэізм у сучасным грамадстве»).

зямным кіраўніком да таго часу, пакуль хрысціяне не знойдуць іншы спосаб забяспечыць яму незалежнасць. Яму належыць прынімаць ўшанаванні, не злоўжываючы імі; служцы царквы, якая перажыла столькі бедстваў, не варта забывацца пра гэты хрысціянскі абавязак. Слабая і нічуць не ваяўнічая ўлада, якую пакінула палітыка намесніку Бога на зямлі, з'яўляецца сёння для гэтага прэлата, які стаяў вышэй за ўсіх іншых святароў, толькі сродкам паказаць свету адзіны ў сваім родзе прыклад апостальскіх цнотаў на пасадзе; здзейсніць гэты звышнатуральны подзвіг дапаможа яму разуменне ўласнай велічы. Ён ведае, што патрэбен царкве, а царква патрэбна для ажыццяўлення Гасподніх відаў на род чалавечы; гэтага перакананне даволі, каб узвысіць звычайнага чалавека.

Паўсюль, дзе мне здаралася быць, ад Марока да межаў Сібіры, я адчуваў іскры будучых рэлігійных войнаў; войнаў, якія, трэба спадзявацца, будуць весьціся не з дапамогай зброі (такія вайны, як правіла, нічога не вырашаюць), але з дапамогай ідэй... Толькі аднаму Богу вядомыя таемныя падставы падзей, але кожны чалавек, які ўмее назіраць і разважаць, можа адгадаць некаторыя з пытанняў, адказ на якія дасць будучыня: усе гэтыя пытанні маюць дачыненне да рэлігіі. З гэтага часу палітычны ўплыў Францыі будзе залежаць ад таго, наколькі магутнай будзе яна як дзяржава каталіцкая. Чым далей адыходзяць ад яе рэвалюцыйныя розумы, тым бліжэй падыходзяць да яе каталіцкія сэрцы. Сіла рэчаў у гэтай сферы так падпарадкоўвае сабе людзей, што кароль, вядомы сваёй памяркоўнасцю, і міністр-пратэстант[8] праславіліся ва ўсім свеце як самыя дбайныя абаронцы каталіцкай рэлігіі выключна з той нагоды, што належаць да французскай нацыі[9].

Такімі былі пастаянныя прадметы маіх разважанняў і турбот падчас доўгага паломніцтва, якому прысвечана гэта кніга; маё апавяданне разнастайнае, як блукаючае жыццё вандраўніка, але часцей аднастайнае, як паўночная прырода, сумнае, як дэспатычная ўлада, і нязменна перапоўненае любові да айчыны, а роўна і адчуванняў больш агульнага характару. Як, аднак, часта падвяргаюцца сумневу гэтыя ідэі, якія хвалююць цяпер свет, шмат гадоў гібеўшыя пад ўладай цывілізацыі залішне матэрыяльнай. Прызнаць боскасць Ісуса Хрыста – гэта, зразумела, нямала; большасць пратэстантаў не здольныя і на гэта, аднак гэта яшчэ не значыць далучыцца да хрысціянства. Хіба язычнікі не жадалі будаваць храмы ў гонар таго, хто прыйшоў у свет, каб разбурыць іхныя храмы?.. Хіба, прапаноўваючы апосталам ўключыць Ісуса Хрыста ў лік багоў, язычнікі станавіліся хрысціянамі? Хрысціянін – вернік царквы Ісуса Хрыста, а гэта – царква адзіная і адзінкавая; яе ўзначальвае зямны ўладар, і ёй ёсьць справа не

[8] Маецца на ўвазе Луі-Піліп (1773-1850, кароль французаў у 1830–1848 гг.), які шанаваў веру большасьці сваіх падданак, але, у адрозненне ад свайго папярэдніка Карла Х, зусім не быў дбайным каталіком, і Франсуа Гізо (1787–1874) с 1840 г. міністр замежных спраў і фактычны кіраўнік урада, які нарадзіўся ў пратэстанцкай сям'і і вызнаваў веру бацькаў, але чужы фанатызму; у сваю бытнасць міністрам народнай адукацыі (1832–1837) ён нават жадаў аднавіць у Сарбоне «багаслоўскі факультэт, выпісаўшы сюды шмат каго, якія з'ехалі прафесарнічаць із Францыі ў Бельгію: але міністр-пратэстант не здолеў зрабіць гэтую паслугу галіканскай царкве — і чатыры прафесары багаслоўя гэтак жа мала выконваюць свае абавязкі, як і іншыя прафесары недакладных навук» (Тургенеў А. Я. Хроніка рускага. М.; Л., 1964- стр. 144).
[9] Гл. ліст 28.

толькі да дзеянняў кожнага чалавека, але і да яго веры, бо ўлада яе – улада духу. Гэтая Царква аплаквае дзіўны зман нашых дзён, калі за хрысціянскую памяркоўнасць прымаецца філасафічная абыякавасць.Ператварыць памяркоўнасць ў догму і замяніць гэтай чалавечай догмай дагматы боскія – значыць на падставе ўдасканалення выракчы яе на пагібель. З боку гледжання каталіцкай царквы, быць памяркоўным – не значыць здраджваць сваім перакананням; гэта значыць пратэставаць супраць гвалту і прыносіць у дар вечнай ісціны малітвы, цярпенне, любоў і веру; ці такая, аднак, сучасная памяркоўнасць?! Абыякавасць як прынцып, які ляжыць ужо больш за стагоддзе ў падмурку новага багаслоўя, страчвае павагу ў вачах сапраўдных хрысціян тым імклівей, чым большыя страты прыносіць яна веры; сапраўдная памяркоўнасць, памяркоўнасць, абмежаваная межамі пабожнасьці – не штодзённы стан душы, але лекі, якімі міласэрдная рэлігія і мудрая палітыка лечаць хваробы духу. А што азначае нядаўняе вынаходніцтва – неакаталіцызм[10]? Стаўшы новым, каталіцызм адразу спыніць сваё існаванне. Вядома, могуць знайсціся і знаходзіцца нямала розумаў, якія, стаміўшыся плыць па волі разнастайных тэорый, хаваюцца ад бур, народжаных ідэямі нашага стагоддзя, пад шатамі алтара; гэтых нановадалучаных можна назваць неакаталікамі, але, кажучы пра неакаталіцызм, мы непазбежна прызнаемся ў неразуменні самой сутнасці рэлігіі, бо ў слове гэтым закладзена супярэчнасць.

Няма нічога менш двухсэнсоўнага, чым наша вера; яна – не філасофская сістэма, ад якой кожны можа ўзяць, што хоча, а астатняе – адкінуць. Чалавек альбо становіцца каталіком, альбо не становіцца ім; нельга зрабіцца каталіком напалову ці на новы лад. Неакаталіцызм, хутчэй за ўсё – не што іншае, як секта, якая да пары да часу хаваецца пад маскараднай сукенкай, але неўзабаве адкіне памылкі, каб вярнуцца ва ўлонне царквы; у адваротным выпадку царква асудзіць яго, бо яна значна больш заклапочана захаваннем чысціні веры, чым уяўным павелічэннем сумніўнага ліку сваіх ненадзейных дзяцей. Калі чалавецтва паверыць сапраўды, яно прыме хрысціянства такім, якім яно заставалася ад веку. Галоўнае, каб гэта святы скарб не паганілі ніякія дамешкі. Дарэчы, каталіцкая Царква здольна змяняцца[11] ў тым, што мае дачынене да звычаяў і

[10] Адзін із накірункаў хрысьціянскага сацыялізму, заснавальнікам якога быў Піліп Жозэф Бенжамен Бюшэ (1796–1865), распрацоўваўшы гэты накірунак на старонках свайго часопіса «Еўрапеец» (1831–1832; 1835–1838) і ў кнізе «Досвед поўнага выкладу філасофіі з пункту гледжання каталіцызму і прагрэсу» (1838–1840, т. 1–3). Неакаталікі спрабавалі пагадніць каталіцызм з рэвалюцыяй, ідэю боскага адкрыцця з ідэяй грамадскага прагрэсу, у якім бачылі рэалізацыю нябеснага наканавання. Кюстын рэзка палемізаваў з «неахрысьціянствам», ці неакаталіцызмам, яшчэ ў кнізе «Гішпанія пры Фердынандзе VII» (ліст 44-е), дзе назваў гэтыя тэорыі «рэспубліканскай міфалогіяй», «выдумкамі, складзенымі на патрэбу дэмагогам усіх краін», спробай абнавіць з дапамогай веры «палітычныя дактрыны XVIII стагоддзя», якія прывялі Францыю да рэвалюцыі (Espagne. P. 443–445)

[11] На працягу 1820-1830-ых гадоў пытанне пра здольнасць каталіцкай царквы да перамен і пра дапушчальныя межы царкоўных рэформаў хваляваў шмат каго із мысляроў. Найбольш цвярозыя розумы із ліку прыхільнікаў царквы ўсведамлялі, што «кожны, хто зараз памкнецца бараніць каталіцкую рэлігію ў яе ранейшых формах, адрываючы яе ад змяніўшагася грамадства, аддасць народы пад уладу пратэстантызма» (Chateaubriand F.-R. de. Oeuvres completes. P., 1827. т. 27. P. 249). З іншага боку, спробы

ладу жыцця святарства, і нават у некаторых артыкулах сваёй дактрыны, якія не звязаны з падмуркамі веры; ды што там казаць, яе гісторыя, яе жыццё – не што іншае, як пастаянныя змены, але гэтыя законныя і бесперапынныя змены абавязкова павінны быць асвечаны царкоўным аўтарытэтам і адпавядаць кананічнаму праву. Чым больш я вандраваў па свеце, чым больш бачыў розных нацый і дзяржаў, тым больш пераконваўся ў тым, што ісціна нязменная: у варварскія эпохі варвары адстойвалі яе варварскімі сродкамі; ў будучыні яе стануць абараняць сродкамі больш гуманнымі, але ні зіхаценне памылак, асляпляючае яе ворагаў, ні злачынствы яе змагароў не здольныя запляміць яе чыстае пакрывала.

Я хацеў бы паслаць у Расію ўсіх хрысціян, якія не належаць да каталіцкай царквы, каб яны ўбачылі, у што ператвараецца наша рэлігія, калі яе прапаведуе нацыянальнае святарства ў нацыянальным храме.

Прыніжанае стан святарства ў шырокай краіне, дзе Царква цалкам падпарадкавана дзяржаве, вымусіла б жахнуцца самага заўзятага пратэстанта. Нацыянальная царква, нацыянальнае святарства – гэтым словазлучэннем не месца ў мове; царква па сутнасьці сваёй вышэй усякай чалавечай супольнасці; пакінуць сусветную царкву дзеля нейкай палітычнай царквы – значыць не проста памыляцца, але адрынуць веру, знішчыць самае яе падмуркі, упасьці з неба на зямлю.

Між тым колькі прыстойных, выдатных людзей у эпоху нараджэння пратэстантызма марылі з дапамогай новых дактрын ачысціць сваю веру – на жаль, на справе, яны толькі абмежавалі яе межы!.. З тых часоў абыякавасць, праслаўленая пад выдатным імем памяркоўнасці, нястомна штурхала людзей на няправільны шлях...

Калі сёння Расія – адна із цікавейшых дзяржаў у свеце, то падставай таму з'яўляецца злучэнне крайняга варварства, пагаршаемага паднявольным станам Царквы, і вытанчанай цывілізаванасьці, запазычанай эклектычным урадам у чужаземных дзяржаў. Каб даведацца, якім чынам з сутыкнення гэтакіх розных стыхій можа нарадзіцца спакой або нерухомасць, трэба рушыць услед за падарожнікам ў самае сэрца гэтай дзіўнай краіны.

Спосаб, які я ўжываю для апісання мясцовасцей і апісання характараў, здаецца мне, калі не самым удалым для пісьменніка, то, ва ўсякім разе, самым зручным для чытача, якога я вяду за сабой, дазваляючы яму самастойна думаць пра ходу маіх думак.

Я прыязджаю ў невядомую мне краіну, вольны ад усякіх прадузятасцей, акрамя той, ад якой не ў стане вызваліцца ні адзін чалавек: той, якую прышчапляе нам добрасумленнае вывучэнне гісторыі. Я даследую прадметы, назіраю за людзьмі і падзеямі, з чыстай душой аддаючыся штодзённым уражанням, якія немінуча змяняюць мае погляды. Я не абцяжараны палітычнымі ідэямі, якія, маючы нада мной выключную ўладу, маглі б перашкодзіць гэтаму

---

абнаўлення артадаксальнага каталіцызму часта прыводзілі да стварэння сектаў, заснавальнікі якіх былі апанаваны перш за ўсё непамерным славалюбствам і адыходзілі ад хрысьціянства вельмі далёка.

стыхійнаму пераўтварэнню; нязменнай ў маёй душы застаецца толькі рэлігійная вера, ды і яе чытач можа не падзяляць: гэта ніяк не перашкодзіць яму паставіцца да майго апавядання аб падзеях і вынікаючых з іх маральных выніках без таго асуджэння, якое я выклікаю – і тым ганаруся! – у бязбожнікаў. Мяне можна абвінаваціць у тым, што я пакутую забабонамі, але ніхто ніколі не зможа папракнуць мяне ў тым, што я наўмысна сказіў ісьціну.

Я апісваю ўбачанае па свежых слядах; я пераказваю пачутае на працягу дня вечарам гэтага ж дня. Таму запісы гутарак з імператарам, адноўленых ў маіх лістах слова ў слова, маюць, ва ўсякім разе, адзін бясспрэчны плюс – яны дакладныя. Спадзяюся, яны дапамогуць публіцы лепш вывучыць гэтага манарха, аб якім і ў нашай краіне, і паўсюль у Еўропе выказваюцца самыя розныя меркаванні.

Не ўсе лісты, прапанаваныя тут увазе чытачоў, прызначаліся для публікі; у пачатку кнігі шмат вельмі асабістых прызнанняў; стаміўшыся пісаць – але не падарожнічаць, – я меў намер на гэты раз назіраць новыя для мяне звычаі без усялякай сістэмы і знаёміць са сваімі назіраннямі толькі бліжэйшых сяброў; з далейшага выкладання стане зразумела, якія падставы вымусілі мяне перамяніць сваё рашэнне. Галоўная з гэтых падстаў заключаецца ў тым, што знаёмства з зусім невядомым мне грамадствам штодня перамяняла мае перакананні. Я палічыў, што, сказаўшы праўду пра Расію, зраблю ўчынак незвычайны і адважны: раней баязнь або карыслівасць натхнялі падарожнікаў толькі на перабольшаныя пахвалы; нянавісць натхняла на паклёп; мне не пагражае ні тая, ні другая небяспека[12]. Я ехаў у Расею, каб адшукаць там доказы супраць прадстаўнічага праўлення, я вяртаюся прыхільнікам канстытуцый. Пры змешанным кіраванні нацыі не такія дзейныя, але пад старасць ім няма асаблівай патрэбы ў гераічных учынках; змешанае кіраванне больш за ўсё спрыяе росквіту прамысловасці, забяспечвае людзям найбольшую ўтульнасць і дастатак; яно натхняе чалавечы розум на адкрыцці ў сферы практычнай, нарэшце, яно даруе чалавеку незалежнасць згодна закона, а не згодна душэўнай дабрыні; бясспрэчна, усё гэта – немалая ўзнагарода за немалыя нязручнасьці[13]. Чым бліжэй пазнаваў я страшную і дзіўную дзяржаву, ўзаконеную, каб не сказаць: заснаваную, Пятром І, тым выразней разумеў місію, ускладзеную на мяне выпадкам.

Надзвычайная цікаўнасць, якую выклікала мая праца ў рускіх, відавочна занепакоеных стрыманасьцю маіх выказванняў, пераканала мяне ў тым, што я здольны здзейсніць больш, чым думаў; я зрабіўся ўважлівы і асцярожны, бо вельмі хутка зразумеў, колькі небяспекі наклікала б на мяне шчырасць. Не

---

[12] Перабольшаныя ўхвалы рускі ўрад чуў галоўным чынам із вуснаў літаратараў, чые паслугі ён тым ці іншым чынам (вельмі гасьцінным прыёмам у Расіі ці каштоўнымі падарункамі пасьля напісання кнігі) аплочваў; «паклёп» гучаў з вуснаў людзей, якія наведвалі Расію незалежна ад урада ці былі ім пакрыўджаны; Кюстын, аднак, зламаў гэту традыцыю: будучы прыняты і аблашчаны пры двары, адказаў «паклёпамі». Імёны папярэднікаў Кюстына, у якіх ён свядома запазычваў факты і назіранні ці з якімі мімаволі збліжаўся ў апісаннях і высновах, будуць названы ніжэй у адпаведных нататках.

[13] Заўвага Кюстына да пятага выдання 1854 г.: «У тую пару аўтар быў схільны змірыцца з формай кіравання, якую абрала для сябе Францыя; але сэрца яго ніколі не было да яе прывязана».

адважваючыся дасылаць лісты па пошце, я захоўваў гэтыя падазроныя паперы пры сабе, хаваючы іх як мага больш старанна, з нагоды чаго вярнуўся ў Францыю з гатовай кнігай[14]. Тым не менш цэлых тры гады я не адважваўся друкаваць яе[15] увесь гэта час я прыслухоўваўся да голасу ўласнага сумлення, спрабуючы зрабіць выбар паміж праўдзівасцю і ўдзячнасцю!!! У рэшце рэшт я выбраў першую з іх, клапоцячыся, як мне здавалася, пра інтарэсы маёй айчыны. Я ніколі не забываўся, што пішу, перш за ўсё, для Францыі і лічу сваім абавязкам паведамляць ёй звесткі важныя і карысныя.

Я думаю, што маю права судзіць, і судзіць з усёй строгасьцю, якую запатрабуе маё сумленне, краіну, дзе я пакінуў сяброў; маю права даследаваць, не дапускаючы абразлівых выпадаў супраць асоб, характары дзяржаўных мужоў; маю права прыводзіць словы палітыкаў, пачынаючы з кіраўніка дзяржавы, распавядаць аб іх дзеянні і дзяліцца ўсімі высновамі, да якіх я прыйшоў, разважаючы пра ўбачанае, – абы я захоўваў тое, што называецца пісьменніцкім

---

[14] Гэтае прызнанне неаднаразова выклікала з'едлівыя пярэчанні; пар., напрыклад, у П. А. Вяземскага: «Аўтар хоча пераканаць нас, быццам пісаў у Расіі лісты двух радаў: першыя, ухвальныя, прызначаныя для выпраўлення па пошце, і другія, праўдзівыя і выкрывальныя, прызначаныя для захоўвання ў партфелі аўтара, які баіцца паліцыі. Дзіўны спосаб запяспечыць сябе ад паліцэйскіх шпегаў — захоўваць кампраметуючыя паперы пры сабе, асабліва калі спыняешся на заезных дварах і ўвесь час заўважаеш побач з сабой шпегаў <…> Ці не прасьцей было б у гэтым выпадку занесьці лісты ў французскую амбасаду, адкуль яны б былі выпраўлены ў Францыю з кур'ерам? Якім бы варварскім, інквізітарскім і дэспатычным ні быў наш урад (згодна з поглядам с-ра дэ Кюстына), я дагэтуль не чуў, каб пасланцы чужых дзяржаў скардзіліся на замахі даведацца пра іхныя дыпламатычныя сакрэты» (Cadot. P. 269; арыгінал. па-фр.). Між тым засьцярогі Кюстына былі не такімі ўжо і неабгрунтаванымі: вядома, што пад перлюстрацыю ў Расіі патрапіла нават ліставанне французскага амбасадара Баранта з жонкай (гл.: Герштэйн Э. Г. Лёс Лермантава. М., 1986. стр. 34)! Анекдоты «пра звычай тутэйшага паштамта раскрываць лісты» былі пашыраны ў дыпламатычным асяроддзі; пар., напрыклад, дзённікавы запіс ад 4 красавіка 1839 г., належачы амерыканскаму пасланніку ў Пецярбургу Даласу: «Не так даўно адзін із замежных міністраў (г. азн. пасланнікаў) жаліўся самаму графу N. (пошт-дырэктару), што атрымаў з пошты пачку грошай перамятымі, выпэцканымі і відавочна ўскрытымі. — „Гэта, трэба меркаваць, выйшла праз недагляд, — абыякава адказваў граф. — Добра, я загадаю, каб надалей былі больш акуратнымі“. Іншым разам шведзкі пасланнік, сустрэўшыся з дырэктарам пошт, параіў яму, каб яго падначаленыя асьцярожней чыталі лісты са Швецыі. Дырэктар горача пераконваў, што нічога падобнага не магло здарыцца. — „Я і сам не лічыў гэта магчымым, — адказваў швед, — але яны праз недагляд пасылалі мне стакгольмскія дэпешы за пячаткай галандскага міністра замежных спраў“» (Веснік замежн. літ. 1896. № 7. стр. 13). Развагі Кюстына пра ненадзейнасць расійскай пошты запомніліся першым чытачам; характэрны кантэкст, у якім згадвае Кюстына В. А. Жукоўскі (у лісьце да А. Я. Булгакава ад 10/22 кастрычніка 1843 г. з Дзюсельдорфа): «Вось ужо Бог ведае колькі часу, як я не атрымваю лістоў ні ад каго са сваіх. Я ведаю, што да мяне павінны быць лісты, а лістоў няма. Гэта праказы пошты. Выказваю табе скаргу, як пошт-дырэктару. У нас, гэта вядома, лісты разкрываюцца і шмат няпрошаных чытачоў зазірае на старонкі, пісаныя не для іх, праз што, вядома, вялікай шкоды няма нікому — але хай чытаюць, ды вось што дрэнна, прачытаныя лісты выкідваюцца і не даходзяць да тых, каму яны адрасаваны, а ў іх часта бывае вялікая патрэба. A propos (дарэчы. — фр), ці чытаў ты сабаку-Кюстына?» (Жукоўскі Ў. А. Складанні. Выд. 7-е. СПБ., 1879. т. 6. стр. 556).

[15] Нагода была не толькі ў засьцярогах і сумневах маральнага кшталту, але і ў манеры Кюстына працаваць над тэкстам, якую ён сам у лісьце да Варнгагена ад 7 жніўня 1843 г. ахарактарызаваў наступным чынам: «…я запісваю жыва, з захапленнем, безаглядна свае першыя ўражанні і лічу сваю працу скончанай. Пазней я вяртаюся да запісанага, пераконваюся, што перада мною — толькі пачатковыя нататкі, што мае думкі зразумелы толькі аднаму мне, што існуе патрэба патлумачыць іх чытачам, размясціць іх у вызначаным парадку, а галоўнае — дамагчыся чысціні формы і слушнасьці выявы…» (Lettres it Varnhagen. p. 466).

сумленнем, і, падпарадкоўваючыся пераборлівай гульні майго розуму, не выдаваў ўласнага меркавання за меркаванне большасці.

Але, выконваючы свой абавязак, я, спадзяюся, што не парушыў ніякіх вызначаных прыстойнасцей, а той, хто паважае прыстойнасці, мае – я ў гэтым упэўнены – права выказваць самыя жорсткія ісціны; галоўнае тут – гаварыць толькі тое, у чым ты перакананы, не ідучы ўслед за ўласным славалюбствам.

У дадатак, паколькі шмат што ў Расіі захапляла мяне, я не мог не выказаць у сваёй кнізе і гэтага захаплення. Рускія застануцца незадаволенымі мной – але хто зможа задаволіць жаданні славалюбства? Між тым, ніхто больш за мяне не быў уражаны веліччу іх нацыі і яе палітычнай значнасцю. Думкі аб высокім прызначэнні гэтага народа, які апошнім з’явіўся на падмостках старога тэатра свету, не пакідалі мяне на працягу ўсяго майго знаходжання ў Расіі. У масе сваёй рускія здаліся мне грандыёзнымі нават у агідлівых заганах, паасобку яны трымаліся са мной ласкава; характар рускага народа, згодна з маім перакананнем, варты цікавасьці і спагады; на першы погляд, гэтыя пахвальныя высновы цалкам здольны ўзнагародзіць за назіранні куды менш прывабныя. Але большасць маіх папярэднікаў ставіліся да рускімі як да свавольных дзяцей. Дух іхнага кіравання, рашуча чужы маім перакананнях і звычкам, а таксама відавочныя супярэчнасці, разьдзіраючыя сёння іхнае грамадства, вырвалі з маіх вуснаў папрокі і нават воклічы абурэння; што ж! тым большую вагу набываюць мае хвалы, у токой жа ступені неасэнсаваныя. Але гэтыя жыхары Ўсходу настолькі прывыклі курыць і ўдыхаць фіміам, настолькі прывыклі верыць ліслівым вымовам, якімі яны цешаць адзін аднаго, што звяртаюць увагу толькі на ганьбаванне. Ўсякае незадавальненне здаецца ім здрадай; ўсякую жорсткую праўду яны называюць хлуснёй; яны не разгледзяць у маіх – відавочна крытычных – назіраннях баязлівае захапленне, у маіх заўвагах – жаль і нават сімпатыю чалавека да ўсяго чалавецтва.

Рускія не прывабілі мяне ў свае веры (а вер гэтых у іх некалькі, і палітычная – не самая нецярпімая з усіх); насупраць, яны прымусілі мяне па–новаму зірнуць на манархічную ідэю і аддаць перавагу дэспатызму прадстаўнічае кіраванне; ўжо адзін гэты выбар абразіць іх. Я вельмі шкадую пра гэта, але аддаю перавагу шкадаванню перад пакаяннем. Не змірыся загадзя з несправядлівасцю іхных меркаванняў, я не стаў бы друкаваць гэтыя лісты. У дадатак, на словах рускія могуць скардзіцца колькі заўгодна, але ў глыбіні душы яны мяне даруюць – гэтага ўсведамлення мне дастаткова. Кожны рускі, калі ён прыстойны чалавек, згадзіцца, што калі я, праз недахоп часу, і дапусціў памылкі ў дэталях, у цэлым я адлюстраваў Расію такой, як яна ёсць. Яны прымуць да ўвагі ўсе цяжкасці, з якімі я сутыкнуўся, і прызнаюць, што я дакладна і хутка здолеў разглядзець пад палітычнай маскай, вось ужо колькі стагоддзяў скажаючай спрадвечны характар рускай нацыі, яе цудоўныя задаткі.

Падзеі, якія адбываліся на маіх вачах, апісаны ў маёй кнізе пяром відавочцы; тыя, пра якія я ведаю з чужых слоў, выкладзены так, як былі мне пераказаны; я не стаў падманваць чытача, прыпісваючы сабе ўражанні іншых людзей. Я імкнуўся да таго, каб не толькі не называць імёнаў сваіх суразмоўцаў,

але нават не пазначаць іхнае становішча ў грамадстве і паходжанне; спадзяюся, што сціпласць мая будзе ацэнена годна; яна лішні раз даказвае, што асвечаныя розумы, растлумачваючы мне сутнасць некаторых здарэнняў, якім я не мог быць сведкам, заслугоўваюць ўсялякага даверу. Няма патрэбы дадаваць, што я прыводзіў толькі тыя апавяданні, якія чуў ад людзей, чый характар і становішча былі зарукай дакладнасці паведамляемых імі фактаў. Дзякуючы маёй прынцыповасьці чытач сам зможа меркаваць аб тым, наколькі праўдзівыя гэтыя другарадныя звесткі, якія займаюць, зрэшты, у маім апавяданні вельмі мала месца.

## Некалькі слоў выдаўцы аб другім выданні (1843)[16].

Аўтар з асаблівай увагай выправіў гэтае выданне; ён зрабіў у тэксце шмат выпраўленняў, сёе-тое выкінуў і вельмі шмат дадаў, у тым ліку – некалькі вельмі цікавых анекдотаў; дык вось, мы не без падстаў маем надзею, што другое, палепшанае выданне кнігі выклікае ў публікі яшчэ больш жывую зацікаўленасць, чым першае, аб незвычайным поспеху якога сведчыць ўжо тая хуткасць, з якой яно было распрададзена. Не прайшло і некалькіх месяцаў, як у нас не засталося ніводнага асобніка.

---

[16] Першае выданне "Расіі ў 1839 годзе" выйшла ў траўні 1843 (абвешчана ў "Bibliographic de la France" 13 траўня). Варта падкрэсліць, што сустракаючаяся ў літаратуры версія пра выхад нейкага "самага першага" выдання ў 1840 або 1841 гг. (гл.: Нячаева В., П. А. Вяземскі як прапагандыст творчасьці Пушкіна ў Францыі // ЛН. М., I952 т. 58. с. 320; Кійко Е. І., Бялінскі і Дастаеўскі пра кнігу Кюстына "Расія ў 1839 годзе" // Дастаеўскі. Матэрыялы і даследаванні. Л., 1974 – т.1 с.189: Буянаў М. І. Маркіз супраць імперыі ... М., 1993) з'яўляецца плёнам непаразумення. Нагода да яго далі, відаць, весткі пра кнігу, якія распаўсюдзіліся пасьля тома, як вясной 1840 г. Кюстын наладзіў у сваім парыжскім доме чытанне ўрыўкаў з яе (гл. заўв. да цяп. тома, с. 379.). Першае выданне было так хутка распрададзена, што выдавец Аміо палічыў магчымым ужо ў лістападзе тома ж года выпусціць другое выданне накладам 3000 асобнікаў, прычым дзве траціны гэтага новага накладу разышліся за паўтара месяца (гл.: Lettres a Vamhagen. p. 472). "Некалькі слоў ..." напісаны самім Кюстыном; гл. ў яго лісьце да нямецкага літаратара Карла Аўгуста Варнгагена фон Энзе (1785-1858) ад 20 студзеня 1844г.: "У другім выданні ў прадмове кнігапрадаўца я адказаў на найбольш часта паўтараемыя заўвагі, і гэты адказ наклікаў на мяне новую крытыку" ({Lettres i Vamhagen. P. 470). Найбольш істотныя дапаўненні, унесеныя ў другое выданне: апавяданне пра пакаранне сьмерцю дзекабрыстаў (ліст дваццаць першы), апавяданне пра лёс П. В. Даўгарукага (ліст дваццаць дзевяты), выпраўленне недакладнасцяў у апавяданні пра сямейства Лаваль ("Выклад далейшага шляху"); гл. пра гэта: Cadot. P. 225. Пра працу над другім выданнем Кюстын 14 чэрвеня 1843 пісаў сваёй прыяцельцы Сафі Гэ: "Я рыхтую другое выданне "Расіі" і выпраўляю памылкі, зробленыя праз недаравальныя хібы. Поспех добры тым, што надае сілы для выпраўлення памылак". 24 лістапада 1843 газета "Journal des Debats" змясціла характэрную рэкламную нататку, дзе паведамлялася, што другое выданне кнігі Кюстына, "выпушчанае ў больш зручным фармаце, надасць яшчэ большую вагу суровым ісцінам, якія ўстрывожылі Расію", а сам тэкст кнігі атэставаныя як "просты, сур'ёзны і дакладны". Рэклама гэтая, а галоўнае, сам факт з'яўлення другога выдання менш чым праз паўгода пасьля першага так абурыў добрапрыстойных рускіх патрыётаў, што адзін з іх, князь Элім Пятровіч Мяшчэрскі (1808-1844), былы карэспандэнт міністэрства народнай асветы ў Парыжы, 30 лістапада 1843 г. паведаміў свайму пераемніку на гэтай пасадзе графу Я.Н.Таўстому (гл. пра яго цяпер. т., с. 391-394) "Гэтая рэклама прымушае прагнуць крыві; мая ж кроў кіпіць і прылівае да віскоў вось ужо чатыры месяцы. Я пачакаю яшчэ трохі, а затым напішу абвяржэнне, якога не напісаць іншым ...). У красавіку я вярнуся ў Парыж, у траўні апублікую маю брашуру пра Кюстына, у чэрвені кагосьці аднаго з нас – альбо яго, або мяне – на свеце ўжо не будзе: гэта вырашана" (цыт. па: Mazon A. Deux Russes ecrivains francais. P., 1964. P. 422; у выніку абвяржэнне на Кюстына напісаў не Мяшчэрскі, а Таўсты). Трэцяе і чацвёртае выданне "Расіі ў 1839 годзе" выйшлі ў 1846; пятае - ў 1854 г.; шостае - у 1851 г.). На гэтым гісторыя прыжыццёвых выданняў кнігі Кюстына пра Расію заканчваецца. Прадмовы аўтара да трэцяга і пятага выданню гл. у дадатках 1 і 3. Дапаўненні, унесеныя Кюстынам у трэццяе выданне, гл. ніжэй у заўвагах.

рэлігія, якая зрабіла сваім Богам – чалавецтва. Мы маем усе падставы сцвярджаць, што цяперашнія ўрады заступаюцца за гэты вытанчаны матэрыялізм, апошні водгук рэлігійнай рэфармацыі XVI стагоддзя. Клапоцячыся пра адно толькі зямное шчасьце, яны, здаецца, бачаць сваю адзіную мэту ў тым, каб даказаць сьвету: нацыя можа быць шчаслівай і не думаючы пра Бога. Такія кіраўнікі – старцы, якім дастаткова таго, што яны жывыя[37].

Тым не менш, прусакі маюць усе падставы ганарыцца мудрай і эканомнай палітыкай сваёй дзяржавы. У іхных вясковых школах навучанне вядзецца прадумана і пад строгім наглядам. Ва ўсіх вёсках музыка служыць сродкам выхавання народа і адначасова крыніцай забавы: у кожнай царкве ёсць орган, у кожным прыходзе – школьны настаўнік, які ведае нотную грамату. У нядзелю ён вучыць сялян спевам, акампаніруючы ім на органе; дзякуючы чаму жыхарам самых аддаленых куткоў знаёмы шэдэўры італьянскай і нямецкай старадаўняй музыкі. Гэтыя сьпевы разлічаны не больш чым на чатыры галасы: у якой вёсцы не знойдзецца аднаго басу, аднаго тэнара і двух хлапчукоў – альтаў? Кожны школьны настаўнік у Прусіі – вясковы Хоран ці Вільхем[38]. Вясковыя харавыя спевы выхоўваюць павагу да музыкі, супрацьстаяць кабацкім радасцям і падрыхтоўваюць ўяўленне народа да засваення рэлігійных ісцін. Пратэстанты апусьцілі рэлігію да курса практычнай маралі; аднак не за гарамі той час, калі рэлігія зноў ўступіць у свае правы; стварэнне, надзеленае неўміручасцю, не зможа даўжэй задавальняцца зямнымі радасцямі, і народы, больш іншых звыкшыя атрымліваць асалоду ад вытанчаных мастацтваў, першымі пачуюць голас нябёсаў. Такім чынам, справядлівасць патрабуе прызнаць, што прускі ўрад годным чынам рыхтуе сваіх падданых да будучага рэлігійнага абнаўлення, аб блізкасці якога сведчаць шматлікія неаспрэчныя прыкметы.

Вельмі хутка Прусія адчуе, што яе філасофія не здольна даравацъ душам спакой. У чаканні ж гэтай слаўнай будучыні горад Берлін падпарадкоўваецца найменш філасафічнай із краін, Расіі[39], што, зрэшты, не перашкаджае народам, насяляючым іншыя нямецкія княствы, накіраўваць свае погляды ў бок Прусіі, чыя выдатная сістэма кіравання іх чаруе. Яны мяркуюць, што менавіта адсюль прыйдзе да іх ліберальнае ўладкаванне, якое большасць людзей на гэты дзень блытае з заваёвамі прамысловасці, нібыта раскоша і свабода, багацце і незалежнасць, асалоды і дабрачыннасьці па сутнасьці сінонімы! Прайшло тры

---

[37] Ці не знойдуцца ў Францыі людзі, якія пажадаюць пераняць у прусакаў гэтае дабрачыннае ўладкаванне і распаўсюдзіць па нашай краіне мастацства, якое пашырае цывізізацыю? Вільхельм далучыў да яго парыжскіх рабочых: ці знойдуцца ў яго пасьлядоўнікі ў правінцыі?

[38] Хоран Аляксандр Эцьен (1772-1834) – французкі музычны тэарэтык, стваральнік новага (сімультаннага) метаду ўсеагульнага навучання харавым спевам, заснаваў пад час эпохі Рэстаўрацыі Каралеўскую школу спеваў і дэкламацыі; Вільхем (сапр. імя і прозв. Гійём Луі Бакійён; 1781-1842) – французкі кампазітар, заснавальнік народных пеўчых школ, перакананы прыхільнік уладкавання ў пачатковых школах урокаў спеваў.

[39] Палітычны хаўрус Расіі і Прусіі падмацоўваўся парадненнем дынастый: расійская імператрыца Аляксандра Фёдараўна была дачкой прускага караля Фрыдрыха Вільгельма III.

гады, і з пераменай манарха маеназіранні страцілі ледзь ці не ўсю сваю справядлівасць[40].

**~26~**

Галоўны недахоп нямецкага народа, увасаблены пастаццю Лютэра, – гэта схільнасць да фізічных радасцей; ў нашы дні гэтую схільнасць нішто не стрымлівае; наадварот, усё заахвочвае яе. Так, прыносячы сваю годнасць, а магчыма, і сваю незалежнасць у ахвяру бясплоднай мары аб выключна матэрыяльным дабрабыце, нямецкая нацыя, скаваная пачуццёвай палітыкай і разумовай рэлігіяй, здраджвае самой сабе і ўсяму свету. У кожнага народа, як і ў кожнага індывіда, ёсць сваё прызначэнне: калі Германія забылася аб сваім прызначэнні, вінаватая ў гэтым, перш за ўсё, Прусія – старажытная калыска той непаслядоўнай філасофіі, якую тут із ветлівасьці называюць рэлігіяй. Сёння Францыю прадстаўляе ў Прусіі амбасадар, цалкам задавальняючы ўсім патрабаванням, якія ў нашы дні дапасуюцца да дзяржаўнага мужа[41]. Ён не напускае на сябе таямнічасьці, не перарывае прамову вырабленымі паўзамі, не выкарыстоўвае не даючых ніякай карысьці недамовак, – адным словам, нічым не выдае ўсведамлення ўласнай велічы. Пра займаемую ім пасаду навакольныя памятаюць толькі таму, што прызнаюць за ім ўсе вартасці, неабходныя для таго, каб з ёю спраўляцца. Адгадваючы з выключнай прадбачнасьцю патрэбы і схільнасці сучаснага грамадства, ён спакойна рухаецца ў будучыню, не пагарджаючы ўрокамі мінулага; ён належыць да вузкага кола людзей старога часу, якія прыносяць карысць часу новаму.

Ураджэнец той жа правінцыі, што і я, ён паведаміў мне мноства цікавых падрабязнасцей із жыцця маіх родных, да гэтай пары застаючыхся невядомымі для мяне; слухаючы яго, я адчуў велізарнае душэўнае задавальннне і не баюся прызнацца ў гэтым, таму што святое захапленне, якое выклікаецца ў нашай душы гераізмам нашых продкаў, не мае нічога агульнага з гардыняй. Я паведаю вам без утойвання ўсе пачуцці[42], якія зведаў, слухаючы яго апавяданні,

---

[40] У 1840 г. памёр прускі кароль Фрыдрых Вільгельм III (1774-1840), які кіраваў краінай з 1797 года. На пасад уступіў яго сын Фрыдрых Вільгельм IV (1795-1861), пры двары якога ўзялі верх набожнасць і піетызм.

[41] 1 ліпеня 1839 Кюстын пісаў із Берліна сваёй прыяцельцы с-ні дэ Курбон: “Я пазнаёміўся з чалавекам, якога лічу чароўным: гэта наш пасланец с-р дэ Брэсон; ён ласкавы да немагчымага...»(Revue de France. 1934 - Aout. P. 734). Граф Шарль дэ Брэсон (1788-1847) быў французскім пасланнікам у Берліне з 1836 г., у 1841 атрымаў прызначэнне ў Мадрыд, у 1847 г. - у Неапаль. Зацікаўленыя назіральнікі ацэньвалі ролю і самаадчуванне Брэсона у Берліне не зусім так, як Кюстын; П. К. Мейендорф, рускі амбасадар у Прусіі, у сваіх данясеньнях ад 7/19 верасня і 3/15 кастрычніка 1839 г пісаў: “Уплыў, якім Брэсон нібыта карыстаецца ў Берліне, моцна перабольшваюць (...) ён грунтуецца выключна на павазе караля да міру і яго захапленні палітычным геніем Луі-Філіпа; зрэшты, французкая партыя вельмі слабая. (...) Брэсон тут не па душы, і ён гэтага не хавае: ён вось-вось выправіцца на адпачынак у Парыж” (MeyendorffP. von. Politischer und privater Briefweschel. Berlin und Leipzig, 1923. Bd. I. S. 76, 79).

[42] “Вы", да якога звяртаецца Кюстын, гэта ў першую чаргу рэальны спадарожнік яго жыцця - ангелец Эдвард Сен-Барб, або, як яго сталі называць ў Францыі, Эдуард дэ Сэнт-Барбі (1786-1858). Пазнаёміўшыся з будучым пісьменнікам летам 1822 г. у Англіі, ён прыехаў з ім у Францыю і заставаўся побач з ім на працягу трох дзясяткаў гадоў, да самай сьмерці Кюстына, якога пераходжыў толькі на год. Гэты зварот да Сэнт-Барба, які мае на пачатку кнігі ўмоўна-літаратурны характар , адлюстроўвае глыбока асабістыя рысы ў лісьце чацвёртым (гл. цяп. выд., с. 63-64).

але спачатку дазвольце пазнаёміць вас з некаторымі звесткамі[43], якія мне, перад маім прыездам ў Берлін, ужо былі вядомы. Я ведаў, што ў архівах французскай амбасады ў Берліне захоўваюцца лісты і дыпламатычныя ноты, якія уяўляюць вялікую цікавасць для ўсіх людзей наогул і для мяне ў асаблівасці: яны належаць пяру майго бацькі[44].

У 1792 годзе ў дваццаць два гады, ён быў накіраваны ўрадам Людовіка XVI[45], ужо год як зрабіўшагася канстытуцыйным манархам, да двара герцага Брауншвейгскага[46] з важнай і далікатнай місіяй. Гаворка ішла пра тое, каб схіліць герцага адмовіцца ад узначальвання хаўруснага войска, якое ствалася супраць Францыі. Французскія дзяржаўныя мужы справядліва лічылі, што катаклізмы нашай рэвалюцыі будуць пагражаць каралю і краіне меншымі небяспекамі, калі чужаземцы пакінуць надзею гвалтоўна перапыніць яе працяг.

**~27~**

Бацька прыбыў у Браўншвейг занадта позна: герцаг ужо даў згоду стаць на чале хаўруснага войска. Тым не менш, нораў і таленты маладога Кюстына набылі яму на радзіме такую павагу, што яго не адклікалі назад у Парыж, а накіравалі да

---

[43] Другі і трэцці ліст, прысвечаныя дзяцінству Кюстына і гісторыі яго сям'і, здаваліся шмат каму із крытыкаў Кюстына залішнімі; напрыклад, публіцыст Ж. Шод-Эг сцвярджаў: "Каб як след ўлавіць думка, выказаную маркізам дэ Кюстынам ў яго кнізе пра Расію, неабходна, на наш погляд, выкінуць з гэтай кнігі ва ўсякім разе траціну складаючых яе лістоў, бо менавіта столькі старонак прысвячае аўтар апавяданню пра сваю сям'ю, пра свае грамадзкія сувязі, думкі і прыхільнасці. (...) Канфесіяналы літаратура, без сумневу, мае сваю хараство, але толькі ў тым выпадку, калі яна уводзіць нас у жыццё чалавека вялікага. А ці можна назваць вялікім аўтара раманаў "Алоіс", "Свет як ён ёсць" і "Этель"? Мабыць, не. (...) Праўда, адчуваеш сябе падманутым, калі, адкрыўшы кнігу пад назвай "Расія ў 1839 годзе", знаходзіш сябе, зусім таго не жадаючы, у атачэнні продкаў аўтара" [Chaudes-Aigues. P. 328-329) - справядлівым уяўляецца меркаванне сучаснага даследчыка: прысутнасць гэтых двух лістоў у кнізе пра Расію апраўдана, бо яны, па-першае, паказваюць рэзка адмоўнае стаўленне Кюстына да рэвалюцыі і тым самым надаюць большую вагу яго прызнанням пра сімпатыю да прадстаўнічага ладу кіравання, якое прачнулася ў яго душы пасьля вяртання із Расіі, а па-другое, адцяняюць страшнымі выявамі якабінскага дэспатызму яшчэ больш страшныя выявы дэспатызму царскага, расейскага

[44] Глядзіце ў цытавананым вышэй лісьце Кюстына да с-ні дэ Курбон ад 4 ліпені 1839 г. "Ён (Брэсон) паведаміў мне цікавыя звесткі пра маю сям'ю і даў мне прачытаць з пачатку да канца ўсю дыпламатычную перапіску майго бацькі. (...) Гэтыя дэпешы – шэдэўр і сапраўдны цуд, калі ўзгадаць, што яны напісаны дваццацідвухгадовым юнаком. Усе яго сябры, аж да Калкрэута, пляменіка Фрыдрыхава таварыша па зброі, прасілі яго застацца ў Берліне, замест таго каб кідацца ў бездань: ён адказваў на ўсе ўгаворы, што абавязак заклікае яго вярнуцца на радзіму, і з'ехаў, каб патрапіць... вы ведаеце, куды"(Revue de France. 1934 - Aout. P. 735). Бацька пісьменніка, Арман Луі Філіп Франсуа дэ Кюстын (1768-1794) 31 ліпеня 1787 года адружыўся з Дэльфінай дэ Сабран (1774-1826), якая 18 сакавіка 1790 нарадзіла сына Астольфа, названага так у гонар героя паэмы Л. Арыоста "Шалёны Роланд", каб ён, згодна слоў яго бабулі с-ні дэ Сабран, "у адзін цудоўны дзень, згодна прыкладу свайго патрона, выправіўся на Месяц за доляй здаровага сэнсу"(Afaugras. P. 65).

[45] Людовік XVI (1754-1793) 14 верасня 1791 года – даў прысягу на вернасць Канстытуцыі і атрымаў тытул "караля французаў", гэта значыць канстытуцыйнага манарха.

[46] 12 студзеня 1792 г., калі Арман дэ Кюстын прыбыў да Карла Вільгельма Фердынанда, герцага Браўншвейгскага (1735-1806), генерала, які служыў прускаму каралю, той ужо даў згоду стаць на чале кааліцыйнага войска, якае павінна было выступіць супраць рэвалюцыйнай Францыі. Пасля, калі Арман дэ Кюстын паўстаў перад рэвалюцыйным трыбуналам, яго ліст міністру замежных спраў дэ Лессару, які інфармуе пра ход перамоваў з герцагам Брауншвейгскім, быў пастаўлена яму ў віну: на падставе выдраных з тэкста фраз абвінаваўцы прыпісалі Кюстыну намер прапанаваць герцагу Брауншвейгскаму французскі пасад.

прускага двара, каб ён паспрабаваў адгаварыць караля Вільгельма II[47] ад удзелу ў кааліцыі, чыё войка меў намер узначаліць герцаг Брауншвейгскі. Незадоўга да прыезду майго бацькі ў Берлін спадар дэ Сегюр, які прадстаўляў у тую пару Францыю пры прускім двары, зведаў няўдачу ў гэтых складаных перамовах. Майму бацьку трэба было яго замяніць. Кароль Вільгельм прыняў спадара дэ Сегюра дрэнна, так дрэнна, што, вярнуўшыся аднойчы вечарам да сябе дадому ў поўным адчаі і палічыўшы сваю рэпутацыю спрытнага дыпламата назаўжды заплямленай, пасол паспрабаваў пакончыць з жыццём; лязо кінжала ўвайшло ў яго грудзі не занадта глыбока, і самазабойца застаўся жывы, але быў вымушаны пакінуць Прусію. Падзея гэта ўразіла праніклівых палітыкаў Еўропы: ніхто з іх не мог растлумачыць падставы, згодна якіх прускі кароль аказаў да крайнасці неветлівы прыём чалавеку такога шляхетнага паходжання і такога розуму. Я ведаю з надзейнай крыніцы анекдот, які пралівае некаторае святло на гэты эпізод, па гэты дзень застаючыся загадкай; справа вось у чым: у пару свайго трыумфу пры двары імператрыцы Кацярыны спадар дэ Сегюр часта бавіў навакольных кпінамі з пляменніка Фрыдрыха Вялікага, які пазней зрабіўся каралём пад імем Фрыдрыха Вільгельма II; ён глуміўся над амурнымі прыгодамі будучага манарха[48] і над ім самім, а аднойчы паслаў імператрыцы запіску, дзе, у згодзе з густамі той эпохі, напісаў сатырычныя партрэты Фрыдрыха Вільгельма і яго набліжаных. Пасьля смерці Фрыдрыха Вялікага палітычныя абставіны раптам перамяніліся, царыца стала шукаць хаўрусу з Прусіяй і, каб новы кароль хутчэй адважыўся прыняць бок Расіі супраць Францыі, нядоўга думаючы паслала яму запіску спадара дэ Сегюр, якога Людовік XVI толькі што прызначыў французскім амбасадарам у Берліне. Прыезду майго бацькі ў сталіцу Прусіі папярэднічала яшчэ адно цікавае здарэнне, якое сведчыць аб тым, якое спачуванне выклікала ў той час у цывілізаваным свеце французская рэвалюцыя. Праект Пільніцкай дэкларацыі[49] быў ужо напісаны, але сябры кааліцыі лічылі неабходным як мага даўжэй хаваць ад Францыі ўмовы гэтага хаўрусу. Прускі кароль ужо меў чарнавік дамовы, але ніхто з французскіх агентаў яго яшчэ не бачыў.

**~28~**

Аднойчы позним вечарам, вяртаючыся пешшу дадому, спадар дэ Сегюр заўважыў, што нейкі чалавек, захутаны ў плашч, ідзе за імх; пасол паскарыў крок,

---

[47] Фрыдрых Вільгельм II (1744-1797) – прускі кароль з 1786 г. Сегюр Луі Філіп, граф дэ (1753-1832), французкі дыпламат, пасланнік у Расіі ў 1785-1789 быў спачатку накіраваны ў якасьці пасланніка да папскага двара, але пасьля таго, як папа рымскі адмовіўся прыняць яго вярыцельныя граматы, быў накіраваны ў Прусію; ў Берлін Сегюр прыбыў 11 студзеня 1792 г. напярэдадні прыезду Армана дэ Кюстына ў Браўншвейг (гл.: Maueras. P. 122 - 123); непасьпяховасць яго місіі тлумачыцца, магчыма, у першую чаргу непрыхільнымі водгукамі французкіх эмігрантаў пра якабінскае атачэнне пасланніка, якае вельмі не спадабалася каралю Фрыдрыху Вільгельму II.

[48] Яшчэ будучы спадкаемцам пасада, Фрыдрых Вільгельм захапіўся шаснаццацігадовай дачкой музыканта каралеўскай капэлы Вільгельмінай Энке (1754-1820), з якой прыжыў траіх дзяцей; для бачнасьці ён адружыў сваю фаварытку з адным са сваіх служак, а стаўшы каралём, дараваў ёй тытул графіні Ліхтэнау.

[49] Пільніцкая дэкларацыя, падпісаная 26 жніўня 1791 года ў саксонскім замку Пільніца, з'явілася асновай аўстра-прускай хаўруснай дамовы (люты 1792 года) і паклала пачатак кааліцыі еўрапейскіх манархаў, якія аб'ядналіся для процідзеяння французскай рэвалюцыі.

незнаёмы не адстае; ён пераходзіць на другі бок вуліцы, незнаёмы робіць тое ж; ён спыняецца, незнаёмы адступае і таксама спыняецца ў некаторым аддаленні. Спадар дэ Сегюр быў бяззбройным; памятаючы пра непрыязненасць немцаў да яго асабы і аб складанасці палітычнага становішча, ён, ўдвая занепакоены, пускаецца бегчы ў бок хаты, але яму не ўдаецца апярэдзіць таямнічага незнаёмца, які падбягае да дзвярэй адначасова з ім і, кінуўшы да яго ног даволі тоўстую звязку папер, тут жа знікае. Падняўшы паперы, спадар дэ Сегюр пасылае сваіх слуг наўздагон за тым, хто іх прынёс, але безпаспяхова.

У звязку папер спадар дэ Сегюр знайшоў праект Пільніцкай дэкларацыі, спісаны слова ў слова прама ў кабінеце прускага караля: вось якім чынам, дзякуючы дапамозе людзей, таемна спачуваючых новым ідэям, французы атрымалі першыя звесткі аб гэтым дакуменце, неўзабаве атрымаўшым сусветную вядомасць.

Абставіны, супраць якіх нічога не зможа зрабіць ні талент ні воля чалавечая, вымусілі майго бацьку адмовіцца ад новых спробаў пераканаць прускі кабінет, аднак, не гледзячы на гэтую няўдачу, ён заслужыў павагу і нават сяброўскія адносіны ўсіх тых асоб, з якімі яму давялося мець справу, не выключаючы караля і яго міністраў, чым ўзнагародзіў сябе за няўдачу сваёй палітычнай місіі.

Берлінцы да гэтага часу памятаюць бездакорны такт, з якім мой бацька выходзіў са складаных становішч, які спаткалі яго ў сталіцы Прусіі. Прыбыўшы да прускага двара ў якасці пасланніка тагачаснага французскага ўрада, ён сустрэў у Берліне сваю цешчу, спадарыню дэ Сабран[50], якая збегла сюды ад праследаў гэтага самага ўрада. У тую пару палітыка ўваходзіла ў кожны дом, і не толькі народы, але нават сем'і пакутавалі ад сварак і разнагалоссяў. Калі бацька сабраўся вярнуцца ў Францыю, каб даць справаздачу аб сваіх перамовах, яго цешча, звярнуўшыся за дапамогай да ўсіх берлінскіх сяброў, паспрабавала перашкодзіць выкананню гэтага намеру. Нейкі спадар Калкреут, пляменік славутага паплечніка прынца Генрыха Прускага[51], ледзь ці не на каленях маліў маладога Кюстына не пакідаць Берлін або, ва ўсякім разе, дачакацца ў эміграцыі таго часу, калі ён зможа зноў служыць сваёй айчыне. Ён прадказаў майму бацьку ўсё, чым пагражае яму вяртанне на радзіму. Падзеі 10 жніўня ўзрушылі Яўропу[52]. Людовік XVI пакутаваў ў зняволенні, паўсюль панаваў хаос; штодня новыя прамоўцы падымаліся на трыбуну, і кожны абвяргаў ўсё сказанае яго

[50] Франсуаза Элеанора дэжа дэ Манвіль (1749-1827), ў 20 гадоў адружылася з графам дэ Сабран і нарадзіла яму дваіх дзяцей - Дэльфіну, маці Астольфа, і Эльзеара. У 1775 с-ня дэ Сабран стала ўдавой, а з 1777 г. – знаходзілася ў сувязі з літаратарам і дыпламатам шевалье Станісласам Жанам дэ Буфлерам (1738-1815), з якім у чэрвені 1797 г. адружылася. Упэўненая, што рэвалюцыя прывядзе Францыю да няшчасьця, с-ня дэ Сабран з сынам Эльзеарам ў траўні 1791 г. пакінула радзіму і вярнулася з эміграцыі толькі праз дзевяць гадоў.

[51] Генрых Прускі (1726-1802) - брат прускага караля Фрыдрыха II, таленавіты палкаводзец.

[52] ўзяцце парыжанамі палаца Цюільры, дзе знаходзіўся Людовік XVI з сямействам; пасьля гэтага Заканадаўчы сход прагаласаваў за адхіленне караля ад улады і скліканне Канвента, таму 10 жніўня лічыцца днём падзення каралеўскай улады ў Францыі.

папярэднікам; ўнутры Францыі, роўна як і за яе межамі, анархія вызваляла людзей, якія былі на службе ў французскага



ўрада, ад усякай адказнасьці. Гэты урад, пераконвалі майго бацьку, не ўмее ні справіцца з уласным народам, ні набыць павагу суседзей, ні паважаць свае ўласныя рашэнні; адным словам, добразычліўцы ўсімі магчымымі сродкамі спрабавалі пераканаць майго бацьку, што яго вернасць людзям, якія стаяць на чале французскай дзяржавы, – гераізм, годны не столькі ўхвалення, колькі асуджэння. Але бацька застаўся глухі да іхных ўгаворам; ён ні ў чым не жадаў зграшыць супраць сумлення і паводзіў сябе так, як патрабаваў старадаўні дэвіз нашага роду: "Выканай свой абавязак, а там – будзь што будзе". "Мяне паслаў сюды гэты ўрад, – адказваў ён сябрам, – Я абавязаны вярнуцца і даць справаздачу ў тым, што зрабіў, тым, хто мяне паслаў; гэта мой абавязак". Такім чынам, мой бацька, гэты невядомы Рэгул[53], народжаны ў краіне, дзе ўчарашні гераізм засланяе сёняшняя слава і заўтрашняя славалюбства, са спакойнай душой накіраваўся ў Францыю, дзе яго чакаў эшафот.

На радзіме справы ішлі так жудасна, што, адклаўшы ў бок клопаты за палітыку, бацька неадкладна адправіўся добраахвотнікам у Рэйнскае войска[54], якое ўзначальваў мой дзед, генерал Кюстын. Ён з гонарам ваяваў у двух кампаніях, а калі генерал, які адкрыў нашаму войску шлях да перамогі, вярнуўся ў Парыж, дзе яго чакала смерць, рушыў услед за ім, каб стаць на яго абарону. Абодва загінулі на эшафоце. Але бацька на паўгода пераражыў дзеда: ён не быў асуджаны разам з жырандыстамі, сярод якіх, аднак, было нямала яго блізкіх сяброў.

Ён памёр смерцю пакутніка – памёр, як і належыць пакутніку, не прызнаным сучаснікамі. За асвечаны патрыятызм і бескарысную адданасць справе свабоды бацька і сын атрымалі аднолькавую ўзнагароду.

---

[53] Рэгул Марк Атылій (памёр каля 250 да н. э.) - Рымскі палкаводзец, падчас Пунічнай вайны трапіў у палон да Карфагенян і адпушчаны ў Рым пад слова сумлення, каб дамагчыся абмену палоннымі; Рэгул пераканаў рымлян адкінуць прапановы праціўніка, вярнуўся ў Карфаген і быў пакараны.

[54] Кюстын прыбыў у Парыж 22 чэрвеня 1792 г, а 10 лістапада таго ж года, выправіўшы жонку з сынам у маёнтак сяброў бліз Арлеана, накіраваўся, заручыўшыся загадам ваеннага міністра Паша, у распараджэнне свайго бацькі, графа Адама Філіпа дэ Кюстына (1740-1793). Узначальваемае генералам Кюстынам Рэйнскае войска ў канцы верасня-кастрычніку 1792 захапіла такія буйныя нямецкія гарады, як Вормс, Майнц і Франкфурт. Калі ў 1792 г. ход вайны быў спрыяльным для французаў, то на пачатку 1793 г. становішча змянілася: у красавіку галоўнакамандуючы французскім войскам генерал Дюмурье перайшоў на бок аўстрыйцаў, прускія войскі адбілі ў французаў Франкфурт і аблажылі Майнц; тым не менш 13 траўня генерал Кюстын быў прызначаны камандуючым Паўночным войскам замест забітага генерала Данпьера, аднак дзеянні ўпаўшага духам войска былі няўдалыя, горад Кондэ здаўся аблажыўшым яго непрыяцелям (12 ліпеня), а вінаватым у няўдачах Канвент палічыў генерала Кюстына. На дадатак у распараджэнні ваеннага міністэрства апынуліся дакументы, якія сведчылі пра стасункі генерала з аўстра-прускім ваенным камандаваннем, а забойства Шарлотай Кардэ Марата (13 ліпеня) паслужыла падставай да ўзмацнення жорсткасьці Тэрору, і 22 ліпеня 1793 г. генерал быў арыштаваны, а 28 жніўня пакараны. Хоць вылучаныя супраць генерала Кюстына абвінавачванні ў прамой здрадзе, хутчэй за ўсё, не мелі пад сабой падстаў, яго становішча з боку гледжання артадаксальных рэвалюцыянераў было больш чым двухсэнсоўнае: пасьля пакарання смерцю Людовіка XVI (21 студзень 1793 года) ён ў прысутнасці камісараў Канвента выказваў незадавальненне новай уладай, а таксама, спрабуючы вывесці прускага караля з антыфранцузскай кааліцыі, зносіўся з супернікам, і інш.

Учора наш цяперашні амбасадар пры берлінскім двары даў мне магчымасць пазнаёміцца з дыпламатычным ліставаннем, якое вёў мой бацька пад час свайго знаходжання пры гэтым двары.

Гэтае ліставанне поўніцца выключнай высакароднасцью і прастатой; яно – ўзор дыпламатычнага стылю ў тым, што мае дачыненне да формы выкладання і логікі разважанняў, а таксама годны прыклад асцярожнасці і адвагі. Чытаючы гэтыя лісты, бачыш, як, падзеленыя ўзаемным неразуменнем, нацкоўваемыя адна на другую, сутыкаюцца Яўропа і Францыя, як, не гледзячы на захады, прапанаваныя жменькай мудрых людзей, якіх іхная мужная ўмераннасць выракае на бясплодную гібель, Францыю затапляе хаос. Сталасць розуму, далікатнасць і сіла характару, грунтоўнасць ведаў, правільнасць высноў, яснасць думкі і хаваючаяся за ўсім гэтым душэўная магутнасць бацькі неверагодныя, а ён жа быў яшчэ зусім малады, ды да таго ж вырас у эпоху, калі дзяцей ніхто не ўспрымаў сур'ёзна, калі талент лічыўся следствам вопыту.

**~30~**

Спадар дэ Ноай[55], які займаў у той час пасаду французскага амбасадара ў Вене і даслаў няшчаснаму Людовіку XVI прашэнне аб звальненні, апавясціў майго бацькі аб прынятым ім рашэнні. Лісты яго, таксама захоўваючыяся ў нашым берлінскім архіве, ўтрымліваюць самыя пахвальныя водгукі аб новым дыпламаце, якому ён прадказвае бліскучую будучыню... Як далёкі быў спадар дэ Ноай ад думкі, што маладому пасланніку адмераны такі кароткі тэрмін!!! Мой бацька не быў гарыстым, але адабрэнне чалавека дасведчанага і, тым больш, безстаронняга, які сам меў намер абраць шлях, супрацьлеглы таму, якім збіраўся ісьці амбасадар у Берліне, не магло пакінуць абыякавым нават гэтага стоіка.

Прываблены пачуццём абавязку, бацька мой вярнуўся ў Парыж, і гэта яго загубіла. Адна акалічнасць, невядомая шырокай публіцы, дазваляе мне сказаць, што смерць яго была не проста высакародная, але велічная. Гэтая акалічнасць годная падрабязнага апавядання, аднак, паколькі ў гэтай гісторыі значны ўдзел бярэ мая маці, я павінен перш за ўсё намаляваць вам яе характар. Мае дарожныя нататкі па сутнасьці мае мемуары: вось чаму я з лёгкім сэрцам пачынаю кнігу пра паездку ў Расію з гісторыі, якая хвалюе мяне значна больш, чым любыя звесткі, якія мне наканавана даведацца ў далёкіх падарожжах. Генерала Кюстына прызвалі ў Парыж; даносы зайздроснікаў выраклі яго на пагібель.

Яшчэ ў войску ён даведаўся пра пакаранне смерцю караля; газетныя артыкулы выклікалі ў яго абурэньне, якога ён не змог стрымаць ў прысутнасці камісараў Канвент. Згодна іхных слоў, ён усклікнуў: "Я служыў сваёй айчыне і абараняў яе ад чужаземнага нашэсця, але хіба можна служыць тым людзям, што кіруюць намі сёння?”

[55] Ноай Эмманюэль Мары Луі, маркіз дэ (1743-1822) - французскі амбасадар у Вене ў 1783-1792 гг. Пры тэроры быў арыштаваны, але ацалеў.

Гэтыя словы, перададзеныя Рабесп'еру Мерленам[56] із Тыянвіля і яго спадарожнікам, асудзілі генерала на сьмерць.

Маці ў гэтую пару хавалася разам са мной у нармандскай глухамані[57]; я быў яшчэ зусім малы. Даведаўшыся аб вяртанні генерала Кюстына ў Парыж, адважная маладая жанчына палічыла сваім абавязкам пакінуць адзіноту, пакінуць немаўля–сына і кінуцца на дапамогу сьвёкру, з якім яе сямейства ўжо некалькі гадоў знаходзілася ў сварцы праз выказаныя ім з самых першых дзён Рэвалюцыі палітычныя сімпатыі. Ёй цяжка было пакінуць мяне, бо яна была маці ў поўным сэнсе гэтага слова, аднак спачуванне да чужога няшчасця заўсёды мела выключную ўладу над сэрцам гэтай вялікадушнай жанчыны. Я застаўся з нянькай, якая вырасла ў нашым Латарынгскім маёнтку і была бязмежна адданай нашаму сямейству; пазней яна прывезла мяне ў Парыж.

Калі што і магло выратаваць генерала Кюстына, дык гэта самаадданасць і адвага яго нявесткі.

Першая іх сустрэча была асабліва кранальнай праз тое, што



з'явілася для вязня поўнай нечаканасьцю. Пры з’яўленні маці стары ваяр палічыў, што выратаваны. На самай справе, яе маладосць, прыгажосць, нясмеласць, – не перашкаджаўшая ёй, аднак, праяўляць пры неабходнасьці ільвіную адвагу, – вельмі хутка выклікалі ў не зацікаўленай публіцы, журналістаў, народу і нават суддзяў рэвалюцыйнага трыбунала столькі спачування, што людзям, якія жадалі генералу сьмерці, прыйшлося звярнуць увагу на красамоўнейшага із яго абаронцаў, яго нявестку; яны вырашылі запалохаць маладую жанчыну.

У тую пару ўрад яшчэ не апусьціўся да той бессаромнасьці, з якой пачаў дзейнічаць пазней. Маці адважыліся арыштаваць толькі пасьля гібелі свёкра і мужа; аднак людзі, якія баяліся пасадзіць яе ў турму, не пабаяліся наняць бандытаў, якім паабяцалі грошай за яе сьмерць; "сенцябрысты"[58], як называлі тады гэтых галаварэзаў, некалькі дзён запар чакалі маці на прыступках Палаца правасуддзя, а іхныя заступнікі не прамінулі папярэдзіць маці аб небяспецы, якой яна падвяргаецца, выпраўляючыся ў трыбунал. Аднак нішто не магло спыніць гэтую жанчыну; кожнае паседжанне яна праводзіла, седзячы каля ног свёкра, і яе мужнасць кранала нават катаў. Застаючыся час яна выкарыстала на тое, каб употай хадайнічаць за генерала перад сябрамі рэвалюцыйнага трыбунала і камітэтаў. Прыніжэнні, якія яна цярпела падчас гэтых візітаў, прыём, аказаны ёй некаторымі дзяржаўнымі мужамі таго часу, напэўна вартыя асобнага апісання. Аднак я не магу паглыбляцца ў падрабязнасьці, бо яны мне не вядомы.

---

[56] Антуан Крыстоф Мерлен (1762-1833) “сябра Канвента; камісары Канвента выконвалі пры генералах рэвалюцыйнага войска ролю віжоў і “праваднікоў афіцыйнай лініі”.

[57] Дэльфіна дэ Кюстын з трохгадовым Астольфам жыла ў гэты час у сваёй залвіцы с-ні дэ Дрэ-Брэзэ ў нармандскім горадзе Анделі, у 30 лье ад Гаўра; выпраўляючыся на дапамогу сьвёкру, яна пакінула сына пад апеку нянькі Нанетты Мальрыа, аб якой Кюстын падрабязна распавядае ніжэй.

[58] прадстаўнікі “рэвалюцыйнага народа", якія 2-6 верасня 1792 года без суда і следства забівалі зняволеных у парыжскіх турмах арыстакратаў.

Маці не любіла апавядаць пра гэты перыяд свайго жыцця, славуты, але пакутлівы; апавядаць пра яго было ўсё роўна, што перажыць яго зноўку.

Візіты да ўладатрымаючых маці рабіла ў суправаджэнні майго бацькі, апранутага з гэтай нагоды, паводле тагачаснай моды, у простанародную сукенку; у кароткую куртку – "карманьоле", без гальштука, з коратка падстрыжанымі, ненапудранымі валасамі, бацька звычайна чакаў маці на лесвіцы або ў пярэднім пакоі, калі такі меўся. На адным з апошніх пасяджэнняў трыбунала адзіны погляд, кінуты маці на жанчын з публікі, вырваў у іх "слёзы, а, між тым, гэтыя мегеры славіліся асобамі вельмі стрыманымі. Іх называлі фурыямі гільяціны і вязальшчыцамі Рабесп'ера[59]. Знакі спагады, выказаныя гэтымі вар'яцкімі нягодніцамі да нявесткі Кюстына, да такой ступені ўгнявілі Фукье-Тэнвіля[60], што ён адразу аддаў наёмным забойцам, якія дзяжурылі каля дзвярэй Палаца правасуддзя, тайны загад пусціць у ход нажы.

Абвінавачанага адвялі назад у турму; нявестка яго выйшла з Палаца правасуддзя; ёй трэба было спусціцца па лесвіцы і пешшу, у адзіноце, дайсці да фіякра, які чакаў яе воддаль. Ніхто не адважваўся адкрыта суправаджаць маці праз баязнь памножыць



небяспеку, якая ёй паграажала. Нясмелая дзікунка, яна ўсё жыццё інстынктыўна, беспадстаўна баялася натоўпу. Уявіце сабе лесвіцу Палаца правасуддзя – доўгую чараду прыступак, пакрытых раз'юшаным, лютым натоўпам, які ўжо набыў агідную дасьведчанасьць і занадта прывык беспакарана праліваць кроў, каб засаромецца чарговага забойства. Маці, трапечучы, спыняецца на верхняй пляцоўцы; яна шукае вачыма месца, дзе некалькі месяцаў таму загінула спадарыня дэ Ламбаль[61]. Адзін із сяброў бацькі здолеў перадаць ёй у зале суда запіску, у якой папярэдзіў аб неабходнасці трымацца яшчэ больш асцярожна, чым звычайна, але гэтае папярэджанне толькі пагоршыла справу: ад жаху маці ледзь не страціла галаву; яна вырашыла, што загінула–а менавіта гэта і магло яе загубіць. "Калі я спатыкнуся, калі ўпаду, як спадарыня дэ Ламбаль, усё будзе скончана", – паўтарала яна сама сабе, а раз'юшаны натоўп, між тым, абступаў яе ўсё больш цесна. Адусюль чуліся крыкі: "Гэта Кюстынша, нявестка здрадніка![62]",

[59] дбайныя прыхільніцы якабінскай дыктатуры, якія прысутнічалі на пасяджаннях Канвента з рукадзеллем ў руках.

[60] Фук'е-Тэанвіль Антуан Кантэн (1746-1795) - грамадзкі абвінаваўца Рэвалюцыйнага трыбунала, які вызначаўся асаблівай жорсткасьцю; пасьля падзення дыктатуры Рабесп'ера быў адданы пад суд і пакараны.

[61] Ламбаль Мары Тэрэза Луіза дэ Савуа-Карыньян, прынцэса дэ (1749-1792) прыдворная дама і бліжэйшая сяброўка каралевы Марыі Антуанеты; была разадрана падчас вераснёўскай разні 1792 г.

[62] Нянавісць да генерала Кюстына была такая вялікая, што нейкі прадпрымальны парыжанін пачаў узводзіць на плошчы Рэспублікі, дзе адбываліся пакаранні, драўляны амфітэатр, каб затым пускаць туды гледачоў за грошы, і толькі забарона гарадзкіх уладаў перашкодзіла яму давесці справу да канца (гл.: Maugras. P. 169). Той жа аўтар цытуе тагачасную газету: "Пазаўчора гэтая жанчына (Дэльфіна дэ Кюстын) выйшла ў суправаджэнні натоўпу із Палаца правасуддзя; вусны яе кранула ўсмешка; навакольным жа здалося, што яна смяецца. У натоўпе былі такія жанчыны, якія, нітрохі не расчуленыя становішчам няшчаснай, пачалі крычаць: "Нядоўга ёй яшчэ весяліцца. Гэта дачка Кюстына; яе бацька нам за ўсё адкажа"(Maugras. P. 170).

страшэнная лаянка і праклёны. Як спусціцца ўніз, як прайсці скрозь гэтую пякельную арду? Адны галаварэзы з шаблямі нагала заступалі маці дарогу, іншыя, скінуўшы курткі, закатаўшы рукавы, адхілялі ад сябе жонак, відавочна рыхтуючыся пачаць разню; небяспека ўзрастала з кожнай хвілінай. Маці разумела, што, варта ёй выказаць найменшую слабасць, забойцы зваляць яе на зямлю і прыкончаць; яна казала мне, што да крыві кусала сабе рукі і вусны, каб не пабялець. Нарэшце, падняўшы вочы, яна ўбачыла, што да яе набліжаецца адна з самых агідных вулічных гандлярак з немаўлём на руках. Ведзеная Госпадам, заступнікам маці, "нявестка здрадніка" падыходзіць да гэтай маці з простых людзей (а маці – больш, чым жанчына) і кажа ёй: "Якое ў вас цудоўнае дзіця!" – " Вазьміце яго, – адказвае тая, зразумеўшы ўсё з паўслова, – я забяру яго ў вас ўнізе". Іскра мацярынскай любові працяла сэрца дзвюх жанчын – і натоўп адчуў гэта. Маці ўзяла дзіця, пацалавала яго і пайшла скрозь узрушаны натоўп, хаваючыся за гэтым новаз’явіўшымся шчытом.

Натуральны чалавек узяў верх над чалавекам, знявечаным сацыяльнай хваробай; варвары, названыя цывілізаванымі людзьмі, схілілі галовы перад двума маці. Нявестка здрадніка, зразумеўшы, што выратаванне блізка, спусцілася па прыступках Палаца правасуддзя, перайшла двор і падышла да брамы; ніхто яе і пальцам не крануў, ніхто не вымавіў ёй услед ні адзінага ваяўнічага слова; каля брамы яна аддала дзіця яго роднай маці, і дзве жанчыны неадкладна разышліся, нават не развітаўшыся; ні для выяўлення падзякі, ні для размоў месца было непадыходзячым; больш яны ніколі не бачыліся і нічога не даведаліся адна пра другую: душам дзвюх маці наканавана было пабачыцца ў іншым свеце. Аднак выратаваўшаяся цудам маладая жанчына не змагла выратаваць

**~33~**

свайго свёкра. Ён загінуў! Стары ваяр увянчаў годнае жыццё годнай смерцю; ён знайшоў у сабе мужнасць памерці па–хрысціянску: аб гэтай пакорлівай ахвяры, самай цяжкай з усіх у эпоху, калі і заганы і цноты знаходзіліся пад эгідай філасофіі, сведчыць яго ліст да сына; з прастадушнасьцю святога генерал Кюстын пісаў майму бацьку напярэдадні пакарання: "Не ведаю, як я павяду сябе ў апошняе імгненне; не люблю хваліцца, пакуль справа не зроблена". І гэтую–та велічную сціпласць тагачасныя сляпцы з пароды вальнадумцаў называлі баязлівасцю!.. Але што ж перашкаджала яму пахваліцца загадзя сваёй адвагай, а калі ў вырашальны момант не хапіла б мужнасьці, парушыць абяцанне? Што замінала? Любоў да праўды, заглушаючая нават славалюбства; пачуццё, пра якое дробязныя душонкамі не маюць разумення.

Па дарозе да пакарання смерцю генерал Кюстын цалаваў распяцце, з якім разлучыўся, толькі сышоўшы з ракавай павозкі. Набожная мужнасць ўпрыгожыла яго смерць, як вайсковая мужнасць ўпрыгожвала яго жыццё, але прывяло ў абурэньне парыжскіх Брутаў[63].

---

[63] Абат Латрэнжэ, які суправаджаў Кюстына да месца пакарання сьмерцю і які працягнуў яму распяцце, быў праз гадзіну пасьля пакарання сьмерцю генерала арыштаваны згодна даносу за

У лісце ён прасіў майго бацькі заступіцца за яго добрае імя. Ўзвышаная прастадушнасць жаўнера, які лічыў, што пакаранне па загадзе Рабесп'ера здольна запляміць нечую рэпутацыю! Што можа быць больш кранальным, чым гэтая вера ахвяры ў магутнасьць ката?

Напярэдадні смерці май дзед у апошні раз ўбачыўся са сваёй нявесткай; на яе здзіўленне, спатканне адбылося не ў камеры, а ў дастаткова ўтульным пакоі. "Мяне перасялілі на гэтую ноч, – патлумачыў вязень, – каб змясьціць на маё месца каралеву[64]: таму што мая камера самая кепская ва ўсёй турме". Некалькімі гадамі раней ён, аднойчы зімой, прайграў у Версалі, на палавіне каралевы, 300 000 франкаў; ў тую пару Марыя Антуанэта, бліскучая, выклікаючая ўсеагульную зайздрасць, палічыла б вар'ятам таго, хто сказаў бы ёй, што яе апошнім прытулкам стане турма Консьержэры. Дзед мой, падобна ўсім прыдворным любіўшым каралеву, не мог без болю думаць пра долю, якая напаткала дачку Марыі Тэрэзіі[65]; ён забываўся пра ўласныя цяжкасьці, калі думаў пра зменлівасць лёсу гэтай жанчыны, такой пыхлівай са шляхтай, такой ветлівай з чэляддзю; ён не пераставаў здзіўляцца іхнай дзіўнай сустрэчы каля падножжа эшафота.

Падчас суда над генералам Кюстынам мой бацька напісаў і выдаў абарончую прамову; стрымана, але праўдзіва характарызаваўшую палітычныя і ваенныя здзяйсненні яго бацькі. Гэтая абарончая вымова, тэкст якой ён развесіў на сценах парыжскіх хат, не мела ніякага ўплыву, але наклікала на яе аўтара нянавісць Рабесп'ера разам з мантаньярамі, і без таго раздражнёнымі сяброўствам маладога Кюстына з усімі вялікадушнымі і разважлівымі людзьмі таго часу. Сын генерала Кюстына быў асуджаны;



неўзабаве пасьля пакарання сьмерцю бацькі[66] ён апынуўся ў турме. Тэрор з кожным днём набіраў магутнасць; арышт быў раўназначны прысуду; суд ператварыўся ў пустую фармальнасць. Маці мая была яшчэ на волі і, хаця яе паводзіны падчас працэса генерала Кюстына прыцягнулі да яе ўсеагульную ўвагу, дамаглася дазволу штодня наведваць мужа ў турме Ла-Форс. Разумеючы, што яму пагражае хуткая і немінучая гібель, яна выкарыстала ўсё магчымасьці для падрыхтоўкі ўцёкаў; яе чароўнасць была такой вялікай, што яна змагла ўзяць у хаўрусніцы дачку турэмнага наглядчыка; дарэчы, больш значнымі чым

---

спачуванне да здрадніка і выйшаў із турмы толькі пасьля падзення якабінскай дыктатуры (Maugras. P. 177)

[64] Марыю Антуанэту (1755-1793) перавялі із турмы Тампль ў Кансьержэры 2 жніўня 1793 г. з тым каб перашкодзіць яе пабегу; пакаралі сьмерцю каралеву 16 кастрычніка 1793 г.

[65] Марыя Тэрэзія (1717-1780) - аўстрыйская імператрыца з 1740, жонка імператара Франца I (1708-1765) маці Марыі Антуанеты.

[66] Арман дэ Кюстын быў зняволены ў турму Ла-Форс яшчэ да пакарання бацькі (гл.: Bardoux. P. 68). Самаадданасць яго жонкі ў гэтую пару была тым больш вялікая, што ў апошнія гады гарачага кахання да мужа яна не мела. “Мы з Арманам ўжо даўно разачараваліся адзін у адным і жылі кожны сам па сабе, - пісала яна ў гэты перыяд брату Эльзэару, - нядаўнія няшчасьці зблізілі нас; мае паводзіны, мая непадробная адданасць яму і ўсяму, чым ён даражыць, разчулілі яго, і ён закахаўся ў мяне яшчэ больш горача, чым раней. Што да мяне, я адчуваю да яго сяброўскія пачуцці - і нічога больш. Яго гэта прыводзіць у адчай, але мне на раду напісана не ведаць шчасця»(Maugras. P. 196).

зачараванне маці выявіліся яе грошы і абяцанкі. План уцёкаў, які распрацавала маці на аснове шматдзённых назіранняў, заключаўся ў наступным.

Бацька мой быў невялікі ростам, далікатны і выглядаў дастаткова молада і абаяльна, каб у жаночай сукенцы сысці за жанчыну. Развітваючыся з ім, маці знарок кожны раз выходзіла на вуліцу ў суправаджэнні дачкі турэмнага наглядчыка, Луізы; абедзве жанчыны праходзілі разам міма вартавых, стражнікаў і жаўнераў муніцыпальнай гвардыі; ўсе гэтыя людзі, якія прызвычаіліся да таго, што дачка турэмшчыка праводзіць ўсіх наведвальнікаў турмы, давяралі гэтай юнай асобе і дазвалялі ёй самастойна зачыняць за сваякамі і сябрамі зняволеных дзверы, якія вядуць на лесвіцу. Пасьля сьмерці свёкра маці насіла жалобную сукенку, чорны капялюш і густую вуаль, што было зусім не небяспечна, бо ў тую няшчасную эпоху нікому не дазвалялася выказваць смутак. Бацькі мае дамовіліся, што ў прызначаны дзень бацька перапранецца ў сукенку жонкі, маці ж аддасць сваю сукенку дачцэ турэмнага вартаўніка; затым вязень разам з ілжэ-Луізай пакіне турму звычайным шляхам, а сапраўдная Луіза скарыстаецца чорным ходам. Справа адбывалася ў студзені; сыходзіць вырашылі на змярканні, не задоўга да той гадзіны, калі на вуліцах запальваюцца ліхтары. Луіза была прыгожая бландынка, амаль такая ж чароўная, як мая матуля, якой нядаўна споўнілася дваццаць два гады і якая, не гледзячы на ўсе абваліўшыяся на яе няшчасці, не страціла ні прыгажосці, ні здароўя. Маці дамовілася з Луізай, што тая, патрапіўшы вядомым ёй адной шляхам на вуліцу, падыдзе да фіякра аднachасова з вязнем і атрымае з яго рук трыццаць тысяч франкаў золатам, якія даставіць да брамы турмы адзін з сяброў маці. Аднachасова дзяўчына атрымае пісьмовае абавязацельства майго бацькі выплочваць ёй пажыццёвую пенсію ў дзве тысячы франкаў. Усё было як след прадумана і абгаворана, заставалася толькі прызначыць дзень. Выбар павінна была зрабіць Луіза, якая добра ведала нораў і звычкі муніцыпальных гвардзэйцаў і лічыла некаторых з іх меней небяспечнымі; нарэшце надышоў дзень, калі марудзіць было больш нельга – праз суткі бацьку патрэбна было адправіцца ў Кансьержэры, а адтуль у трыбунал, інакш кажучы, на смерць: стаяў студзеня 1794 года.

**~35~**

Напярэдадні вырашальнага дня змоўшчыкі зладзілі ў камеры майго бацькі рэпетыцыю і з вялікай руплівасьцю прымерылі касцюмы, прыгатаваныя для заўтрашняга спектакля.

Маці вярнулася дадому, акрыленая надзеяй; ёй трэба было вярнуцца ў турму толькі на наступны дзень да вечара, з тым каб ужо праз гадзіну пакінуць яе разам з мужам.

Між тым рэвалюцыйныя ўлады працягвалі лютаваць: як раз напярэдадні дня, на які былі прызначаны ўцёкі, Канвент апублікаваў дэкрэт, які асуджае на смерць усякага, хто дапаможа бегчы дзяржаўнаму злачынцу[67]; Закон абвяшчаў,

---

[67] Магчыма, Кюстын мае ў ўвазе так званы “закон аб падазроных", прыняты, аднак, за тры з лішкам месяцы да пакарання яго бацькі, 17 верасня 1793 г. Ён даваў уладам права арыштоўваць ўсіх тых,

што і памагатыя ўцекачоў, і тыя, хто дадуць ім прытулак, і – гэта гучыць зусім неверагодна – тыя, хто не данесьлі пра ўцёкі, – будуць падвергнуты аднолькаваму пакаранню!..

Газета з тэкстам гэтага жудаснага закона была не із тых, якія хаваюць ад зняволеных. Наглядчык турмы Ла-Форс, бацька Луізы, з намерам занёс яе ў камеру майго бацькі. Гэта адбылося раніцай таго дня, калі павінны былі адбыцца ўцёкі.

Пасьля поўдня, трохі раней прызначанай гадзіны, маці выправілася ў турму. Пад лесвіцай яе чакала заплаканая Луіза. "Што здарылася, дзіця маё?"– спытала маці. – "О, пані, – адказвала Луіза, ад хвалявання забыўшыся, што згодна новага закона варта звяртацца да ўсіх на "ты", – угаварыце яго, вы адна можаце яго выратаваць; я малю яго з самай раніцы: ён і думаць не хоча пра выкананне нашага плана".

Маці, баючыся, як бы хто–небудзь не падслухаў іхную размову, падымаецца па вінтавой лесвіцы, не кажучы ні слова. Луіза ідзе за ёй следам. Перад уваходам у камеру вялікадушная дзяўчына спыняе маці і шэпча: "Ён прачытаў газету". Маці адгадвае астатняе; ведаючы непахісную педантычнасць майго бацькі, яна не вырашаецца адчыніць дзверы; ногі ў яе падкошваюцца, яна дрыжыць, нібы ўжо бачучы свайго мужа на эшафоце. "Пойдзем са мной, Луіза,– кажа яна, – ты хутчэй, чым я, пераканаеш яго, бо ён ахвяруе сваім жыццём, каб не рызыкаваць тваім". Луіза ўваходзіць у камеру, і там, за зачыненымі дзвярыма, напаўголас разыгрываецца сцэна, якую ваша ўяўленне намалюе вам лепш, чым я, тым больш, што маці толькі аднойчы, шмат гадоў пасьля, адважылася пераказаць мне яе, ды і то вельмі коратка.

– Вы адмаўляецеся бегчы, – кажа маці, уваходзячы, – дык вось, ваш сын застанецца сіратой, бо я не перажыву вас.

– Я не маю права ахвяраваць жыццём гэтай дзяўчыны дзеля ўласнага выратавання.

– Яе жыццю нічога не пагражае; яна схаваецца, а затым ўцячэ разам з намі.

– У Францыі больш няма дзе схавацца, а пакінуць гэтую няшчасную краіну бязмерна цяжка; ты просіш у Луізы больш, чым яна абяцала.



– Уцякайце, пане, – кажа Луіза, – я хачу гэтага не менш вашага.

– Ты што ж, не чытала ўчарашняга дэкрэта? І ён пачынае чытаць голасна. Луіза перапыняе яго:

– Усё гэта я ведаю, пане, але паўтараю вам: бяжыце; я малю вас пра гэта, я прашу вас на каленях (і яна падае ў ногі майго бацькі), бяжыце; ад выканання нашага плана залежыць маё шчасце, маё жыццё, мой гонар. Вы абяцалі азалаціць мяне, магчыма, зараз вам будзе цяжка стрымаць слова. Што ж! Я

---

хто выявіць сябе ”прыхільнікам тыраніі і федэралізму”, усіх тых, хто “не выконвае сваіх грамадзянскіх абавязкаў”, усіх тых, нарэшце, хто пастаянна не выказваў сваёй адданасці рэвалюцыі !”(Крапоткін П. А. Вялікая французкая рэвалюцыя, 1789-1793 гг. 1979 г. - С. 397-398).

згодна выратаваць вас дарма. Трыццаць тысяч франкаў, якія вы павінны былі мне заплаціць, пойдуць на выратаванне нас траіх. Мы схаваемся дзе–небудзь, мы разам перабярэмся за мяжу, я буду вам прыслугоўваць; мне не трэба ніякай ўзнагароды, толькі не адмаўляйцеся ад нашага плана.

– Нас зловяць, і ты памрэш.

– Няхай! я згодна – што вы на гэта скажаце? Вядома, дзеля вас мне прыйдзецца пакінуць радзіму, бацьку, жаніха; мы збіраліся неўзабаве абвянчацца, але я не люблю яго, да таго ж, калі ўсё скончыцца добра, з дапамогай той сумы, якую вы мне паабяцалі, я змагу ўзнагародзіць яго... А калі нам не пашанцуе, я памру разам з вамі, але ж я іду на гэта па добрай волі: як вы можаце мне пярэчыць?

– Ты не разумееш, што кажаш, Луіза; ты горка раскаешся.

– Няхай – але вы будзеце выратаваны.

– Ні за што.

– Як! – зноў уступае ў размову маці. – Ты хвалюешся аб гэтай высакароднай дзяўчыне больш, чым аб сваёй жонцы, чым пра свайго сына?.. Няўжо ты забыўся, што заўтра мне ўжо не дазволяць увайсці сюды, а паслязаўтра цябе перавядуць у Кансьержэры? Няўжо ты не разумееш, што Кансьержэры – гэта смерць? І ты хочаш, каб я перажыла ўсё гэта? Ты ж адказны не толькі за Луізу. Нішто, аднак, не магло пахіснуць стаічнай рашучасці юнага вязня; дзве жанчыны малілі яго на каленях, ён чуў разважанні звар'яцелай маці, угаворы адданай прастачкі: усё было дарэмна. Ахвяра чалавекалюбства, мой бацька быў чужы эгаістычных намераў і глухі да закліку сэрца: абавязак і гонар мелі куды большы ўплыў на яго душу, чым любоў да жыцця, чым каханне выдатнай, адважнай, пяшчотнай жанчыны, моцнай і слабой разам, чым бацькоўская любоў. Здавалася б, кожнае з гэтых пачуццяў можа быць прыраўнана да абавязку, аднак бацька мой застаўся непахісны: у яго далікатным маладым целе жыла вялікая душа!.. Як, павінны былі, любавацца ім анёлы нябесныя! Час, адпушчаны для спаткання, прайшло ў марных ўгаворах; маці прыйшлося вывесьці з камеры сілай – яна не хацела СЫХОДЗІЦЬ. Луіза, перапоўненая амаль такім жа глыбокім адчаем, праводзіла яе да дзвярэй турмы, дзе сваіх сяброў чакаў, пакутуючы ад лёгка



растлумачваемай трывогі, спадар Гі дэ Шамон–Кітры з трыццаццю тысячамі франкаў золатам у кішэні.

– Усё прапала, – сказала яму маці, – ён адмаўляецца бегчы.

– Я ў гэтым не сумняваўся, – адказаў спадар дэ Кітры. Адказ гэты, годны сябра такога чалавека, заўсёды здаваўся мне амаль такім жа выдатным, як і ўчынак майго бацькі. І ўсё гэта згінула ў змроку невядомасці... Звышнатуральная мужнасць бацюшкі засталася незаўважанай у эпоху, калі Францыя была гэтак жа багатая гераізмам, як за паўстагоддзя да таго – розумам.

Маці яшчэ адзін раз ўбачыла бацьку ўвечары, напярэдадні пакарання; за вялікую плату яна змагла атрымаць дазвол развітацца з ім у Кансьержэры.

Падчас гэтага выдатнага спаткання адбыўся адзін эпізод, гэтакі дзіўны, што я з цяжкасцю адважваюся апавядаць пра яго. Здаючыся стварэннем трагікамічнага генія Шэкспіра, ён, аднак, цалкам праўдзівы; жыццё паўсюдна заходзіць шмат далей выдумкі; прырода перапоўнена супярэчнасьцямі; і не мая віна ў тым, што іншы раз да слёз прымешваюцца зусім іншыя пачуцці? Я ўжо сказаў, што бацьку прысудзілі да смерці, і на наступны дзень ён павінен быў адправіцца на пакаранне смерцю; яму споўнілася дваццаць чатыры гады. Яго жонкая, Дэльфіна дэ Кюстын, народжаная дэ Сабран, была адной із найпрыгажэйшых жанчын свайго часу. Самаадданасць, з якой яна некалькімі месяцамі раней абараняла свайго свёкра генерала Кюстына, набыла ёй ганаровае месца ў аналах рэвалюцыі, падчас якой жанчыны нярэдка выказвалі гераізм, выкупляўшы агідны фанатызм і жорсткасць мужчын. Маці ўвайшла ў вязніцу, захоўваючы спакой, моўчкі абняла свайго мужа і правяла каля яго тры гадзіны. Яна не кінула яму ні адзінага папроку: за дзвярыма стаяла смерць. Жонка даравала мужу бязмежную высакароднасць, якая была нагодай трагічнай развязкі; ён не пачуў ад яе ні адзінай скаргі; яна зберагала яго сілы для апошняга выпрабавання. Прысуджаны да смерці і яго сяброўка падоўгу маўчалі; толькі маё імя некалькі разоў прагучала пад скляпеннямі цямніцы, і імя гэта разрывала сэрца абодвум... Бацька мой папрасіў літасці... Маці змоўкла.

У тыя гераічныя часы пакаранне смерцю было відовішчам, і ахвяры лічылі справай гонару не здрыганууцца перад тварам ката; мая няшчасная маці разумела, што яе маладому, прыгожаму, высакароднаму мужу, чалавеку пяшчотнай душы і вострага розуму, яшчэ нядаўна спажываўшаму такое безхмарнае шчасьце, неабходна сабраць да заўтрашняга дня ўсю сваю мужнасць; нават яна, гэтая нясмелая ад прыроды жанчына, імкнулася падбадзёрыць яго перад апошнім выпрабаваннем. Нездарма гаворыцца, што сумленнай душы зразумела ўсё ўзвышанае! Цяжка было знайсці жанчыну больш шчырую, а значыць, больш



ўстойлівую у гадзіну вялікіх выпрабаванняў, чым мая маці. Набліжалася поўнач; баючыся, што мужнасць пакіне яе, яна вырашыла сысці.

Спатканне адбывалася ў зале, куды выходзілі некалькі камер–даволі прасторным, напалову цёмным пакоі з нізкай столлю. Бацькі мае сядзелі каля стала, на якім гарэла свечка; за шырокімі засьцекленымі дзвярамі прагульваліся вартавыя. Раптам маленькая дзверца, на якую мае бацькі раней не звярталі ніякай увагі, адчынілася, і з яе выйшаў дзіўна апрануты чалавек з цьмяным ліхтаром у руцэ; то быў вязень, наведваўшы другога вязня. На ім быў кароткі халат, ці, дакладней, доўгі камзол, абшыты лебядзіных пухам, што само па сабе смешна; давяршалі яго касцюм белыя кальсоны, панчохі і высокі востраканечны хлопчаты каўпак, упрыгожаны ярка–чырвонымі карункамі; ён павольнымі крокамі слізгаў па пакоі, як слізгалі прыдворныя Людовіка XV па Версальскай галерэі.

Падышоўшы зусім блізка да маіх бацькоў, незнаёмецы моўчкі зірнуў на іх і пайшоў далей; тут–то яны і заўважылі, што старац ўжывае румяны. Маладыя

краіны, як прабягаем мы старонкі кнігі: тым больш, што адна кніга заўсёды адсылае нас да іншай.

Калі ў адным з пілігрымстваў сілы пакідаюць мяне, я кажу сабе: мэта патрабуе ахвяр, і пускаюся далей; больш за тое, ледзь вярнуўшыся дадому, я пачынаю марыць аб наступнай ванроўцы. Пастаянна падарожнічаць – нядрэнны спосаб правесьці жыццё, асабліва для чалавека, які не падзяляе тых ідэй, што пануюць у сучасным яму грамадстве: мяняць краіны – усё роўна што мяняць стагоддзі. У Расіі я збіраюся пагрузіцца ў даўно мінулыя часы. Гісторыя ў яе выніках – вось што спазнае падарожнік, і нішто не можа параўнацца з гэтым спосабам адкрываць розуму ўсе разнастайнасці зямных падзей. Як бы там ні было, на борце карабля мне спадарожнічала такое



прыемнае таварыства, якога я, мабыць, дагэтуль не сустракаў; для таго, каб весела праводзіць час, недастаткова сабраць у адным месцы некалькі прыемных асоб; патрэбны яшчэ абставіны, якія дазваляюць кожнаму паказаць сябе ў найлепшым святле; наша жыццё на "Мікалаі I" нагадвае жыццё ў замку ў непагодлівае надвор'е: выйсці немагчыма, і ўсе паміралі б ад нуды, калі б кожны не намагаўся пацешыць самога сябе, забаўляючы іншых: такім чынам, наша нявольнае суседства ператварылася ва ўсеагульнае дабро, чаму, зрэшты, мы абавязаны бездакорнай тварыскасьці некалькіх пасажыраў, воляю лёсаў апынуўшыхся на борце нашага карабля, і, перш за ўсё, ласкавасьці і дасьведчанасьці князя К***. Не выкарыстай ён з самага першага імгнення сваю ўладу, ніхто з нас не адважыўся б зламаць лёд, і мы правялі б усю дарогу, моўчкі пазіраючы адзін на аднаго, ў сумнай і цяжкай адзіноце на людзях, – замест гэтага мы размаўлялі дні і ночы напралёт, бо, калі за акном заўсёды светла, можна без цяжкасьці знайсьці суразмоўцу ва ўсякі час сутак; гэтыя дні без начэй адмяняюць час, людзі забываюць пра сон; я пішу вам з трох гадзін раніцы і ўвесь час чую даносячыяся із кают-кампаніі гукі, смех і размовы, а калі я пайду туды, пасажыры прымусяць мяне чытаць ім вершы і прозу, папросяць расказаць якую-небудзь парыжскую гісторыю. Мяне раз-пораз распытваюць аб мадэмуазель Рашэль[161] і пра Дзюпрэ[162] – двух галоўных знакамітасцей сёняшняга драматычнага тэатра:

[161] Рашэль (сапр. імя і проз. Элізабэт Рашэль Фелікс, 1821-1858) – французкая трагічная актрыса, сваім выкананнем паспрыяўшая адраджэнню ў Францыі цікавасці да класічнай трагедыі. Кюстын часта меў стасункі з Рашэль на прыканцы 1830-х гг., паколькі ў яе быў закаханы (неўзаемна) яго пратэжэ І. Гуроўскі (гл. заўв. да цяп. тома, с. 270).

[162] Дзюпрэ Жыльбэр Луі (1806-1896) – французкі тэнар, да якога парыжская публіка спачатку ставілася скептычна, што адлюстравана ў рамане Кюстына “Этель”(1839) “З'яўленне яго на падмостках не выклікала апладысментаў; публіка была халодная як лёд, і гэты лёд спеваку трэба было падпаліць. Першыя гукі яго голасу, аднак, прымусілі рэдкіх знаўцаў насьцярожыцца. Дэкламацыя яго здалася ім новай, манера – шчырай і высакароднай, вымаўленне – не маючым прыкладаў па выразнасьці і энергічнасьці ‹...› сапраўдныя сябры мастацтва зразумелі, што перад імі – сапраўдны талент; астатнія гледачы пакуль заставаліся абыякавыя” (Ethel. T. a. P. 62-63, пар. ў дзённіку Балабін 28 жніўня 1842 пра выступ Дзюпрэ ў оперы “Вільгельм Тэль”: “Ён зусім не апраўдаў маіх чаканняў: вывучка ў яго нядрэнная, італьянская, але голас - на жаль!.. Часта ён вымушаны крычаць, што ёсць мачы, напружваць голас, каб узяць верхнія ноты, прычым часам фальшывіць і тым губіць усё ўражанне” (Balabine. P. 36). Сам Кюстын

не маючы дазволу бачыць і чуць[163] гэтых славутых акцёраў у нас, рускія мараць запрасіць іх да сябе.

Пры з'яўленні пераможнага ўлана-камерсанта гутарка звычайна пачынае ісьці дарэмна, надыходзіць час жартаў, песень і рускіх скокаў. Якая ні нявінная наша весялосьць, яна ўсё ж абражае двух амерыканцаў, якія едуць у Пецярбург па справе. Гэтыя жыхары Новага Свету не дазваляюць сабе нават ўсміхнуцца пры выглядзе дзівацкіх забаў, якім аддаюцца еўрапейскія прыгажуні; яны не спасцігаюць, што гэтая свабода – следства бясклапотнасці, а бясклапотнасць – шчыт, які агароджвае маладыя сэрцы. Іхнае пурытанства абураецца не толькі на бязладзі, але і на весялосьць: яны – пратэстанцкія янсеністы і хацелі б ператварыць жыццё ў бясконцае пахаванне.

На шчасце, мае спадарожніцы не пагаджаюцца паміраць ад нуды, каб патрафіць гэтым педантам-купцам. Яны трымаюцца прасцей, чым большасць паўночных жанчын, якія, прыязджаючы ў Парыж, лічаць сябе абавязанымі ўсяляк напружваць свой розум, каб прываблiваць нас; дамы, што знаходзяцца на борце нашага карабля, насупраць, чаруюць, зусім не прыкладаючы да гэтага намаганняў; іхнае французскае вымаўленне, на мой густ, правільней, чым у большасці палячак; яны вымаўляюць не так напеўна, у адрозненні ад амаль усіх варшаўскіх дам, якіх я сустракаў у Саксоніі і Багеміі, не рвуцца выправіць нашу мову згодна запаветам педантычных гувернантак, выпісаных з Жэневы. Рускія



дамы, што плылі разам са мной у Пецярбург, імкнуцца размаўляць па–французску, як мы, і, за вельмі рэдкімі выключэннямі, ім гэта ўдаецца. Учора на нашым караблі здарыўся выпадак, выкрываючы патаемную сутнасць шмат якіх характараў.

У гэтым годзе, памятаючы пра нядаўні пажар на борце "Мікалая I", пасажыры зрабіліся асабліва палахлівыя; трэба прызнаць, што склад экіпажа зусім нездольны надаць ім упэўненасьці. Капітан – галандзец, лоцман – датчанін, матросы – немцы, якія, прэ гэтым, не з'яўляюцца выхадцамі з прыбярэжных земляў, – вось каму даручана рускае судна.

Дык вось, учора пасьля абеду ўсе мы сабраліся на палубе; свяціла сонца, дзьмуў свежы ветрык, і мы з найвялікшым задавальненнем аддаваліся чытанню кнігі, ўзятай у судовай бібліятэцы (гэта былі раннія творы Жуля Жанэна[164]), як раптам колы парахода перасталі круціцца, а з машыннага аддзялення пачуўся страшны шум; судна спынілася ў адкрытым моры, якое, дзякаваць Богу, было ў той дзень зусім спакойнае, і замёрла, нібы мадэль карабля на мармуровым

---

адразу ацаніў талент Дзюпрэ і не раз запрашаў яго і ў свой маёнтак Сен-Грас, і ў парыжскі салон на вуліцы Ларошфуко (тат. Р. 442-444).

[163] Намёк на тое, што імператар чыніць перашкоды рускім, жадаючым падарожнічаць за мяжой, і перш за ўсё ў Францыі.

[164] Французскі літаратар Жуль Жанэн (1804-1874), пасьля знакаміты літаратурны крытык, у юнацтве быў аўтарам некалькіх раманаў і аповесцей, якія належаць да так званай “апантанай славеснасьці”, з якіх найбольшую вядомасць атрымаў раман са знарочыта шакуючай назвай “Мёртвы асёл і гільятыніраваная жанчына”(1829). Аповесці Жанена выходзілі некалькімі выданнямі, напрыклад: “Аповесці фантастычныя і літаратурныя” (1832), “Новыя апавяданні” (1833).

сталe. Матросы неадкладна кінуліся да топкі, капітан з устрывожаным выглядам рушыў услед за імі, нічога не адказваючы на пытанні пасажыраў.

Мы знаходзіліся пасярэдзіне самай шырокай часткі Балтыйскага мора; на ўсход ад нас быў Фінскі заліў, на поўнач – Батнічны; да берага, у які бок ні паглядзі, было вельмі далёка. Усе захоўвалі суровае маўчанне, аддаючыся змрочным ўспамінам; больш усіх трывожыліся самыя забабонныя. Згодна загада капітана двое матросаў кінулі лот. "Усё ясна, мы селі на мель", – пачуўся жаночы голас; то былі першыя словы, якія парушылі цішыню з таго самага моманту, як машына застапарылася; да гэтага спалоханыя пасажыры чулі толькі не надта упэўненыя загады капітана, інтанацыі і паводзіны якога не выклікалі надзеі на шчаслівае заканчэнне. "У катле занадта шмат пару, і ён вось–вось выбухне", – дадаў іншы голас. У гэты момант матросы пачалі рыхтаваць шлюпкі да спускання на ваду. Я моўчкі ўспамінаў турбаваўшыя мяне прадчуванні: выходзіць, не з пустога капрызу хацеў я адмовіцца ад гэтага плавання. Мае пазіркі накіраваліся ў бок Парыжа.

Княгіня Л***, не вылучаючаяся крэпкім здароўем, расплакалася; без сіл, амаль без прытомнасьці, яна шаптала, глытаючы слёзы: "Памерці ў далечыні ад мужа!" – "О, навошта мой муж тут!" – усклікнула ў адказ юная княгіня Д***, прыціснуўшыся да пляча князя; ніхто не чакаў такой мужнасці ад гэтай далікатнай, стройнай і вытанчанай жанчыны з пяшчотнымі блакітнымі вачамі і ціхім, пявучым голасам. Цень з паэмы Ассіан перад тварам небяспекі ператварылася ў гераіню, гатовую адважна знесці ўсе выпрабаванні.

**~94~**

Шаноўны таўстун князь К*** не зварухнуўся, не змяніўся ў твары; зваліся ён са свайго брызентавага крэслы прама ў мора, ён і тут не страціў бы спакойнасці. Экс–улан, зрабіўшыся негацыянтам і застаўшыся камедыянтам, выдаваў сябе за заваёўніка сэрцаў, не звяртаючы ўвагі на узрост, і запіснога весялуна, не гледзячы на небяспеку: ён пачаў напяваць арыю з вадэвіля. Гэтае маладзецтва непрыемна ўразіла мяне; мне стала сорамна за Францыю, дзе ганарыстасць не грэбуе ніякімі сродкамі каб вырабіць ўражанне; сапраўднае маральнае пачуццё не пераступае межаў ні ў чым, нават у пагардзе да небяспекі. Амерыканцы працягвалі чытаць; я назіраў за спадарожнікамі. Нарэшце капітан наблізіўся да нас і паведаміў, што гайка на адным з поршняў машыны зламалася, але хутка яе заменяць і праз чвэрць гадзіны мы працягнем наш шлях.

Тут баязнь, якую кожны стрымліваў, як мог, вылілася ва ўсеагульную весялосць. Усе пачалі распавядаць пра свае думкі і асцярогі, усе сталі смяяцца адзін над адным; зрэшты, чым безхітрасней людзі прызнаваліся ў сваёй баязлівасьці, тым менш наклікалі на сябе насмешак; такім чынам, гэты вечар, які пачаўся вельмі сумна, прадоўжыўся з найвялікшай весялосьцю; пасажыры спявалі і танчылі да двух гадзін ночы і нават пазней.

Бязмежная пашана, з якой я стаўлюся да ісціны, прымушае мяне заўважыць, што падчас усяго гэтага здарэння выраз твару, прамовы і паводзіны нашага капітана-галандца толькі пацвердзілі усё тое благое, што я чуў пра яго напярэдадні адплыцця.

Перад тым, як пажадаць мне спакойнай ночы, князь К*** ласкава падзякаваў мяне за ўвагу, з якой я слухаю яго апавяданні: добра выхаванага чалавека, сказаў ён, відаць па тым, як ён прыкідваецца, што слухае суразмоўцу.

– Князь, – адказаў я, – самы лепшы спосаб прыкідвацца, што слухаеш,– слухаць на самай справе.

Князь паўтарыў мой адказ і расхваліў яго звыш меры. Калі маеш справу з людзьмі дасціпнымі і добразычлівымі, ні адна твая думка не толькі не знікае, але, наадварот, пачынае блішчэць новымі фарбамі. Зачараванне старога французскага грамадства грунтавалася шмат у чым на гатоўнасці кожнага дазволіць блеснуць іншым; між іншым, гэтаму незваротна страчанаму ўменню мы абавязаны не меншым лікам перамог, чым адвазе нашых жаўнераў або генію нашых палкаводцаў. Хваліць цяжэй, чым ганіць; для гэтага патрэбен розум значна больш тонкі; хто ўмее ўсё ацаніць па заслугах, той ні да чаго не ставіцца з пагардай і пазбягае насмешак насмешак; зайздроснікі ж толькі і ведаюць, што лаяць усіх і ўся; рэўнасць яны выдаюць за здаровы сэнс, а штучнае здаровае разважанне заўсёды насмешлівае; менавіта гэтыя дурныя нахільнасьці забіраюць з сёняшняга жыцця ў грамадстве ўсю яе прыемнасць. Сапраўды ветлівыя людзі, прыкідваючыся добрымі, станавіліся такімі на самай справе.

**~95~**

Не мая заслуга, што я ўважліва слухаў князя К***; дзве із расказаных ім гісторый пераканаюць вас у гэтым.

Мы праплывалі міма выспы Даго, размешчанай каля берагоў Эстоніі. Гэты край сумны, халодны і бязлюдны; прырода тут выглядае не столькі магутнай і дзікай, колькі голай і бясплоднай; яна, здаецца, пагражае чалавеку не столькі небяспекамі, колькі нудой.

– Тут здарылася адно дзіўнае здарэнне, – сказаў князь К***.

– Калі ж?

– Не так даўно: пры імператары Паўле.

– Раскажыце ж гэтую гісторыю нам. Князь пачаў сваё апавяданне... але я стаміўся пісаць; цяпер пяць гадзін раніцы; пайду на палубу паразмаўляць з тымі із пасажырак, хто не спіць, а затым лягу ў ложак. А вечарам распавяду вам гісторыю барона Штэрнберга.

# Ліст Шосты

*Гісторыя барона Ўнгерна фон Штэрнберга. – Яго злачынства і пакаранне, якому ён падвергнуўся пры імператары Паўле. – Героі лорда Байрана. – Параўнанне Вальтэра Скота і Байрана. – Гістарычны раман. – Іншая гісторыя, расказаная князем К***. – Жаніцьба імператара Пятра І. – Упартасць баярына Рамаданаўскага. – Імператар саступае. – Уплыў грэцкай рэлігіі на народы. – Абыякавасць рускіх да ісціны. – Тыранія жыве падманам. – Труп Кроя, пакінуты ў Рэвельскай царкве пасьля Нарваўскай бітвы. – Імператар Аляксандр станавіцца ахвярай падману. – Абарона Расіі ад наладак*

*рускага. – Рускія трывожацца аб меркаванні замежнікаў на іх рахунак. – Я выклікаю страх. – Я падманваю вучонага шпіёна.*

**9 ліпеня 1839 года[165], восем гадзін вечара, на параходзе "Мікалай І"**

Нагадваю вам, што пераказваю гісторыю, пачутую ад князя К***. "Барон Унгерн фон Штэрнберг[166] быў чалавекам вострага розуму, аб'ездзіўшым усю Яўропу; характар яго склаўся пад уплывам гэтых падарожжаў, ўзбагаціўшых яго ведамі і досведам.

Вярнуўшыся ў Санкт-Пецярбург пры імператары Паўле, ён немаведама чаму трапіў у няміласць і вырашыў сысьці ад двара. Ён пасяліўся ў дзікім краі, на належаўшым яму непадзельна востраве Даго, і, абражаны Імператарам, чалавекам, які здаваўся яму ўвасабленнем чалавецтва, узненавідзеў ўвесь род людзкі.

Адбывалася гэта ў часы нашага дзяцінства. Зачыніўшыся на востраве, барон раптам пачаў выказваць незвычайны запал да навукі і, каб аддацца ў спакоі навуковым заняткаў, прыбудаваў да замка вельмі высокую вежу, сцены якой вы можаце зараз разглядзець у бінокль".

Тут князь ненадоўга змоўк, і мы пачалі разглядаць вежу выспы Даго.

"Гэтую вежу, – працягваў князь, – барон назваў сваёй



бібліятэкай, а на яе вяршыні зладзіў зашклёны з усіх бакоў ліхтар-бельведэр – не то абсерваторыю, не то маяк. Паводле яго запэўняванняў, ён мог працаваць толькі па начах і толькі ў гэтым адасобленым месцы. Там ён знаходзіў спакой, схіляючы да развагаў.

Адзіныя жывыя істоты, якіх барон дапускаў ў вежу, былі яго сын, у тую пару яшчэ дзіця, і гувернёр сына. Каля паўночы, пераканаўшыся, што абодва яны

---

[165] Згодна старога стылю 27 чэрвеня.

[166] Барон Карл Карлавіч Унгерн-Штэрнберг (1732-1799) – гістарычная асоба, генерал-д'ютант рускай службы і буйны эстляндзкі землеўладальнік, частка уладанняў якога сапраўды размяшчалася на востраве Даго. Прыхільнік Пятра III, Унгерн пасьля перавароту 1762, здзейсненага Кацярынай II, трапіў у няласку, выехаў за мяжу і вярнуўся да двара толькі пасьля ўцаравання Паўла I. Як верны падданы гэтых імператараў Унгерн згадваецца і ў гістарычных, і ў белетрыстычных творах; так, у "Гісторыі Расіі" (1782) П. Ш. Левек фігуруе "барон Унгерн-Штэрнберг, шаноўны старац, доўгія гады жыўшы як філосаф, у адзіноце, сярод цеснага кола сяброў, але раптам пажалаваны ў генералы і пакліканы да імператара (Паўла)" (Levesque. T. 5. P. 447); стары служака Унгерн дзейнічае і ў беднаватай рамане Сен-Морыса "Смалёны, або Ноч у Санкт-Пецярбургу", які выйшаў у свет у 1841, за два гады да з'яўлення кнігі Кюстына. У рускім друку, наадварот, даволі актыўна распаўсюджвалася блізкая да гатычных раманаў жахаў і таямніц версія аб злачынствах барона з выспы Даго; гл., напрыклад, у кнізе П. П. Свінніна "Успаміны на флоце"(1818): "Сэрца абліваецца крывёю, чалавецтва ўздрыгваецца, калі згадваю пра жахлівыя злачынствы барона ***, ўладальніка выспы Даго (... ). На працягу дзесяці гадоў гэты злыдзень ў восеньскія бурныя ночы перастаўляў маякі з аднаго месца на другое, каб караблі, падманутыя ілжывым святлом, разбіваліся каля берагоў выспы. Тады ён з купкай сваіх людзей нападаў на іх, рабаваў груз, а выратаваўшыся людзей забіваў" (цыт. згодна: Аляксеева М. П. Руска-ангельскія літаратурныя сувязі. М., 1982. т. 91. с. 452; тут жа гл. зводку дадзеных аб выкарыстанні сюжэту пра барона-рабаўніка ў еўрапейскай мастацкай літаратуры ўжо пасьля Кюстына; адзначым асабліва згадку ў запісной кніжцы Дастаеўскага сярод літаратурных "высакародных разбойнікаў" барона Унгерна). Цікава, што Казлоўскі, у вусны якога Кюстын ўклаў гісторыю аб злачынным Унгерне, ліставаўся ў 1830-я гады з баронам Эрнстам Раманавічам Унгерн-Штэрнберг, рускім консулам у Кракаве, верагодна, нашчадкам таго барона, якога гаворка залічыла ў рабаўнікі (гл. яго ліст да Казлоўскага: вя. NAF. No 16607. Fol. 242).

ўжо спяць, барон зачыняўся ў лабараторыі; тады шкляны ліхтар загараўся такім яркім святлом, што яго можна было ўбачыць здалёк. Гэты ілжэмаяк лёгка ўводзіў у зман капітанаў замежных караблёў, няцвёрда памятаючых абрысы грозных берагоў Фінскага заліва.

На гэтую-та памылку і разлічваў падступны барон. Злавесная вежа, збудаваная на скале пасярод страшнага мора, здавалася неспрактыкаваным судаводзіцелям пуцяводнай зоркай; паспадзяваўшыся на ілжэмаяк, няшчасныя сустракалі смерць там, дзе спадзяваліся знайсці абарону ад буры, з чаго вы можаце зрабіць выснову, што ў той час марская паліцыя ў Расіі бяздзейнічала.

Варта было якому-небудзь караблю наляцець на скалы, як барон спускаўся на бераг і ўпотай сядаў у лодку разам з некалькімі спрытнымі і смелымі слугамі, якіх трымаў знарок для падобных вылазак; яны падбіралі чужаземных маракоў, боўтаўшыхся ў вадзе, але не для таго, каб выратаваць, а для таго, каб прыкончыць пад шатамі начы, а затым рабавалі карабель; усё гэта барон тварыў не столькі са сквапнасьці, колькі з чыстай павагі да зла, з бескарыслівай цягі да разбурэння.

Не верачы ні ў што і меней за ўсё ў справядлівасць, ён лічыў маральны і грамадскі хаос адзіным станам, годным зямнога быцця чалавека, у грамадзянскіх жа і палітычных дабрачыннасьцях бачыў шкодныя хімеры, супярэчачыя прыродзе, але не могучыя яе утаймаваць. Вырашаючы лёсы сабе падобных, ён намераваўся, згодна яго ўласных слоў, прыйсці на дапамогу Прывіду, які распараджаўся жыццём і смерцю людзей. Аднойчы восеньскім вечарам барон, згодна са сваім звычаем, знішчыў экіпаж чарговага карабля; на гэты раз гэта было галандскае гандлёвае судна. Разбойнікі, якія жылі ў замку пад выглядам слуг, некалькі гадзін запар перавозілі на сушу з тонучага судна рэшткі грузу, не заўважыўлі, што капітан карабля і некалькі матросов ацалелі і, залезшы ў човен, здолелі пад покрывам цемры пакінуць пагібельны месца.

Ужо віднелася, калі барон і яго паплечнікі, яшчэ не завяршыўшыя сваёй цёмнага справы, заўважылі ўдалечыні лодку; разбойнікі неадкладна зачынілі дзверы ў падвалы, дзе захоўвалася нарабаванае дабро, і апусцілі перад чужаземцамі пад'ёмны мост. З вытанчанай, чыста рускай гасціннасцю гаспадар замка



спяшаецца насустрач капітану; з поўнай абыякавасьцю ён прымае яго ў зале, размешчанай каля спальні сына; гувернёр хлопчыка быў у гэты час цяжка хворы і не паднімаўся з ложка. Дзверы ў яго пакой, таксама выходзіўшая ў залу, заставалася адчыненай.

Капітан павёў сябе вельмі неабачліва.

– Спадар барон, – сказаў ён гаспадару замка, – вы мяне ведаеце, але не можаце пазнаць, бо бачылі толькі аднойчы, ды прытым у цемры. Я капітан карабля, экіпаж якога амаль цалкам загінуў каля берагоў вашай выспы; я шкадую, што вымушаны пераступіць парог вашага дома, але я абавязаны сказаць вам, што мне вядома: сярод тых, хто сёння ноччу загубіў маіх матросаў, былі вашы слугі, ды і вы самі сваёй рукой зарэзалі аднаго із маіх людзей.

Барон, не адказваючы, ідзе да дзвярэй у спальню гувернёра і бясшумна закрыва яе. Чужаземец працягвае:

– Калі я апавядаю вам пра гэта, то толькі таму, што не маю намеру вас загубіць; я жадаю толькі даказаць вам, што вы пад маёй уладай. Вярніце мне груз і карабель; хоць ён і разбіты, але я змагу даплысці на ім да Санкт-Пецярбурга: я гатовы паклясціся, што захаваю ўсё здарыўшыяся ў таямніцы. Пажадай я адпомсціць вам, я б кінуўся ў бліжэйшую вёску і выдаў вас паліцыі. Але я хачу выратаваць вас і таму папярэджваю аб небяспецы, якой вы падвяргаецеся, ідучы на злачынства.

Барон па-ранейшаму не прамаўляе ні слова; ён слухае госця з выглядам сур'ёзным, але зусім не злавесным; ён просіць даць яму трохі часу на развражанне і выдаляецца, паабяцаўшы госцю даць адказ праз чвэрць гадзіны. За некалькі хвілін да прызначанага тэрміну ён раптам ўваходзіць у залу праз патайныя дзьверы, накідваецца на адважнага чужаземца і забівае яго!.. Адначасова па яго загаду верныя слугі забіваюць усіх ацалелых матросаў, і ў логаве, залітым крывёю стольніх ахвяр, зноў усталёўваецца цішыня. Аднак гувернёр ўсё чуў; ён працягвае прыслухоўвацца... і не адрознівае нічога, акрамя крокаў барона і храпу карсараў, якія, затуліўшыся ў кажухі, спяць на лесвіцы. Барон, ахоплены трывогай і падазрэннямі, вяртаецца ў спальню гувернёра і доўга разглядае яго з найвялікшай увагай; стоячы каля ложку з акрываўленым кінжалам у руках, ён сочыць за спячым, спрабуючы пераканацца, што сон гэты сапраўдны; нарэшце, палічыўшы, што няма чаго баяцца, ён вырашае захаваць гувернёру жыццё".

– У злачынстве дасканаласць такая ж рэдкасць, як і ва ўсіх іншых сферах, – дадаў князь К***, перапыніўшы апавяданне. Мы маўчалі, бо нам не цярпелася даведацца заканчэнне гісторыі. Князь працягваў:



"Падазрэнні ў гувернёра зарадзіліся ўжо даўно; пры першых жа словах галандскага капітана ён прачнуўся і стаў сведкам забойства, усе падрабязнасьці якога бачыў праз шчыліну ў дзвярах, замкнёнымі баронам на ключ. Праз Імгненне ён ужо зноў ляжаў у ложку і, дзякуючы сваёй вытрымцы, застаўся ў жывых.

Толькі толькі барон выйшаў, гувернёр адразу ж, не гледзячы на церабіўшую яго ліхаманку, падняўся, апрануўся і, сеўшы ў лодку, якая стаяла каля прычала, выправіўся ў шлях; ён спакойна дабраўся да кантынента і ў найбліжэйшым горадзе распавёў пра злачынствы барона паліцыі.

Адсутнасць хворага неўзабаве было заўважана насельнікамі замка; аднак, аслеплены папярэднімі поспехамі, злачынец-барон спачатку і не падумаў бегчы; вырашыўшы, што гувернёр у прыпадку белай гарачкі кінуўся ў мора, ён спрабаваў адшукаць яго цела ў хвалях. Між тым спускаючаяся з акна вяроўка, роўна як і знікшая лодка неабвержна сведчылі пра ўцёкі гувернёра. Калі, запознена прызнаўшы гэты відавочны факт, забойца намерыўся схавацца, ён ўбачыў, што замак акружаны пасланым для яго арышту войскам. Пасьля чарговай разні прайшоў ўсяго адзін дзень; спачатку злачынец спрабаваў

адмаўляць сваю віну, але саўдзельнікі здалі яго. Барона схапілі і адвезлі ў Санкт-Пецярбург, дзе імператар Павел прысудзіў яго да пажыццёвай катаржнай працы. Памёр ён у Сібіры.

Так сумна скончыў свае дні чалавек, які служыў, дзякуючы бляску свайго розуму і нязмушанай элегантнасьці манер, упрыгожваннем самых бліскучых еўрапейскіх салонаў.

Нашы маці, магчыма, знаходзілі яго вельмі ветлівым. Падобныя здарэнні, якімі б рамантычнымі яны ні здаваліся, нярэдка паўтараліся ў сярэднія вякі; гісторыі барона надае самабытнасць тое, што яна здарылася, можна сказаць, у нашы дні; пагэтаму я і расказаў яе вам. Куды ні паглядзі, Расія ва ўсім адстала ад Яўропы на чатыры стагоддзі". Толькі толькі князь К*** змоўк, усе яго слухачы ў адзін голас закрычалі, што барон фон Штэрнберг – самы сапраўдны Манфрэд або Лара[167].

– Менавіта таму, што Байран спісваў характары сваіх герояў з жывых людзей, яны здаюцца нам такімі непраўдападобнымі, – сказаў князь К***, які не баяўся парадоксаў[168], – у паэзіі праўда ніколі не гучыць натуральна.

– Цалкам дакладна, – пагадзіўся я, – і таму хлусьня Вальтэра Скота здаецца больш праўдзівай[169], чым дакладнасць Байрана.

---

[167] Названыя загалоўныя героі паэм Байрана (1817 і 1814), адзінокія і загадкавыя, обцяжараныя ўспамінамі аб нейкіх злачынствах. Добразычлівая згадка Байранам ў лісьце да выдаўцы Мары ад 4 лютага 1814 года Казлоўскага, асабіста знаёмага з ангельскім паэтам, і несумненна псіхалагічнае падабенства названых герояў Байрана з баронам з вуснай навелы, прыпісанае Кюстынам Казлоўскаму ж, дазволіла М. П. Аляксееву выказаць здагадку, што “Байран з вуснаў Казлоўскага мог чуць тое самае апавяданне, якое змешчана вышэй у запісе маркіза дэ Кюстына”, і скарыстацца некаторымі яго матывамі (напрыклад, высокая вежа для навуковых заняткаў у самотна стаяўшым замку, недаступная для навакольных); гл.: ЛН. т. 91 с. 4. Цалкам магчыма, зрэшты, і адваротная залежнасць: запазычанне аўтарам вуснай навелы (Казлоўскім або Кюстыном?) матываў Байрана, творы якога абодва добра ведалі.

[168] На самай справе, у рукапіснай спадчыне Казлоўскага Байран нярэдка паўстае ў самых нечаканых кантэкстах; так, у ненадрукаванай “Сацыяльная дыярама Парыжа” (1824-1825) Казлоўскі заўважае: “Я часта з сумам думаў пра тое, што, адружыся лорд Байран з дбайнай каталічкай із Ірландыі, выдатнай, як шмат якія ўраджэнкі гэтага краю, дзе так часта сустракаюцца прыгажуні, падобныя ружам і лілеям, але зусім абыякавай як да чараў паэзіі, так і да палітычных дэбатаў, ён зведаўбы бы шчасьце сямейнасьці, але пакінуў бы, мабыць, менш выдатных вершаў, што дазваляе нам – з эгаізму – менш шкадаваць пра гэтыя страчаныя магчымасьці”, а ў лісьце да Н. І. Тургенева (1833) параўноўвае Байрана з Людовікам XIV, які прымаў блізка да сэрца ўсе засмучэньні, тады як Байран пераносіў усе непрыемнасьці цалкам спакойна і, калі б не місалунгская ліхаманка, пражыў бы да ста гадоў... (Там жа. Оп. І. No 5083. Л. 338-338 аб.; арыгінал. па - фр.).

[169] Сваё скептычнае стаўленне да прозы знакамітага шатландскага раманіста (1771-1832) Кюстын падрабязна абгрунтаваў ў кнізе “Нататкі і падарожжы”: “У яго апавяданнях я знаходжу хутчэй бачнасць праўды, ілюзію рэальнасці, чым саму праўду; як ні груба гэта прагучыць, я вымушаны прызнацца: у тых выявах з якімі я пазнаёміўся, якія паказваюць мне жывое ўяўленне Вальтэра Скота, я пазнаю тварэнні не столькі жывапісца, колькі дэкаратара. Гэты дзіўны аўтар малюе толькі тое, што бачна погляду, даследаванне ж пачуццяў, такое важнае для раманіста, непадуладна яго пяру, якое заўсёды застаецца не больш чым пэндзлем. (...) Яго творы аднастайныя (...) Адзін яго раман дае вам вычарпальнае ўяўленне пра яго ўменне вынаходзіць інтрыгу і апісваць жыццё, так што, прачытаўшы гэты раман, вы ўжо не адчуеце ўзрушэнняў ад іншых. Ён знаёміць вас з незлічонымі падрабязнасьцямі жыцця мінулых стагоддзяў, але яму не хапае густу, каб адабраць тыя падрабязнасьці, што заслугоўваюць найбольшай увагі: гэта літаратурны Расіні “(Memoires et voyages. P. 329-330). Пасрэднасць Скота Кюстын супрацьпастаўляе геніяльнасць “паўночнага Гамера”- Асіяна (гл.заўв. да т. І, с. 74).

– Магчыма; аднак адрозненні іх гэтым не абмяжоўваюцца, – падхапіў князь. – Вальтэр Скот малюе, Байран творыць; адзін чуе праўду нутром, нават калі выдумляе, іншы не клапоціцца пра яе, нават калі малюе з натуры.

– Але ці не здаецца вам, князь, – працягваў я, – што інстыктыўнае разуменне рэчаіснасці, уласцівае, згодна вашага меркавання,

**~100~**

вялікаму раманісту, тлумачыцца тым, што ён часта думае вельмі пасрэдна? Колькі лішніх дэталей! Колькі пахабных дыялогаў!.. Дакладней за ўсё ў яго раманах апісанне вопраткі персанажаў і іхнага жытла.

– О! Я паднімаюся на абарону Вальтэра Скота, – усклікнуў князь К***, – я не дазволю, каб у маёй прысутнасці абражалі такага займальнага сачыняльніка.

– Менавіта ў займальнасьці я яму і адмаўляю, – працягваў я, – раманіст, які спісвае цэлы том дзеля адной-адзінай выявы, менш за ўсё заслугоўвае тытула "займальны". Перачытайце "Жыль Бласа"[170], і вы ўбачыце, што такое раман займальны, прычым такі ж нязмушаны, як і глыбокі. Вальтэру Скоту пашанцавала: ён нарадзіўся ў эпоху, калі людзі забыліся, што такое забавы.

– Затое як ён малюе чалавечае сэрца! – усклікнуў князь К*** (усе паўсталі супраць мяне[171]).

– Усё было б добра, – адказаў я, – не прымушай ён сваіх герояў яшчэ і размаўляць; справа ў тым, што ў яго не хапае слоў для тлумачэння пачуццяў гарачых і ўзнёслых; ён цудоўна малюе характары дзейныя, бо ўмелы і назіральны, але красамоўства – не яго стыхія; ён надзелены глыбокім філасафічных талентам, метадычным і разважлівым розумам; ён нарадзіўся своечасова і выдатна здолеў выказаць самыя пасрэдныя і, такім чынам, самыя модныя ідэі сваёй эпохі.

– Ён першым задавальняюча вырашыў найцяжэйшую задачу стварэння гістарычнага рамана; ў гэтай заслузе вы не можаце яму адмовіць, – вымавіў князь К***.

– Гэта як раз той выпадак, калі хочацца сказаць: лепш бы гэтая задача заставалася невырашанай! – запярэчыў я. – Колькі ілжывых уяўленняў засвоілі малаадукаваныя чытачы з уведзенай ім ва ўжытак сумесі гісторыі з раманам!!! Гэты хаўрус заўсёды шкодны і, што б вы ні казалі, зусім не забаўны... Што да мяне, я аддаю перавагу, нават для забавы, творам с-ра Агюстэна Ц’яры[172] ўсім гэтым казкам пра вядомых гістарычных асоб... Я прашу ў вас прабачэння за камплімент, нягодны гэтага шаноўнага навукоўца, але імя яго прыйшло мне на розум так жа натуральна, як прыйшло б імя Герадота, якому таксама здаралася быць пацешным.

---

[170] “Гісторыя Жыль Блас із Санцільяны” (1715-1735). Маралістычн-авантурны раман Алена Рэнэ Лесажа (1668-1747).

[171] Пра незвычайную папулярнасць гістарычных раманаў Скота ў Расіі гл.: Далініна А. Гісторыя, апранутая ў раман: Вальтэр Скот і яго чытачы. М., 1988.

[172] Ц’яры Агюстэн (1795-1856) – французскі гісторык, аўтар “Гісторыя нармандскай заваёвы Англіі” (1825) і “Апавяданні з часоў Меравінгаў” (1840) - кніг, у якіх эрудыцыя гісторыка злучаны з майстэрскай выявай “мясцовага каларыту”. Між іншым, Ц’яры цаніў В. Скота і лічыў яго адным са сваіх настаўнікаў (гл.: Рэйзаў Б. Г. Французкая рамантычная гістарыяграфія. Л., 1956 - С. 69-122).

– Гэта справа густу, – з усмешкай перапыніў мяне князь К***, – не будзем спрачацца.

З гэтымі словамі ён абапёрся на маю руку і папрасіў мяне правесьці яго ў каюту: там ён запрасіў мяне сесці і загаварыў шэптам: "Мы адны; вы любіце гісторыю – вось выпадак з жыцця асоб куды больш радавітых, чым тыя, аб кім я нядаўна гаарыў; я раскажу яго вам аднаму, бо ў прысутнасці рускіх казаць пра гісторыю немагчыма!.. Вам вядома, што Пятро Вялікі пасьля доўгіх ваганняў знішчыў маскоўскае патрыяршаства[173], каб

**~101~**

ўпрыгожыць сваю галаву не толькі каронай, але і клабуком. Такім чынам, палітычнае самаўладдзе адкрыта прысвоіла сабе духоўную ўладу[174], пра якую ўжо даўно марыла і якую даўно пераіначвала; так стварыўся жудасны хаўрус, невядомы ні адной з сучасных еўрапейскіх краін. Незбыўшаяся мара сярэднявечных пап ажыццявілася цяпер у шасьці дзесяці мільённай імперыі, частка жыхароў якой – азіяты, нічому не здзіўляючыяся і нітрохі не збянтэжаныя тым, што іхны цар з'яўляецца таксама вялікім Ламай.

Імператар Пятро пажадаў адружыцца з маркітанткай Кацярынай[175]. Для выканання гэтага жадання патрэбна было, перш за ўсё, знайсьці будучай імператрыцы радню. У Літве, а можа быць, і ў Польшчы знаходзяць невядомага дагэтуль двараніна, робяць яго нашчадкавым арыстакратам, а затым абвяшчаюць братам царавыбранніцы.

Мала таго, што рускі дэспатызм ні ў што не ставіць ні ідэі, ні пачуцці, ён яшчэ і перакройвае факты, змагаецца супраць відавочнасьці і перамагае ў гэтай

---

[173] У 1703 г. пасьля сьмерці апошняга патрыярха Адрыяна (пар. заўв. да цяп. тома, с. 85).

[174] У гэтым пастаянна папракала рускага імператара еўрапейская, асабліва эмігранцкая польская прэса; так, выходзіўшы ў Парыжы часопіс “Le Polonais” (“Паляк”) пісаў у лютым 1834: “Нядаўна ў Расіі быў выдадзены катэхізіс на рускай мове, які навучаў народ пакланяцца цару, бачучы у ім свайго абсалютнага ўладара, зямнога бога” (Le Polonais. 1834 - т. 2. P. 80). Глядзі таксама заўв. да цяп. тома, с. 292.

[175] Кацярына I (сапр. імя і проз. Марта Скаўронская; 1684-1727) была дачкой ліфляндскага селяніна Скаўронскага; знаходзячыся ў паслужэнні ў марыенбургскага пастара Глюка, разам з ім трапіла ў палон да рускіх; з 1705 - у палацы пры Пятры I, ў 1711 г. абвешчана яго жонкай, 7 траўня 1724 каранавана імператрыцай. Апавяданне пра брата імператрыцы ўзыходзіць, відаць, да “Гісторыя Расіі" Левека, з якой былі знаём як Казлоўскі, так і Кюстын. Тут прыводзіцца эпізод, запазычаны з рукапіснага зборніка ўспамінаў пра Пятра I, з якім Левека пазнаёміў бібліёграф Сен-Лежэ, - гісторыя нейкага маладога чалавека, які распавядаў сабутыльнікам у карчме, што яго сястра, узятая ў палон рускімі, напэўна жыве цяпер у доме якога-небудзь знатнага баярына: юнака даставілі ў Пецярбург, дапыталі, паведамілі дадзеныя ім паказанні Пятру, а той прызнаў у незнаёмым свайго швагра і наладзіў яму кранальную сустрэчу з сястрой. Левек дадае, што пры жыцці Пятра Карл Скаўронскі, брат царыцы, якая не вызначалася асаблівым розумам, аўтарытэтам пры двары не карыстаўся, а тытул графа атрымаў толькі пасьля сьмерці імператара, падчас валадараньня Кацярыны I. Вальтэр, які таксама карыстаўся пры напісанні сваёй “Гісторыі Расійскай імперыі пры Пятры Вялікім” згаданым вышэй рукапісным зборнікам, “з лісьлівасьці” ператварыў Скаўронскага ў літоўскага шляхціца, тады як рукапіс называе яго селянінам. “Шмат хто сцвярджае, - працягвае Левек, - што Кацярына пасьля сьмерці чалавека прыдумала сабе брата, ці то для таго, каб пераканаць навакольных ў законнасьці свайго нараджэння, ці то нават для таго, каб, выдаўшы так званага брата за двараніна, пераканаць падданых у высакароднасьці свайго паходжання. Мне няма чаго сказаць на гэты конт. Пэўна адно: пад час валадарання Кацярыны I пры двары жыў граф Скаўронскі, якога яна называла сваім братам” (Levesque. T. 5. P- 176-181). Збор сучасных дадзеных аб сваяках Кацярыны, у тым ліку аб братах, узведзеных ў графскую годнасць у 1727, гл.: Анісімаў Е. В. Расія без Пятра: 1725-174 - СПб., 1994 г. - С. 71-77.

барацьбе!!! Бо ні відавочнасць, ні справядлівасць, калі яны нязручныя трымаючым уладу, не знаходзяць у нас абаронцаў".

Смелыя прамовы князя К*** пачыналі палохаць мяне. Дзіўная краіна, якая нараджае рабоў, якія паўтараюць чужыя думкі, шпіёнаў, зусім пазбаўленых ўласнага меркавання і на ляту схопліваючых меркаванні навакольных, ды насмешнікаў, якія уяўляюць зло яшчэ больш страшным, чым яно ёсць на самай справе: апошнія вынаходзяць яшчэ адзін, вельмі дасціпны, спосаб схавацца ад пранізлівага позірку замежнікаў, аднак сама іхная дасціпнасць дастаткова красамоўная: якому яшчэ народу прыйдзе на думку звяртацца да яе[176]? Пакуль я разважаў такім чынам, князь працягваў пасвячаць мяне ў свае філасафічныя назіранні:

"Народ і нават арыстакраты, вымушаныя прысутнічаць пры гэтых здзеках над ісьцінай, міраюцца з ганебным відовішчам, бо падман дэспата, якім бы грубым ён ні быў, заўсёды ліслівіць рабу. Рускія, пакорліва пераносячы столькі нягод, не перанеслі б тыраніі, не прынімай тыран пакорлівы выгляд і не робячы выгляд, што ён лічыць, быццам яны слухаюць яго па добрай волі. Чалавечая годнасць, якая топчацца абсалютнай манархіяй, хапаецца, як за саломінку, за кожную дробязь: род людскі згодны трываць пагарду і здзек, але не згодны, каб яму выразна і яскрава давалі зразумець, што ім пагарджаюць і над ім здзекваюцца. Абражаемыя дзеяннем, людзі хаваюцца за славамі. Хлусня так зневажальна, што ахвяра, якая прымусіла тырана крывадушнічаць, адчувае сябе адпомшчанай. Гэта – вартая жалю, апошняя ілюзія няшчасных, якую, аднак, не варта ў іх забіраць, каб раб не упаў яшчэ ніжэй, а дэспат не стаў яшчэ больш шалёным!..

У старажытнасці на Русі існаваў звычай, згодна з якім пад час ўрачыстых шэсцяў побач з маскоўскім патрыярхам ішлі два самыя шляхетныя баярыны. Цар-першасьвятар вырашыў, што пад



час шлюбнай цырымоніі па адну руку ад яго стане радавіты баярын, а па другую – новаспечаны царскі швагер: бо ў Расіі магутнасьць самаўладнасць улады такая вялікая, што яна не толькі пасвячае людзей у дваранскае званне, але і надзяляе іх сваякамі, пра якіх яны раней нават і не чулі; сем'і для яе – усяроўна што дрэвы для садоўніка, які абразае і абрывае галінкі, а таксама прышчапляе да аднай расліны другую. Перад нашым дэспатызмам адступае сама прырода; імператар – не проста намесьнік Госпада, ён сам – творца, прычым творца, які пераўзыходзіць Госпада: таму што Госпаду падуладна толькі будучыня, імператар жа здольны перамяняць мінулае! Законы не маюць зваротнай магутнасьці; не тое – капрызы дэспата. Акрамя наваствoранага брата імператрыцы Пятро вырашыў паставіць побач сябе самага шляхетнага

---

[176] Каментарыі Кюстына да трэцяга выданню 1846: "тлуміць галаву замежнікам ўмеюць толькі ў Расеі - гэта дае некаторае ўяўленне пра стан грамадства ў гэтай дзіўнай краіне" (пар. падобныя папрокі рускім у т. 2, с. 142). Відаць, такім чынам аўтар "Расіі ў 1839 годзе" адказаў сваім крытыкам (Лабенскі, Я. Таўсты і інш), якія аднадушна папракалі яго ў празмернай даверлівасьці (гл., напрыклад, заўв. да цяп. таго, с. 78, 294, 375).

маскоўскага баярына, другога пасьля цара чалавека ў імперыі – князя Рамаданаўскага[177]... Праз свайго першага міністра Пятро перадаў князю, што яму трэба будзе ісьці ў працэсіі каля імператара і што гэты гонар баярын падзеліць з новым братам новай імператрыцы.

– Выдатна, – адказаў князь, – але па якую руку ад сябе мае намер імператар мяне паставіць?

– Шаноўны князь, – кажа царадворац-міністр, – якія могуць быць сумневы? Хіба не зразумела, што вы будзеце ісьці злева, а справа размесьціцца швагер Яго Вялікасці?

– У такім выпадку я не пайду, – усклікае горды баярын. Пятру данесьлі пра гэты адказ, і ён загадаў другі раз перадаць баярыну высокі загад – загад, у якім спаўна выказалася дэспатычная натура цара[178]:

– Ты пойдзеш – ці я цябе павешу!

– Скажыце цару, – запярэчыў нязломны масквіч, – што я прашу яго пачаць з майго адзінага сына; яму яшчэ толькі пятнаццаць гадоў, і, магчыма, стаўшы сьведкам маёй гібелі, ён з–за страху пагадзіцца ісьці злева ад манарха, што ж да мяне, то я ніколі не зганьбую род Рамаданаўскі ні да, ні пасьля пакарання смерцю майго нашчадка.

Да гонару цара, ён, пачуўшы гэтыя словы, саступіў, аднак, каб адпомсціць прасякнутым духам незалежнасці маскоўскім баярам,ператварыў Пецярбург з простага порту на беразе Балтыйскага мора ў тую сталіцу, якой бачым мы яе сёння".

– Мікалай, – дадаў князь К***, – ні за што не саступіў бы; ён саслаў бы баярына разам з сынам у руднікі і абвясціў бы імем закона, што пазбаўляе і бацьку і сына права мець дзяцей, а можа быць, пастанавіў бы, што бацька ніколі не быў жанаты; ў Расіі падобныя рэчы здзяйсняюцца даволі часта; пра іх забаронена распавядаць, але рабіць іх не забараняецца".

**~103~**

Як бы там ні было, гонар маскоўскага баярына цудоўна паказвае разнастайнасць крыніц, якія далі пачатак сучаснаму рускаму грамадству, уяўляючаму сабой жахлівую сумесь візантыйскай дробязнасьці з татарскай лютасцю, грэцкага этыкету з азіяцкай дзікай адвагай; з гэтага змяшання і

---

[177] Рамаданаўскі Хведар Юр'евіч, князь (каля 1640-1717) – найбліжэйшы паплечнік Пятра I, начальнік Прэабражэнскага загаду, “князь-кесар”, фактычны кіраўнік краінай пад час адсутнасьці цара. Паказаны эпізод, відаць, - далёкі водгалас дакладных звестак аб тым, што Рамаданаўскі не ўхваляў жаніцьбу Пятра на Кацярыне. Каментар Лабенскага: Кюстын ў чарговы раз дакарае рускіх у заганах, уласцівых ў той жа ступені і еўрапейцам; гісторыя з Рамаданаўскім, калі яна і мела месца, - плён ўплыву не Візантыі, а Францыі, дзе, калі верыць мемуарах Сен-Сымона, дробязныя цяжбы за этыкетныя прывілеі (дзе каму стаяць і на чым сядзець) вяліся пры двары няспынна. Каментар Я. Таўстога: анекдот не адпавядае рэчаіснасьці, бо “Рамаданаўскі быў занадта адданы Пятру, каб адмовіцца саступіць месца царскаму швагру; калі б ён быў так аддадзены старадаўняй ганарыстасьці, гасудар не даручаў бы яму кіраванне дзяржавай і, так бы мовіць, не давяраў бы яму лёс сваіх новаўвядзенняў на працягу такіх частых і доўгіх адлучак. (...) Такім чынам, адно із двух, маркіз: альбо князь К*** здзекаваўся над вамі, альбо вы здзекуецеся над публікай” (Tolstoy. P. 36).

[178] Пятро назваўся імператарам толькі ў 1721 годзе.

паўстала велічэзная дзяржава, чый ўплыў Яўропа, магчыма, выпрабуе заўтра, так і не здолеўшы спасьцігнуць яе падстаў.

У гісторыі, якую вы толькі што прачыталі, арыстакрат паўстае супраць дэспатычнай улады і прымушае яе саступіць. Гэты выпадак, разам са шматлікімі іншымі, дазваляе мне сцвярджаць, што арыстакратыя–поўная супрацьлегласць дэспатызму аднаго чалавека, аўтакратыі, або самаўладдзю; дух, які́м прасякнута арыстакратыя, – гонар; гэта адрознівае яе і ад дэмакратыі, запал якой – зайздрасць.

А цяпер я дакажу вам, як не цяжка падмануць самаўладца. Сёння раніцай мы прайшлі Рэвель. Гэтыя тэрыторыі, якія належаць Расеі толькі з нядаўніх часоў, захоўваюць памяць пра вялікага караля Карла XII і Нарваўскую бітву[179]. У гэтай бітве загінуў француз князь дэ Крой, які змагаўся на баку швецскага караля. Цела князя перанеслі ў Рэвель, аднак пахаваць яго выявілася немагчымым, паколькі ён не паспеў расплаціцца са шматлікімі тутэйшымі пазыкадаўцамі і не пакінуў грошай на выплату даўгоў. Згодна старадаўніх законаў, а дакладней, згодна з мясцовым звычаем, цела князя змясьцілі ў рэвельскую царкву, дзе яму трэба было пакоіцца да таго часу, пакуль яго нашчадкі не расплоцяцца з крэдыторамі. Яно па гэты дзень ляжыць там, хоць ад часу Нарваўскай бітвы прайшло больш за сто гадоў.

Да першапачатковага абавязку дадаліся за гэты час, па-першае, адсоткі, а па-другое, сума, якая пайшла на ўтрыманне цела, якое утрымлівалася, дарэчы, вельмі кепска. Усё гэта разам сёння налічвае суму, якая, магчыма, не знойдзецца у большасці цяперашніх заможных людзей.

Між тым гадоў дваццаць назад імператар Аляксандр праязджаў праз Рэвель; наведаўшы кафедральны сабор, ён заўважыў труп і жахнуўся; яму распавялі гісторыю князя дэ Кроя[180], і ён загадаў заўтра ж пахаваць цела ў зямлі, а ў саборы адслужыць імшу.

---

[179] 19/3 лістапада 1700 падчас Паўночнай вайны шведскія войскі пад правадырствам Карла XII (1682-1718), шведскага караля з 1697, разграмілі блізу Нарвы рускае войска; рускае войска ўзяло Нарву толькі ў 1704.

[180] Кюстын апісвае біяграфію гэтага француза не зусім дакладна: па-першае, ён быў не князем, а герцагам, а па-другое, ваяваў на баку рускіх, больш таго, камандаваў рускім войскам і пад націскам шведаў вымушаны быў здацца ў палон разам з іншымі рускімі генераламі (гл.: “Гісторыю Карла XII”, 1732 кн. 2). На памылку ў характарыстыцы дэ Кроя Кюстыну паказаў Греч (Gretch. P. i6). Што ж да цела дэ Кроя, то яно на самай справе было пахавана ў царкве Святога Мікалая ў Рэвелі (цяпер Талін). Пар. запіс Вяземскага 28 ліпень 1829 г: “Сёння Мацвей (служка) прасіўся ў мяне пайсці паглядзець Барона, якога тут трымаюць у царкве на месцы святога (due de Croy). На яго думку, цела захавалася ад разлажэння праз тутэйшыя купанні” (Вяземскі П. А. Запісныя кніжкі. М., 1963. С. 189). Гісторыя герцага дэ Кроя з пазначэннем даты яго жыцця (1650-1702) і з дадаткам жывапісных падрабязнасцей пра пяшчотны клопат, які выказвае нятленнаму нябожчыку Рэвельская рызніца, выкладзена таксама ў Віконта д'Арленкура (1789-1856), аўтара безгустоўных ультрарамантычных раманаў, які пабыў у Расіі ў 1842 і ў сакавіку 1843, за два месяцы выдання Кюстына, які выпусціў у свет сваю “справаздачу аб падарожжы” - кнігу паломнікаў. “Палярная зорка”, якую Я. Н. Таўсты так рэкамендаваў Бенкендорфу: “Апавяданне бясколернае, прэтэнцыёзнае, вельмі недакладнае і даволі напышлівае, але напісанае згодна духам вельмі для нас спрыяльным” (ГАРФ. Ф. 109. СА. Оп. 4 - Л. 33). Д'Арленкур тлумачыць знаходжанне цела дэ Кроя ў царкве Святога Мікалая не так, як Кюстын; паводле яго версіі, Рэвельскі губернатар маркіз Паўлуччы загадаў пахаваць цела, праляжаўшае ў саборы цэлае стагоддзе, але, пераканаўшыся, што яно ніколькі не сапсавалася, не ўтрымаўся ад спакусы пакінуць яго ў царкве, каб павысіць прыбыткі храма.

Назаўтра імператар з'ехаў, а яшчэ праз суткі цела князя дэ Кроя, аднесенае было на могілкі, вярнулася на сваё ранейшае месца ў саборы. Правасуддзя ў Расеі не існуе, затое звычкі тут, як бачыце, мацней нават за вярхоўную ўладу.

Самае пацешнае, што падчас нашага нядоўгага плавання мне ўвесь час даводзілася абараняць Расію ад князя К***. Мае меркаванні, якія я выказваў цалкам бескарысліва, выключна з павагі да праўды, размясцілі да мяне ўсіх рускіх, якія прысутнічалі пры нашых гутарках. Што ж да ветлівага князя К***, то



шчырасць яго меркаванняў аб айчыне даказвае мне, што і ў Расіі знаходзяцца людзі, якія асмельваюцца бясстрашна выказваць уласнае меркаванне. Калі я падзяліўся з ім гэтай думкай, ён адказваў мне: "Я не рускі!!![181]" Дзіўнае дамаганне!.. Рускі або не рускі, ён кажа тое, што думае, гэта яму дазваляюць таму, што ён займаў высокія пасады, двойчы прагуляў маёмасць і злоўжыў ласкамі некалькіх манархаў, таму, што ён бедны, стары, хворы і карыстаецца заступніцтвам нейкай асобы, якая належыць да імператарскай сям'і[182] і цвёрда ведаючы, што востры розум – рэч небяспечная. У дадатак, каб пазбегнуць Сібіры, князь, згодна яго слоў, піша мемуары, якія, том за томам, пакідае ў Францыі[183]. Імператар баіцца галоснасьці так жа моцна, як Расія баіцца імператара. Я слухаю князя К*** з нязменным увагай, якую ён бясспрэчна

[181] Вядомае "слаўцо" наконт Казлоўскага с-ні дэ Сталь: "рускі, укормлены еўрапейскай цывілізацыяй"; у данясенні міністру замежных спраў Kападыстрыі Казлоўскі прыводзіць яшчэ адну рэпліку той жа с-ні дэ Сталь на яго рахунак, сказаную яму 6 лютага 1817 падчас размовы пра права народа на супраціўленне ўладзе: "Вы не рускі, мілы князь, вы – еўрапеец; ды і наогул, калі людзі знаходзяцца на вядомай вышыні, то ў вялікіх пытаннях яны разумеюць адзін аднаго ва ўсіх краінах і думаюць аднолькава" (Дурылін С. Спадарыня дэ Сталь і яе рускія стасункі. М., 1939 - Т. 33/34- С. 310 - зч); сам Казлоўскі дэкларaваў разуменне патрыятызму, вельмі блізкае да таго, якое падзяляў Кюстын, у фінале "Досведу гісторыі Расіі"; іншыя патрыёты, піша ён, сцвярджаюць, што "добры рускі павінен любіць усё рускае", адабраючы нават" пугу, калецтва, адсутнасць грамадзянскага і крымінальнага права (...) на той падставе, што існуюць яны ў Расіі", ён жа перакананы, што сапраўдны патрыёт "устрымліваецца ад заганнай ліслівасьці, здольнай падмануць і народ, і цароў" (Са спадчыны П. Б. Казлоўскага. С. 306). Крытыкі Кюстына, згаджаючыся з аўтахарактарыстыкай Казлоўскага, падкрэслівалі, што князь быў чужы Расіі і праваслаўнай веры: "Князь К*** (...) які правёў амаль усё жыццё за мяжой, дзе і быў выхаваны, адружаны з чужаземкай, спавядаў каталіцкае веравызнанне і, з нагоды такога доўгага і амаль пастаяннага знаходжання па-за межамі Расіі, зрабіўся і сам замежнікам, калі не ворагам сваёй айчыны" (Gretch. P. 14).

[182] Заступніцай Казлоўскага была вялікая княгіня Алена Паўлаўна (гл. пра яе заўв. да цяп. тома, с. 195), якая пад час яго прыездаў у Пецярбург сяліла яго ў сябе на дачы, "хадзіла за ім, як за дзіцем, заказвала яму асобны абед і забараняла аб'ядацца" (А.Я.Тургенеў - Н.Я.Тургеневу 14/26 жніўня 1839; РА ІРЛІ. Ф. 309. No 706. Л. 23 аб., арыгінал па-фр.).

[183] Лёс гэтых нататак невядомы, хаця пра іхнае існаванне сябры Казлоўскага ведалі (гл. дзённікавы запіс Варнгагена ад 12 жніўня 1847 г. - РС. 1878. Т. 23. No 9 - С. 146); сам князь згадаў пра іх у артыкуле "Пра надзею". (Современник. Дораў (Dorow. P. 45-74) без пазначэнні крыніцы, адкуль трапіў да яго рукапіс. Згадка пра цыдулькі Казлоўскага ў кнізе Кюстына так напалохала рускі ўрад, што згодна даручэння фельдмаршала Паскевіча ягоны падначалены Гільфердынг 28 кастрычніка/9 лістапада 1843 г. напісаў сакратару Казлоўскага Штуберу ліст з прашэннем – калі такія нататкі існуюць і калі яны вытрыманы "ў духу размоў з Кюстынам"- пачакаць з іхным выданнем – таму што князь захапляўся "заходнімі палітычнымі ўтопія" і абнародаванне яго ўспамінаў можа "схіліць шмат якіх людзей да ліберальных і шкодным ідэй"(АЛ». NAF. No 16603. Fol. 86).

заслугоўвае; я знаходжу, што апавяданні яго надзвычай цікавыя, але часта ўступаю з ім у спрэчку.

Мяне дзівіць празмерная трывога рускіх, што да таго меркавання, якое можа скласці пра іх чужынец; немагчыма выказаць менш незалежнасці; рускія толькі і думаюць, што аб уражанні, якое вырабіць іхная краіна на іншага назіральніка. Што сталася б з немцамі, англічанамі, французамі, з усімі еўрапейскімі народамі, апусціся яны да падобнага дзяцінства? Калі эпіграмы князя К*** абураюць яго суайчыннікаў, то не столькі таму, што сур'ёзна абражаюць іх годнасць, колькі таму, што могуць паўплываць на мяне, а я ў іх вачах – важная персона, бо, як яны чулі, складаю падарожныя нататкі.

"Не ўздумайце скласьці меркаванне пра Расію згодна з апавяданнямі гэтага кепскага рускага, не ўздумайце паверыць яго разважанням, ён проста імкнецца бліснуць французскім досціпствам на наш рахунак, на справе ж зусім не думае таго, што гаворыць".

Вось што шэпчуць мне пасажыры дзесяць разоў на дзень. Розум мой прыпадабняецца скарбніцы, з якой кожны спадзяецца атрымаць пажыву, таму да канца дня мае бедныя думкі пачынаюць блытацца і я рашуча губляюся; гэта-то і падабаецца рускім; калі мы перастаем разумець, што казаць і думаць пра іхную краіну, яны радуюцца.

Мне здаецца, што яны пагадзіліся б стаць яшчэ больш злымі і дзікімі, чым яны ёсць, толькі б іх лічылі больш добрымі і цывілізаванымі. Я не паважаю людзей, так мала шануючых ісціну; цывілізацыя – не мода і не выкрут, гэта сіла, якая прыносіць карысць, корань, які нараджае ствол, на якім вырастаюць кветкі і плады. "Ва ўсякім выпадку, вы не станеце называць нас "паўночнымі варварамі", як робяць вашы суайчыннікі..." Вось што яны кажуць мне кожны раз, калі бачаць, што які-небудзь цікавы выпадак ці народная мелодыя, якое-небудзь апавяданне аб патрыятычным подзвігу рускага, аб яго высакародным і паэтычным руху душы пазабавілі або расчулілі мяне.

**~105~**

Я адказваю на ўсе падобныя фразы ні да чаго не абавязваючымі кампліментамі, а сам думаю, што хутчэй за ўсё хацеў бы мець справу з паўночнымі варварамі, чым з малпамі, пераймаючымі ў жыхароў Поўдня. Ад першабытнай дзікасці пазбавіцца можна, ад маніі ж здавацца тым, чым ты не з'яўляешся, пазбавіцца нельга.

Падчас плавання нейкі рускі вучоны, граматык, перакладчык шматлікіх нямецкіх твораў, выкладчык нейкага вучылішча, усякімі сродкамі імкнуўся зблізіцца са мной. Ён аб'ездзіў усю Яўропу[184] і вяртаўся ў Расію, маючы намер, як

---

[184] Маецца на ўвазе Мікалай Янавіч Грэч (1787-1867), аўтар "Практычнай рускай граматыкі"(1827, 2-е выд. - 1834), "Вялікай рускай граматыкі" (1827-1830, т. 1-2) і "Пачатковых правілаў рускай граматыкі"(1828), шматкроць перавыданых. Падарожжа, з якога ён вяртаўся на борце "Мікалая I" адначасова з Кюстынам, Грэч апісаў у кнізе "Падарожныя лісты із Англіі, Германіі і Францыі" (1839) - адным із яго шматлікіх твораў у гэтым жанры. Чуткі пра тое, што Грэч "падкупляе прэсу па распараджэнню і за кошт рускага ўрада" (Гейне Г. СОБР. Мн. ў 10 т. М., 1959 г. - т. 10. с. 25), распаўсюджваліся ў еўрапейскім друку яшчэ ў 1837; выхад "Расіі ў 1839 годзе" толькі замацаваў за Грэчам гэтую рэпутацыю. З лёгкай рукі Кюстына Грэч атрымаў (згодна сведчання і Бальзака, ад палякаў-

ён кажа, пазнаёміць суайчыннікаў з усім карысным, чым багата сучасная заходняя думка. Вольнасць яго прамоваў насьцярожыла мяне; гэта не бліскучая незалежнасць князя К***, але прадуманы, развважлівы лібералізм, галоўная мэта якога–развязаць язык суразмоўцы. Я ўпэўнены, што вучоных такога роду нямала паблізу рускіх межаў–на любекскіх заезных дварах, на борце параходаў і нават у Гаўры, дзе зараз, дзякуючы марскім рэйсам па Паўночным і Балтыйскім морах, таксама праходзіць мяжа з Масковіяй. Ад мяне гэты чалавек толку не дамогся. Ён у першую галаву жадаў высветліць, ці збіраюся я апісваць сваё падарожжа, і настойліва прапаноўваў мне сваю дапамогу. Я не стаў яго распытваць; стрыманасць мая крыху здзівіла, але і ўзрадавала яго, і ён пакінуў мяне з ўпэўненасьцю, што я "падарожнічаю выключна для ўласнага задавальнення і не мае намеру ў гэты раз друкаваць апавяданне пра падарожжа, якое будзе такім кароткім, што ў мяне не хопіць часу назапасіць цікавых для публікі ўражанняў".

Я запэўніваў яго ў гэтым і прама і намёкамі, так што ў рэшце рэшт ён, здаецца, супакоіўся. Але калі яго трывога ўлеглася, то мая прачнулася. Пачні я на самай справе весці запісы, я напэўна выклікаю падазрэнні ў праніклівейшага ў свеце ўрада, які мае найвыдатнейшых шпіёнаў. Прыемнага ў гэтым мала, таму, прыйдзецца хаваць свае лісты, маўчаць і не падаваць выгляду, што я здагадваюся аб шпіёнстве; адкрыты твар – надзейнейшая з масак. За наступны ліст я сяду ўжо ў Пецярбурзе.

# Ліст сёмы

*Расійскі флот – прадмет гонару рускіх. – Заўвага лорда Дарэма.–Будучыя маракі вучацца свайму рамяству. – Вялікія намаганні дзеля малога выніку. – Друк дэспатызму. – Кранштат. – Смяхотная караблекрушэнне. – Руская мытня. – Маркотныя краявіды на подступах да Пецярбурга. – Успаміны пра Рым. – Як ангельцы называюць караблі каралеўскага флоту. – Заняпад духу. –*

---

эмігрантаў) мянушку "вялікі рускі шпіён", пазначанае ў друкаваных картках, якія на пачатку 1844, пасьля выхаду яго брашуры супраць Кюстына, атрымалі шмат якія із рускіх дам, якія жылі ў гэты час у Парыжы (гл.: Тургенеў А. І. Лісты да Булгакава. М., 1939 - С. 267; Lettres a Vamhagen. P. 472; Balzac H. de. Lettres a Mme Hanska. P., 1968. Т. ч. P. 429-430); відаць, водгукам Кюстынаўскай характарыстыкі з'яўляецца і рэпліка С. П. Шэвырава, які заўважыў, што ў Грэча на ўсё "паліцэйскі погляд" (Москвитянин. 1843. No 10. С. 438) - Лібенскі заступіўся за Грэча; на яго думку, Кюстын абвінавацiў таго ў шпіёнстве "без усялякіх доказаў", праз нейкую "манію", якая прымушае замежнікаў бачыць шпіёнаў ва ўсіх рускіх, аж да "арыстакратак і модніц, якія, згодна іхнай думкі, па-сутнасьці не хто іншыя, як дзяржаўныя мужы ў спадніцах, выдаткуючыя на парыжскія ўборы грошы, запазычаныя са скарбу яго імператарскай вялікасці"; справа зайшла так далёка, піша Лібенскі, што "сёння ніхто не можа прыехаць на адпачынак у Ахен або Бадэн, не рызыкуючы адразу быць западозраным у таемным намеры высочваць або падкупляць добрых немцаў!" (Labinski. P. 20, 8). Папярэднікі Кюстына па падарожжах у Расію, Ансело і Д'Арленкур, насупраць, адклікаліся пра Грэча вельмі станоўча, як пра "чалавека, вялікага розуму і ведаў, выдатнага пісьменніка, чые чароўны выказванні перапоўнены цікавасьцю" (Arlincourt. T. i. P. 169), як пра шаноўнага чалавека і таленавітага "граматыка"(Ancelot. P. 45) - Грэч, зрэшты, пацвердзіў характарыстыку, дадзеную яму Кюстынам, напісаўшы адно із самых вернападданых абвяржэнняў "Расіі ў 1839 годзе" (гл. цяп. том, с. 394) – Пра Кюстына і Грэча гл.: Темпест Р. Філосаф - назіральнік маркіз дэ Кюстын і граматык Мікалай Гэч / Сімвал. 1989. No 21. С. 195 - 224.

*Задума Пятра І. – Генуэзцы. – Востраў Кранштат. –Батарэі ўмацавання. – Іх дзейснасць.–Розныя тыпы рускіх – заўсёднікаў салонаў.–Складанасці пры выгрузцы на бераг экіпажаў.–Занядбаласць ніжніх чыноў. – Допыт ў прысутнасці паліцэйскіх і мытных чыноўнікаў. – Марудлівасць мытнікаў. – Дурны настрой рускіх дваран. – Іхнае меркаванне пра Расію. – Начальнік мытні. – Яго нязмушаныя манеры. – Новы дагляд. – Імператар тут нямоглы. – Нечаканая змена ў паводзінах маіх спадарожнікаў.–Яны пакідаюць мяне, не развітаўшыся. – Маё здзіўленне.*

**Пецярбург, 10 ліпеня 1839 года[185].**

На подступах да Кранштата, падводнага ўмацавання, якой рускія па праву ганарацца, Фінскі заліў раптам ажыўляецца: велічныя караблі імператарскага флоту бараздзяць яго па ўсіх накірунках; палову года гэты флот праводзіць у гавані[186], умёрзнуўшы ў лёд, а на працягу трох летніх месяцаў гардэмарыны вучацца вадзіць караблі ў Балтыйскім моры. Так моладзь паглыбляе свае веды ў тыя рэдкія дні, калі сонца пралівае сваё святло на гэты край. Да таго часу, пакуль мы не наблізіліся да Кранштата, мы зусім не сустракалі караблёў, і толькі час ад часу ўдалечыні назіраліся рэдкія гандлёвыя ветразнікі ці яшчэ больш рэдкія піраскафы. Піраскаф – вучоная назва парахода, прынятая сярод часткі еўрапейскіх маракоў. Цьмяныя, пустынныя вады Балтыйскага мора абмываюць такія ж пустынныя берагі: клімат тут суровы і неспрыяльны для людзей. Бясплодная суша і халоднае мора, сумныя прасторы зямлі і неба – усё тут ледзяніць душу вандроўніка.

Ступіўшы на гэты малапрывабны бераг, падарожнік



адразу адчувае жаданне яго пакінуць; з уздыханнем ён успамінае словы, якія сказаў імператрыцы Кацярыне, скардзячыся на хваробы, выкліканыя пецярбургскім кліматам, адзін з яе фаварытаў: "Гасподзь, спадарыня, не вінаваты ў тым, што людзі мелі дзёрзкасць пабудаваць сталіцу вялікай імперыі на бацькаўшчыне ваўкоў і мядзведзей!"

Мае спадарожнікі з гонарам распавялі мне пра нядаўнія поспехі рускага флоту. Я захапляюся гэтым цудам, хоць і не надаю яму такога значэння, як яны. Ён – вынік дзейнасьці, а дакладней, самавольства імператара Мікалая. Гэты манарх дзеля забавы ўвасабляе ў жыццё запаветную мару Пятра І, але, якім бы магутным ні быў чалавек, рана ці позна яму давядзецца прызнаць, што прырода мацней усякага смяротнага. Пакуль Расія не выйдзе з межаў, вызначаных ёй прыродай, рускі флот застанецца цацкай імператараў – і не больш!..

Мне патлумачылі, што падчас марскіх вучэнняў самыя юныя маракі плаваюць паблізу Кранштацкіх берагоў, самыя ж вопытныя асмельваюцца даходзіць да Рыгі, а іншы раз нават да Капенгагена. Ды што там казаць! Два

[185] Увечары 28 чэрвеня/10 ліпеня 1839 г. параход “Мікалай І” прыбыў у Кранштат “з 39 пасажырамі пасьля 79 гадзіннага плавання” (Паўночная пчала. 29 чэрвеня/11 ліпеня 1839).

[186] “Першыя караблі выходзяць із Кранштацкай гавані ў канцы красавіка, апошнія вяртаюцца туды на прыканцы лістапада; зрэшты, у 1828 г. апошні карабель вярнуўся 13 снежаня, а ў 1829 г. першы выйшаў толькі 12 траўня” (Schnitzler, P. 297).

рускіх караблі, – кіруемыя, без ўсякага сумневу, замежнікамі, – ужо здзейснілі або рыхтуюцца здзейсніць кругасветнае падарожжа[187]! Не гледзячы на лісьлівы гонар, з якім рускія разхвальвалі мне цуды, якія робяцца воляю іхнага манарха, які пажадаў мець уласны флот і набыўшым яго, мне вельмі хутка надакучылі іхныя пахвальбы: бо я ўжо ведаў, што ўсе паўстаўшыя перад нашым поглядам караблі – навучальныя. Мне падалося, што я трапіў у школу, і выгляд заліва, ператворанага ў клас, выклікаў у мяне невыказальны смутак.

Перамяшчэнні караблёў, не выкліканыя ніякай неабходнасцю, не перасьледуюць ні ваенных, ні камерцыйных мэтаў, здаліся мне звычайным парадам. Між тым аднаму Госпаду – ды яшчэ рускім – вядома, ці вялікае задавальненне прысутнічаць на парадзе!.. У Расіі любоў да аглядаў не ведае межаў: павінна ж было здарыцца так, што пры ўездзе ў межы гэтай імперыі мне давялося прысутнічаць пры марскім аглядзе?! Гэта зусім не смешна: дзяцінскасць ў такіх памерах здаецца мне жахлівай; гэта жахлівая рэч, магчымая толькі пры тыраніі і з'яўляючаяся, мабыць, адной з агіднейшых яе праяў!.. Ва ўсіх краінах, акрамя тых, дзе пануе абсалютны дэспатызм, людзі здзяйсняюць вялікія намаганні, каб дасягнуць вялікіх мэт: толькі народы, слепа падпарадкаваныя самаўладніку, ідуць па яго загаду на велізарныя ахвяры дзеля нікчэмных вынікаў.

Такім чынам, відовішча рускага флоту, які выйшаў у мора на пацеху цара, гонар яго лісліўцаў і манеўры яго юных падданых на подступах да сталіцы – усё гэта зрабіла на мяне самае цяжкае ўражанне. За школьнымі практыкаваннямі я разглядзеў жалезную волю, ўжытую марна і прыгнятаючую людзей праз немагчымасць



скарыць стыхію. У караблях, якія праз некалькі зім прыйдуць у непрыдатнасць, так і не паспеўшы паслужыць для сапраўднай справы, я ўбачыў не сымбаль вялікай і магутнай дзяржавы, але падставу для безвыніковага праліцця народнага поту. Самы грозны вораг гэтага ваеннага флоту – лёд, амаль на паўгода скоўваючы ваду: кожную восень, пасьля трохмесячных вучэнняў, юнакі вяртаюцца ў свае клеткі, цацку прыбіраюць у скрынку, а імперскія фінансы церпяць паразу за паразай ад марозу.

Лорд Дарэм сказаў[188] самому імператару са шчырасцю, якая закранула адчувальныя струны ва ўладалюбівым сэрцы рускага самаўладцы: "Рускія

[187] Першую рускую кругасветную экспедыцыю здзейснілі парусныя караблі "Надзея" і "Нява"; кіраўніком экспедыцыі быў Ян Хведаравіч Крузенштэрн (1770-1846), які кіраваў "Надзеяй" ; "Нявой" кіраваў Ю. Ф. Лісянскі (1773-?).

[188] Рускі флот, створаны практычна толькі пры Пятры I, не раз атрымліваў перамогі на моры (разгром турэцкага флоту ў Дарданэльскай і Афонскай бітвах ў 1807; перамога - сумесна з Англіяй і Францыяй - над турэцка-егіпецкім флотам у Наварынскай бітве ў 1827), аднак пры Аляксандры I флот знаходзіўся ў поўным заняхайваньні і зноў стаў прыцягваць асаблівую ўвагу ўрада толькі пры Мікалаю I. Упадабанай тэмай замежнікаў было паказванне на слабасць гэтай "цацкі імператара". Пушкін зафіксаваў у дзёніку размову з папярэднікам Дарэма – ангельскім паверанным у справах у Пецярбургу Джонам Блаем, якая адбылася 29 лістапада 1833: "... навошта вам флот у Балтыйскім моры? Для бяспекі Пецярбурга? Але ён абаронены Кранштам. Цацка!" (Пушкін. Т. 8. С. 24); нідэрландскі палкоўнік Гагерн пераказвае у сваім штотыднёвіку падарожжа па Расіі меркаванне пра рускі флот нейкага паляка: "Гэта

ваенныя караблі – цацкі рускага імператара". Што да мяне, то гэта каласальная дзяцінскасць не выклікае ў мяне ні найменшага размяшчэння да таго, што мне давядзецца пабачыць у межах Расійскай імперыі. Падплываць да Пецярбурга з захапленнем можа толькі той, хто не падплываў па Тэмзе да Лондана: там пануе жыццё, тут – смерць. Англічане, якія робяцца паэтамі, калі гаворка заходзіць пра мора, называюць свае ваенныя судны вайскаводцамі. Рускім ніколі не прыйдзе на думку назваць так свае парадныя караблі. Нямыя рабы капрызнага гаспадара, драўляныя ўгоднікі, гэтыя няшчасныя судны – не вайскаводцы, а царадворцы, дакладнае падабенства еўнухаў із сераля, інваліды імперскага флоту.

Гэтая імправізацыя дэспата не толькі не ўсяляе ў маю душу чаканага захаплення, але, наадварот, напаўняе мяне нейкай баязлівасьцю – баязлівасьцю не перад вайной, але перад тыраніяй. Бескарысны флот Мікалая I нагадвае мне аб усіх бесчалавечных дзеяннях Пятра Вялікага, увабраўшага ў сябе рысы ўсіх старажытных і новых рускіх манархаў... і я пытаюся ў сябе: куды я еду? Што такое Расія? Расія – краіна, дзе вялікія справы дзеюцца дзеля не маючых карысьці вынікаў... Мне няма чаго там рабіць!..

Калі наш карабель стаў на якар каля Кранштадта, мы даведаліся, што адно з выдатнейшых суднаў, толькі што манеўраваўшых непадалёку ад нас, села на мель. Гэтае караблекрушэнне ўяўляла небяспеку толькі для капітана, якому пагражала пазбаўленнем пасады, а, магчыма, і больш сур'ёзным пакараннем.

---

дарагая цацка імператара і, уласна, не маючая мэты. Вялікую частку года ён замкнёны лёдам Фінскага заліва; ён не можа выйсці з Балтыйскага мора і не ў стане вытрымаць барацьбу з ангельскім флотам" (Расія. с. 664). Пагардлівы водгук пра рускі флот ангельскага амбасадара ў Расіі з ліпеня 1835 г. да вясны 1837 Джона Джорджа Лембтана, першага графа Дарэма (1792-1840) у выразах, амаль падобных з тымі, якіяі выкарыстоўвае Кюстын, зафіксаваны ў данясенні французскага амбасадара ў Пецярбургу ў 1835-1841 гг. Праспэра дэ Баранта прэм'ер-міністру Цьеры ад 4 красавік 1836 года: "Лорд Дарэм неаднойчы выказваўся пра рускі флот і Кранштацкую эскадру з праўдзіва ангельскай пагардай" (AMAE. T. 191. Fol. 77). Кюстын мог абмяркоўваць думкі ангельцаў пра рускі флот як з Барантам, так і з Казлоўскім; апошняму належаць словы, сказаныя пераемніку Дарэма, маркізу Кленрыкарду, у адказ на насмешкі над балтыйскім рускім флотам: "Рускі флот ператварыў Балтыку ў рускае возера" (А. Я. Тургенеў - Н.Я.Тургеневу, 12/24 жніўня 1839, Парыж - РА ИРЛИ. Ф. з- 9 -No 706. Л. 21 аб.; арыгінал па - фр.) Амаль усе аўтары антыкюстынаўскіх брашур абверглі "паклёп" на рускі флот. Лабэнскі пракаментаваў фальшывую пагарду ангельцаў да рускага флоту наступным чынам: "Я памятаю, што гадоў пяць таму, калі адносіны нашы з Вялікабрытаніяй былі далёка не такімі добрымі, англічане, якія называюць, калі верыць с-ру дэ Кюстыну, нашы караблі цудоўнымі цацкамі, былі настроены на гэты конт не так філасафічна. Нашы цацкі так моцна не падабаліся газеце "Тайм", што яна кожную раніцу задавалася пытаннем, чаму ў нас у Кронштаце гэтых цацак цэлых дваццаць сем штук і ці не спадзяемся мы скарыстацца момантам, калі Джон Буль будзе заняты ў іншым месцы, каб раптоўна спаліць яго верфі і парты. (...) Сур'езна разважала пра гэта ангельская газета ці не, відавочна, што нашы цацкі не выклікалі ў яе той высакароднай пагарды, якой аблівае іх с-р дэ Кюстын" (Labinski. P. 89). Грэч нагадваў, што "Расія ёсць марская дзяржава, абавязаная ўтрымліваць флот", што "пры першай жа тэлеграфнай вестцы пра небяспеку, якая прыйдзе ў Зімовы палац, трыццаць караблёў у поўнай баявой гатоўнасьці і з запасам правіянту на борце змогуць адплыць ў любым напрамку" і што "вольна лорду Дарэму называць нашы караблі цацкамі: ёсць цацкі, якімі можна моцна пакалечыцца" [Gretch. P. 21-22). Я.Таўсты ўсклікаў: "Гэтыя цацкі, с-р маркіз, - Геркулесовой булавой!" (Tolstoy. P. 38), а вуснамі Ж. Шод-Эга, чый артыкул ён інспіраваў (гл. у артыкуле, цяпер. том, с. 393) выкладваючы свае прэтэнзіі да Кюстына: "Няхай рускі флот складаецца з трох эскадраў і ўключае ў сябе ад ста да ста пяцідзесяці ваенных караблёў, хай у рускім флоце служаць сорак тысяч чалавек, - с-р дэ Кюстын, які бачыў адну толькі Балтыйскую эскадру і дбае пра тое, відавочна, як супакоіць падазронасць Англіі, спяшаецца затаўраваць рускі флот пагардлівым вызначэннем "Цацкі імператара" (Chaudes - Aigues. P. 34).

Князь К*** шэптам сказаў мне, што няшчасны шмат выйграў бы, калі б загінуў разам са сваім караблём. Экіпаж, які нясе меншую адказнасць за лёс карабля, быў іншага меркавання, роўна як і наша спадарожніца княгіня Л***. Сын гэтай дамы знаходзіўся ў той дзень на борце злашчаснага судна. Не ў сабе ад хвалявання княгіня зноў, як напярэдадні, падчас прыпынку нашай машыны, ледзь не пазбавілася прытомнасьці, але Кранштацкі губернатар вельмі своечасова супакоіў устрывожаную маці, апавясціўшы, што сын яе цэлы і пазбег пашкоджанняў. Рускія няспынна паўтараюць мне, што, перш чым выказваць меркаванні аб іхнай радзіме, варта правесці ў Расіі не менш чым два гады, бо гэта – краіна, якую вельмі цяжка зразумець.

**~109~**

Аднак асцярожнасць і цярпенне – дабрачыннасці, неабходныя для падарожнікаў, навукоўцаў або для тых, хто прагне праславіць сябе кнігамі старанна аздобленымі, што ж да мяне, то я баюся твораў, напісаных з цяжкасцю, бо чытаюцца яны таксама з намаганнямі; маё рашэнне цвёрдае: я не стану аздабляць свой дзённік. Да гэтага часу я пісаў толькі для вас і для сябе.

Я баяўся рускай мытні, але мяне запэўніваюць, што ніхто не стане замахвацца на маю чарнільніцу. У дадатак, каб намаляваць Расею такой, якой яна паўстала перада мной пры першым знаёмстве, і, паводле маіх звычак, выказаць усю праўду, не гледзячы на наступствы, давялося б, я адчуваю, секчы з пляча, а для гэтага я занадта лянівы.

Няма нічога больш сумнага, чым прырода ў наваколлях Пецярбурга; па меры таго, як карабель уваходзіць у заліў, плоскія багністыя берагі Інгерманландыі выцягваюцца ў тонкую дрыготкую лінію на гарызонце, паміж небам і зямлёй; гэтая лінія і ёсць Расія... інакш кажучы, сырая, абсыпаная вартымі жалю, чэзлымі бярозкамі нізіна. Гэты аднастайны, пустынны пейзаж, безжыццёвы і бескаляровы, які не ведае межаў і тым не менш пазбаўлены велічы, тоне ў паўзмроку. Тутэйшая шэрая, забытая Богам зямля вартая бляклага сонца, чые прамяні падаюць на яе не зверху, а з боку, калі не знізу. У Расіі ночы на здзіўленне светлыя, але дні змрочныя і сумныя. Нават у самае выдатнае надвор'е паветра тут адлівае сінню. Кранштат з яго лесам мачтаў, падземнымі пабудовамі і гранітнымі набярэжнымі ўносіць прыемную разнастайнасць у мары вандроўніка, які прыбыў, як і я, у гэты няўдзячны край ў пошуках маляўнічых відовішчаў. Мне не даводзілася яшчэ бачыць вялікага горада, чые наваколлі былі б такімі безрадаснымі, як берагі Нявы. Рымская Кампанья пустынная, але колькі цудоўных куткоў, колькі памятных месцаў, колькі святла, бляску, паэзіі і, з дазволу сказаць, колькі запалу адухаўляе гэтую старажытную зямлю! Да Пецярбурга ж набліжаешся па воднай пустыні, акаймаванай пустыняй тарфяной: мора, суша, неба – усё зліваецца разам, усё нагадвае люстэрка, але люстэрка такое цьмянае і бляклае, што ў ім не адлюстроўваецца роўна нічога. Некалькі ўбогіх лодак з рыбакамі, бруднымі, нібы эскімосы, некалькі караблёў, якія цягнуць за сабой доўгія плыты бярвенняў для будаўніцтва імператарскага флоту, некалькі паравых пакетботаў, па большай частцы пабудаваных і кіраваных чужаземцамі, – вось і ўсё, што ажыўляе тутэйшы пейзаж; такім чынам, ніштo не

адцягвала мяне ад змрочных думак. Такія наваколлі Пецярбурга; няўжо Пятро Вялікі не разлічыў, што будаўніцтва горада ў гэтым краі супярэчыць законам прыроды і сапраўдным патрэбам вялікага народа? Мора любым коштам: вось пра што ён клапаціўся!!! Дзіўная ідэя – заснаваць сталіцу славянскай імперыі на фінскай зямлі, перад тварам шведаў! Колькі



б Пятро Вялікі ні казаў, што хацеў проста павялічыць колькасць расійскіх партоў, ён, калі б быў такім геніяльны, як пра яго кажуць, абавязаны быў бы прадбачыць наступствы сваёй задумы; і, я ўпэўнены, ён іх прадбачыў. Палітыка і, як ні сумна, помслівасць цара, чыё самалюбства было абражана незалежнасьцю старажытнай Масквы, – вось што вырашыла лёс Расіі. Расія падобная магутнаму чалавеку, якому няма чым дыхаць; ёй не хапае выхадаў да мора. Пятро І паабяцаў такія і адкрыў ёй шлях ў Фінскі заліў, не падумаўшы аб тым, што мора, скаванае лёдам восем месяцаў на год, – не пара для іншым мораў. Аднак для рускіх словы маюць большае значэнне чым рэчаіснась. Якімі ні неверагоднымі былі намаганні Пятра І, яго падданых і пераемнікаў, яны ўвянчаліся не чым іншым, як стварэннем мала прыдатнага для жыцця горада, у якога Нява імкнецца адваяваць зямлю кожны раз, калі вецер пачынае дзьмуць з боку заліва, і які людзі мараць пакінуць адразу пасьля таго, як заваёвы на поўдні дадуць ім такую магчымасць[189]. Бівуак жа не мог бы абысьціся без гранітных набярэжных.

Фіны, якія жывуць па суседству з рускай сталіцай, – нашчадкі скіфаў; яны па сённяшні дзень застаюцца паганцамі ў душы[190] і поўнымі дзікунамі; толькі ў 1836 спецыяльным ўказам было загадана святарам дадаваць да імя святога,

[189] Агульным месцам еўрапейскага палітычнага друку, варожага да Расіі, была думка пра тое, што галоўная мэта Мікалая І - заваёва Канстантынопаля; насупраць, журналісты, спачуваючыя Расіі, падкрэслівалі, што ў Канстантынопаль Расія імкнулася толькі пры Кацярыне ІІ, імператар ж Мікалай вядзе палітыку выключна мірную і абарончую. Пацвярджэннем гэтага меркавання мог служыць вынік руска-турэцкай вайны 1828-1829 гг., калі войска І. І. Дзібіча без бою заняло горад Адрыянопаль і тым адкрыла сабе шлях да турэцкай сталіцы, аднак не стала працягваць наступ. Вайна скончылася падпісаннем у верасні 1829 г. Адрыанопальскай мірнай дамовы, так як у рускіх урадавых колах ўсвядомілі, што заваёва Стамбула можа ўцягнуць Расію ў канфрантацыю з вядучымі еўрапейскімі дзяржавамі (гл.: Шарамет В. І. Турцыя і Адрыянопальская мірная дамова 1829 М., 1975 - ^ - 115 - гб; Усходняе пытанне ў знешняй палітыцы Расіі. Канец XVIII-пачатак XX ст. М., 1978. С. 91-94) - Адыход Мікалая І ад палітыкі яго бабкі Кацярыны ІІ выявіўся ў тым ліку і ў рэвізіі яе “грэцкага праекта", які прадугледжваў знішчэнне Турцыі і стварэнне на яе месцы Грэчаскай імперыі пад скіпетрам прадстаўніка дома Раманавых і са сталіцай у Канстантынопалі (гл.: Алегаў шчыт. С. 64-65). Думка пра выключную міралюбівую палітыку Мікалая І актыўна прапагандавалася ў прарускім еўрапейскім друку (гл., напрыклад, серыю артыкулаў у газеце “Journal de Francfort” за лістапад 1834 г. французскага журналіста Шарля Дюрана, чые паслугі былі як раз у гэты час набытыя рускім урадам). Аднак, нягледзячы на ўсе падобныя запэўніванні, французскія журналісты нястомна прыпісвалі Расіі заваявальныя планы, якія ідуць ўсё далей і далей, прычым па-ранейшаму ў паўднёвым накірунку; так, газета “Commerce” сцвярджала 8 кастрычніка 1837 г. што “зараз Расія ўжо не лічыць Канстантынопаль годным занадта вялікіх ахвяр (...) Праўда, рускія славалюбы думаюць пра Персію і Індыю”. Пра імкненне рускіх у паўднёвыя краіны гл. таксама заўв. да цяп. тома, с. 88.

[190] Магчыма, водгукі чытання Шніцлера: “Суомі, паганцы да XII стагоддзя і нават пазней...”(Schnitzler. P. 607).

якое давалася дзіцяці пры хрышчэнні, прозвішча бацькоў. Да чаго згадваць сям'ю, калі яе неіснуе?

Гэтая нацыя безаблічная; фізіяноміі у чухонцаў пloскія, рысы не выразныя. Гэтыя выродлівыя і брудныя людзі адрозніваюцца, як мне растлумачылі, немалой фізічнай сілай; выглядаюць яны, аднак, кволымі, нізкарослымі і жабракамі. Хаця яны – карэнныя жыхары тутэйшых месцаў, у Пецярбургу яны трапляюцца на вочы рэдка; яны селяцца на забалочаных раўнінах або невысокіх гранітных скалах і прыязджаюць у горад толькі ў кірмашовыя дні.

Краншттат – плоскі востраў пасярод Фінскага заліва; гэтае марскoе ўмацаванне падымаецца над морам роўна настолькі, наколькі трэба, каб перагарадзіць шлях варожым караблям, калі яны накіруюцца на Пецярбург. Яе вязніцы і вежы размешчаны большай часткай ніжэй за ўзровень мора. Кранштацкая артылерыя размешчана, згодна слоў рускіх, з вялікім майстэрствам; дастаткова аднаго залпу, і усё мора апынецца ўзараным снарадамі; згодна загада імператара град ядраў абрынецца на ўсякага суперніка, які паспрабуе наблізіцца да Кранштата, так што гэтае ўмацаванне славіцца непрыступнасьцю. Я, зрэшты, не ведаю, ці абодва водныя праходы ўздоўж выспы апынуцца пры абароне пад абстрэлам; рускія, у якіх я спрабаваў гэта высветліць, не пажадалі задаволіць маю цікаўнасць. Каб даць адказ на гэтае пытанне, варта было б разлічыць далёкасць і накірунак палёту ядраў і вымераць адлегласць ад выспы да сушы. Хоць я і нядаўна маю справу з рускімі,



але вопыт падказвае мне, што не варта давяраць іх празмернай пахвальбе, натхнёнай залішне дбайным служэннем вярхоўнаму кіраўніку. Нацыянальны гонар, на мой погляд, дапасуе толькі народам вольным. Калі я бачу людзей, тых, што заносяцца з ліслівасці, прычына выклікае ў мяне нянавісць да следства; у аснове ўсёй гэтай ганарыстасці – баязнь, кажу я сабе; у аснове ўсёй гэтай велічы – спрытна прыхаваная нізасць. Гэтае адкрыццё напаўняе мяне непрыязнасцю. У Францыі, як і ў Расеі, я сустракаў дзве разнавіднасці рускіх свецкіх людзей: адны з асцярожнасці і з самалюбства без меры расхвальваюць сваю краіну, іншыя, жадаючы выглядаць асобамі вытанчанымі і адукаванымі, выказваюць, калі гаворка заходзіць пра Расію, найглыбейшую пагарду альбо бязмерную стрыманасць. Да гэтага дня ні тым, ні іншым не ўдавалася мяне правесці; але я мару адшукаць трэцюю разнавіднасць – звычайных рускіх; я не пакінуў надзеі знайсці яе.

Мы прыбылі ў Кранштат на світанку аднаго з тых дзён без пачатку і канца, якія мне надакучыла апісваць, але якімі я не стамляюся любавацца, іншымі словамі, а палове першага паўночы. Пара белых начэй кароткая, яна ўжо падыходзіць да канца.

Мы кінулі якар перад маўклівым умацаваннем; прайшло нямала часу, перш чым прачнулася і неўзабаве з'явілася на борт цэлая армія чыноўнікаў: паліцмейстэры, мытныя наглядчыкі са сваімі памочнікамі і, нарэшце, сам начальнік мытні; гэты важны пан палічыў сябе абавязаным наведаць нас, каб аказаць гонар прыбыўшым на борце "Мікалая І" слаўным рускім падарожнікам.

Ён меў працяглую гутарку з князямі і княгінямі, якія вяртаюцца ў Пецярбург. Гутарка вялася па-руску, магчыма, таму, што мела дачыненне да заходнееўрапейскай палітыкі, калі ж справа дайшла да складанасцей з высадкай на бераг, да неабходнасці развітацца з карэтамі і перасесці на іншае судна, суразмоўцы пусцілі ў ход французскую мову. Пакетбот, які робіць рэйсы да Травемюндэ, мае занадта вялікую пасадку і не можа ўвайсьці ў Няву; ён з буйным грузам на борце застаецца ў Кранштаце, пасажыры ж дабіраюцца да Пецярбурга на дрэнным брудным параходзіку. Нам дазволена ўзяць з сабой на борт гэтага новага судна самы лёгкі багаж, але толькі пасьля дагляду, які вырабяць Кранштацкія чыноўнікі. Скончыўшы з гэтай фармальнасцю, мы выправімся ў шлях з надзеяй паслязаўтра атрымаць свае экіпажы, калі гэта будзе заўгодна Госпаду... і мытнікам, пад чыёй камандай грузчыкі перапраўляюць іх з аднаго карабля на іншы – працэдура заўсёды даволі рызыкоўная, у Кранштаце ж рызыкоўная ўдвая з нагоды недбайнасьці грузчыкаў.

Рускія князі праходзілі мытны дагляд нароўні са мной, простым чужаземцам; спачатку падобная роўнасць спадабалася мне,



аднак у Пецярбургу чыноўнікі разабраліся з імі за тры хвіліны, мяне ж не выпускалі на працягу трох гадзін. Прывілеі, на час схаваўшыся пад празрыстым покрывам дэспатычнай улады, зноў паўсталі перада мной, і з'ява гэта непрыемна мяне ўразіла. Шматлікасць непатрэбных засцярог дае працу масе дробных чыноўнікаў; кожны з іх выконвае свае абавязкі з педантычным выглядам, строгім і важным, закліканым выклікаць павагу да безсэнсоўнейшага із заняткаў; ён не ўшаноўвае вас ні адным словам ў адказ, але на твары яго вы чытаеце: "Дайце мне дарогу, я – складовая частка велізарнай дзяржаўнай машыны". Гэтая складовая частка, якая дзейнічае не па сваёй волі, падобная шрубам гадзіннікавага механізму – і вось што ў Расеі называюць чалавекам! Выгляд гэтых людзей, па добрай волі пераўтвораных у аўтаматы, спалохаў мяне; ў асобы, зведзенай да стану машыны, ёсць нешта звышнатуральнае. Калі ў краінах, дзе тэхніка пайшла далёка наперад, людзі ўмеюць ўдыхнуць душу ў дрэва і метал, то ў краінах дэспатычных яны самі ператвараюцца ў балванкі; я не не магу зразумець, на што ім розум, пры думцы ж пра тыя ўціскі, якім давялося падвергнуць істоты, надзеленыя розумам, каб ператварыць іх у неадушаўлёныя рэчы, мне становіцца не па сабе; у Англіі я баяўся машын, у Расіі шкадую людзей. Там стварэнням чалавека не хапала толькі дару мовы, тут дар мовы выяўляецца зусім залішнім для тварэнняў дзяржавы.

Зрэшты, гэтыя машыны, абцяжараныя душой, жахліва ветлівыя; відаць, што іх з пялёнак прывучалі да захавання прыстойнасьці, як прывучаюць іншых да валодання зброяй, але каму патрэбна абыходлівасць па загадзе? Колькі б ні імкнуліся дэспаты, кожны ўчынак чалавека асэнсаваны, толькі ў тым выпадку калі асвечаны яго свабоднай воляй; вернасць гаспадару чаго-небудзь вартая, толькі калі слуга абраў яго па сваёй ахвоце; а паколькі ў Расіі ніжэйшыя чыны не маюць права выбіраць што б там ні было, ўсё, што яны робяць і гавораць, нічога не значыць і нічога не варта. Пры позірку на разнастайных шпіёнаў, якія

разглядалі і распытвалі нас, я пачаў зяваць і ледзь не пачаў енчыць – енчыць не пра сябе, але пра рускі народ; багацце абмежаванняў, якія тут лічаць неабходнымі, але без якіх выдатна абыходзяцца ва ўсіх іншых краінах, паказвала мне, што я стаю перад уваходам у імперыю баязьні, а баязнь заразлівая, як і смутак: дык вось, я баяўся, і сумаваў... з ветлівасці... каб не надта адрозніватца ад іншых.

Мне прапанавалі спусціцца ў кают-кампанію, дзе засядаў аэрапаг чыноўнікаў, у чые абавязкі ўваходзіць допыт пасажыраў. Усе сябры гэтага трыбунала, абуджаючыя хутчэй жах, чым павагу, сядзелі за вялікім сталом; некаторыя са змрочнай увагай герталі суднавыя запісы і былі так паглынуты гэтым заняткам, што

**~113~**

не заставалася сумненняў: на іх ускладзена нейкая сакрэтная місія; бо афіцыйна абвешчаны род іх заняткаў ніяк не прадугледжваў падобнай сур'ёзнасці. Адны з пяром у руцэ выслухоўвалі адказы падарожнікаў, ці, дакладней сказаць, абвінавачваемых, бо на рускай мяжы з кожным чужаземцам абыходзяцца як з абвінавачваемым; іншыя гучна паўтаралі нашыя словы, якім мы надавалі вельмі мала значэння, пісцам; пераводзімыя з мовы на мову, адказы нашы гучалі спачатку па-французску, затым па-нямецку і, нарэшце, па-руску, пасьля чаго апошні і самы мізэрны з пісцоў заносіў у кнігу свой прысуд – канчатковы і, магчыма, зусім незаконны. Чыноўнікі перапісвалі нашы імёны з пашпартоў; яны самым скрупулёзным чынам даследавалі кожную дату і кожную візу, захоўваючы пры гэтым нязменную ветлівасць, закліканую, як мне здалося, суцешыць падсудных, з цяжкасцю пераносячых гэтае маральнае катаванне.

У выніку доўгага допыту, якому я стаў аб'ектам разам з іншымі пасажырамі, у мяне адабралі пашпарт, а наўзамен выдалі картку, прад'явіўшы якую я нібыта змагу зноў забраць свой пашпарт у Санкт-Пецярбургу. Здаецца, паліцыя засталася ўсім задаволена; валізкі і людзі знаходзіліся ўжо на борце новага парахода; вось ужо чатыры гадзіны мы знемагалі каля Кранштата, але нішто па-ранейшаму не прадвяшчала ад'езду. Чорныя і маркотныя лодачкі штохвілінна выходзілі з горада і накіроўваліся ўнаш бок; хоць мы стаялі на якары непадалёк ад сьцен умацавання, вакол панавала поўная цішыня... Ні адзін голас не гучаў у нетрах гэтай магілы; цені, слізгаўшыя вакол нас па вадзе, былі нямыя, як тыя камяні, якія яны толькі што пакінулі; здавалася, перад намі пахавальная працэсія, марудзячая ў чаканні нябожчыка, які прымушае сябе чакаць. Змрочнымі, неахайнымі лодкамі кіравалі людзі ў грубых ваўняных балахонах шэрага колеру, якія глядзелі проста перад сабой нічога не выказваючымі, вачыма; іх безжыццёвыя асобы адлівалі жаўцізной. Мне сказалі, што гэта матросы мясцовага гарнізона; па выглядзе яны былі падобныя на жаўнераў. Ужо даўно развіднела, але святлей не стала; паветра зрабілася душным, сонца яшчэ не паднялося высока, але яго прамяні адбіваліся ад вады і сляпілі мне вочы. Некаторыя лодкі моўчкі кружылі каля нас, не падыходзячы блізка; іншыя, прыводзімыя ў рух шасцёркамі альбо тузінамі абадраных весляроў у брудных кажухах, прыставалі да нашага борта, каб высадзіць чарговага паліцэйскага

чыноўніка, афіцэра мясцовага гарнізона альбо запазніўшагася мытніка; гэтая мітусьня, ніяк не паскорваўшая наш ад'езд, навяла мяне на сумныя разважанні аб выключнай неахайнасці жыхароў поўначы. Паўднёўцы праводзяць ўсё жыццё пад адкрытым небам або ў вадзе; яны вечна ходзяць напалову апранутымі; паўночнікі ж, вымушаныя амаль ніколі не развітвацца з адзеннем, як быццам бы сочацца тлушчам і здаюцца



мне значна менш ахайнымі, чым жыхары поўдня, народжаныя для таго, каб грэцца ў сонечных промнях.

Пакутуючы ад нуды праз рускую скурпулёзнай, я меў выпадак заўважыць, што знатныя падданыя Расійскай імперыі вельмі крытычна ацэньваюць уладкаванне іхнага грамадства, калі гэтае ўладкаванне дадае ім нязручнасцей.

"Расея – краіна бескарысных фармальнасцуй", – шаптал іяны адзін аднаму, аднак шапталі па-французску, баючыся, як бы іх не зразумелі ніжэйшыя чыны. Я запомніў гэтую думку, ў справядлівасці якой паспеў ужо тады пераканацца на ўласным вопыце. Мяркуючы па тым, што я мог пачуць і ўбачыць пазней, твор пад назвай "Рускія пра саміх сябе" мог бы выявіцца кнігай вельмі суровай; для рускіх любоў да радзімы – не больш чым сродак падлізацца да іх кесара; варта ім пераканацца, што гасудар іх не чуе, і яны пачынаюць абмяркоўваць усё навакол са шчырасцю тым больш небяспечнай, што адказнасць за яе яны падзяляюць са сваімі слухачамі. Нарэшце нас апавясцілі пра нагоду такога доўгага прамаруджвання. Галоўны з галоўных, вярхоўны з вярхоўных, начальнік над усімі начальнікамі мытні паўстаў перад намі: яго-та прыбыцця мы і чакалі ўвесь гэты час, самі таго не ведаючы. Гэты вярхоўны ўладыка ходзіць не ў мундзіры, але ў фраку, як просты смяротны. Здаецца, яму прызначана выконваць ролю свецкага чалавека: для пачатку ён пачаў гаварыць кампліменты рускім дамам; ён нагадаў княгіні Д*** аб іх сустрэчы ў доме, дзе княгіня ніколі ў жыцці не бывала; ён пачаў размаўляць з ёй пра прыдворныя балі, на якіх яна яго ні разу не бачыла; адным словам, ён ламаў камедыю перад усімі намі, а больш за ўсё перада мной, чужаземцам, нават не падазраваючы, што ў краіне, дзе ўсё жыццё распісана, дзе месца кожнага вызначана раз і назаўжды яго капелюшом і эпалетамі, чалавек можа прыкідвацца куды больш уплывовым, чым ён ёсць на самай справе; зрэшты, па сваёй сутнасьці, чалавек ўсюды аднолькавы...

Наш свецкі мытнік між тым, працягваючы бліскаць прыдворнымі манерамі, вытанчанейшым чынам канфіскуе ў аднаго пасажыра парасон, а ў іншага чамадан, прыбірае да рук жаночы нэсэсэр і, захоўваючы самы поўны спакой і стрыманасць, працягвае дагляд, ужо зроблены яго добрасумленнымі падначаленымі.

У рускіх чыноўнікаў стараннасць нікольки не выключае бязладдзя. Яны здзяйсняюць вялікія намаганні дзеля нікчэмнай мэты, і іхная службовая стараннасць проста такі не ведае межаў. Саперніцтва чыноўнікаў прыводзіць да таго, што, вытрымаўшы допыт аднаго з іх, іншаземец можа вельмі хутка трапіць у рукі іншага. Гэта той жа разбой: калі падарожніка абрабавалі адны бандыты,

гэта ніяк не азначае, што назаўтра ён не можа сустрэць іншых, а праз тры дні – трэцціх, прычым кожная з гэтых шаек зробіць з ім усё, што яе душы заўгодна.

**~115~**

Лёс чужаземца-вандраўніка залежыць толькі ад характару чыноўніка, у рукі якога ён трапляе. Калі гэты апошні не грашыць залішняй нясмеласцю і ў яго паўстане жаданне прычапіцца, чужаземцу ніколі не даказаць сваёй праты. І гэтая-та краіна жадае праславіцца цывілізаванай на заходні манер!.. Вярхоўны ўладыка імперскіх турэмшчыкаў аглядаў судна не спяшаючыся; ён вяршыў свой суд павольна, бясконца павольна; неабходнасць падтрымліваць гутарку адцягвала гэтага саладжавага цэрбера – саладжавага не толькі ў пераносным, але і ў прамым сэнсе слова, бо ён цадзіў прыкры пах мускуса – ад выканання яго непасрэдных абавязкаў. Нарэшце мы пазбавіліся ад мытных цырымоній і паліцэйскай ветлівасьці, ад ваенных прывітанняў і сузірання бязглуздай, неймавернай галечы, увасабленнем якой з'яўляюцца весляры, якія перавозяць спадароў чыноўнікаў. Паколькі я нічым не мог дапамагчы гэтым няшчасным, іхны выгляд зрабіўся для мяне агідны, і кожны раз, калі яны прывозілі на наш карабель пасланнікаў мытні і марской паліцыі, самай суровай з усіх, я адводзіў вочы. Гэтыя матросы, апрануты ў рыззё, гэтыя нямытыя катаржнікі, у чый абавязак ўваходзіць дастаўляць Кранштацкіх чыноўнікаў і афіцэраў на борт замежных судоў, ганьбяць краіну. Гледзячы на іх твары і разважаючы аб тым, што гэтыя бяздольныя істоты лічаць жыццём, я задаваўся пытаннем, за якія грахі Гасподзь асудзіў шэсцьдзесят мільёнаў сьмяротных на вечнае знаходжанне ў Расіі. Перад самым адплыццём я наблізіўся да князя К*** і сказаў яму:

– Вы рускі, выкажыце ж павагу да сваёй краіны і пераканайце міністра ўнутраных спраў ці міністра паліцыі перамяніць ўсё гэта: хай ён аднойчы прыкінецца простым чужаземцам, накшталт мяне, і выправіцца ў Кранштат, каб на ўласным вопыце пераканацца, што значыць – ўязджаць у Расію.

– Гэта не мае сэнсу, – адказаў князь, – імператар тут нямоглы.

– Імператар – так, але міністры!

Нарэшце мы зняліся з якара, на вялікую радасць рускіх князёў і княгінь, прадчуваючых блізкую сустрэчу з роднымі і Бацькаўшчынай; шчасце, напісанае на іхных тварах, абвяргала назіранні любекскага карчмара, але, магчыма, то было выключэнне, якое, як вядома, толькі пацвярджае правіла. Што ж да мяне, то я не толькі не радаваўся, але, наадварот, з баязню думаў пра тое, як развітаюся з чароўным грамадствам, што атачала мяне на борце, і застануся адзін у горадзе, наваколлі якога наводзяць на мяне такую роспач; зрэшты, наша створанае па волі выпадку грамадства больш ўжо не існуе; як толькі на гарызонце замаячыла гавань, далікатныя повязі – вынік мімалётнага капрызу падарожнікаў – у той жа моман зніклі.

**~116~**

Так бывае з небам: вячэрні ветрык нагрувашчвае на яго краі аблокі, промні заходзячага сонца асвятляюць іх мудрагелістыя формы, якія не выдумаць чалавеку з самым буйным уяўленнем; нашаму погляду з'яўляюцца чароўныя палацы, населеныя фантастычнымі істотамі, німфы і багіні, вядучыя ў вышыні

свой вясёлы карагод, гроты, служачыя прытулкам сірэн, і выспы, плывучыя па вогненным моры; адным словам, перад вамі паўстае новы свет, а калі побач з усімі гэтымі чароўнымі стварэннямі і ўзнікае якая-небудзь пачвара, якое-небудзь безвобразнае стварэнне, іхная пачварнасць толькі падкрэслівае дасканаласць іншых выяў; варта, аднак, ветру змяніцца або проста сціхнуць, а сонцу зайсці, і ўсё знікае... марам прыходзіць канец, холад і пустата праганяюць дзяцей святла, змярканне з іх чарадой ілюзій растае – надыходзіць ноч. Жыхаркі Поўначы добра ўмеюць рабіць выгляд, што выбралі па сваёй волі тое жыццё, якое вядуць згодна волі лёсу. Гэта – не хлусня, але вытанчанае какецтва, ветласць у дачыненні да ўласнага лёсу. Гэта – праява вышэйшай вытанчанасці, вытанчанасці, якая заўсёды натуральна, што не перашкаджае людзям прыкрываць ім падман: бліскучыя жанчыны і надзеленыя паэтычным дарам мужчыны ўмеюць абыходзіцца без жорсткасьці і прымусу ў тых абставінах, дзе гэтыя якасці здаюцца амаль непазбежнымі; тыя і іншыя – найвялікшыя ашуканцы: адным узмахам рукі яны праганяюць сумневы, і ўсе стварэнні іхнага ўяўлення адразу знаходзяць жыццё; іхныя апавяданні прымаюцца на веру любымі суразмоўцамі; нават не падманваючы іншых, яны хлусяць самі сабе, бо іхная стыхія – рэпутацыя; іхнае шчасце – іллюзія; іхнае прызначэнне – задавальненне, што грунтуецца на бачнасці. Бойцеся жаночай вытанчанасці і мужчынскіх вершаў – зброі тым больш грознай, што яе мала хто баіцца!

Вось пра што думаў я, пакуль карабель наш аддаляўся ад Кранштацкіх сцен: усе мы яшчэ знаходзіліся на яго борце, але ўжо не складалі адзінага цэлага; ад грамадства, яшчэ ўчора перапоўненага таемнай гармоніяй, гэтак рэдка асяняючай чалавечыя супольнасці, адляцела душа. Мала што напаўняе сэрца такім смуткам, як гэтая раптоўная перамена; я выдатна ведаю, што так канчаюцца ўсе мірскія радасці, бо ўжо сотню разоў пераконваўся ў гэтым, але далёка не заўсёды прасвятленне надыходзіла гэтак імклівa; да таго ж, што можа быць горай бяды, у якой няма каго абвінаваціць? На маіх вачах кожны рыхтаваўся працягнуць свой шлях; кожнага з вандроўнікаў, якія вярталіся да штодзённасьці, чакала пракладзеная дарога; развітаўшыся са свабодай, што даруецца падарожжам, усе яны вярталіся ў свет рэчаіснасьці, я ж заставаўся ў царстве хімераў; я толькі і раблю, што бадзяюся па розных краінах, а вечна бадзяцца – яшчэ не значыць жыць. Мяне ахапіла пачуццё глыбокай адзіноты: я параўнаў сваё вандраўніцкае сіроцтва з хатнімі радасцямі сваіх спадарожнікаў.

**~117~**

Адзінота мая была добраахвотнай, але хіба станавілася ад гэтага больш радаснай?.. У той момант любы становішча здавалася мне больш прывабным за маю незалежнасць, і я з зайздрасцю думаў нават пра клопаты сямейныя. Астатнія ж пасажыры думалі хто аб двары, хто аб мытні; бо, не гледзячы на час, страчаны ў Кронштаце, асноўны наш багаж яшчэ не прайшоў адгляду; пасажыраў трывожыў лёс упрыгожванняў і прадметаў раскошы, а можа быць, нават кніг; ўчора гэтыя людзі бязбаязненна пераадольвалі хвалі, а сёння ўздрыгваюць пры выглядзе чыноўніка!.. У вачах жанчын я чытаў прадчуванне сустрэчы з мужамі, дзецьмі, краўчыхай, цырульнікамі і прыдворнымі на балях; чытаў я ў іх і іншае:

не гледзячы на ўчашнія запэўніванні, дамам больш не было да мяне ніякай справы. У жыхароў Поўначы ненадзейныя сэрцы і падманлівыя пачуцці; прыхільнасці іх хісткія, нібы блеклыя прамяні іх сонца; не даражыўшыя нічым і нікім, без шкадавання пакідаючыя родную зямлю, створаныя для набегаў, народы гэтыя закліканыя толькі да таго, каб згодна Гасподняй волі час ад часу пакідаць полюс і астужваць народы Поўдня, палімыя агнём свяцілаў і жарам захапленняў. У Пецярбургу, не паспелі мы прыстаць да берага, як мае тытулаваныя сябры набылі свабоду; яны пакінулі турму, якая дала ім прытулак на час шляху, нават не развітаўшыся са мной – чужаземцам, застаючымся ў паліцэйскіх і мытных кайданах. Для чаго развітанні? Я быў для іх мярцвяк. Якая справа маці сямейства; да вандроўнага спадарожніка?.. Я не дачакаўся ні ветлівага слова, ні погляду, ні ўспаміну!.. Чароўны ліхтар згас; дзейства скончылася. Паўтараю: я прадбачыў гэтую развязку, але не думаў, што яна прычыніць мне такую боль, – нездарма гаворыцца, што галоўная крыніца нечаканасцей для нас – мы самі! Тры дні таму назад дзве ветлівыя вандраўніцы ўзялі з мяне слова, што я наведаю іх у Пецярбургу; двор сёння ў горадзе, я яшчэ не быў прадстаўлены; я пачакаю.

# Ліст восьмы

*Выгляд Пецярбурга з боку Нявы. – Архітэктура. – Супярэчнасць паміж характарам мясцовасці і стылем будынкаў, запазычаным у паўднёвай цывілізацыі. – Безсэнсоўнае перайманне помнікаў Грэцыі. – Прырода ў ваколіцах Пецярбурга. – Перашкоды, учыняемыя мытняй і паліцыяй. – Допыт з прыхільнасцю. – У мяне забіраюць кнігі. – Цяжкасьці высадкі на бераг. – Выгляд вуліц. – Помнік Пятру Вялікаму. – Ён не заслугоўвае сваёй славы. – Зімовы палац. – Яго перабудавалі за адзін год. – Якім коштам? – Цытата з Герберштэйна. – Карамзін. – Праз ганарыстасць рускія не заўважаюць нялюдскасць свайго ўрада. – Палітыка самаўладдзя адпавядае духу нацыі.*

**Пецярбург, 4 ліпеня 1839 года[191], вечар**

Пецярбургскія вуліцы нязвыклыя для французскага вока; я паспрабую апісаць іх вам, але спачатку хачу распавесьці пра выглядз Пецярбурга з боку Нявы. Выгляд гэты славіцца ва ўсім свеце, і рускія па праву ім ганарацца; зрэшты, мне падалося, што захапленні гледачоў у дадзеным выпадку злёгку перабольшаныя. Некалькі званіц, паўстаючыя погляду здалёку, выклікаюць не столькі захапленне, колькі здзіўленне. Вузкая палоска зямлі на гарызонце дзе-нідзе патаўшчаецца – вось і ўсё, а паміж тым гэтыя ледзь прыкметныя няроўнасці глебы па сутнасць грандыёзныя помнікі новай расійскай сталіцы.

[191] На самай справе сфінксы перад Акадэміяй мастацтваў натуральныя, набытыя ў 1832 г. у Егіпце ў Мехмета-Алі. Памылку заўважылі шмат хто із рускіх чытачоў. Вяземскі 1/13 сьнежня 1843 г.; у чаканні другога, “выпраўленага” выдання пісаў А. І. Тургеневу: “Пажадана ведаць, як ён (Кюстын) дакажа, напрыклад, што (...) гранітныя сфінксы – дурная копія” (НЛА '. С. 12ч). У друку памылку Кюстына не прамінуў адзначыць Грэч (гл.: Gretch. P. 25-26).

Здаецца, быццам бачыш лінію, праведзеную няўпэўненай рукой дзіцяці, якое навучаецца геаметрыі. Падплыўшы бліжэй, вы пачынаеце адрозніваць званніцы праваслаўных храмаў, пазалочаныя купалы манастыроў і творы менш даўняга часу: франтон Біржы, белыя каланады школ, музеяў, казармаў і палацаў, якія стаяць уздоўж гранітнай набярэжнай; ўжо ў самім горадзе вы праплываеце міма сфінксаў, высечаных таксама з граніту; памеры іх каласальныя, аблічча велічнае. Як творы мастацтва гэтыя копіі антычных тварэнняў[192] не каштуюць роўна нічога, але думка выбудаваць горад, які складаецца з адных палацаў, пышная! Тым не менш, перайманне класічных помнікаў непрыемна дзівіць вас, калі вы ўспамінаеце пра тое, у якіх шыротах знаходзіцеся.

**~119~**

Зрэшты, вельмі хутка позірк ваш дзівяць шматлікія і разнастайныя шпілі, вежы, іголкі; тут, ва ўсякім разе, вы знаёміцеся з нацыянальнай архітэктурай. Вакол Пецярбурга размешчана мноства прасторных пабудоў, увянчаных званіцамі, – гэта манастыры, святыя паселішчы, апярэзваючыя паселішчы мірскіх людзей. Рускія царквы захавалі сваё самабытны аблічча. Не рускія вынайшлі той цяжкавагавы і пераборлівы стыль, што называецца візантыйскім. Але рэлігію сваю рускія атрымалі ад грэкаў; з Візантыяй іх звязваюць нацыянальны характар, вераванні, адукацыя, гісторыя, таму запазычваць што-небудзь у Візантыі для іх зусім натуральна; што ж, хай бяруць за ўзор архітэктуру Канстантынопаля – але не Афін. З борта карабля пецярбургскія набярэжныя здаюцца велічнымі і раскошнымі, але, ступіўшы на сушу, вы адразу выяўляеце, што гэтыя самыя набярэжныя вымашчаныя брыдкімі камянямі, няроўнымі, выродлівымі, стольк і ж непрыемны для вока[193], колькі і небяспечны для пешаходаў і экіпажаў. Некалькі пазалочаных шпіцаў, тонкіх, нібы грамаадводы; порцікі, падстаўкі якіх ледзь не сыходзяць пад ваду; плошчы з калонамі[194], губляючыяся сярод веліэзных пустых прастораў; антычныя статуі, чые рысы, стыль і аблічча так ашаламляльна супярэчаць тутэйшай глебе, колеру неба і клімату, а роўна асобам, вопратцы і звычкам мясцовых жыхароў, што статуі гэтыя нагадваюць палонных герояў у стане ворага; будынкі, якія стаяць не на сваім месцы, храмы,

---

[192]

[193] Проціпастаўленне, на якое нярэдка паказвалі французкія вандроўцы, якія прыбывалі ў Пецярбург марскім шляхам; гл., напрыклад, у “Заўвагі пра Расію”(1818 Бернард дэ Сен-П'ера): “ўбачаным з Нявы, горад асляпляе сваёй пышнасьцю. Але гэтае ўражанне знікае, як толькі ты падплываеш бліжэй і выяўляеш перад сабой не больш чым тэатральную дэкарацыю. Усе гэтыя архітэктурныя шэдэўры ўзведзены із дрэва, цэглы і вапны? ўсе гэтыя ўпрыгожванні выкананы блага” (Voyage en Russie. P. 209).

[194] Пар. аналагічныя ўражанні ў выдадзенай у Пецярбургу па-французску кнізе “Прагулкі святога назіральніка па Санкт-Пецярбургу” (i8n; яе аўтар, Г. Т. Фабер, рускі чыноўнік, пражыў некалькі гадоў у Францыі і нават ваяваў у шэрагах рэвалюцыйнага войска): “Санкт-Пецярбург хочацца назваць горадам з калонамі. Запал да калонаў пануе паўсюль, за калонамі іанічнага ордэна хаваюцца часам і карэтны хлеў, і майстэрня краўца” (Faber. T. 2. P. 133); Фабер адзначае таксама, што Пецярбург з яго прамымі лініямі элегантны, але залішне манатонны, пазбаўлены пікантнасьці: “Мне хацелася час ад часу бачыць сярод плоскіх дахаў высока паднятыя гарышчы, хацелася б, каб у аднастайны шэраг фасадаў з калонамі ўрываўся гатычны храм з яго вежамі, вітражамі, паглыбленнямі і таямнічымі галерэямі. Я хацеў бы, каб акрамя вуліц, пракладзеных па лінейцы, мне трапляліся і вулачкі крывыя, абуджаючыя цікавасць...” (Faber. T. 2. P. 137).

служцы ісці за мной, пакідаю раскошную гасцініцу – звонку палац, знутры пазалочанае, абабітае аксамітам і шоўкам стойла.

Гасцініца Кулона выходзіць на нешта накшталт сквера, па тутэйшых мерках даволі ажыўленага. Побач з гэтым скверам размешчаны новы Міхайлаўскі замак[214] – шыкоўная рэзідэнцыя вялікага князя Міхаіла, брата імператара. Рашотка гэтага палаца адразу прыцягнула маю ўвагу, і я накіраваўся да яе. Палац быў пабудаваны для імператара Аляксандра, які, аднак, ніколі ў ім не жыў. Ад плошчы, акружанай з трох іншых бакоў выдатнымі дамамі, прамянямі разыходзяцца выдатныя вуліцы. Дзіўная выпадковасць! Не паспеў я адысьці ад новага Міхайлаўскага замка, як апынуўся перад старым[215]. Гэта – пrасторны квадратны будынак, змрочны і ва ўсіх адносінах адрозны ад свайго вытанчанага і сучаснага цёзкі. Калі людзі ў Расіі маўчаць, то камяні кажуць і енчаць. Не дзіўна, што рускія баяцца сваіх старадаўніх помнікаў і пакідаюць іх у заняхайнасьці; гэтыя помнікі – сведкі іх гісторыі, якую яны часцей за ўсё жадалі б забыць; убачыўшы цёмныя прыступкі, глыбокія каналы, масіўныя масты, пустынныя перыстылі гэтага змрочнага замку, я стаў распытваць пра яго назву, гэтая ж назва не магла не нагадаць мне пра катастрофу, якая ўзвяла на пасад Аляксандра; я адразу ўявіў сабе ва ўсіх падрабязнасьцях фатальную сцэну, якая паклала канец цараванню Паўла І.

Але гэта яшчэ не ўсё: крывавая іронія лёсу складаецца ў тым, што пры жыцці ўладальніка гэтага змрочнага замка перад галоўным уваходам ўсталявалі конную статую яго бацькі Пятра ІІІ, другой няшчаснай ахвяры, чыё імя імператар Павел імкнуўся акружыць пашанай, каб зняважыць імя сваёй слаўнай маці[216]. Колькі халодных трагедый разыгралася ў гэтай краіне, дзе славалюбства і нават нянавісць старанна хаваюцца пад маскай спакою!! Жыхары поўдня перапоўнены запалу, і гэтая гарачыня да нейкай ступені прымірае мяне з іхнай жорсткасьцю; аднак разважлівая стрыманасць і уменне трымаць сябе ў руках жыхароў поўначы накідаюць на злачынства покрыва крывадушнасьці: снег – маска; ў тутэйшых краях чалавек здаецца добрым, таму што ён абыякавы, аднак людзі, якія забіваюць без нянавісці, выклікаюць у мяне значна большае агіду, чым тыя,

---

[214] Новы Міхайлаўскі замак, ці палац, быў пабудаваны на Міхайлаўскай плошчы (пасьля плошчы Мастацтваў) згодна праекта К. І. Росі ў 1819-1825 гг. не для Аляксандра І, а для яго брата вялікага князя Міхала Паўлавіча (1798-1849) - На гэтую памылку паказаў Грэч (Gretch. P. 30).

[215] Стары Міхайлаўскі замак быў пабудаваны ў 1797-1800 гг. згодна праекта архітэктара В. Ф. Брэна для Паўла І і названы Міхайлаўскім ў гонар архангела Міхаіла, якога Павел лічыў сваім нябесным заступнікам. Рэзідэнцыяй імператара замак стаў 1 лістапада 1800 года, а ў ноч з 11 на 12 сакавіка наступнага, 1801 г. імператар быў забіты змоўшчыкамі ў сваёй спальні ў Міхайлаўскім замку, пасьля чаго царская сям'я зноў вярнулася ў Зімовы. У 1819 г. у замку размясцілася Галоўнае інжынернае вучылішча, і ён стаў называцца Інжынерным.

[216] Пятро ІІІ (1728-1762) быў пазбаўлены пасада і забіты прыхільнікамі яго жонкі, маці Паўла І Кацярыны ІІ. Конная статуя перад Міхайлаўскім замкам, усталяваная падчас царавання Паўла І, у 1800 г., была выявай, аднак, не Пятра ІІІ, а Пятра І. Яе ўпрыгожваў надпіс “Прадзеду ад праўнука” (палемічны парафраз надпісу, складзенаму Кацярынай ІІ для Меднага вершніка). На гэтую памылку паказаў Грэч (Gretch. P. 30); пар. каментар Кюстына ў выданні 1854: “Пасьля таго, як мая кніга была выдадзена, рускія пачалі запэўніваць мяне, што гэтая статуя прысвечана Пятру І. Магчыма, яе паспелі перахрысціць”.

чыя мэта – помста. Хіба культ помсты не больш натуральны, чым здрада з карысці? Чым менш праугледжаны злы ўчынак, тым менш ён мяне жахае. Да няшчасця, забойцы Паўла кіраваліся не гневам, але разлікам; яны дзейнічалі вельмі прадбачліва. У Расіі знаходзяцца дабракі, якія сцвярджаюць, што змоўшчыкі мелі намер усяго толькі арыштаваць цара.

**~134~**

Я бачыў таемныя дзверы, якія выходзяць у сад непадалёк ад шырокага рова, і патаемную лесвіцу, якая вядзе да пакояў імператара: гэтым шляхам Пален прывёў забойцаў[217].

Вось што ён сказаў ім напярэдадні ўвечары: "Альбо заўтра ў пяць раніцы вы заб'еце імператара, альбо ў палове шостага я выдам вас яму». Сумнявацца ў поспеху гэтай выразнай і лаканічнай прамовы не даводзілася. Сказаўшы гэтыя словы, Пален, баючыся запозненых прыступаў раскайвання, пайшоў з дому і вярнуўся толькі позна ноччу; каб напэўна не сустрэцца ні з кім са змоўшчыкаў перш прызначанай гадзіны, ён пачаў аб'язджаць гарадскія казармы: яго цікавіў настрой войска. Назаўтра ў пяць раніцы Аляксандр стаў імператарам і праславіўся бацьказабойцай, хоць даў згоду (я ў гэта веру) толькі на арышт свайго бацькі, бо хацеў выратаваць сваю маці, ды і самога сябе[218], ад турмы, а можа быць, і ад сьмерці, а ўсю краіну – ад прыступаў лютасьці і вар'яцкіх жаданняў самаўладцы. Сёння рускія праходзяць міма старога Міхайлаўскага замка, не асмельваючыся падняць на яго вочы: у школах, ды і наогул дзе б там ні было забаронена распавядаць пра смерць імператара Паўла[219]; больш за тое, забаронена прымаць на веру гэты эпізод, абвешчаны выдумкай.

Мне дзіўна, што замак, які абуджае такія нязручныя ўспаміны, не зруйнавалі: для вандроўцы ўбачыць старадаўні будынак у краіне, дзе згодна волі

---

[217] Хаця атрадам змоўшчыкаў, якія ўварваліся ў спальню імператара, камандаваў не граф Пятро Аляксеевіч Пален (1745-1826), у той час пецярбургскі ваенны губернатар, а генера-лейтэнант Лявонцій Лявонцьевіч Бенігсен (1745-1826), сапраўдным арганізатарам змовы быў Пален, які трымаў ўсе яго ніткі ў сваіх руках. Звесткі аб забойстве Паўла Кюстын мог запазычыць з такіх французскіх кніг, як "Расійская гісторыя" Левека (гл. пра яе ніжэй заўв. да цяп. тома, с. 368), "Гісторыя Аляксандра I" Рабі (1826), "Філасофская і палітычная гісторыя Расіі" Эно і Шеншо (1828-1830), "Расія" Шапэна (1838); ўсе яны абапіраліся на ананімны мемуарны дакумент, упершыню надрукаваны ў сакавіку 1820 г. у парыжскім часопісе "Revue encyclopedique" пад назвай "Смерць імператара Паўла. Урывак з дзённіка сучасніка" (гл.: Эйдэльман Н. Я. Гронкі стагоддзяў. М., 1982. С. 178-179).

[218] Змоўшчыкі пераканалі Аляксандра, што ў Паўла ўжо гатовы загад аб яго арышце.

[219] Тое ж адзначалі і іншыя французскія мэмуарысты: так, дыпламат Ф. Кюссі пісаў: "... згодна загада расійскага імператара забаронена распавядаць у школах пра тое, што Пятрор III і Павел I былі забітыя. Не, два гэтыя гаспадары "памерлі ад апаплексічнага ўдару", як пісаў с-р дэ Крюдэнер, расійскі павераны ў справах ў Берліне, паведамляючы ў запісцы, якую я бачыў на ўласныя вочы, генералу Бернанвілю, французскаму пасланцу у Прусіі, аб сьмерці імператара Паўла. Гісторыя, перакроены згодна загада цара і ва ўгоду яго волі, становіцца, аднак, для ўсіх рускіх неабвержнай ісьцінай; пры мне рускі генеральны консул с-р Бутца строга выгаворваў французскай гувернантцы мадэмуазель Нарбель, якая распавяла яго дочкам на ўроку гісторыі пра тое, што Пятра III і Паўла I забілі. "Падумаць толькі, - абураўся ён, - гэтая асоба адважылася тлуміць маіх дачок такімі подлымі выдумкамі!" (Cussy F. de. Souvenirs. P., 1909. T. s. P. 231 - 232).

дэспата паўсюль пануюе навізна і аднастайнасць, дзе думка кіраўніка штодня знішчае сляды мінулага, – вялікі поспех. Зрэшты, менавіта зменлівасць меркаванняў і выратавала Міхайлаўскі замак: пра яго забыліся. Гэтая квадратная грамада, акружаная глыбокімі іравамі, гэты замак, абвеяны трагічнымі ўспамінамі, з яго патаемнымі  дзвярамі і лесвіцамі, натхняе на злачынства, мае велічны выгляд, што ў Пецярбургу сустракаецца не так ужо часта; ў дадатак – і гэта таксама вялікая рэдкасць – ён скіраваны ўвысь, у адрозненне ад усіх іншых тутэйшых пабудоў, распластаных па зямлі. На кожным кроку я са здзіўленнем заўважаю, што пецярбургскія архітэктары змешваюць разам два такіх розныя мастацтвы, як ўзвядзенне будынкаў і пабудова дэкарацый. Пятро Вялікі і яго пераемнікі прынялі сталіцу за тэатр.

Мяне ўразіла разгубленасць, з якой мой правадыр выслухоўваў мае цалкам натуральныя пытанні[220] якія мелі дачыненне да падзей, адбыўшыхся некалі ў старым Міхайлаўскім замку. На твары ў гэтага чалавека было напісана: "Адразу відаць, што вы ў нас нядаўна".

Як бачыце, тут ёсць рэчы, пра якія ўсе думаюць, але ніхто не кажа ў голас. Здзіўленне, жах, недавер, выробленая нявіннасць, прытворная недасведчанасць, дасьведчанасьць старога прайдзісвета, якога цяжка правесці, – усе гэтыя пачуцці выяўляліся па чарзе на твары



служкі, ператвараючы яго твар у пацешную і павучальную кнігу паза жаданнем гэтага чалавека.

Шпіён, абяззброены вашым ўяўным спакоем, становіцца смешны, бо, зразумеўшы, што вы не баіцеся яго, пачынае баяцца вас; шпіён верыць толькі ў шпіёнства і, калі вам атрымалася выслізнуць з яго сетак, ўяўляе, што сам неадкладна трапіць ў вашы.

Шпацыр па пецярбургскім вуліцах пад аховай мясцовага служкі – рэч, запэўніваю вас, вельмі займальная і ані не падобная на паездкі па сталіцах іншых краін цывілізаванага свету. У дзяржаве, кіруемай з той жалезнай логікай, якая ляжыць у аснове рускай палітыкі, няма нічога выпадковага. Пакінуўшы трагічны і старадаўні Міхайлаўскі замак, я перасёк шырокую плошчу, прасторную і безлюдную якая нагадвае парыжскае Марсава поле[221]. Грамадскі сад па адзін бок, некалькі дамоў па другі, пасярэдзіне пясок і паўсюль пыл – вось і ўся плошча; форма яе няпэўная, велічыня велізарная; яна падыходзіць да самой Нявы; там, бліжэй да вады, усталяваны бронзавы помнік Сувораву[222].

---

[220] Ўтоенасць рускіх адзначаў нават захоплены д'Арленкур, які пісаў, што “з рускіх вельмі цяжка выцягнуць тое, пра што хочацца даведацца, асабліва калі справа мае дачыненне да палітыкі” і што ў Расіі “ўсё таямніца і змрок, не столькі таму, што там усё прасякнута варварствам і дэспатызмам, колькі таму, што там ніхто не схільны да галоснасьці і абмеркавання. Там не камэнтуюць, а выконваюць. Там не крытыкуюць, а шануюць” (Arlincowt. т. 1. р. 188, 192).

[221] Гэтая прастора (асушанае на пачатку XVIII стагоддзя балота), якое да пачатку XIX стагоддзя называлася Праменад, Пацешным полем або Царыцыным лугам, у 1839 г. называлася ў Пецярбургу сапраўды гэтак жа, як і ў Парыжы, Марсавым полем.

[222] Помнік Сувораву быў закладзены ў 1800 г. Паўлам І; адкрыты ў прысутнасці Аляксандра І 5 траўня 1801 г., у першыя ўгодкі сьмерці палкаводца.

Нява, яе масты і набярэжныя складаюць сапраўдную славу Пецярбурга. яна такая шырокая, што побач з ёй усё здаецца маленькім. Нява – пасудзіна, напоўненая да краёў вадой, якая гатовая ў кожны час выплеснуцца за гэтыя краі. Згодна майго меркавання, Венецыя і Амстэрдам куды лепш абаронены ад мора, чым Пецярбург. Я не люблю плоскіх гарадоў; без сумневу, суседства з ракой, шырокай, як возера, і бягучай па забалочанай раўніне сярод нябесных туманаў і марскіх выпарэнняў, ані не на карысць сталіцы. Рана ці позна вада пакарае чалавека за яго ганарыстасць: нават граніт нямоглы супрацьстаяць зімовым маразам, лютуе ў гэтым сырым ледніку; сцены і падставы ўмацавання, збудаванага Пятром Вялікім, ужо двойчы цярпелі паразу ў бітве з прыродай. Іх аднаўлялі – і прыйдзецца аднаўляць яшчэ не раз, каб захаваць гэта цудоўнае тварэнне ганарыстасці і волі.

Мне захацелася адразу ж перайсці на другі бераг і лепей разгледзець знакамітае ўмацаванне; для пачатку слуга прывёў мяне да размешчанага перад ім доміка Пятра Вялікага[223]; ад сьцен умацавання яго аддзяляе пустыр, перасечаны дарогай. Гэтая хаціна, як сцвярджаюць рускія, выглядае сёння дакладна гэтак жа, як выглядала пры Пятры. Ва ўмацаванні хаваюць імператараў і ўтрымліваюць дзяржаўных злачынцаў – дзіўны спосаб шанаваць памерлых!.. Разважаючы пра ўсе слёзы, якія праліваліся там, пад магіламі рускіх самаўладцаў, пачынаеш думаць, што патрапіў на пахаванне якога-небудзь азіяцкага ўладара. Нават магіла, амытая крывёю, уяўляецца мне меншым блюзнерствам; слёзы цякуць даўжэй магчымага, выклікаюць больш пакут. Жывучы ў хаціне, імператар-працаўнік назіраў за будаўніцтвам



сваёй будучай сталіцы. У хвалу яму варта сказаць, што тады ён больш клапаціўся пра горад, чым пра палац. Адзін з пакояў гэтай славутай халупы – той, што служыў цару-цесляру майстэрняй, – сёння ператворана ў капліцу; людзі ўваходзяць у яе з такой жа глыбокай павагай, як у самыя выдатныя храмы імперыі. Рускія ахвотна робяць са сваіх герояў святых. Ім падабаецца змешваць разам застрашаючыя цноты сваіх уладароў і цудатворную магутнасць іхных нябесных заступнікаў; яны імкнуцца асвяціць жорсткасці гісторыі аўтарытэтам веры. Іншы рускі герой, на мой густ, ніяк не заслугоўваючы захаплення, абвешчаны грэцкім святарствам сьвятым: гэта Аляксандр Неўскі[224], ўзор асцярожнасьці, але не ахвярнасьці. Руская царква кананізавала гэтага манарха,

[223] Домік Пятра – першая рэзідэнцыя Пятра І у Пецярбургу; Пятро жыў тут падчас прыездаў у будуючыся горад у 1703-1708 гг. Грэч папракаў Кюстына у тым, што звычайны вобраз з лампадкай, які ёсць ва ўсякім рускай доме, ён прыняў за знак глыбокай пашаны Пятру як святому (Gretch. p. 31); аб тым, што ў доміку Пятра захоўваецца "вобраз Збаўцы, які быў з героем-рэфарматарам падчас Палтаўскай бітвы", Кюстын мог прачытаць у Шніцлера (Schnitler. P. 222-223). З другога боку, меркаванне пра домік Пятра як пра "капліцу, у якой вялікага чалавека шануюць як святога", ўзнікала і ў іншых замежнікаў; гл. падобную рэакцыю нідэрландскага палкоўніка Гагерна (Расія. С. 673).

[224] Характарыстыка Аляксандра Неўскага (1220-1263), князя Наўгародзкага ў 1236-1251 гг., вялікага князя Ўладзімірскага з 1252 г., заснавана, верагодна, на вельмі вольнай трактоўцы адпаведнага месца Карамзіна (т. 4, гл. II), які некалькі разоў падкрэслівае "разважлівасць" і дыпламатычныя таленты князя, які ўмела ўпакорваў наракані падданых, вымушаных плаціць даніну татарскім ханам.

хутчэй мудрага, чым адважнага. Гэта – Уліс сярод святых. Яго мошчы спачываюць у пабудаваным для гэтай мэты велізарным манастыры. Магіла князя-святога[225] ў саборы Аляксандра Неўскага – сама па сабе сапраўдны помнік; на ёй усталяваны масіўны сярэбраны алтар, увенчаны срэбнай жа пірамідай, скіраванай да зводаў гэтага прасторнага храма. Манастыр з яго царквой і магілай – адно з рускіх цудаў. Размешчаны ён у канцы вуліцы, якая называецца Неўскі прашпект, у частцы горада, процілеглай умацаванню. Я разглядаў грабніцу Аляксандра Неўскага хутчэй са здзіўленнем, чым з захапленнем; мастацтва ў гэтым помніку няма і ў паміне, але яго раскоша здзіўляе ўяўленне. Адна думка пра тое, колькі людзей і зліткаў срэбра спатрэбілася для ўзвядзення такога маўзалея, напаўняе душу жахам. Я пабываў у манастыры гадзіну назад.

Вернемся да хаціны цара. Мне паказалі пабудаваны ім боцік і некаторыя іншыя рэчы, якія належалі яму і зьберагаемыя з глыбокай пашанай; каля іх нясе варту жаўнер-ветэран. У Расеі пры цэрквах, палацах і шматлікіх грамадскіх установах, а роўна і прыватных дамах служаць вартаўнікамі адстаўныя жаўнеры. Гэтыя няшчасныя пакідаюць казарму ў такім сталым веку, што ім не застаецца нічога іншага, акрамя як зрабіцца брамнікамі. На новай пасадзе яны працягваюць насіць жаўнерскую шынель – грубы ваўняны балахон цьмянага, бруднага колеру; каля дзвярэй любога дома, каля брамы любой грамадскай установы вас сустракаюць людзі, апранутыя такім чынам, – прывіды ў мундзірах, якія нагадваюць вам, што вы жывеце ў царстве дысцыпліны. Пецярбург – ваенны лагер, які стаў горадам.

Мой правадыр не пакінуў без увагі ні адну карціну, ні адну вёсачку ў імператарскай хаціне. Ахоўваючы яе ветэран, запаліўшы некалькі свечак у капліцы – іншымі словамі, славутай будцы, паказаў мне спальню Пятра Вялікага, імператара ўсяе Русі: цяперашні цясляр пасаромеўся б пасяліць у ёй свайго вучня.

**~137~**

Гэтая бліскучая сціпласць дае нам паняцце пра эпоху, краіну і чалавека; рускія выбіваліся з сіл дзеля будучыні, бо тыя, каму прызначаліся цудоўныя палацы, тады яшчэ не нарадзіліся на свет, тыя ж, хто іх будавалі, не адчувалі ніякай патрэбы ў раскошы і, задавальняючыся роляй асветнікаў, ганарыліся магчымасцю прыгатаваць палацы для сваіх далёкіх нашчадкаў, нявядомых уладароў будучыні. Спрэчкі няма, у жаданні народа і яго правадыра ўмацаваць магутнасьць і нават пацешыць ганарыстасць будучых пакаленняў выказваецца немалая веліч душы; падобная вера ў славу ўнукаў высакародная і своеасаблівая. Гэта пачуццё бескарыслівае, паэтычнае і нашмат

[225] У 1710 г. Пятро І заснаваў манастыр Жыватворнай Тройцы і Святога вялікага князя Аляксандра Неўскага ў памяць яго перамогі над шведамі ў Неўскай бітве 1240 г.; з 1724 тут былі пахаваны перанесеныя з Уладзіміра парэшткі князя – спачатку ў Благавешчанскай Александроўска-Неўскай царкве, а з 1790 г. - ў Траецкім саборы. "Гэты багаты маўзалей з балдахінам і пірамідальным помнікам зроблены са срэбра і важыць, як кажуць, каля 250 фунтаў: рака і ўпрыгожванні былі адліты ў 1752 г. згодна загаду Лізаветы з першага срэбра, здабытага ў сібірскіх Калыванаўскіх руднях"(Schnit ler. P. 211).

пераўзыходзячае пачуцці звычайных людзей і нацый, якія, выхоўваюць пашану не да нашчадкаў, а да продкаў.

У іншых краях вялікія гарады будуюцца ў памяць аб вялікіх дзеяннях мінулага або вырастаюць самі па волі абставін і гісторыі, без бачнага ўмяшання людскіх разлікаў, Пецярбург ж з яго раскошнымі пабудовамі і неабсяжнымі прасторамі – помнік, які рускія ўзвялі на славу сваёй будучай магутнасьці; надзея, натхняючая людзей на такія працы, здаецца мне велічнай! З часоў пабудовы Іерусалімскага храма вера народа ў свой лёс не стварала нічога больш цудоўнага, чым Санкт-Пецярбург. Самае ж выдатнае ў гэтай спадчыне, завешчанай імператарам яго славалюбівай дзяржаве, складаецца ў тым, што гісторыя яго не адвергла. Прароцтва Пятра Вялікага, увасобленае ў гранітных глыбах пасярод мора, на працягу цэлага стагоддзя спраўджваецца на вачах усяго свету. Калі разумееш, што падобныя фразы, якія застаюцца ў любой іншай краіне простымі словамі, тут служаць зусім дакладным апісаннем дакладных фактаў, перапаўняешся павагай і кажаш сабе: такая Госпадняя воля! Упершыню ганарыстасць здаецца кранальнай: ўсякае дзеянне, у якім спаўна выказваецца магутнасьць чалавечай душы, годна захаплення.

Зрэшты, гісторыя Расіі, што б ні сцвярджала на гэты конт невуцкая і легкадумная Еўропа, пачынаецца зусім не пры Пятры І: Санкт-Пецярбурга не зразумець, не ведаючы Масквы; з'яўленне імператара Пятра падрыхтавалі цары Яны. Вызваленне Масковіі ад шматвяковага чужаземнага прыгнёту; аблога і ўзяцце Казані Янам Жахлівым; жорсткія бітвы са шведамі і шмат іншыя больш ці менш бліскучыя падзеі – вось на чым трымалася ганарыстасць Пятра і пакорлівая вера ў яго рускага народа. Пакланенне невядомаму заўсёды паважна. Гэты жалезны чалавек меў права разлічваць на будучыню; людзі з такім характарам здзяйсняюць тое, пра што іншыя мараць. Я ўяўляю сабе, як з прастатой сапраўднага вяльможы, больш за тое, сапраўднага генія, сядзеў ён на парозе гэтай хаціны, назіраючы, як згодна яго загаду ствараецца на страх Яўропе горад, нацыя і гісторыя. Веліч Пецярбурга поўніцца глыбокім сэнсам; гэта магутнейшы



горад, які атрымаў перамогу над лёдам і балотамі, каб пасьля атрымаць перамогу над светам, хвалюе – хвалюе не столькі позірк, колькі розум! А між тым гэты цуд каштаваў сотню тысяч чалавечых жыццяў[226]: рускія сяляне пакорліва прынеслі іх у ахвяру смяротным балотах, якія сталі сёння сталіцай Расіі.

У Нямеччыне сёння нараджаецца навуковы шэдэўр: адну са сталіц ўмела ператвараюць у горад, падобны гарадам Грэцыі[227] ці старадаўняй Італіі; аднак новаму Мюнхену не хапае старажытнага народа: рускім не хапала б Пецярбурга. Выйшаўшы з хаткі Пятра Вялікага, я зноў перайшоў мост праз Няву, вядучы на

[226] Пар. у Міцкевіча: “Вядома, што жыхароў для гэтай сталіцы (Пецярбурга) звозілі гвалтоўна і што больш за сто тысяч іх загінула падчас яе пабудовы” (Міцкевіч. Т. 3. С. 290; Mickiewic ?.. P. 499).

[227] Баварскі кароль Людзвіг І (1786-1868; кароль з 1825 па 1848), знаўца і заступнік мастацтваў, імкнуўся ператварыць сваю сталіцу, Мюнхен, у культурны цэнтр Еўропы, “новыя Афіны”.

выспы, і ўвайшоў у пецярбургскае ўмацаванне[228]. Я ўжо казаў, што, хаця гэтаму умацаванню, сама назва якога наводзіць жах, не споўнілася яшчэ і ста сарака гадоў, яе гранітныя падставы і сцены ўжо двойчы патрабавалі абнаўлення[229]! Што за страшная барацьба! Тут камяні гэтак жа пакутуюць ад гвалту, як і людзі. Мне не дазволілі зазірнуць у казематы[230], ні ў тыя, што знаходзяцца пад вадой, ні ў тыя, што размешчаны пад дахам; ўсе яны поўныя вязняў. Мяне дапусцілі толькі ў сабор-пахавальню валадарачай сям'і[231]. Я стаяў перад гэтымі магіламі і працягваў шукаць іх вачыма, не ў сілах ўявіць, што гэтыя пакрытыя зялёным сукном з імператарскім гербам простыя каменныя пліты, даўжынёй і шырынёй не больш за ложак, хаваюць пад сабой прах Кацярыны I, Пятра I, Кацярыны II і шмат іншых манархаў аж да імператара Аляксандра. Грэцкая рэлігія выгнала скульптуры з храмаў, якія па гэтай нагоды страцілі немалую долю раскошы і пышнасці, але не зрабіліся асабліва аскетычнымі, бо візантыйская рэлігія мірыцца з пазалотай, разьбой і нават жывапісам, і не сталі больш размяшчаць да малітвы. Грэкі – нашчадкі іканаборцаў, але раз ужо яны палічылі магчымым крыху змякчыць ў Расіі суровыя погляды іх бацькоў, яны маглі б праявіць і яшчэ большую лагоднасць.

У гэтай змрочнай цытадэлі мёртвыя, як мне здалося, куды больш вальныя чым жывыя. Я задыхаўся ў яе сьценах. Калі б думка змясціць у адной магіле палонных імператара і палонных смерці, змоўшчыкаў і манархаў, супраць якіх яны задумалі ліхое, была прадыктавана філасафічнымі поглядамі, я паставіўся б да яе з павагай, але тут я не бачу нічога, акрамя цынізму абсалютнай улады, акрамя грубай саманадзейнасці дэспатызму. Звышнатуральная магутнасць дазваляе тырану грэбаваць дробнымі чалавечымі пачуццямі, уласцівымі любому іншаму валадару: расійскі імператар настолькі перапоўнены павагай да самога

[228] Гэтае ўмацаванне было закладзена згодна загада і плана Пятра I 16/27 траўня 1703 г. і да 1914 г. - афіцыйна называлася Санкт-Пецярбургскім (зараз - Петрапаўлаўскім).

[229] Каментар Грэча: "Няпраўда. Петрапаўлаўскае ўмацаванне стаіць да сёньня такім, якім было ўзведзена ў 1703 пры Пятры Вялікім. Пры імператрыцы Ганне, калі мне не змяняе памяць, яно было абліцавана гранітам, і граніт гэты цэлы і дагэтуль. Гадоў дванаццаць назад былі зроблены новыя працы, але толькі ўнутры" (Gretch. P. 31). На самай справе першапачатковыя ўмацаванні былі землянымі, у 1706-1740 гг. перабудаваныя із цэглы, у 1779-1786 гг. абліцаваныя з боку Нявы блокамі граніту.

[230] Каментар Грэча: ва ўмацаванні "ёсць казематы, але няма ніякіх сутарэнняў пад вадой або пад самым дахам"; пецярбургскае ўмацаванне ва ўсіх адносінах лепш чым Бастылія, куды няшчасных вязняў кідалі згодна паклёпу вяльможаў без суда і следства (Gretch. P. 34-35). Сучаснікі, аднак, мелі на гэты конт іншыя звесткі, пар., напрыклад, у лісьце А. Я. Тургенева да Н. Я. Тургенева ад 8 кастрычніка 1839 г. з Пецярбурга: "Трэццяга дня я атрымліваў у крэпасьці дараванне за месяц і бачыў калоднікаў; пераязджаючы на лодцы, я спытаў у перавозчыка: "Хто змяшчаецца ў вонкавых казематах блізу Нявы? - Дробныя арыштанты, - адказаў ён. - Дзе ж буйныя? - спытаў я. - Там унутры; гэтых ганяюць на працу, дзе я іх і бачыў, а тых нікуды"(РА ИРЛИ. Ф. 309. No 7о6. Л. 59 аб.). Пра вязняў утрымліваемых ва ўмацаванні (удзельніках таемных таварыстваў і халерных бунтаў, а часам нават злодзеях і ашуканцах, у чым III Аддзяленне бачыла прыніжэнне палітычнай турмы) гл.: Гернет. С. 307-345.

[231] Тут былі пахаваныя ўсе гасудары, пачынаючы ад Пятра I, за выключэннем Пятра II, які памёр у Маскве. Шніцлер падкрэслівае багатае ўбранне трунаў ("парча, гарнастаевыя футры" (Schnitz.ler. p. 209), тое ж адзначае нідэрландзец Гагерн ("Асаблівасць іхных (магільняў) складаюць помнікі, якія маюць від трунаў, пакрытыя багатымі матэрыямі і стаячыя пасярод царквы, а не пад скляпеннямі. Сапраўдныя магілы знаходзяцца пад гэтымі помнікамі"- Расія. С. 674), але для Кюстына гульня кантрастаў мае большае значэне чым дакладнасць.

сябе, што чыніць свой суд, не ўспамінаючы пра суд Божы. Мы, жыхары Захаду, раялісты-рэвалюцыянеры, бачым у дзяржаўным злачынцы, заключаным у пецярбургскае ўмацаванне, толькі нявінную ахвяру



дэспатызму, рускія ж бачаць у ім адкінутага. Вось да чаго даводзіць палітычнае ідалапаклонства. Расія – краіна, дзе бяда пакрывае незаслужанай ганьбай усіх, каго спасьцігае.

Ва ўсякім шолаху мне чулася скарга; камяні стагналі пад маімі нагамі, сэрца маё разрывалася ад спагады да пакутнікаў, перажываючых самыя жорсткія з усіх пакут, якія чалавек калі-небудзь прычыняў сабе падобным. О! як мне шкада вязняў гэтага ўмацавання! Калі меркаваць пра жыццё рускіх, пакутуючых закрытымі пад зямлёй, па жыцці тых рускіх, што ходзяць па зямлі, нельга не здрыгануцца...

Мне даводзілася бачыць умацаванні ў розных краінах, але там гэтае слова азначае зусім не тое, што ў Пецярбургу. Я не магу без жаху думаць пра тое, што людзі, якія адрозніваюцца самой безадказнай адданасьцю, самай бездакорнай сумленнасьцю, могуць у любую хвіліну апынуцца ў падземных казематах пецярбургскага ўмацавання; сэрца маё ледзь не выскачыла з грудзей, калі я зноў перайшоў па мосце роў, акружаючы гэтыя сумныя сцены і аддзяляючы іх ад свету. О! хто не перапоўніўся б спагадай да гэтага народа? Рускія – я маю на ўвазе тых, хто належыць да вышэйшых станаў, – выказваюць сёння невуцтва і забабоны, на самай справе ім ужо не ўласцівыя. Не шчырая пакора здаецца мне найвялікшай гнуснасьцю, да якой можа апусціцца нацыя рабоў; бунт, адчай, былі б, вядома, больш страшныя, але менш подлыя; слабасць, якая ўпала так нізка, што не дазваляе сабе нават жаласлівага стогну – гэтага суцяшэння нявольнікаў; страх, праганяецца страхам яшчэ больш моцным, – усё гэта маральныя феномены, якія немагчыма назіраць, не праліваючы крывавыя слёзы.

Наведаўшы пахавальню рускіх самаўлацаў, я вярнуўся ў квартал, дзе размешчаны мой гатэль, і загадаў адвесці мяне ў каталіцкую царкву[232], дзе здзяйсняюць службу мніхі-дамініканцы. Я хацеў, каб яны адслужылі імшу[233] з нагоды гадавіны, якую я заўсёды, дзе б ні апынуўся, адзначаў у каталіцкай царкве. Дамініканскі манастыр знаходзіцца на Неўскім прашпекце, найпрыгажэйшай вуліцы Пецярбурга. Царква сціплая і не адрозніваецца асаблівай пышнасцю; манастырскія памяшканні пустэя, двары загрувашчаны абломкамі камення, і паўсюль пануе смутак: здаецца, негледзячы на падтрымку ўладаў, абшчына жыве не заможна і не адчувае ўпэўненасьці ў заўтрашнім дні. У Расіі рэлігійная цярпімасць не мае апірышча ні ў грамадскай думцы, ні ў дзяржаўным ладзе: як і ўсё іншае, яна – вынік ласкі аднаго чалавека, здольнага заўтра забраць тое, што яму захацелася даць сёння.

---

[232] Касцёл святой Кацярыны на Неўскім прашпекце быў пабудаваны ў 1762-1783 гг. архітэктарамі Ж. Б. Валленам-Дэламотам і А. Рынальдзі.

[233] Па Дэльфіне дэ Кюстын, якая памёрла 14 ліпеня 1826 года.

Чакаючы, пакуль вызваліцца настаяцель, я пачаў аглядаць царкву і раптам убачыў пад нагамі камень, на якім прачытаў імя, усхваляваўшае мяне: Панятоўскі[234]!.. Ахвяра ўласнага

**~140~**

фатаўства, гэты легкаверны палюбоўнік Кацярыны II пахаваны тут, у невядомай магіле; аднак, пазбаўлены тай велічы, якую надае ўлада, ён цалкам захаваў тую веліч, якая даруецца няшчасцем; бедствы гэтага манарха, яго слепата, за якую ён так жорстка паплаціўся, падступства яго палітычных праціўнікаў – усё гэта будзе вечна прыцягваць да яго магілы ўсіх падарожнікаў-хрысьціян.

Каля караля-выгнанніка пахавана знявечанае цела Маро[235]. Імператар Аляксандр загадаў прывезьці яго сюды із Дрэздэна. Думка аб'яднаць парэшткі двух такіх вартых жалю людзей, каб уіць адзіную малітву ў памяць пра іхныя няшчасьці, уяўляецца мне адной із самых шляхетных ідэй манарха, які – не забудзем пра гэта! – захаваў, высакароднасць пры ўездзе ў горад, толькі што пакінуты Напалеонам[236].

Каля чатырох гадзін папаўдні я нарэшце згадаў, што прыбыў у Расію не толькі для таго, каб аглядаць больш ці менш цікавыя помнікі і аддавацца больш ці менш філасафічным развагам, і кінуўся да французскага амбасадара[237].

---

[234] Панятоўскі Станіслаў Аўгуст (1732-1798) - апошні кароль Польшчы (1764-795) - Прадстаўнік старажытнага польскага роду, ён, апынуўшыся ў Пецярбургу, паланіў Кацярыну II, у тую пару яшчэ вялікую княгіню, атрымаў дзякуючы яе пратэкцыі пасаду польскага пасланца ў Пецярбурзе (1757) а ў 1764 г., дзякуючы падтрымцы рускай імператрыцы быў абраны польскім каралём. Польскія патрыёты, рухомыя антырасейскімі настроямі (Барская канфедэрацыя), абвясьцілі Панятоўскага пазбаўленым пасаду; падаўленне іх паўстання скончылася першым падзелам Польшчы (1773); Панятоўскі быў вымушаны далучыцца да Таргавіцкай канфедэрацыі польскай шляхты, якая стаяла на баку Расіі і спрыяла другому падзелу Польшчы (1793); пасьля трэцяга падзелу (1795) Панятоўскі адрокся ад пасаду, жыў самотна ў Гродна, а пасьля сьмерці Кацярыны па запрашэнні Паўла I прыехаў у Пецярбург, дзе і памёр.

[235] Маро Жан Віктар (1763-1813) – французскі палкаводзец, паплечнік Напалеона; расчараваўшыся ў першым консуле, Маро далучыўся да раялістычнай змовы Кадудаля і Пішэгру, за ўдзел у якой быў у 1804 г. арыштаваны і высланы із Францыі; жыў у Амерыцы, ў 1813 г. вярнуўся ў Яўропу і атрымаў ад Аляксандра I пасаду ваеннага дарадцы; быў смяротна паранены ў баі пад Дрэздэнам. На пачатку 1820-х гг. за Кюстына сваталі – няўдала – дачку Маро; ў 1829 г. Кюстын выпусціў асобнай брашурай вершаванае пасланне “На магілу генерала Маро". Кюстын, які думаў паралелямі і антытэзамі, згадвае магілы абодвух выгнаннікаў (польскага караля і французскага генерала); папярэднік жа Кюстына Ансэло абмежаваўся апісаннем магілы Мора, “якую ні адзін француз не можа бачыць без болю. Хіба ў Пецярбургу варта было пакоіцца праху гэтага палкаводца, які так добра змагаўся на поле бітвы, і так мужна зносіў ўдары лёсу?”(Ancelot. P. 227-229).

[236] у сакавіку 1814 года разам з прускім каралём і аўстрыйскім фельдмаршалам Шварцэнбергам на чале хаўрусных войскаў. Напалеон у гэты час знаходзіўся ў Фантэнбло. Кюстын не прысутнічаў пры ўездзе хаўруснікаў у сталіцу, так як з сярэдзіны лютага да 10 красавіка заставаўся ў Нансі сярод прыхільнікаў графа д'Артуа

[237] Гаворка ідзе пра барона Праспэра Бруж’ера дэ Баранта (1782-1866), амбасадара ў 1835-1841 гг., размове з якім, хутчэй за ўсё, Кюстын абавязаны шматлікімі звесткамі пра Расію (пар. заўв. да цяп. тама, с. 109, 124). Да Баранта, выхадцу з таго ж свецкага і літаратурнага кола, да якога ў маладосці належала Дэльфіна дэ Кюстын, аўтар “Расіі ў 1839 годзе” ставіўся з сімпатыяй. “Яго шаноўны розум жыва нагадаў мне Францыю добрага старога часу, а тонкасць назіранняў надавала вялікую займальнасць гутарцы з ім пра тутэйшы край, - пісаў Кюстын с-ні Рэкам’е 22 жніўня/3 верасня 1839 г. з Ніжняга Ноўгарада, - ён глядзіць на Расею больш паблажліва, чым я, магчыма, згодна з абавязкам” (цыт. згодна: Cadot. P. 221).

Там мяне напаткала жорсткае расчараванне: я даведаўся, што адружанне вялікай князёўны з герцагам Лейхтенбергскім адбудзецца паслязаўтра[238] і я ўжо не паспею адрэкамендавацца імператару раней гэтай цырымоніі. Між тым пабываць у краіне, дзе ўсё самае важнае, адбываецца пры двары, і не ўбачыць прыдворнага свята – значыць не ўбачыць зусім нічога.

# Ліст Дзесяты

*Паездка на выспы. – Своеасаблівасць пейзажу. – Штучныя прыгажосці. – Працягласць рускіх гарадоў. – Рускія "ўпрыгожваюць вуліцы". – Іхная манера размяшчаць кветкі ў доме. – Англічане робяць наадварот. – Самыя пасрэдныя расліны нашых лясоў тут – рэдкасць. – Успаміны пра пустое ў глыбіні садоў. – Мэта цывілізацыі на Поўначы. – Шчасце ў Расіі немагчыма. – Жыццё свецкіх людзей на выспах. – летуценнасць добрага надвор'я. – Перасяленне ў горад у канцы жніўня. – У іншых вялікіх гарадах жыццё куды больш грунтоўнае, чым у Пецярбургу. – Роўнасць пры дэспатычнай уладзе. – Суровасць урадаў, якія дзейнічаюць залішне лагічна. – Дэспатызм у поўны рост. – Каб жыць у Расіі, варта быць рускім. – Асноўныя рысы рускага грамадства. – Паказная вернасць манарху. – Няшчасце ўсемагутнага ўладара. – Крыніца прыватных цнотаў абсалютнага манарха. – Павільён імператрыцы на выспах. – На што падобны натоўп, які чакае з'яўлення імператрыцы. – Блашчыцы на заезных дварах. – Яны сустракаюцца і ў імператарскім палацы. – Партрэт славяніна-просталюдзіна. – Яго прыгажосць. – Прыгожых жанчын тут менш, чым прыгожых мужчын. – Нацыянальны галаўны ўбор жанчын. – Нязграбныя тыпажы. – Стан рускіх сялян. – Узаемаадносіны сялян з панамі. – Яны выкупляюць сябе самі. – Багацце прыватных асоб залежыць ад імператара. – Землеўладальнікі, забітыя прыгоннымі. – Роздум. – Жывы тавар. – Агідная раскоша. – Адрозненні паміж становішчам працаўнікоў у свабодных краінах і доляй прыгонных сялян у Расіі. – Гандаль і прамысловасць зменяць цяперашняе становішча. – Зманлівая бачнасць. – Ніхто не жадае растлумачаць, вам сапраўднае становішча спраў. – Старанні схаваць ісціну ад чужаземцаў. – Пятро I ўзурпаваў рэлігійную ўладу: гэтае зло не адкупіцца ўсім тым дабром, якое здзейсніў гэты імператар. – Руская арыстакратыя не выконвае свае абавязкі перад сабой і перад народам. – Недаверлівыя погляды рускіх. – Іхныя паводзіны ў адносінах да падарожнікаў-літаратараў. – Стан медыцыны ў Расіі. – Усеагульная скрытнасць. – Рускія лекары не занадта добрыя, але з іх выйшлі б нядрэнныя летапісцы. – Дазвол прысутнічаць на вяселлі вялікай князёўны Марыі. – Асаблівая ласка.*

**Пецярбург, 12 ліпеня 1839, вечар**

Мяне павезлі на выспы; гэта – прыгожае балота; ніколі яшчэ нікому не ўдавалася так удала схаваць ціну кветкамі. Уявіце сабе сырую нізіну, адкуль,

[238] Гэта азначае 2/14 ліпеня.

аднак, у летні час вада адступае дзякуючы асушальным каналам: гэтую нізіну засадзілі



цудоўным бярозавым гаем і пабудавалі тут шмат чароўных загарадных дамоў. Бачачы тутэйшыя бярозавыя алеі (а бярозы і хвоі – адзіныя дрэвы, якія растуць у паўночных ледзяных пустынях), ўяўляеш, быццам трапіў у англійскі парк[239]. Выспы – не што іншае, як велізарны сад, усеяны віламі і катэджамі і замяняе жыхарам Пецярбурга загарадную мясцовасць; бівуак царадворцаў, густа населены на працягу нядоўгай пары года і пустуючы ўвесь астатні час[240]. Туды вядуць некалькі вельмі прыгожых дарог і перакінутыя праз розныя рукавы ракі масты.

Гуляючы па цяністых алеях, адчуваеш сябе за горадам, аднак гэтая загарадная мясцовасць аднастайная і пазбаўленая натуральнасьці. Глеба паўсюль зусім роўная, а дрэвы адны і тыя ж: адкуль жа ўзяцца маляўнічым відовішчам? Намаганні людзей толькі ў вельмі малой ступені выпраўляюць заганы прыроды. Ўдасканальваючы тварэнне Госпада, людзі зрабілі тут усё, што маглі, але дамагліся вельмі мала. У паўночных шыротах цяплічныя расліны, экзатычныя плады, нават падземныя скарбы – золата і каштоўныя камяні – не так рэдкія, як самыя звычайныя дрэвы, якія растуць у нашых лясах: за грошы тут можна расстарацца ўсё, што здабываецца із-пад зямлі і вырошчваецца пад шклом; для чароўнай казкі гэтага дастаткова, для парку – не. Каштанавы або дубовы гай з тых, што ўпрыгожваюць нашы пагоркі, здаваўся б у Пецярбургу цудам: пабудовы італьянскай архітэктуры, акружаныя лапландскімі дрэвамі і ўпрыгожаныя кветкамі, якія прывезены з усіх канцоў свету, вырабляюць ўражанне дзіўнае, але не занадта прыемнае. Парыжане, ніколі не забываючыя свой родны горад, назвалі б гэтую акуратную вясковую мясцовасць рускімі Елісейскімі палямі[241], аднак пецярбургскія выспы шырэй, маюць выгляд аднaчасова і больш вясковы, і больш размаляваныя, больш штучны. Акрамя таго, яны значна далей ад арыстакратычных кварталаў, чым парыжскія Елісейскія палі. Выспы – зараз і горад, і загарадная мясцовасць; іншы раз, убачыўшы лугі,

[239] Пар. ўражанне, якое вырабілі пецярбургскія выспы на Баранта: "Уявіце прастору плошчай прыкладна ў два квадратных лье - газон, гаі і сады, арашаемыя тысячамі раўчукоў, рэчак і азёр, а навакол, да самага берага мора - высокія хвоі. Тут ва ўсіх жыхароў Пецярбурга маюцца загарадныя дамы, выдатна дагледжаныя, выдатна абстаўленыя і акружаныя кветкамі. Ніякіх агароджаў, кожны можа гуляць, дзе хоча, і тым не менш дарожкі для гуляння ў выдатным стане; адным словам, - велізарны грамадзкі сад... Што да зеляніны, здагадайцеся самі, ці свежая яна? Жыццё тут вядуць гарадзкое, не вясковае" (Souvenirs. T. 5 P. 400). Больш скептычна адазваўся пра выспы які наведаў іх амаль аднaчасова з Кюстынам палкоўнік Гагерн: "... сумная расліннасць, якая складаецца із бяроз і ёлак, ёлак і бяроз, зусім не такая, каб выклікаць захапленне. Пры гэтым клімаце садоўніцтва не атрымліваецца, нягледзячы ні на якія намаганні"(Расія. С. 673).

[240]

[241] Парыжскія Елісейскія палі ў першай трэці XIX стагоддзя яшчэ не былі той раскошнай гарадзкой артэрыяй, якой яны з'яўляюцца зараз; у 1800 г. там было ўсяго шэсць дамоў, а ў асноўным прастора была занята садамі, прылеглымі да багатым сядзібаў паралельнай вуліцы – вуліцы прадмесьця Сэнт-Анарэ. Забудова Елісейскіх палёў, прычым не жылымі дамамі, але рознымі забаўляльнымі ўстановамі (тэатрамі, кафэ і інш.), пачалася толькі ў 1830-ыя гады.

адваяваныя ў тарфяных балот, вы пачынаеце верыць, быццам трапілі ў сапраўдную вёску, з лясамі і палямі, аднак пабудовы ў выглядзе храмаў, цяпліцы, аздобленыя пілястрамі, каланады перад палацамі, тэатральныя залы з антычнымі перыстылямі нагадваюць вам, што вы знаходзіцеся ў горадзе.

Рускія па праву ганарацца садамі, разбітымі, коштам незлічоных намаганняў, на сітаватай пецярбургскай глебе, аднак прырода, нават пераможаная, не забывае пра сваё паражэнне і падпарадкоўваецца чалавеку з вялікай неахвотай: за агароджай парка распасціраецца недагледжаная зямля. Шчаслівыя краіны, дзе зямля і неба спаборнічаюць ў шчодрасці, упрыгожваючы і палягчаючы жыццё людзей!

Я не стаў бы згадваць пра недахопы гэтай абдзеленай Богам зямлі, не стаў бы, падарожнічаючы па паўночнай краіне, сумаваць па паўднёвым



сонцы, не падкрэслівай рускія сваёй поўнай пагарды да ўсяго, чаго пазбаўлена іх бацькаўшчына: яны задаволеныя ўсім, аж да клімату, аж да глебы; фанфароны ад прыроды, яны выхваляюцца не толькі грамадствам, але і прыродай сваёй краіны; іхныя дамаганні выганяюць з маёй душы пакору, якую я лічыў сваім абавязкам і якую меў намер выказаць, вандруючы па паўночным краі. Зараз ўся прастора, якая аддзяляе горад ад аднаго з вусцяў Нявы, занята своеасаблівым паркам, які ўваходзіць, аднак, у межы Пецярбурга: кожны рускі горад – цэлая краіна. Выспы зрабіліся б вельмі шматлюдным кварталам, калі б нашчадкі Пятра больш дакладна прытрымліваліся яго плана. Аднак патрохі ў надзеі выратавацца ад павадак жыхары новага горада пачалі адсоўваць будаўніцтва на поўдзень, а багністыя выспы адвялі выключна для загарадных дамоў найбольш заможных і элегантных прыдворных; на працягу дзевяці месяцаў гэтыя дамы застаюцца напалову залітымі вадой і пакрытыя снегам; ў гэтую пару каля летняга палаца імператрыцы выюць ваўкі. Затое ў застаўшыяся тры месяцы на месцы ільдоў расцвітаюць раскошныя кветкі; зрэшты, скрозь гэтую штучную элегантнасць прасвечвае туземная прырода; імкненне бліскаць – галоўны запал рускіх, таму кветкі ў сваіх гасціных яны часцяком размяшчаюць не так, каб зрабіць пакой утульней, але так, каб вырабіць ўражанне на праходзячых; зусім процілеглым чынам робяць англічане, якія не жадаюць упрыгожваць вуліцу. Ангельцам лепш, чым якому-небудзь іншаму народу зямлі, удалося замяніць стыль густам: іх помнікі сьмеху вартыя, затое іхныя прыватныя дамы – узоры вытанчанасці і здаровага сэнсу. На астравах усе дамы і дарогі падобныя. Зрэшты, чужаземец гуляе тут, не абчуваючы нуды, ва ўсякім разе ў першы дзень. Цень, адкідаемая бярозамі, не назавеш густым, аднак ад паўночнага сонца і не хочацца хавацца. На змену возера прыходзіць канал, на змену лузу – гай, на змену хаціне – віла, на змену алеі – іншая алея, у канцы якой вас чакаюць віды, у дакладнасці падобныя на тыя, ад якіх вы атрымлівалі толькі што асалоду. Гэтыя выявы чаруюць ўяўленне, хоць і не выклікаюць жывой цікавасці, не ўзбуджаюць зацікаўленасьці: тут пануе спакой, а спакой для рускіх прыдворных рэч каштоўнейшая, хоць яны і не ўмеюць яе шанаваць. На працягу некалькіх месяцаў рускіх арыстакратаў, якія пераехалі на летнія кватэры, забаўляе тэатр.

Тэатральная зала акружана штучнымі рэкамі, цяністымі каналамі, якія ўтвараюць нешта падобнае на вадзяныя алеі, прычым гэтая вада часам расцякаецца ў невялікія азёры, берагі якіх зараслі травой... зрэшты, хіба гэта трава?! гэта – цудоўнае тварэнне мастацтва, адзначаючага перамогу над зямлёй, здольнай нараджаць толькі верас і лішайнікі; перад вачамі падарожніка паўстае мноства дамоў, што пераліваюцца колерамі і хаваючыцца сярод дрэў, нібы альтанкі ў англійскім парку; на жаль, не гледзячы на ўсе гэтыя цуды, бляклая і аднастайная

**~144~**

паўночная расліннасць надае гэтаму гораду-саду сумны выгляд! Самая спусташальная раскоша тут не можа лічыцца залішняй, бо для таго, каб атрымаць рэчы, у іншых шыротах цалкам натуральныя і лічачыяся прадметамі першай неабходнасці, тут даводзіцца марнаваць мільёны і звяртацца да разнастайных хітрыкаў майстроў. Дзе-нідзе ззаду дашчаных, але пафарбаваных пад цэглу віл высяцца ўдалечыні худыя і сумныя ствалы хвой. Гэтыя сімвалы пустынных абшараў руйнуюць няўстойлівую прыгажосць садоў, лішні раз нагадваючы аб суровых зімах і суседстве Фінляндыі.

На поўначы цывілізацыя мае мэты далёка не жартоўныя. У гэтых шыротах грамадства ствараецца не імкненнем да задавальненняў, не інтарэсамі і запаламі, якія не цяжка задаволіць, але магутнай воляй, асуджанай няспынна пераадольваць перашкоды і вымушаючай народы на найвялікшыя намаганні. Калі асобы тут аб'ядноўваюцца, то ў першую галаву для таго, каб змагацца з мяцежнай прыродай, дрэнна паддаючайся ўсякім спробам людзей змяніць яе. Сумнае і суровае аблічча фізічнага свету ўсяляе ў душы мясцовых жыхароў тугу, якой, на мой погляд, тлумачацца палітычныя трагедыі, гэтак часта адбываючыяся пры рускім двары. Драмы тут адбываюцца ў сапраўдным жыцці, на сцэне ж ідуць вадэвілі, ніколькі нікога не палохаючыя; тут з тэатраў аддаюць перавагу "Жымназ"[242], з пісьменнікаў Полю дэ Кока[243]. У Расіі дазволены толькі тыя забавы, што начыста пазбаўлены сэнсу. Пры такім суровым жыцці сур'ёзная літаратура нікому не патрэбна. На фоне гэтай страшнай рэчаіснасці поспех могуць мець толькі фарс, ідылія або вельмі алегарычная байка. Калі ж у гэтым невыносным клімаце дэспатычная ўлада яшчэ больш пагоршыць нягоды існавання новымі ўказамі, чалавек назаўжды страціць усякую магчымасць мець шчасце і супакой. Ціхамірнасць, асалода – тут гэтыя словы гучаць так жа няпэўна, як слова "рай". Лянота без адпачынку, трывожная бяздзейнасць – вось да чаго немінуча прыводзіць паўночнае самаўладдзе. Рускія не ўмеюць атрымліваць асалоду ад жыццём у той загараднай мясцовасці, якую самі стварылі каля свайго парога. Жанчыны вядуць летам на астравах дакладна такі ж лад жыцця, які зімой у Пецярбургу: ўстаюць позна, дзень прысвячаецца свайму выгляду, вечарам едуць у госьці, а ноч праводзяць за картачнымі сталамі;

[242] парыжскі тэатр, адкрыты у 1820 г. і ладзячы пастановы выключна ў выглядзе вадэвілей і музычных камедый.

[243] Поль дэ Кок (1793-1841) – французкі пісьменнік, чыё імя зрабілася сімвалам фрывольнай і пацешнай белетрыстыкі, якая апісвае жыццё “сярэдніх” станаў.

забыцца, адурманіць сябе – вось відавочная мэта ўсіх тутэйшых жыхароў. Вясна на выспах пачынаецца ў сярэдзіне чэрвеня і працягваецца да канца жніўня; звычайна на гэтыя два месяцы – акрамя гэтага года, які з'яўляецца выключэннем, – даводзіцца ў агульным сем-восем гарачых дзён; вечары тут прамозглыя, ночы светлыя, але туманныя, дні пахмурныя; ў такіх умовах аддавацца роздумам – значыць выракчы сябе на невыносную тугу. У Расіі размова роўная змове, думка роўная бунту: На жаль! думка тут не толькі злачынства, але і няшчасце.

**~145~**

Чалавек разважае толькі дзеля таго, каб палепшыць сваю долю і лёс сабе падобных, але калі яму не дадзена змяніць што б там ні было ў сваім і чужым існаванні, бескарысныя разважанні бярэдзяць душу і праз адсутнасць магчымасці нешта рабіць насычае яе атрутай. Вось, дарэчы, чаму рускія арыстакраты танчаць на балях ва ўсякім узросце.

Толькі толькі канчаецца лета, у Пецярбургу пачынае марасіць дождж, і яго вострыя, як іголкі, бруі тыднямі напралёт падаюць на выспы. У першыя ж два дні непагады з бяроз аблятае лісьце, кветкі марнеюць, а дамы пусцеюць; па вуліцах і мастах без прыпынку цягнуцца ў горад брудныя павозкі, на якія са славянскай нядбайнасцю навалены ў бязладдзі мэбля, дываны, дошкі, скрыні; гэты летні абоз цягнецца на іншы канец горада, а, тым часам, уладальнікі ўсіх перавозімых скарбаў спяшаюцца на зімовыя кватэры ў элегантных дрожках або экіпажах, запрэжаных чацвёркай коней. Такім чынам, паўночныя багацеі, ачуняўшы ад мімалётных летніх мар, адступаюць пад націскам Барэя, а выспы застаюцца ў распараджэнні мядзведзей і ваўкоў – законных уладальнікаў гэтага краю! Над ледзянымі балотамі пануе маўчанне, а легкадумнае грамадства на дзевяць месяцаў перапыняе свае пастановы на тэатры пустыні. Акторы і гледачы пакідаюць драўляны горад і перасяляюцца ў каменны, амаль не заўважаючы розніцы, бо зімовымі пецярбургскімі начамі снег блішчыць амаль гэтак жа ярка, як сонца летнімі днямі, а рускія печы грэюць цяплей, чым касыя сонечныя прамяні. Пастанова заканчваецца: працоўныя сцэны разбіраюць дэкарацыі і тушаць свечкі, кветкі, што раслі на тэатры па капрызе акцёраў, вянуць, і на працягу наступных дзевяці месяцаў толькі рэдкія дрэвы млеюць ў адзіноце над парослымі чаротам тарфянымі балотамі, якія перш зваліся Інгрыяй і із якіх нейкім цудам з'явіўся Пецярбург.

Тое, што кожны год адбываецца з выспамі, рана ці позна адбудзецца з цэлым горадам. Варта манарху на адзін дзень забыць гэтую сталіцу, не маючай каранёў ні ў гісторыі, ні ў глебе, варта яму пад уплывам новых палітычных павеваў звярнуць позірк у іншы бок, і стрымліваючы раку граніт пакрошыцца, нізіны зноў пакрыюцца вадой і ўся гэтая бязлюдная мясцовасць адыйдзе да яе першапачатковых гаспадароў[244].

---

[244] Пабудова Пецярбурга пачынаючы з XVIII стагоддзя разумелася як дзеянне новага культурнага героя, які кідае выклік мацы прыроды і адваёўвае зямную цвердзь у варожай стыхіі. У французскай славеснасьці такая трактоўка ўзыходзіць да Вальтэра, які ў “Гісторыі Карла XII (1732 кн. 3) пісаў, што “цар упарціўся ў жаданні засяліць край, па бачнасьці не прызначаны для людзей”, і заснаваў новы горад

Падобныя думкі наведваюць ўсіх замежнікаў, якія гуляюць па вуліцах Пецярбурга; ніхто не верыць у даўгалецце гэтай чароўнай сталіцы. Дрэнны той падарожнік, хто не схільны да разважанняў, а, паміж іншым, варта задумацца, як пачынаеш разумець, што дастаткова Расіі пачаць вайну ці пераманіць палітычны курс, і тварэньне Пятра лопне, як мыльная бурбалка. Нідзе я так ясна не адчуваў зменлівасці усяго зямнога, як

Аўтар асабіста назіраў гэтую непрывабную выяву на зваротным шляху із Масквы



у Пецярбург; і ў Парыжы і ў Лондане мне здаралася сказаць сабе: надыдзе дзень, калі гэтыя шумныя торжышчы зробяцца больш маўклівымі чым Афіны і Рым, Сіракузы і Карфаген, аднак калі гаворка ідзе пра еўрапейскія сталіцы, відавочна, што ні часу, ні непасрэдных падстаў гэтага ператварэння не дадзена ведаць ніводнаму смяротнаму, тады як знікненне Пецярбурга прадказаць не цяжка; яно можа адбыцца хоць заўтра, пад гукі пераможных песень пераможнага народа. У іншых сталіцах закат прыйдзе са знішчэннем жыхароў, гэтая ж сталіца загіне ў тую самую пару, калі становішча рускіх у свеце ўмацуецца. Я столькі ж веру ў даўгавечнасць Пецярбурга, колькі ў жыццяўстойлівасць палітычных сістэм і людское пастаянства. Ні аб адным іншым горадоў свету гэтага сказаць нельга.

Што за страшная сіла – тая, якая, узвёўшы сталіцу ў пустыні, можа адным словам вярнуць дзікай прыродзе ўсё, што было ў яе адабрана! Тут ўласным жыццём распараджаецца толькі манарх: лёс, моц, воля цэлага народа – усё знаходзіцца ў руках аднаго чалавека. Расійскі імператар – увасабленне грамадскай магутнасьці; сярод ягоных падданых у тэорыі – а можа быць, і на практыцы – пануе тая роўнасць[245], аб якой мараць цяперашнія гала-амерыканскія дэмакраты, фурьерысты і інш. Аднак для рускіх існуе прычына буры, невядомая іншым народам, – гнеў імператара. Тыранія, ці рэспубліканская, ці манархічная, ўсяляе ў душы нянавісць да абсалютнай роўнасці. Нішто так не палохае мяне, як жалезная логіка, ужытая да палітыкі.

---

"насуперак перашкодам, якія ўзводзілі перад ім прырода, дух народаў і няўдалая вайна"; з бліжэйшых папярэднікаў Кюстына аб заснаванні Пецярбурга як праяве дэспатычнай волі самаўладца асабліва падрабязна пісаў Ансэло (гл.: Ancelot. P. 40-41; гл. таксама: Вацуро В. Э. Пушкін і праблемы побытапісання на пачатку 1830-х гадоў // Пушкін. даследаванні і матэрыялы. Л., 1969 - Т. 6. С. 164-166). Падобныя матывы сустракаліся і ў сучасным Кюстыну французскім друку; гл., напрыклад, у ананімным артыкуле "Пецярбург і Канстантынопаль": "У кожным еўрапейскім горадзе ‹...› мінулае звязана з будучыняй і выяўляецца як вынік нястомнай працы і намаганняў народа. Пецярбург жа, наадварот, ёсць не што іншае, як грандыёзная імправізацыя абсалютнай улады. Цар сказаў: "Я хачу, каб тут паўстаў горад"- і горад з'явіўся"(Le Polonais. 1834 т. 3. с. 276). Пар. таксама ў Міцкевіча вызначэнне Пецярбурга як "трыумфу імператарскай волі над трупамі маскавітаў" (Michiewicz. P. 236-237, пар. з французскім празаічным перакладам рускіх вершаў: Міцкевіч. т. 3 с. 260). Што ж да прадказанняў гібелі Пецярбурга, то першыя з іх былі зафіксаваны яшчэ пры Пятру ў форме заклёнаў: "Пецярбургу быць пусту" (гл. Анцыфераў Н. П. Душа Пецярбурга. Дадатак да рэпрынтнай рэпрадукцыі М., 1991 - С. 26-27).

[245] Пар. падобнае ўражанне Баранта аб "роўнасьці ў паслухмянстве абсалютнаму ўладару" (Notes. P. 109) - дыягназ, пастаўлены ў дачыненні да дэспатычных дзяржаваў наогул, у "Духу законаў" Мантэск'ё (пар. заўв. да цяп. тома, с. 83). Ніжэй, у лісьце дваццаць дзевятым, Кюстын сам абверг гэта зацверджванне аб роўнасці падданых дэспату ў Расіі (гл. т. 2, с. 172).

*дэспатызм ўздзейнічае на ўяўленне. – Што паэтычнага у гэтым спосабе кіравання. – Кантраст паміж людзьмі і рэчамі. – Славянскі характар. – Маляўнічая архітэктура цэркваў. – Рускія карэты і экіпажы. – Шпілі ўмацавання і Адміралтэйства. – Незлічоныя званніцы. – Апісанне гарадскога ансамбля Пецярбурга. – Асаблівы від Нявы. – Супярэчнасць, закладзенае ў рэчах. – Прыгажосьці змяркання. – Прырода прыгожая нават блізка ад полюса. – Рэлігійная ідэя. – Тэўтонскія расы антыпатычны рускім. – Славяне кіруюць Польшчай. – Некаторыя рысы падабенства паміж рускімі і іспанцамі. – Уплыў розных рас у гісторыі. – Спякота, што стаіць гэтым летам. – Як запасаюцца дравамі на зіму. – Павозкі, на якіх іх грузяць. – Спрыт рускага народа. – Эпоха выпрабаванняў для яго. – Паліва ў Пецярбургу рэдкасць. – Марнатраўная высечка лясоў. – Рускія павозкі. – Дрэнныя прылады працы. – Паўночныя рымляне. – У якіх адносінах знаходзяцца народы са сваімі ўрадамі. – Лодкі з сенам на Няве. – Рускі маляр. – Нязграбнасьць і неахайнасць жанчын-простолюдзінак. – Прыгажосць мужчын. – Жанчыны ў Пецярбургу рэдкія. – Памяць аб азіяцкіх норавах. – Непазбежная туга ваеннага горада.*

**Пецярбург, 22 Ліпеня 1839 года[386].**

Калі верыць на слова рускім – вялікім патрыётам, то насельніцтва ў Пецярбургу чатырыста пяцьдзясят тысяч душ, не лічачы гарнізона; але тыя людзі, што ведаюць і, адпаведна, маюць тут славу зламыснікаў запэўніваюць мяне, што яно не дасягае і чатырохсот тысяч разам з гарнізонам[387]. Адно дакладна: гэты палацавы горад з яго



[386] Згодна старога стылю 10 ліпеня.

[387] Пярэчанне Грэча: "Пачну з таго, што згодна падлікаў паліцыі насельніцтва Пецярбурга ў 1838 годзе складала 468635 душ. Ніхто не можа супрацьпаставіць гэтай лічбе іншую, хоць колькі-небудзь больш дакладную і надзейную. Да таго ж я не магу ўзяць у толк, навошта патрыётам перабольшваць колькасць жыхароў горада..." (Gretch. P. 55); зрэшты, сам Греч трохі паменшыў гэтую лічбу параўнальна са справаздачай санкт-пецярбургскага обер-паліцмайстра за 1838, згодна з якім у сталіцы пражывала ў гэтым годзе 469720 чалавек (гл. вынятку са справаздачы ў "Паўночнай пчале" за 5 студзеня 1839 года). Згодна Шніцлера, насельніцтва Пецярбурга ўжо ў 1832 г. налічвала 468771 душ (Schnitzler. P. 284). Пытанне аб насельніцтве было ідэалагічна зусім не такім нейтральным, як сцвярджаў Грэч. Калі ў 1841 "Journal de Saint-Petersbourg" надрукаваў артыкул акадэміка Кэппена, дзе гаварылася, што ў Расіі жыве 54 мільёны чалавек, Я. Н. Таўсты неадкладна сігналізаваў пра гэта свайму начальству ў III Аддзяленні, бо, пісаў ён, яшчэ за два гады да таго афіцыйна сцвярджалася, што Расею засяляюць 60 мільёнаў, а колькасць жыхароў сведчыць аб магутнасьці краіны, і ўсе краіны імкнуцца яе перабольшваць, а не памяншаць (данясенне ад 3/15 ліпеня 1841 года; ГАРФ. Ф. 109. СА, оп. 4 No 192. Л. 13 аб. 14). 8 жніўня шэф жандараў Бенкендорф загадаў міністру народнай асветы Увараву "разабрацца" ў гэтай справе, а Кэппену – "неадкладна выправіць пазначаную яго памылку і пра гэта зьмясціць паведамленне ў вышэйзгаданым жа часопісе, дзе быў надрукаваны яго першапачатковы артыкул"; роўна праз тыдзень Увараў, згодна слоў Кэппена, патлумачыў, што гаворка ў артыкуле ішла толькі "пра жыхароў уласна так званай Расіі (...) ўсіх жа жыхароў, падуладных рускаму скіпетру (з уключэннем Валадарства Польскага, вялікага княства, горцаў і войска), ужо ў 1838 г. лічылася 62 мільёны"- і ў верасні 1841 гэта тлумачэнне было-такі змешчана ў "Journal de Saint-Petersbourg", а заадно у рускіх "Санкт-Пецярбургскіх ведамасцях" і нямецкім "Акадэмічных вядамасьцях", каб ніхто не сумняваўся ў колькаснай магутнасьці Расійскай імперыі (ГАРФ. Ф. Ю9. СА. Оп. 4. No 192 - Л. 16-19). Між тым згодна з даследваннямі сучасных даследчыкаў разлікі Кэппена выглядаюць дастаткова карэктнымі (гл.: Кабузан В. М. Народанасельніцтва Расіі ў XVIII - першай палове XIX (згодна матэрыялаў рэвізій). М., 1963. С. 25, 164-165).

неабсяжнымі пустымі прасторамі, якія называюцца плошчамі, нагадвае разгароджанае дашчанымі платамі поле. У кварталах, аддаленых ад цэнтра, пераважаюць маленькія драўляныя хацінкі.

Рускія – выхадцы із супольнасьці плямёнаў, якія доўгі час былі качэўнікамі і заўсёды адрозніваліся ваяўнічасьцю; яны яшчэ не цалкам забыліся пра бівачнае жыццё. Усе народы, нядаўна перасяліўшыяся із Азіі ў Яўропу, стаяць у ёй лагерам, нібы туркі. Пецярбург – гэта вайсковы штаб, а не сталіца нацыі. Якім бы ні быў цудоўным гэты ваенны горад, у вачах заходняга чалавека ён выглядае голым.

Адлегласьці – біч Расіі, сказаў мне імператар; справядлівасць гэтай заўвагі можна праверыць прама на пецярбургскіх вуліцах: па іх раз'язджаюць ў карэце, запрэжанай чацвёркай коней, з фурманам і фарэйтарам, і зусім не з павагі да раскошы. Нанесці візіт тут азначае здзейсніць цэлае падарожжа. Рускія коні, нервовыя і поўныя агню, саступаюць нашым у мускульнай сіле; кепская маставая іх стамляе, двум коням было б цяжка цягнуць доўгі час па пецярбургскім вуліцах звычайную карэту; так што чацвёрка ёсць прадмет першай неабходнасці для кожнага, хто хоць бы зрэдку хоча выязджаць у свет. Права мець карэту з чацвёркай коней атрымліваюць не ўсе мясцовыя жыхары; гэта дазволена толькі асобам, якія дасягнулі пэўнага становішча. Не паспеўшы аддаліцца ад цэнтра горада, вы губляецеся сярод пустак, па краях якіх стаяць баракі[388], збудаваныя, як здаецца на першы погляд, для працоўных, што сабраны тут часова на нейкую вялікую будоўлю. Гэта фуражныя свірны, адрыны з адзеннем і разнастайным правіянтам для жаўнераў; адчуваеш сябе тут як пад час агляду або напярэдадні кірмашу, які ніколі не пачнецца. Гэтыя так званыя вуліцы зараслі травой, яны заўсёды пустыя, бо залішне прасторныя для рухаючагася па іх насельніцтва. Столькі тут прыбудавана да дамоў перыстылей, столькі порцікаў упрыгожвае казармы, што выдаюць сябе за палацы, такой пышнасьцю запазычанага ўбранства было адзначана ўзвядзенне гэтай часовай сталіцы, што на плошчах Пецярбурга я часцей сустракаю калоны, чым людзей; гэтыя плошчы заўсёды маўклівыя і сумныя – з нагоды сваёй шырокасці і, галоўнае, непагрэшнай правільнасці. Кутнік і шнур настолькі адпавядаюць погляду на свет абсалютных манархаў, што прамыя куты сталі пераважаючым прыёмам дэспатычнай архітэктуры. Архітэктура жывая, калі можна так выказацца, узнікае не па загаду; яна, так бы мовіць, нараджаецца з сябе самой і вынікае з генія і патрэбаў народа як быццам без удзелу волі. Стварыць вялікую нацыю абавязкова азначае і даць пачатак пэўнай архітэктуры; не здзіўлюся, калі, на рэшце будзе



даказана, што непаўторных архітэктур столькі ж, колькі натуральных моў. Дарэчы, не адны толькі рускія апантаныя сіметрыяй. У нас яна – спадчына імперыі. Не будзь французскія архітэктары заражаныя гэтым дурным густам, мы

[388] пар. апісанне Пецярбурга ў Шніцлера: "У 1-м, 12-м і часткова ў 10-ым кварталах дамы драўляныя, хоць па большай частцы прыстойныя на выгляд; зрэшты, ёсць тут і зусім старыя хаціны, сапраўдныя рускія хаты. (...) Насупраць, ва ўнутраных кварталах дамы каменныя і цагляныя: гэта горад палацаў"(Schnitzler. P. 207).

б даўно ўжо мелі разумны план, як нам ўпрыгожыць і дабудаваць жахлівую плошчу Каррузель[389]; але патрэба ў паралельных лініях стапарыць усю справу.

Калі геніяльныя мастакі адзін за адным, злучаючы намаганні, ператваралі плошчу Грандука ў Фларэнцыі[390] ў адно з найпрыгажэйшых на свеце месцаў, іх не тыранаваў запал да прамых ліній і сіметрычных помнікаў, яны разумелі цудоўнае ў свабодных яго праявах, па-за прамакутнікамі і квадратамі. Будаўніцтва Пецярбурга было падпарадкавана матэматычна дакладнаму вокамеру – праз адсутнась мастацкага пачуцця і свабодных тварэнняў фантазіі, што ўзрастаюць на народных задатках і з'яўляюцца іх выразам. І таму, праязджаючы па гэтай радзіме безгустоўных помнікаў, нельга ні на імгненне забыцца, што гэты горад – спараджэнне аднаго чалавека, а не цэлага народа. Задума творцы здаецца вузкай, хаця памеры яго тварэння велічэзныя: гэта таму, што загаду падпарадкоўваецца ўсё, акрамя грацыі, сястры ўяўлення.

Галоўная вуліца Пецярбурга – Неўскі прашпект, адзін з трох прашпектаў, што вядуць да палаца Адміралцейства. Тры гэтыя вуліцы, разыходзячыся прамянямі, дзеляць паўднёвую частка горада на пяць правільных частак[391] і надаюць ёй, падобна Версалю, форму веера. Сам гэты горад часткова маладзейшы за порт, узведзены Пятром І каля выспаў, і, нягледзячы на жалезную волю свайго заснавальніка, прасцёрся і на левы бераг Нявы; на гэты раз страх перад паводкай перадужаў страх выказаць непаслушэнства, і тыранія прыроды атрымала перамогу над дэспатам. Неўскі прашпект заслугоўвае таго, каб я вам апісаў яго дастаткова падрабязна. Гэта прыгожая вуліца даўжынёю ў лье і шырынёю з нашы бульвары; дзе-нідзе на ёй пасаджаны дрэвы, такія ж чэзлыя, як у Парыжы; тут фланіруюць і прызначаюць спатканні ўсё бяздзейныя гулякі горада. Па праўдзе сказаць, такіх не шмат, бо ходзяць тут зусім не дзеля таго, каб хадзіць: кожны крок кожнага з людзей мае сваю, не звязаную з задавальненнем мэту[392]. Перадаць загад, засведчыць сваю пашану, выказаць

---

[389] Гэтая плошча перад палацам Цюільры, якая атрымала сваю назву праз грандыёзную карусель (імітацыя рыцарскага турніру), наладжаную тут у 1662 Людовікам XIV ў гонар нараджэння яго першанца, і на якой ў 1792-1793 гг. адбываліся пакаранні (гл. заўв. да цяп. тома, с. 46), перабудоўвалася на працягу ўсяго XIX стагоддзя і набыла свой канчатковы выгляд толькі праз паўстагоддзя пасьля сьмерці Кюстына, у 1908 годзе. Падчас Імперыі, у 1806-1808 гг. тут была ўзведзена трыумфальная арка згодна з ўзорам аркі Канстанціна ў Рыме.

[390] Плошчу Грандука, або Пьяцца делла Сіньёр, плошча ў Фларэнцыі, на якой размешчаны Палацо Веккьо, гатычная крэпасць з рэнэсансным інтэр'ерам, будавалася на працягу XIV-XVI стст. У XIV ст. на той жа плошчы побач з Палацо Веккьо пабудавалі высокую трохаркавую Лоджыю дэла Сіньёр – залу для сходаў; у 1495 г. на плошчы перад Палацо Веккьо ўзнялі бронзавы "Юдзіф з галавой Алаферн" працы Данатэла, а ў другой палове XVI ст. пабудавалі фантан, каля якога ўзвялі конны манумент герцага Казіма І. Такім чынам, ансамбль плошчы ствараўся на працягу стагоддзяў.

[391] Каментар Грэча: "Кюстын сцвярджае, што тры вуліцы, якія адыходзяць ад Адміралтэйства, дзеляць паўднёвую палову горада на пяць частак. Між тым паўсюль, хоць у самаедаў, хоць у готэнтотаў, хоць у Англіі, хоць у Турцыі тры прамых лініі дзеляць прастору на чатыры часткі, і не больш. Мы разумеем, што такое поўнае невуцтва – адзіная рыса, парадняючая нашага маркіза з маркізамі мінулага стагоддзя, але не можам ўзяць у толк, якім чынам чалавек, які не ведае нават, што два на два чатыры, бярэцца судзіць імперыю такую шырокую і разнастайную, як Расія"(Gretch. P. 42).

[392] Пар. меркаванне цалкам вернападданага мемуарыста: "Пецярбург – горад пераважна дзелавы; на вуліцах вы бачыце, як усе спяшаюцца, як пешшу, так і ў экіпажах: хто па справе, хто на

падпарадкаванне спадару, хто б ён ні быў, – вось матывы, якія прыводзяць у рух большую частку насельніцтва ў Пецярбургу і ва ўсёй імперыі.

Брукам на гэтым бульвары, названым перспектывай, служаць агідныя круглыя камяні. Але тут, роўна як і на некаторых іншых галоўных вуліцах горада, ва ўсякім разе, ўмайстраваны паміж камянімі, нараўне з імі, драўляныя плашчакі, па якіх коцяцца колы экіпажаў; гэтыя вызначаючыяся шляхі ўтвараюцца з мазаікі глыбока забітых яловых брускоў квадратнай або васьмікутнай формы[393]. Кожны шлях складаецца з двух палос у два-тры футы



шырынёй, падзеленых звычайнымі камянямі, па якіх ідзе каранік; два такіх шляхі, г. зн. чатыры драўляныя паласы, пракладзены ўздоўж Неўскага прашпекта, адзін справа, другі злева, воддаль ад дамоў, якія аддзеленыя ад іх яшчэ і шэрагам пліт; гэтыя каменныя пляцоўкі служаць тратуарамі для пешаходаў, выдатнымі дарожкамі для гуляння, нічога агульнага не маючымі з убогімі дашчанымі тратуарамі, якія і дагэтуль ганьбяць некаторыя аддаленыя вуліцы. Такім чынам, чатыры лініі плітак вядуць па гэтаму цудоўнаму, шырокаму прашпекту, які, становячыся непрыкметна ўсе больш бязлюдным і, адпаведна, усе менш прывабным і маркотным, працягваецца да той нявызначанай рысы, дзе канчаецца жылы горад, гэта значыць да самай мяжы азіяцкага варварства, ад веку аблажваючага Пецярбург, – на ускрайку самых яго раскошных вуліц абавязкова выявіш пустыню. Крыху далей Анічкавага маста вам трапляецца вуліца пад назвай Ялогная, якая вядзе да пустыні, называемай "Аляксандраўская плошча"[394]. Сумняваюся, каб імператар Мікалай хоць раз у жыцці бачыў гэтую вуліцу. Пышны горад, збудаваны Пятром Вялікім, упрыгожаны Кацярынай II, працягнуты прама, як страла, усімі іншымі гаспадарамі праз балоцістую, вечна затапляемую пяшчаную раўніну, у рэшце рэшт губляецца ў жахлівай мешаніне крам і майстэрняў, сярод груды безымянных будынкаў і шырокіх, непрачэрчаных плошчаў; праз прыроджаную неарганізаванасць і неахайнасць народа, які жыве ў гэтай краіне, плошчы за апошнія сто гадоў загрувашчаны абломкамі ўсяго на свеце і разнастайным брудам. Уся гэтая дрэнь год за годам збіраецца ў рускіх гарадах, аспрэчваючы дамаганні нямецкіх гаспадароў, што ўяўляюць, быццам сапраўды паслужылі асвеце славянскіх народаў. Як бы моцна ні перайначыла ярмо, навязанае гэтым народам, іх першапачатковы характар, ён абавязкова

---

пасаду, хто на службу. Чыстакроўных фланераў так мала, што тыя, якія зрэдку з'яўляюцца, прыцягваюць на сябе агульную ўвагу і называюцца арыгіналамі, нароўні з іншымі дзівакамі, адрознымі якой-небудзь эксцэнтрычнасьцю" (Успаміны О. А. Пржецлаўскага / РС. 1883. No 8. С. 381).

[393] Пярэчанне Грэча: "нічога падобнага, драўляныя брускі, з якіх складзена маставая, маюць форму шасцікутнікаў, падобна пчаліным сотам" (Gretch. P. 43). Драўлянымі шасцікутнікамі таўшчынёю ў два вяршкі (каля 9 сантыметраў) цэнтр Пецярбурга пачалі брукаваць ад 1830 года (гл.: Гордзін А. М., Гордзін М. А. Падарожжа ў пушкінскі Пецярбург. Л., 1983 - С. 1718).

[394] Каментарыі Грэча: "мне невядома ні вуліца Ялогная, ні апісаная маркізам клаака: ні тое, ні другое ў Пецярбургу не існуе" (Gretch. P. 56). Відаць, Кюстын змяшаў тут некалькі розных месцаў: у мешаніне крам і майстэрняў можна апазнаць Сянную плошчу з размешчаным на ёй Сянным рынкам; Аляксандраўскі ж пляц, створаны на пачатку XIX ст. для вучэнняў лейб-гвардэйскага Казацкага палка, знаходзіўся ў іншай частцы горада, непадалёк ад Аляксандра-Неўскай лаўры. Само ж слова "Ялогная", магчыма, было навеяна Кюстыну рэальна існаваўшай (у іншай частцы горада) Елагінай выспай.

выяўляецца хоць у якім-небудзь кутку іх гарадоў, якія належаць дэспатам, і дамоў, якія належаць рабам; ды калі і ёсьць у іх рэчы, якія называюцца гарадамі і дамамі, то не таму, што гэтыя рэчы ім падабаюцца ці яны адчуваюць у іх патрэбу, але таму, што ім кажуць: іх трэба мець, альбо, хутчэй, трываць, каб раўняцца са старажытнымі цывілізаванымі расамі Захаду; а галоўнае, таму, што калі б ім ўздумалася спрачацца з людзьмі, якія па-вайсковаму настаўляюць іх і вядуць за сабой, то гэтыя людзі, капралы і педагогі адначасова, пагналі б іх пугай назад на азіяцкую радзіму. Бедныя экзатычныя птушкі, якія апынуліся ў клетцы еўрапейскай цывілізацыі, яны – ахвяры маніі або, дакладней сказаць, глыбока разлічаных памкненняў славалюбцаў – цароў, будучых заваёўнікаў свету: тыя выдатна ведаюць, што перш чым нас скарыць, варта пераймаць у нас заўсёды і ўсё. Калмыцкая арда, што разбіла лагер у халупах, атачыўшых скапленне



антычных храмаў; грэцкі горад, спешна збудаваны для татараў, нібы тэатральныя дэкарацыі, дэкарацыі бліскучыя, але безгустоўныя, закліканыя абрамляць сабою сапраўдную і жудасную драму, – вось што адразу ж кідаецца ў вочы ў Пецярбургу.

Я пісаў ужо пра бедныя дрэвы, асуджаныя служыць упрыгожваннем Неўскага прашпекта; няшчасныя, чэзлыя бярозкі ледзь жывыя і хутка будуць яўляць відовішча не менш вартае жалю, чым вязы на бульварах і Елісейскіх палях у Парыжы, якія павольна згасаюць на нашых вачах, пабітыя прама ў сэрца крамнікамі, якім яны засланяюць святло, высушаныя газам і напалову пахаваныя пад асфальтам; гэтая гаротная выява паўстае кожнае лета перад наведвалькамі кафэ Тартона і Алімпійскага цырка[395]. Лёс пецярбургскіх дрэў нічым не лепшы: летам іх раз'ядае пыл, зімой засцілае снег, а потым адліга лупіць кару, губіць галіны і карані.

Прырода і гісторыя ніяк не закранулі рускую цывілізацыю; нішто ў ёй не выйшла з глебы або з народа – прагрэсу не было, у адзін выдатны дзень усё было завезена із-за мяжы. У гэтым трыумфе пераймальніцтва больш рамяства, чым мастацтва: тут такое ж адрозненне, як паміж гравюрай і малюнкам. Дар гравёра праяўляецца толькі ў увасабленні чужых ідэй. Кажуць, ні адзін чужак не ў сілах прадставіць сабе сумятню, якая пануе на вуліцах Пецярбурга падчас раставання снегу. Прарваўшаяся Нява, два тыдні нясе велізарныя крыгі; ўвесь гэты час масты разведзены, усякія стасункі паміж двума асноўнымі часткамі горада на некалькі дзён перапыняюцца, шмат якія кварталы бываюць адрэзаныя ад горада. Мне апавядалі, што праз немагчымасць ў такія бядотныя дні паслаць за лекарам памёрла адна значная асоба. Вуліцы ў гэты перыяд нагадваюць рэчышча бурных патокаў, і кожны год паводка, схлынуўшы, пакідае на іх барыкады. Мала які палітычны крызіс здолеў бы прычыніць столькі бедстваў, як гэты перыядычны бунт прыроды супраць няпоўнай і немагчымай цывілізацыі.

[395] Кафэ Тартона - моднае парыжскае кафэ на Італьянскім бульвары, папулярнае сярод парыжскіх франтаў; Алімпійскі цырк, пад кіраўніцтвам знакамітага вершніка Антоніа Франконі, размяшчаўся з 1827 г. у Парыжы на бульвары Тампль.

З тых часоў, як мне апісалі пецярбургскую адлігу, я перастаў лаяць маставыя, хай і жахлівыя, – бо іх прыходзіцца аднаўляць кожны год. Сапраўды, гэта ўрачыстасць чалавечай волі – адзінаццаць месяцаў на год раз'язджаць ў карэце па горадзе, над якім так грунтоўна папрацавалі палярныя зефіры.

Пасьля поўдня па Неўскаму прашпекту, вялікай Палацавай плошчы, па набярэжных і мастам рухаецца даволі шмат экіпажаў усякага роду і самых незвычайных формаў; іх перасоўванне злёгку ажыўляе гэты звычайна нудны горад, самую аднастайную з еўрапейскіх сталіц. Гэта дакладная копія якой-небудзь із германскіх сталіц, толькі ў больш буйным маштабе.

Ўнутранае ўбранне жылля таксама сумнае: нягледзячы на раскошную абстаноўку, што ўся, на ангельскі лад, грувасціцца

**~227~**

ў некалькіх пакоях, адведзеных для прыёмаў, у цемры дома цьмяна віднеецца і бруд, і спрадвечны, невынішчальны беспарадак – напамін аб Азіі. З хатняй мэблі менш за ўсё ў рускіх выкарыстоўваецца ложак. Жаночая прыслуга спіць на палацях, падобных на тыя, якія калісьці існавалі ў французскіх брамніцкіх, а мужчыны валяюцца па начах на падлозе, на падушках, кінутых на лесвіцу, у пярэдняй і нават, кажуць, у гасцінай.

Сягоння раніцай я быў з візітам у князя ***. Ён шляхетны вяльможа, але збяднелы, калекаваты, хворы і пакутуючы ад вадзянкі; ён настолькі нямоглы, што не ў сілах падняцца, і, аднак жа, легчы яму няма куды – я хачу сказаць, у яго няма таго, што ў краінах са старажытнай цывілізацыяй называецца ложкам. Жыве ён у доме сястры, якая зараз адсутнічае. Зусім адзін у нетрах пустыннага палаца, ён праводзіць ночы на драўлянай лаўцы, на якую пакладзены дыван і некалькі падушак. Аднесці гэта на рахунак пераборлівага густу дадзенага чалавека немагчыма: ва ўсіх рускіх дамах, дзе мне здаралася бываць, я бачыў, што шырма гэтак жа неабходна для ложка славян, як мускус – для іх саміх, бо яна адрозніваецца той жа глыбіннай неахайнасцю, якая зусім не заўсёды выключае знешні глянец. Часам тут заводзяць парадны ложак, прадмет раскошы, які выстаўляюць напаказ, каб дагадзіць еўрапейскай модзе, але якім ніколі не карыстаюцца. У селішчах у некаторых рускіх, якім уласцівы вытанчаны густ, сустракаецца асаблівае ўпрыгожванне – штучны садок у куце гасцінай. Тры доўгіх скрыні з кветкамі адгароджваюць адно з вокнаў, і ўтвараецца зала із зеляніны (алытана)[396], нешта накшталт альтанкі падобнай на садовую. Над скрынямі збудаваны штыкетнік або пярэлы на вышыню чалавечага росту, з дарагога, часам пазалочанага дрэва. Гэты маленькі адкрыты будуар аплецены плюшчом і іншымімі павойнымі раслінамі; яны, караскаючыся ўверх па агароджы, прыемна выглядаюць пасярод шырокага, зверху данізу пазалочанага і застаўленага мэбляй памяшкання: у бліскучым салоне вока адпачывае на астраўку зеляніны і свежасьці, а яны ў гэтай краіне раскоша. Ўнутры сядзіць каля

[396] Слова альтана ні ў французскіх, ні ў рускіх пісьмовых крыніцах выявіць не ўдалося; згодна ўспамінаў Я. П. Яньковай падобнае размяшчэнне мэблі ў гасьцінай, якая ў 1830-х гадах здавалася дзіўнай, называецца галліцызмам “атаблісмэнт” (etablissement) (гл.: Апавяданні бабулі. Л., 1989. С. 317).

стала гаспадыня дома; каля яе віднеюцца некалькі крэслаў – два-тры чалавекі самае большае могуць адначасова зайсьці ў гэты прытулак, не занадта надзейны, але дастаткова зацішны, каб даць прастору ўяўленню.

Мне падалося, што гэты своеасаблівы пакаёвы боскет выглядае прыемна, а яго задума разумная ў краіне, дзе кожная асабістая размова павінна заставацца ў таямніцы. Мяркую, што гэты звычай перанесены з Азіі. Я не здзіўлюся, калі штучны сад з рускіх гасціных аднойчы выявіцца ў якім-небудзь парыжскім доме. Ён бы не пашкодзіў строю таго жылля, дзе жывуць самыя модныя зараз у Францыі жонкі дзяржаўных мужоў. Я быў бы рады гэтаму

**~228~**

новаўвядзенню – ужо праз адно жаданне насаліць англаманам, якім ніколі не дарую зла, нанесенага добраму густу і сапраўднаму французскаму духу.

У славян, калі яны прыгожыя, тонкі, вытанчаны стан, ад якога, аднак, вее сілай; у іх ва ўсіх міндалепадобны разрэз вачэй, а погляд бегаючы і хітраваты, азіяцкі. Вочы могуць быць і чорныя, і блакітныя, але яны заўсёды празрыстыя і адрозніваюцца жвавасьцю, пераменнасьцю і вялікім абаяннем, бо ўмеюць смяяцца.

Гэты народ сур'ёзны больш праз неабходнасць, чым ад прыроды, і адважваецца смяяцца няйначай як вачамі; казаць гэтым людзям не дазваляюць, але погляд, адушаўлёны маўчаннем, папаўняе недахоп красамоўства – столькі захаплення надае ён твару. У ім амаль заўсёды свеціцца розум, часам лагоднасьць і спакой, часцей – туга, якая даходзіць да лютасьці; чымсьці ён нагадвае погляд трапіўшага ў пастку звера.

Гэтыя людзі – прыроджаныя вазніцы; ў іх, як у конях, якімі яны кіруюць, адчуваецца парода; дзякуючы іх незвычайнаму абліччу і лёгкаму бегу іхных коней відовішча пецярбургскіх вуліц робіцца вельмі забаўным. Так што горад гэты не падобны ні на адзін із еўрапейскіх гарадоў па міласьці сваіх жыхароў – і насуперак архітэктарам.

Рускія фурманы[397] сядзяць на сядушках вельмі прама; коней яны заўсёды пускаюць ва ўвесь апор, але кіруюць ўпэўнена, хоць і досыць груба: у іх на здзіўленне дакладнае і хуткае вока; правячы і парай, і чацвярнёй, яны заўсёды трымаюць па дзве лейцы ад кожнага каня і сціскаюць іх моцна, абедзвюма рукамі, якія выцягваюць наперад і адстаўляюць вельмі далёка ад тулава; ніякая

---

[397] Кюстыну не раз ставілі ў віну надзвычайны інтарэс да рускіх фурманаў, звязваючы сімпатыю маркіза да фурманаў з яго сэксуальнымі прыхільнасьцямі (пар. ў лісьце Вяземскага А. Я. Тургеневу ад 1 снежаня 1843 г. “Няма чаго дазваляць сабе судзіць нацыю і імперыю, якую вы ведаеце толькі па некалькіх салонах, некалькіх вялікіх дарогах і некалькіх славянскіх фурманах або свавольніках, якія адны толькі і пацешылі вочы ці іншую частку цела высакароднага і цнатлівага маркіза” (НЛА. С. 124). Між тым пра рускіх фурманаў такіміж ухвальнымі словамі абгукнуўся і Ансэло (Ancelot. P. 236), якому, аднак, ніхто не паставіў гэтага ў віну. Больш таго, гэтая тэма, здаецца, правакавала на двухсэнсоўныя жарты (хоць бы і з патрыятычным ухілам): “Не ці праўда, што наш фурман ёсць ідэал і ў яго ахвотна закахаецца кожная бялявая прыгажуня, якая зводзіць з розуму ўсю моладзь паселішча? Я мужчына, але прызнаюся, адчуваў да яго неабыякавасць; ды і хто ж не пакахае чалавека, дакладна, старанна выконваючага даручаную яму справу?” (Даведнік. С. 525). З іншага боку, Кюстына, відаць, цікавілі фурманы як сацыяльны тып; 31 студзеня 1840 г. ён надрукаваў у газеце “La Presse” нарыс “Французскі фурман”, дзе даволі тонка аналізуе стаўленне фурманаў да законаў, меру іхнага рэвалюцыйнага дэмакратызму і інш. (гл.: Tarn. P. 475-478).

перашкода іх не спыніць. Паўдзікія людзі і жывёлы імчацца па вуліцах горада з палохаюча бесшабашным выглядам; але прырода надзяліла іх жвавасьцю і спрытам, так што вулічныя здарэнні ў Пецярбургу рэдкія, нягледзячы на крайнюю зухаватасць фурманаў. Часта ў іх няма пугі, а калі і ёсць, то такая кароткая, што карыстацца ёй немагчыма. Не кіруюць яны і голасам, а дзейнічаюць толькі лейцамі і аброцьцю. Вы можаце гадзінамі блукаць па Пецярбургу і ні разу не пачуць крыку. Калі пешаходы не спяшаюцца саступіць, фарэйтар (фурман, які ў чацвярні садзіцца на пярэдняга правага каня) выпускае кароткі віск, накшталт пранізлівага ляманту сурка, паднятага ў нары; пачуўшы гэты пагрозлівы гук, што азначае: "Сыдзіце з дарогі!", усе расступаюцца, і вось ужо карэта, нібы па чараўніцтве, ляціць ўдалячынь, не замарудзіўшы хад. Экіпажы тут амаль заўсёды безгустоўныя і дрэнна ўтрымліваюцца; у іх, кепска вымытых, кепска пафарбаваных і яшчэ больш кепска пакрытых лакам, няма сапраўднай вытанчанасьці, а калі нехта заводзіць ангельскую карэту, яна нядоўга вытрымлівае пецярбургскія маставыя і бег рускіх коней. Іхная збруя, трывалая, лёгкая і прыемная на выгляд, зроблена з выдатнай скуры; у агульным, нягледзячы на



нядбайнасць конюхаў і недахоп ўяўлення ў працаўнікоў, усе разам экіпажы маюць выгляд своеасаблівы і маляўнічы, які, ў вядомай меры, выкупае адсутнасць стараннага дагляду за імі, аб якім так клапоцяцца ў іншых краінах; паколькі ж усе магнаты выязджаюць абавязкова чацвярнёй, то прыдворныя цырымоніі выглядаюць вельмі пышна, нават калі глядзець на іх з вуліцы. У шэраг чацвёрку коней запрагаюць толькі для падарожжаў і доўгіх загарадных паездак; ў Пецярбургу коні заўсёды ідуць парамі; пастрамкі ў іх непамернай даўжыні, хлопчык, накіроўваючы пярэдніх коней, апрануты, так як і фурман, па-пярсідзку – зрэшты, адзенне гэта, званае "армяк", падыходзіць толькі для таго, хто сядзець на козлах, верхам ехаць у ім нязручна; але нягледзячы на гэты недахоп ў вопратцы, рускія фарэйтары спрытныя і смелыя. Не ў маіх сілах апісаць, наколькі сур'ёзныя, маўкліва ганарыстыя, спрытныя і спакойна неразумныя гэтыя славянскія ашуканчыкі; кожны раз, гуляючы па горадзе, радуюся я іх дзёрзкасці і спрыту і пішу пра іх часта і ў падрабязнасцях; больш таго, яны выглядаюць шчаслівымі – а тут гэта сустракаецца радзей, чым у іншых краінах.

Адчуваць задавальненне ад добра выкананай справы ёсць ўласцівасць чалавечай прыроды; рускія фурманы і фарэйтары, самыя спрытныя ў свеце, могуць быць задаволены сваім становішчам, вельмі, зрэшты, цяжкім. Трэба яшчэ дадаць, што тыя, хто знаходзіцца на паслугах у знатных асоб, клапоцяцца аб вытанчанасці свайго аблічча і маюць дагледжаны выгляд, але наёмныя коні і ўбогія вазніцы абуджаюць ўва мне спачуванне – настолькі цяжкае іхнае жыццё: з раніцы да вечара застаюцца яны на вуліцы, каля брамы свайго наймальніка, альбо на адведзеных паліцыяй месцах. Коней не распрагаюць, і фурманы заўсёды сядзяць на аблучку, там жа і ядуць, не адлучаючыся ні на хвіліну. Бедныя коні!.. Людзей мне шкада менш – рускія знаходзяць смак у рабстве. Корм і ваду коням даюць у пераносных калодах, пастаўленых на казлы; так што

заказваць карэту няма патрэбы: кожны раз, як вы пажадаеце куды-небудзь выехаць, вы знойдзеце яе ўжо гатовай.

Падобнае жыццё, аднак, фурманы вядуць толькі летам; зімой для іх на самых людных плошчах будуюць адрыны. Вакол гэтых сховішчаў, паблізу ад тэатраў, палацаў і ўсіх тых месцаў, дзе бываюць святы, разводзяцца вялікія вогнішчы, каля якіх грэецца прыслуга; аднак жа ў студзені ні адзін баль не абыходзіцца без таго, каб уначы адзін-два чалавекі не замерзлі на вуліцы да смерці[398]; самі меры засцярогі не столькі дазваляюць адвесці небяспеку, колькі сведчаць аб яе наяўнасці, а ўпартае нежаданне рускіх прызнаваць факт, аб якім я вам паведамляю, служыць для мяне падцвярджэннем яго праўдзівасці. Адна жанчына, якую я настойліва распытваў на гэты конт, была больш шчырай за іншых і адказвала: "Магчыма, але мне ніколі не даводзілася пра гэта чуць". Такое адмаўленне



варта каштоўнага прызнання. Трэба пабываць тут, каб даведацца, якія памеры можа прымаць пагарда багатага чалавека да жыцця бедняка, і зразумець, наколькі малую каштоўнасць наогул мае жыццё ў вачах чалавека, асуджанага жыць пры абсалютызме.

У Расіі жыць цяжка ўсім: імператар тут звыклы да стомленасьці не менш апошняга з прыгонных. Мне паказалі яго ложак – нашы земляробы падзівіліся б цвёрдасьці гэтага ложа. Тут усе вымушаныя паўтараць сабе суровую ісціну – што мэта жыцця ляжыць не на зямлі і задавальненні не той спосаб, якім можна яе дасягнуць.

Перад вамі ўсякую хвіліну ўзнікае вобраз няўмольнага абавязку і пакоры, не дазваляючы забыцца пра жорсткія ўмовы чалавечага існавання – працу і пакуты! У Расіі вам не дазволяць пражыць, не ахвяруючы ўсім дзеля павагі да зямной айчыны, асвечанай верай у бацькаўшчыну нябесную. Часам пасярод публічнага гуляння здараецца мне сустрэць некалькі разявак, якія вымушаюць мяне ашукацца і паверыць, быццам бы ў Расіі, як і паўсюль, ёсць, можа стацца, людзі, што забаўляюцца дзеля забавы, людзі, для якіх задавальненне – таксама занятак у жыцці; але я хутка прыхожу ў розум пры выглядзе фельд’егера, які моўчкі нясецца наўскач на сваім возе. Фельдъегерь ёсць чалавек улады; ён – слова гаспадара; ён – жывы тэлеграф, што вязе загад іншаму чалавеку, які, як і ён сам, знаходзіцца ў стане няведання адносна задумы, якая прыводзіць у рух іх абодвух: гэты другі аўтамат чакае яго за сотню, тысячу, паўтары тысячы лье ў імператарскіх уладаннях. Павозка, на якой выбіраецца ў дарогу жалезны чалавек, – самая нязручная з усіх дарожных карэт. Уявіце сабе маленькую фурманку з двума абабітымі скурай лаўкамі, без рысор і без спінкі; ніякі іншы экіпаж не падыходзіць для прасёлкаў, якімі заканчваюцца пакуль усе вялікія

[398] Магчыма, водгалас размоў з Барантом, які ў “Нататках” адводзіць асобны раздзельчык фатальнага ўздзеяння рускіх маразоў на людзей наогул і на фурманаў, якія чакаюць спадароў на вуліцы, у прыватнасці (Notes. P.. 350-351). Збіраючыся ўключыць гэтую дэталь у кнігу, Кюстын прасіў Сафі Гэ высветліць, ці сапраўды “пецярбургскія фурманы суровымі зімамі паміраюць ад холаду каля пад'ездаў тэатраў і палацаў”.

дарогі, пракладзеныя скрозь гэтую цёмную і дзікую імперыю. Пярэдняя лаўка прызначана фарэйтару або фурману, якія змяняюць адзін аднаго на кожным перагоне, задняя – кур'еру, што падарожнічае да самай смерці, а яна ў людзей, якія выконваюць гэтае цяжкае рамяство, надыходзіць рана.

Я бачу, як імчацца яны ва ўсіх напрамках па выдатных гарадскім вуліцах, і ў маім уяўленні адразу ўзнікаюць бязлюдныя прасторы, у якія ім трэба будзе паглыбіцца; у думках я іду за імі, і ў канцы іх шляху выяўляюцца мне Сібір, Камчатка, саланчакі, Кітайская сцяна, Лапландыя, Ледавітае мора, Новая Зямля, Персія, Каўказ; гэтыя назвы, гістарычныя, амаль казачныя, дзейнічаюць на мой розум гэтак жа, як губляючыся ў смузе аддалены пейзаж; але, уявіце сабе, як бывае прыгнечана душа летуценнямі падобнага роду!.. І, тым не менш, гэтыя глухія, сляпыя і нямыя кур'еры сваім з'яўленнем не стамляюцца дастаўляць ўяўленню чужаземца паэтычную ежу. Чалавек, народжаны, каб



жыць і памерці ў сваім вазку, і захоўваючы ў сваім партфелі лёсы свету, ужо сам па сабе надае сумную цікавасць драбным жыццёвым сцэнкам; перад тварам такіх пакут і такой велічы ў думках не застаецца месца для прозы. Дэспатызм робіць няшчаснымі народы, якія душыць; але нельга не прызнаць, што вынайшлі яго для задавальнення падарожнікаў, якіх ён штогадзінна здзіўляе. Пры свабодзе ўсё агалошваецца – і забываецца, бо погляд не затрымліваецца ні на чым; пры абсалютысцкім праўленні усё схавана ад вачэй, але ўсё адгадваецца, і адсюль нараджаецца жывая цікавасць – запамінаеш і прыкмячаеш нікчэмныя абставіны, ўсякая размова выклікае падспудную зацікаўленасць і набывае вялікую вастрыню дзякуючы таямніцы і дзякуючы самой адсутнасьці знешняй займальнасьці; розум тут хаваецца пад пакрываламі, як мусульманская прыгажуня; хай жыхары краіны з падобным кіраваннем не могуць весяліцца ад чыстага сэрца, затое чужынец, па праўдзе кажучы, не можа тут сумаваць. Чым менш магчымасцей разважаць аб сутнасці рэчаў, тым больш цікавасці павінна выклікаць іх знешні выгляд. Сам я залішне шмат думаю пра тое, чаго не магу ўбачыць, каб цалкам задаволіцца тым, што бачу; і ўсё ж відовішча гэта хоць і засмучае мяне, але здаецца захапляльным.

У Расеі няма мінулага, кажуць аматары старажытнасці. Гэта так, але будучыня і прастор даюць тут ежу самаму палкаму ўяўленню. У філосафа ў Расіі няшчасная доля, паэту ж тут можа і павінна падабацца. Сапраўды, няшчасныя толькі тыя паэты, якія асуджаны чэзнуць пры рэжыме галоснасьці. Калі ўсе могуць казаць усё што заўгодна, паэту застаецца толькі змоўкнуць. Паэзія ёсць сакрамэнт, які дазваляе выказаць нешта большае, чым словы; ёй няма месца ў народаў, якія страцілі сарамлівасць думкі. Ісціна ў паэзіі – гэта бачанне, алегорыя, апалогія; але ў краінах, дзе пануе галоснасьць, гэтую ісціну забівае рэальнасць, якая заўсёды занадта грубая з пункту гледжання фантазіі. Генію там не хапае паэтычнасьці: ён працягвае тварыць, зыходзячы са сваёй прыроды, але не здольны стварыць нічога завершанага.

У душу рускіх, народа насмешлівага і меланхалічнага, прырода, павінна быць, ўклала глыбокае пачуццё паэтычнага – бо ім удалося надаць непаўторны і

маляўнічы выгляд гарадам, якія былі пабудаваны людзьмі, што былі начыста пазбаўлены ўяўлення, да таго ж у самай маркотнай, аднастайнай і голай краіне на сьвеце. Бясконцыя раўніны, змрочнае, плоскае бязлюддзе – вось што такое Расія. Але калі б я мог паказаць вам Пецярбург з яго вуліцамі і насельнікамі такім, якім ён паўстае перада мной, я б у кожным радку апісваў жанравую сцэнку, – гэтак магутна паўстае славянскі нацыянальны геній супраць бясплоднай апантанасьці свайго ўрада. Гэты антынацыянальны ўрад прасоўваецца наперад толькі з дапамогай ваеннай эвалюцыі – ён выклікае ў памяці Прусію пры яе першым каралі[399].

**~232~**

Я апісаў вам горад, пазбаўлены ўласнага аблічча, хутчэй пышны, чым велічны, не столькі прыгожы, колькі шырокі, набіты безгустоўнымі будынкамі, што не маюць ні стылю, ні гістарычнай каштоўнасці. Але для паўнаты, г. зн. праўдзівасьці выявы варта было б адначасова паказаць людзей, якія перасоўваюцца ў гэтым прэтэнцыёзным і смешным абрамленні, людзей ад прыроды вытанчаных, якія, падпарадкоўваючыся свайму ўсходняму генію, здолелі асвоіць горад, пабудаваны для неіснуючага народа, – бо Пецярбург стваралі людзі заможныя[400], чый светапогляд утварыўся дзякуючы параўнанню розных еўрапейскіх краін, але не глыбокаму іх вывучэнню. Гэты легіён падарожнікаў, больш ці менш вытанчаных, не столькі навучаных, колькі набраўшыхся вопыту, уяўляў сабою штучную нацыю, падбор адукаваных, спрытных розумаў, прыцягнутых з усіх існуючых на свеце нацый; то не быў рускі народ – рускі народ хітры, нібы раб, што суцяшаецца, пасмейваючыся сам сабе над сваім ярмом; ён забабонны, выхвалісты, адважны і лянівы, нібы жаўнер; ён паэтычны, музычны і разважлівы, нібы пастух, – бо звычаі качавых рас яшчэ доўга будуць панаваць між славянамі; усё гэта не адпавядае ні стылю будынкаў, ні размяшчэнню пецярбургскіх вуліц; архітэктар тут відавочна адарваны ад жыхара. Еўрапейскія інжынеры прыбылі сюды вучыць маскавітаў, як ім ўзвесьці і адштукаваць сталіцу, годную захаплення Еўропы, а тыя, абвыкшыся да ваеннага паслушэнства, падпарадкаваліся ўладзе загаду. Пётр Вялікі пабудаваў Пецярбург не так дзеля рускіх, як, у значна большай ступені, супраць шведаў; аднак існасць народа знайшла сабе выйсьце, нягледзячы на пашану да прыхацей ўладара і недавер да самога сябе; менавіта гэтая міжвольная непакорлівасьць і наклала на Расію пячатку непаўторнасьці: пачатковы характар яе жыхароў выявіўся незнішчаемым; гэта перавага прыроджаных уласцівасцей над дрэнна

[399] Першым каралём Прусіі быў Фрыдрых I (1657-1713), кароль з 1701, але больш верагодна, што Кюстын мае на ўвазе яго сына, які кіраваў Прусіяй з 1713 г. Фрыдрыха Вільгельма I (1688-174-) у якога галоўным захапленнем было войска, за што ён і атрымаў мянушку Кароль-сяржант.

[400] Да аналагічнага высновы перш Кюстына прыйшоў Г. Т. Фабер: "Паўсюль прыкметна, што ў Пецярбургу ўсё хіліцца да задавальнення патрэб аднаго-адзінага класа – класа заможных. Гэта зусім натуральна: у паўночнай сталіцы раней за іншых абгрунтаваліся людзі з вялікім багаццем, радавітыя землеўладальнікі, прыдворныя. Першымі пасяліліся ў Пецярбургу землеўладальнікі і іх прыгонныя. Аднак паколькі апошніх у разлік не бралі, для іх у горадзе нічога не будавалі" (Фабер Г. Т. цацкі... // Новы літаратурны агляд. 1993 No 4. С. 358).

накіраваным выхаваннем – відовішча цікавае для ўсякага вандроўцы, здольнага яго ацаніць.

Шчасце для мастака і для паэта, што рускія ў вышэйшай ступені набожныя: ва ўсякім разе, іхныя цэрквы належаць толькі ім; непахіснасць формы рэлігійных будынкаў складае частку культу, і забабоны абараняюць гэтыя богадагодныя ўмацаванні супраць маніі выбудоўваць з цесанага камення геаметрычныя фігуры, прамакутнікі, плоскасьці і прамыя лініі, – інакш кажучы, супраць архітэктуры не столькі класічнай, колькі ваеннай; праз яе ўсякі горад у гэтай краіне мае выгляд паходнага лагера, разбітага на некалькі тыдняў, пакуль працягваюцца вялікія манёўры.

Кочэўнічы дух нагадвае аб сабе і ў рускіх павозках, карэтах, збруі. Уявіце сабе цэлыя раі, хмары дрожак, што коцяцца, ледзь не закранаючы дном брук, сярод вельмі прысадзістых дамоў, над якімі, аднак, высяцца шпілі шматлікіх цэркваў і некалькіх знакамітых гістарычных будынкаў; усё гэта



ў цэлым калі не прыгожа, то ва ўсякім выпадку дзіўна. Пазалочаныя або фарбаваныя іголкі ламаюць паныла-роўныя лініі гарадскіх дахаў; іхныя вяршыні, пранізваючыя неба, такія тонкія, што вока з вялікай цяжкасьцю знаходзіць кропку, у якой пазалота згасае ў тумане палярнага паднябесся. Самыя характэрныя – Шпіль умацавання, кораня і калыскі Пецярбурга, і шпіль Адміралтэйства, якія апрануты ў золата галандскіх дукатаў, што былі падараваны цару Пятру рэспублікай Злучаных Правінцый. Па вышыні і адвазе гэтыя манументальныя плюмажы, якія капіруюць, кажуць, тыя азіяцкія ўборы, якія ўпрыгожваюць будынкі ў Маскве, ўяўляюцца мне сапраўды незвычайнымі. Немагчыма зразумець, ні якім чынам трымаюцца яны ў паветры, ні як іх там ўсталявалі; гэта сапраўдна рускае ўпрыгожванне. Уявіце ж незлічоную колькасць сабораў з чатырмя званніцамі, запазычаныя у візантыйцаў. Уявіце мноства купалоў – пасярэбраных, пазалочаных, блакітных, зорчатых, і дахі палацаў, пакрытыя смарагдавай або ультрамарынавага фарбай; плошчы, аздобленыя бронзавымі статуямі ў гонар галоўных гістарычных дзеячаў і імператараў Расіі; змясціце гэтую карціну ў раму велічэзнай ракі, што ў ясныя дні служыць люстэркам для ўсіх прадметаў, а ў бурныя – выгадным кантрастам для іх; дадайце да гэтага пантонны Траецкі мост, перакінуты праз Няву ў самым шырокім яе месцы, паміж Марсавым полем, у прасторах якога губляецца статуя Суворава, і ўмацаваннем, дзе ў сціплых магілах без усялякіх упрыгожванняў спачываюць Пятро Вялікі з сямействам[401]*; ўзгадайце, нарэшце, што роўнядзь нязменна поўнаводнай Нявы ляжыць на адным узроўні з зямлёй і абцякае востраў пасярэдзіне горада, – востраў, акружаны з усіх бакоў будынкамі з грэцкімі калонамі і гранітным падмуркам, што ўзведзены па ўзору паганскіх храмаў і, калі вам атрымаецца ахапіць позіркам увесь ансамбль Пецярбурга, вы зразумееце, чаму гэты горад бясконца маляўнічы, нягледзячы на сваю запазычаную, дрэннага густу архітэктуру, нягледзячы на багністае адценне

[401] Згодна грэцкага абрада скульптуры ў цэрквах забароненыя.

падступаючых да яго палёткаў, нягледзячы на зусім плоскі, не ведаючы пагоркаў ландшафт і блякласць ясных летніх дзён у цьмяным паўночным клімаце.

Рака, амаль нерухомая на подступах да вусця, дзе мора часцяком прымушае яе зусім спыніцца або нават павярнуць назад, надае асабную своеасаблівасць гэтаму пейзажу.

Не трэба абвінавачваць мяне ў супярэчнасцях, я заўважыў іх перш за вас, але не хачу іх пазбягаць, бо яны закладзены ў саміх рэчах; кажу гэта раз і назаўжды. Як даць вам рэальнае ўяўленне пра ўсё, што я апісваю, калі не супярэчачы самаму сабе на кожным слове? Калі б я быў не такі шчыры, то здаваўся б вам больш паслядоўным; ўспомніце, аднак, што праўда, як ў фізічным, так і ў маральным свеце, ёсць толькі сукупнасць

**~234~**

кантрастаў гэтак крычашчых, што можна ўявіць, быццам прырода і грамадства толькі для таго і створаны, каб змацаваць элементы, чужыя адзін аднаму і ўзаемна адзін аднаго выключаючыя.

Нічога няма больш сумнага чым паўдзённае пецярбургскае неба; але хоць дзень у гэтых шыротах не яскравыя, вечар і раніцу тут пышныя: на тваіх вачах у паветры і на люстраной паверхні амаль бязмежных, зліваючыхся з небам вод распаўсюджваюцца нейкія снапы святла, вогненныя букеты і бруі, падобных якім мне яшчэ нідзе не здаралася бачыць. Змярканні тут працягваюцца тры чвэрці чалавечага жыцця і багатыя дзівоснымі нечаканасьцямі; летняе сонца, каля паўночы хаваецца на імгненне пад вадой, доўга плавае на гарызонце на ўзроўні Нявы і акружаючых яе нізін; ад яго разліваецца вакол зарыва пажару, здольнае і самую бедную прыроду зрабіць выдатнай; гэта відовішча выклікае не захапленне, якое нараджаюць фарбы пейзажаў ў гарачым поясе, але салодкія мроі, неадольнае жаданне пагрузіцца ў сны, поўныя ўспамінаў і надзей. Шпацыр па выспах у гэты час – сапраўдная ідылія. Вядома, гэтым ландшафтам, каб ператварыцца ў выдатныя, з добрай кампазіцыяй выявы, шмат чаго не хапае, але ўлада прыроды над уяўленнем чалавека мацней чым ўлада мастацтва; яе беззаганны выгляд ва ўсіх кліматычных зонах адказвае патрэбнасьці ў захапленні, якую чалавек носіць у душы, – і ці магчыма яму знайсці лепшы напрамак для свайго пачуцця? Хай нават Гасподзь звёў зямлю ў ваколіцах полюса да цалкам плоскай і голай паверхні, – усё роўна, нягледзячы на яе скуднасць, відовішча тварэння нязменна застанецца для чалавечага позірку красамоўнай праявай задумак Творцы. Хіба лысай галавы па-свайму не прыгожыя? Што да мяне, то ландшафты ў наваколлях Пецярбурга ўяўляюцца мне больш чым выдатнымі: яны адзначаны ўзнёслым смуткам і па глыбіні ўражання нічым не саступаюць самым знакамітым краявідам у свеце з іх раскошай і разнастайнасьцю. Тут – не парадны, штучнае твор, якая-небудзь прыемная выдумка, тут – глыбіні бязлюддзя, бязлюддзя грознага і цудоўнага, як смерць. Уся Расія, ад краю да краю сваіх раўнін, ад аднаго марскога ўзбярэжжа да другога, слухае ўсемагутны голас Божы, які звяртаецца да чалавека, заганарышагася нікчэмнай пышнасцю бездапаможных сваіх гарадоў, і кажа яму: марная твая праца, табе не перасягнуць мяне! Такі ўжо вынік нашай цягі да

неўміручасьці: больш за ўсё займае жыхара зямлі тое, што апавядае пра нешта іншае, чым зямля.

Дзіўна, як магутна адораны нацыі ад прыроды: на працягу больш чым стагоддзя шляхетныя рускія – знаць, навукоўцы, стаячыя пры ўладзе, толькі тым і займаліся, што клянчылі ідэі і шукалі ўзоры для пераймання ва ўсіх грамадствах Яўрапы



– і што ж? Смешная фантазія гаспадароў і прыдворных не пашкодзіла рускаму народу застацца самабытным[402]*.

Гэты народ разумны і па сваёй прыродзе занадта вытанчаны, занадта тактоўны і далікатны, каб зліцца калі-небудзь з тэўтонскай расой. Буржуазная Германія і дагэтуль больш чужая Расіі, чым Іспанія з яе народамі, у чыіх жылах цячэ арабская кроў. Марудлівасць, цяжкавагавасць, грубасць, палахлівасць, няёмкасць супярэчаць славянскаму духу. Славяне лягчэй прызвычайваюцца да помсты і тыраніі; самыя цноты германцаў рускім ненавісныя; а таму рускія, нягледзячы на жорсткую рэлігійную і палітычную варожасць з Варшавай, за некалькі гадоў мацней прасунуліся ў яе грамадскай думцы, чым прусакі з усімі іхнымі рэдкімі і грунтоўнымі добрымі якасцямі, якімі вызначаюцца тэўтонцы; я не кажу, што гэта добра, я проста адзначаю сам факт: не ўсе браты любяць адзін аднаго, але ўсе адзін аднаго разумеюць[403]**. Што ж да некаторага падабенства, якое, здаецца мне, я знаходжу паміж рускімі і іспанцамі, то яно тлумачыцца сувязямі, якія першапачаткова маглі паўстаць паміж арабскімі плямёнамі і асобнымі ордамі, што рухаліся праз Азію на Масковію. Маўрытанская архітэктура чымсьці падобная з візантыйскай, узорнай для сапраўднай маскоўскай архітэктуры. Геній азіяцкіх народаў, што кружылі па Афрыцы, наўрад ці мог быць

---

[402] Папрок гэты, звернуты да Пятра I і бліжэйшым прадаўжальнікаў яго справы, служыць дадаткам да пахвальнага слова імператару Мікалаю, які ўзяўся спыніць гэты бясконцы паток. Як раз у гэты час у палітычных колах Яўропы абмяркоўвалася наяўнасць пры пецярбургскім двары ўплывовай "рускай" ("стара-рускай") партыі, якая выступае за ўзмацненне ізаляцыі Расіі ад Еўропы і нават пагражае бяспецы іншых краін; Барант у данясенні ад 24 сакавіка 1837 года адзначаў, што людзей, якія добра ведаюць еўрапейскую жыццё, у атачэнні Мікалая I становіцца ўсё менш, затое пастаянна павялічваецца колькасць людзей "годных, дасведчаных у справах адміністрацыйных, мудрых дарадцаў, надзейных і адданых служак, якія з'яўляюцца рускімі і толькі рускімі і мала дасведчаны ў тым, што адбываецца на Захадзе" (Souvenirs. т. 5 p. 554; гл. таксама: The Diary ofPhilipp von Neumann. 1819-1850. Boston and New-York, 1928. V. 2. P. in; запіс ад 24 лютага 1839; аўтар дзённіка – высокапастаўлены аўстрыйскі дыпламат). Праз прыхільнасць да рамантычнай канцэпцыі мясцовага каларыту і нацыянальнай самабытнасьці Кюстын адклікаецца пра гэтую ізаляцыяністцкую палітыку ўхвальна, хоць яе непазбежныя наступствы (такія, напрыклад, як забарона рускім выязджаць за мяжу - гл заўв. да цяп. тома, с. 164) выклікаюць, у некаторых месцах кнігі, яго пратэст. На недахоп у Пецярбургу рускіх асоб і наогул "рускасьці" скардзіўся і Ансэло: "Прыбыўшы ў Пецярбург, я пажадаў убачыць на вуліцах гэтай штучнай сталіцы народ – убачыў жа толькі князёў, палацы і казармы. Рускіх, растлумачылі мне, варта шукаць не тут. У Пецярбургу яны, так сказаць, губляюцца сярод натоўпу лівонцаў, літоўцаў, эстонцаў, фінаў і разнастайных чужаземцаў, якія насяляюць гэты імправізаваны горад. (...) Вядома, французскаму падарожніку прыемна знайсьці ў сямістах лье ад радзімы звычаі, мову і нават жарты нашай Францыі, але я-та прыехаў у Расію не за гэтым і, гледзячы на гэтых афранцужаных рускіх, не раз усклікаў разам з Беранжэ: "Хай будзе рускі рускім, брытанец жа – брытанцам і інш." (Ancelot. P. 39 ' 94). Пра погляд на пераймальнасць як асноўную рысу рускіх см. заўв. да цяп. тама, с. 176.

[403] Лісты пяты і дваццаць дзевяты.

агідны генію іншых усходніх нацый, якія толькі што аселі ў Яўропе; гісторыя тлумачыцца паспяховым уплывам рас адна на адну, такая грамадская непазбежнасць, падобна таму як чалавечы характар ёсць непазбежнасць асабістая.

Калі б не рэлігійныя адрозненне і не непадабенства ў звычаях народаў, мне б здавалася, што я знаходжуся на адной з самых узнёслых і самых бясплённых раўнін Кастыліі. Тым больш што спякота тут стаіць вартая афрыканскай; за апошнія два дзясяткі гадоў у Расіі не ўзгадаюць такога спякотнага лета. Нягледзячы на трапічнае пекла, я бачу, як рускія ўжо назапашваюць дровы. Лодкі, гружаныя бярозавым паленнем – адзіным палівам, якое тут выкарыстоўваецца, таму што драўніна дуба лічыцца раскошай, – загрувашчваюць незлічоныя шырокія каналы, што перасякаюць ва ўсіх напрамках гэты горад, пабудаваны па ўзоры Амстэрдама: адзін з рукавоў Нявы цячэ па самым цэнтры Пецярбурга; зімой вада яго схаваная пад снегам, а летам – пад незлічонымі лодкамі, якія шчэмяцца ўздоўж набярэжных, каб выгрузіць прывезеныя прыпасы на бераг. Дровы ўжо загадзя распілаваны на кароценькія паленцы; з лодак іх перакладаюць на даволі незвычайныя павозкі, простыя



да прымітыўнасці. Яны складаюцца з двух жэрдак, нападобе аглобляў і прызначаюцца для злучэння пярэдняй і задняй восі; гэтыя доўгія жэрдкі блізка ссунутыя – каляіна ў павозкі вузкая, – і на іх нагружаюць палены, узводзячы нешта накшталт сцены вышынёй у сем-восем футаў. З боку гэта груваасткае збудаванне падобна на рухаючыся дом. Дровы на павозцы звязваюцца ланцугом, і калі ён на трускім бруку разыходзіцца, то фурман на ходу сцягвае яе з дапамогай вяроўкі і палкі-рагаціны, – прычым не спыняючы каня і нават не запавольваючы яго бег. Бачыш, як чалавек павісае на сваім штабелі дроў, імкнучыся з сілай прыгнаць адзін да аднаго ўсе яго часткі, – нібы вавёрка, што калышыцца на вяроўцы у клетцы або на галінцы ў лесе; і пакуль доўжыцца гэтая нямая аперацыя, драўляная сьцяна працягвае моўчкі рухацца сваім шляхам па вуліцы, не сустракаючы ніякіх перашкод, бо пры тутэйшым суровым ўрадзе ўсё адбываецца без узрушэнняў, без слоў і без шуму. Бо жах выклікае ў чалавека разважлівую ураўнаважанасць, больш непахісную і надзейную, чым прыродная лагоднасць. Я ні разу не бачыў, каб хоць адна з гэтых хісткіх пабудоў павалілася пад час небяспечных і часцяком доўгіх пераездаў, якія яна здзяйсняе праз увесь горад. Рускі народ бязмерна спрытны, бо гэта людзкая раса, насуперак загадам прыроды, выявілася выштурхнутай да самага полюсу праз чалавечыя рэвалюцыі і затрымалася там праз палітычныя патрэбы. Той, хто здолеў бы глыбей пракрасьціся ў Божы промысел, магчыма, прыйшоў бы да высновы, што вайна са стыхіямі ёсць суровае выпрабаванне, якому Гасподзь пажадаў падвергнуць гэтую нацыю-выбранніцу, каб аднойчы ўзнесці яе над шмат якімі іншымі. Барацьба – гэта школа Божая[404].

[404] Заўвага Кюстына да выдання 1854 г. "Гэта варта аднесці да паўдзікіх народаў, якія Расія, здаецца, заклікана ўключыць у сваю палітычную сферу, каб прышчапіць ім зародкі цывілізацыі”.

не памёр, і знаходзіцца ў невымоўнай роспачы: ён рыхтуецца да ад'езду – яму трэба будзе паведаміць гэтую навіну маці; тая напісала ім, каб яны не адмаўляліся зірнуць на свята ў Пецяргофе, дала ім поўную свабоду на той выпадак, калі ім захочацца працягнуць падарожжа, і паўтарыла, што стане цярпліва чакаць іх у Карлсбадзе. Будзь яна больш патрабавальнай, магчыма, яна выратавала б ім жыццё. Уявіце, якое мноства апавяданняў, спрэчак, ўсялякага роду меркаванняў, здагадак, ляманту выклікала б падобнае здарэнне ва ўсякай іншай краіне, і асабліва ў нашай! Колькі газет абвясцілі б, колькі галасоў сталі б паўтараць, што паліцыя ніколі не выконвае сваіх абавязкаў, што лодкі дрэнныя, лодачнікі

**~281~**

прагныя, што ўлады не толькі не абараняюць ад небяспекі, але, наадварот, толькі ўзмацняюць яе, ці то праз легкадумнасць, ці то праз сквапнасць; нарэшце, што адружанне вялікай князёўны святкавалася ў ліхую гадзіну, як і шмат якія адружанні гаспадароў; і які паток дат, намёкаў, цытат абрынуўся б на нашы галовы!.. А тут – нічога!!! Пануе маўчанне, якое страшней за самую бяду!.. Так, пара радкоў у газетцы, без усякіх падрабязнасцей, а пры двары, у горадзе, у вялікасвецкіх салонах – ні слова; калі ж нічога не гавораць тут, то не кажуць нідзе: у Пецярбургу няма кафэ, дзе можна было б абмяркоўваць газетныя артыкулы, ды і саміх газет не існуе; дробныя чыноўнікі яшчэ баязлівей, чым вяльможы, і калі пра нешта не адважваецца казаць начальства, пра гэта, тым больш, не кажуць падначаленыя; застаюцца купцы ды крамнікі: гэтыя хітрыя, як і ўсе, хто хоча жыць у дабрабыце у тутэйшых краях. Калі яны і кажуць пра рэчы важныя, а значыць, небяспечныя, то толькі на вуха і адзін на адзін[463]*.

---

[463] Думаю, я павінен прывесьці тут урывак із ліста, што напісала мне ў гэтым годзе адна жанчына з ліку маіх сяброў; яе апавяданне нічога не дадасць да тых дэталяў, аб якіх вы толькі што прачыталі, – хіба што толькі неверагодная асцярожнасць жывапісца-замежніка, які, апынуўшыся ў парыжскім салоне, распавёў пра падзею, якая, здарылася ў Пецярбургу трыма гадамі раней, дасць вам лепшае ўяўленне аб падаўленні розумаў у Расіі, чым мае словы. "Адзін італьянскі жывапісец, што знаходзіўся адначасова з вамі ў Санкт-Пецярбургу, жыве цяпер у Парыжы. Ён, як і вы, распавядаў мне пра катастрофу, у якой загінула каля чатырохсот чалавек. Казаў жывапісец шэптам. "Што ж, я ведаю пра гэта, – адказвала я, – але чаму вы кажаце шэптам?"–"О! Таму, што імператар забараніў мне пра гэта распавядаць". Я захапілася падобнай паслухмянасьцю, якая не ведае ні часу, ні адлегласцей. Але калі ж вы, чалавек, які не здольны трымаць ісціну пад спудам, надрукуйце свае дарожныя нататкі?" Прыкладаю да гэтага таксама вытрымку з выдатнага артыкула, надрукаванага 13 кастрычніка 1842 года ў "Часопісе дэ Дэба" з нагоды кнігі, маючай назву "Пераслед і мукі каталіцкай царквы ў Расіі". "У кастрычніку 1840 машыністы двух цягнікоў, якія ішлі па чыгунцы паміж Санкт-Пецярбургам і Царскім сялом у процілеглых накірунках, не змаглі заўважыць адзін аднаго ў густым тумане, і цягнікі сутыкнуліся. Ўсё рассыпалася дашчэнту. Кажуць, што пяцьсот чалавек палеглі на месцы – забітымі, скалечанымі, альбо больш ці менш цяжка параненымі. У Санкт-Пецярбургу ж, амаль нічога не было пра гэта вядома. Назаўтра з самай ранняй раніцы толькі некалькі цікаўных адважыліся выправіцца да месца катастрофы; яны выявілі, што ўсе абломкі расчышчаны, загінулыя і параненыя вывезены, і пра тое, што здарылася нагадваюць толькі некалькі паліцэйскіх, якія, дапытаўшы цікаўных пра падставу іхнага візіту, адчыталі іх за цікаўнасць і груба загадалі разысьціся па хатах". кніга графа М.-Ж. д’Арэра (гл. пра яго заўв. да цяп. тома, с. 6). Грэч. (Gretch. P. 60) і Таўсты (Tolstoy. P. 21) паказалі Кюстыну на памылку, дапушчаную газетай “Journal des Debats”, на якую ён спасылаецца: катастрофа адбылася не ў кастрычніку, а 11/23 Жніўня 1840 г. Я быў у той час адным із дырэктараў чыгункі, - піша Грэч, - і магу запэўніць маркіза, што гэты няшчасны выпадак пазбавіў жыцця ў агульнай колькасьці пяць чалавек: карэтніка Даэна, купецкага сына Звяркова, жонку муляра

Рускія далі сабе слова не прамаўляць услых нічога, што магло б усхваляваць імператрыцу; вось так ёй і дазваляюць танчыць ўсё жыццё, да самай смерці! "Змоўкніце, а то яна засмуціцца!" І няхай тонуць дзеці, сябры, родныя, любімыя – ніхто не адважыцца плакаць. Усе занадта няшчасныя, каб скардзіцца.

Рускія – царадворцы ва ўсім: у гэтай краіне кожны – жаўнер казармы або царквы, шпіён, турэмшчык, кат – робіць нешта большае, чым проста выконвае абавязак, ён робіць сваю справу. Хто



мне скажа, да чаго можа дайсці грамадства, у падмурку якога не закладзена чалавечая годнасць?

Я не стамляюся паўтараць: каб вывесці тутэйшы народ з нікчэмнасьці, патрэбна ўсё знішчыць і стварыць зноў. На гэты раз благачыннае маўчанне было выклікана не проста ліслівасьцю, але і баязьню. Раб баіцца дрэннага настрою свайго гаспадара і ўсімі магчымасьцямі імкнецца, каб той знаходзіўся ў збаўчай весялосьці. Пад рукой у раз'юшанага цара – кайданы, вязніцы, пуга, Сібір альбо, ва ўсякім разе, Каўказ, мякчэйшы варыянт Сібіры, цалкам зручны для дэспатызму, які, у згодзе са стагоддзем, што ні дзень становіцца больш умераным.

Нельга адмаўляць, што ў падобных абставінах галоўнай нагодай бяды стала бестурботнасць ўладаў: калі б санкт-пецярбургскім лодачнікам не дазвалялі перапаўняць лодкі або выплываць ў заліў на занадта лёгкіх, не вытрымліваючых марскіх хваляў судах, усе засталіся б жывыя... а зрэшты, хто яго ведае? Рускія наогул кепскія маракі, з імі ніколі нельга адчуваць сябе ў бяспецы. Спачатку набіраюць даўгабародых азіятаў ў даўгакрылай вопратцы, робяць з іх матросаў, а потым дзівяцца, чаму тонуць караблі!

У дзень свята ў Пецяргоф адплыў параход, які звычайна курсіруе паміж Пецярбургам і Кранштатам. Нягледзячы на свае вельмі грунтоўныя памеры і ўстойлівасць, ён ледзь не перавярнуўся, нібы самы дрэнны човен, і затануў бы, калі б не адзін замежнік, які знаходзіўся сярод пасажыраў. Гэты чалавек (ангелец), бачачы, як гіне мноства лодак зусім побач з караблём, і адчуваючы, якой небяспецы падвяргаецца і ён сам, і ўвесь экіпаж, зразумеў, што капітан толкам не кіруе караблём, і яму прыйшла шчасьлівая думка перарэзаць уласным нажом ліны тэнта, нацягнутага на верхняй палубе для прыемнасці і выгоды пасажыраў. Першая рэч, якую трэба зрабіць пры ўсякай пагрозе непагады, – гэта прыбраць тэнт, але рускія не падумалі пра такую простую засцярогу, і, не выкажы іншаземец прысутнасці духу, судна б непазбежна перавярнулася. Яно ацалела, але пацярпела аварыю і вымушана было, да вялікага шчасьця пасажыраў, адмовіцца ад далейшага плавання і спешна вярнулася ў Пецярбург.

---

Мазебаха, юнака, чыё імя я не запомніў, і хлапчука – памочніка качагара. Два чалавекі атрымалі раненні – сур’ёзныя, але не смяротныя. Каля дзесятка атрымалі лёгкія пашкоджанні або проста ўдары. Калі маркіз можа назваць мне шостага загінуўшага, я гатовы заплаціць яму са сваёй кішэні дзесяць тысяч франкаў. Фатальнае сутыкненне адбылося ў двух з паловай лье ад заставы, так што ні аднаго паліцэйскага паблізу не было. Усе захады рабіліся згодна загадаў дырэкцыі чыгункі, якая складалася із прыватных асоб (Gretch. P. 60-61). С. 283-284.

Калі б ангелец, што выратаваў яго ад крушэння, не вадзіў знаёмства з іншым ангельцам, з ліку маіх сяброў, я б ніколі не даведаўся, што гэтаму судну пагражала небяспека. Я абмовіўся пра здарэнне некалькім вельмі дасведчаным асобам: яны пацвердзілі мне самы факт, але вельмі прасілі трымаць яго ў таямніцы!.. Калі б у валадаранне расійскага імператара здарыўся сусветны патоп, то і тады абмяркоўваць гэтую катастрофу палічылі б нязручным. Адзіная із разумовых здольнасцей, якая тут



шануецца, – гэта такт.[464] Ўявіце: цэлая нацыя згінаецца пад цяжарам гэтай салоннай цноты! Уявіце сабе народ, які зрабіўся ўвесь асцярожным, быццам пачынаючы дыпламат, – і вы зразумееце, у што ператвараецца ў Расіі задавальненне ад гутаркі. Калі прыдворны дух нам ў цяжар нават і пры двары – наколькі ж ён дзейнічае мяртвяцкі, пракраўшыся ў схованкі нашай душы! Расія – нацыя нямых; нейкі чарадзей ператварыў шэсцьдзесят мільёнаў чалавек у механічных лялек, і цяпер для таго, каб уваскрэснуць і зноў пачаць жыць, яны чакаюць ўзмаху чароўнай палачкі іншага чарадзея. Гэтая краіна зрабіла на мяне ўражанне палаца Спячай прыгажуні: усё тут блішчыць пазалотай і пышнасцю, тут ёсць усё... акрамя волі, гэта значыць жыцця. Імператар не можа не пакутаваць ад падобнай рэчаіснасьці. Вядома, той, хто народжаны, каб кіраваць іншымі, любіць падпарадкаванне; аднак падпарадкаванне чалавека варта большага, чым падпарадкаванне машыны: ўгодлівасьць так цесна звязана з хлуснёй, што гаспадар, акружаны халуямі, ніколі не будзе ведаць таго, што яны захочуць ад яго схаваць; тым самым ён асуджаны сумнявацца ў кожным слове, адчуваць недавер да ўсякага чалавека. Такі жрэбій абсалютнага валадара; дарэмна ён будзе выказваць дабрыню і імкнуцца жыць, як звычайны чалавек, – магутнасьцю абставін ён зробіцца неадчувальным да ўсяго, акрамя ўласнай волі; месца, якое ён займае, – месца дэспата, а значыць, ён вымушаны зведаць яго долю, пранікнуцца яго пачуццямі альбо, ва ўсякім разе, выконваць яго ролю.

Злосная ўтоенасць распасціраецца тут яшчэ далей, чым вы думаеце; руская паліцыя, такая хуткая на пакуты людзей, вельмі павольная, калі гэтыя людзі звяртаюцца да яе, каб развеяць свае сумневы адносна якога-небудзь факту.

Вось адзін прыклад гэтай разлічанай непаваротлівасьці. Адна мая знаёмая пад час апошняга карнавалу дазволіла сваёй пакаёўцы адлучыцца ў нядзелю, на шырокую масленіцу; да ночы дзяўчына не вяртаецца. Назаўтра ўстрывожаная гаспадыня пасылае справіцца пра яе ў паліцыю[465]*. Там адказваюць, што мінулай ноччу ў Пецярбургу ніякіх няшчасных выпадкаў не было і знікшая дзяўчына абавязкова ў хуткім часе знойдзецца, жывая і здаровая.

У гэтай зманлівай упэўненасьці праходзіць дзень – пра яе нічога не чуваць; нарэшце праз дзень аднаму сваяку дзяўчыны, маладому чалавеку, даволі блізка

[464] Заўвага Кюстына да трэцяга выдання 1846: “Глядзі спадара Грэча”.

[465] Я палічыў сваім абавязкам змяніць некаторыя абставіны і не называць імёнаў, па якім можна было б вызначыць канкрэтную асобу; але сутнасць падзей захавана ў апавяданні самым руплівым чынам.

знаёмаму з таемнымі звычкамі мясцовай паліцыі, прыходзіць у галаву думка пайсьці ў анатамічны тэатр, і хтосьці з сяброў праводзіць яго туды. Ледзь пераступіўшы парог, ён пазнае труп сваёй кузіны, які вучні рыхтуюцца прэпараваць.

**~284~**

Як праўдзівы рускі, ён захоўвае валоданне сабой, каб не выдаць свайго хвалявання.

– Што гэта за цела?

– Ніхто, не ведае; цела гэтай дзяўчыны, ужо мёртвай, знайшлі ў пазамінулую ноч на такой-та вуліцы; мяркуюць, што яна была задушана, калі вырашылася абараняцца супраць людзей, якія спрабавалі ўчыніць над ёю гвалт.

– Хто гэтыя людзі?

– Мы не ведаем; можна толькі рабіць на гэты конт здагадкі – доказаў няма.

– Як гэта цела трапіла да вас?

– Нам яго таемна прадала паліцыя[466], так што маўчыце пра гэта, – гэты абавязковы рэфрэн ўжо амаль ператварыўся ў слова-паразіт, якім завяршаецца кожная фраза, вымаўляемая рускім альбо засвоіўшым мясцовыя звычаі замежнікам.

Прызнаю, гэты прыклад не такі абуральны, як злачынства Бєрка[467] ў Англіі, аднак тое ахоўнае маўчанне, якога свята прытлівающца тут у дачыненні да падобнага роду злачынстваў, – адметная рыса Расіі. Стрыечны брат прамаўчаў, гаспадыня ахвяры не адважылася прынесці скаргу; і цяпер, праз паўгода, я, мабыць, застаюся адзіным чалавекам, якому яна распавяла пра смерць сваёй пакаёўкі, бо я іншаземец... і далёкі ад пісьменніцтва – так я ёй сказаў.

Вось бачыце, як выконваюць свае абавязкі дробныя паліцэйскія агенты ў Расіі. Гэтыя хлуслівыя чыноўнікі здабылі двайную выгаду з гандлю целам забітай: ва-першае, выручылі за яго некалькі рублёў, а па-другое, схавалі забойства, якое, калі б пра гэтае здарэнне стала вядома, наклікала б на іх суровую вымову.

Папрокі ж на адрас падобных людзей суправаджаюцца звычайна, як мне здаецца, вельмі жорсткімі расправамі, закліканымі навекі пахаваць гаворкі папракаючага ў памяці няшчаснага, які іх выслухоўвае. Рускага простага чалавека б'юць у жыцці так жа часта, як і вітаюць. Для грамадзкага выхавання гэтага народу, не столькі цывілізаванага, колькі прывучанага выконваць этыкет, у роўных дозах і з роўнай дзейснасьцю адвешваюць і дубцы (у Расіі дубцы – гэта нарэзаныя доўгія галінкі), і паклоны; быць бітым можа быць у Расеі толькі чалавек, які належыць да вызначанага стану, і біць яго можа толькі чалавек з іншага, таксама пэўнага стану. Благое абыходжанне тут упарадкавана не горш

[466] Каментарыі Грэча: “Трупы, падабраныя на вуліцы і ў іншых месцах, даюцца паліцыяй Медыцынскай Акадэміі бясплатна; насельніцтва Пецярбурга такое вялікае, што трупаў тут больш чым дастаткова, і ніхто не даў бы за мёртвае цела і сантыма; (Crotch. P. 63).

[467] Берк Уільям (1792-1829) – ангелец, які ў канцы 1820-х гг. забіваў людзей, каб пастаўляць трупы ў анатамічныя тэатры, і сеяў жах па ўсёй Англіі: людзі баяліся быць “бэркіраванымі”.

чым мытныя тарыфы; усё гэта нагадвае звод законаў Яна Жахлівага[468]. Тут паважаюць каставую годнасць, але да гэтага часу ніхто не падумаў ўвесці ні ў заканадаўства, ні нават у звычай годнасць чалавека. Успомніце, што я вам пісаў пра пачцівасць рускіх з усіх грамадзкіх станаў. Пакідаю вам магчымасць падумаць самому над тым, чаго варта гэтая выхаванасць, і абмяжуюся толькі



пераказам некалькіх сцэн з тых, што кожны дзень здараюцца ў мяне на вачах. Ідучы па вуліцы, я бачыў, як два фурманы дрожак (гэтага рускага фіякра) пры сустрэчы цырымонна знялі капелюшы: тут гэта агульнапрынята; калі яны колькі-небудзь блізка знаёмыя, то, праязджаючы міма, падносяць з сяброўскім выглядам руку да вуснаў і цалуюць яе, падміргваючы дастаткова хітравата і выразна, такая тут ветлівасць. А вось якое правасуддзе: крыху далей на той жа вуліцы ўбачыў я коннага курьера, фельдʼегера альбо нейкага іншага нікчэмнага ўрадавага чыноўніка; выскачыўшы са сваёй карэты, падбег ён да аднаго з тых самых выхаваных фурманаў і пачаў жорстка збіваць яго пугай, палкай і кулакамі, ўдары якіх бязлітасна сыпаліся таму на грудзі, твар і галаву; няшчасны ж, які нібыта недастаткова хутка ўступіў дарогу, дазваляў сябе біць, не выказваючы ні найменшага пратэсту ці супраціву – з павагі да мундзіра і касты свайго ката; але гнеў апошняга далёка не заўсёды сціхае ад таго, што правініўшыся адразу выказвае поўную пакорлівасць.

Няўжо не на маіх вачах адзін з падобных лістаносцаў, курьер якога-небудзь міністра, а магчыма, размаляваны галунамі камердынер якога-небудзь імператарскага ад'ютанта, сцягнуў з сядушкі маладога фурмана і перастаў збіваць яго, толькі калі ўбачыў, што твар у таго ўвесь заліты крывёю? Ахвяра гэтай экзэкуцыі пераносіла яе з цярпеннем мніха, без найменшага супраціву, так, як слухаюць гасударавыя прысуды, як саступаюць якому-небудзь здарэнню ў прыродзе; праходзячых побач таксама ні трохі не ўсхвалявала падобная жорсткасць, больш таго, адзін з таварышаў пацярпелага, які паіў сваіх коней праз некалькі крокаў ад гэтага месца, па знаку раз'юшанага фельдʼегера падбег і трымаў павады запрэжкі гэтага дзяржаўнага мужа, пакуль той не зрабіў ласку завяршыць экзэкуцыю. Паспрабуйце ў якой-небудзь іншай краіне папрасіць простага чалавека дапамагчы ў расправе над яго таварышам, якога караюць згодна нейчага самавольства!.. Але чын і адзенне чалавека, які збіваў, давала яму права збіваць, не ведаючы жалю, фурмана фіякра, а яму гэтыя ўдары атрымліваць; значыць, пакаранне было законным; я ж на гэта кажу: тым горш для краіны, дзе ўзаконены падобныя дзеі. Здарэнне пра якое я распавёў адбылося ў самым прыгожым квартале горада, у гадзіну гулянняў. Калі няшчаснага нарэшце адпусцілі, ён выцер кроў, якая цякла па шчоках, спакойна

[468] Маецца на ўвазе судзебнік Яна IV (1555 г.); які быў зацверджаны першым на Русі Земскім саборам і які абяцае смяротнае пакаранне тым, хто падыме руку на гаспадара, бунтаўшчыкам, здраднікам, падпальшчыкам, блюзнярам, забойцам, разбойнікам, фальшываманетчыкам і кіраўнікам банд, а пакаранне пугай; звычайным злодзеям (Schnitzler J.H. Essai d'une statistique generale de l'Empire de Russie. P 1829. P. 274).

сеў назад на сядушку і зноў пачаў рабіць паклоны пры кожнай новай сустрэчы са сваімі таварышамі.

Якім бы ні быў яго ўчынак, праз яго, аднак, не адбылося, ніякіх сур'ёзных здарэнняў. Уся падобная мярзота, заўважце, тут зусім звычайная, адбывалася на вачах маўклівага натоўпу, які не толькі не думаў абараніць або



апраўдаць вінаватага, але не адважваўся нават затрымацца надоўга, каб паглядзець на адплату. Нацыя, якой кіруюць па-хрысціянску, абурылася б супраць такой грамадскай дысцыпліны, якая знішчае ўсякую асабістую свабоду. Але тут увесь ўплыў святара зводзіцца да таго, каб дамагацца і ад простага народа, і ад шляхты хроснай адзнакі і станавення на калені. Нягледзячы на культ Святога Духа, гэтая нацыя заўсёды знаходзіць свайго Бога на зямлі. Расійскі імператар, падобна Батыю або Тамерлану, абагаўляецца падданымі; закон у рускіх – няхрышчаны.

Кожны дзень я чую, як усе нахвальваюць пакорлівыя звычкі, мірны нораў, ветлівасць санкт-пецярбургскага люду. Дзе-небудзь у іншым месцы я б захапляўся падобным спакоем; тут жа мне бачыцца ў ім самы жудасны сімптом той хваробы, пра якую я смуткую. Усё так дрыжаць ад жаху, што хаваюць яго за знешнім спакоем, які прыносіць задавальненне прыгнятальнікам і падбадзёрваньне прыгнечанаму. Сапраўдныя тыраны хочуць, каб усе навакол ўсміхаліся. Жах, навісаючы над кожным, робіць пакорлівасць зручнай для ўсіх: усе, і ахвяры, і каты, мяркуюць, што не могуць абысьціся без падпарадкавання, якое толькі памнажае зло – і тое, што робяць каты, і тое, што церпяць на ўласнай шкуры ахвяры.

Усім вядома, што ўмяшанне паліцыі ў бойку паміж просталюдзінамі накліча на забіяк пакаранне значна больш страшнае, чым тыя ўдары, якімі яны цішком абменьваюцца; вось усе і пазбягаюць падымаць шум, бо ўслед за выбліскам гневу з'яўляецца караючы кат.

Вось, дарэчы, адна бурная сцэна, сведкам якой мне выпадкова давялося стаць сёння раніцай.

Я ішоў па беразе канала; яго цалкам пакрывалі гружаныя дравамі лодкі. Нейкія людзі перацягвалі дровы на зямлю, каб узвесці з іх на сваіх павозках цэлыя сцены – у іншым месцы я ўжо апісваў падобнае збудаванне, нешта накшталт умацавальнага вала, які конь цягне па вуліцах. Адзін з грузчыкаў, які насіў дровы з лодкі ў тачку, каб давезьці іх да павозкі, пачаў сварку з таварышамі; ўсе кідаюцца ў сумленную бойку – гэтак жа, як і нашы насільшчыкі. Завадатай бойкі, адчуваючы, што перавага не на яго баку, кідаецца ўцякаць і са спрытам вавёркі залазіць на грот-мачту лодкі; да гэтага часу выява здавалася мне хутчэй пацешнай: уцякач, сеўшы на рэю, задзірае праціўнікаў, менш спрытных, чым ён сам. Тыя ж, бачачы, што іх надзея адпомсціць не спраўдзілася і, забыўшыся што яны ў Расіі, пераходзяць усе межы звыклай ветлівасці – інакш кажучы, асцярожнасьці – і выказваюць сваю лютасць ў аглушальных крыках і зверскіх пагрозах.

На ўсіх вуліцах горада стаяць на вызначанай адлегласці адзін ад аднаго паліцэйскія ў мундзірах; двое з іх, прыцягнутыя лямантам

~287~

задзір, з'яўляюцца да месца сваркі і патрабуюць, каб яе завадатар слез з рэі. Той адмаўляецца, адзін з гарадавых пераскоквае на борт лодкі, бунтаўшчык чапляецца за мачту, прадстаўнік улады паўтарае сваё патрабаванне, змагар па-ранейшаму супраціўляецца. Паліцэйскі ў лютасьці спрабуе залезці на мачту сам, і ў яго атрымліваецца схапіць страпціўца за нагу. І што ён робіць, як вы думаеце? Ён з усёй магчымасьці цягне суперніка ўніз – без ніякай перасьцярогі, ані не клапоцячыся пра тое, як небарака будзе спускацца; той жа, страціўшы надзею пазбегнуць пакарання, аддаецца нарэшце на волю лёсу: перавярнуўшыся, ён падае дагары, галавою ўніз, з вышыні ў два чалавечых росты, на паляніцу дроў, і цела яго распластваецца на ёй, нібы куль. Мяркуйце самі, наколькі жорсткім было падзенне! Галава няшчаснага падскочыла на паленах, і гук удару дасягнуў нават майго слыху, хоць я стаяў у паўсотні крокаў. Я лічыў, што гэты чалавек забіты; кроў залівала яго твар; аднак жа, акрыяўшы ад першага ўзрушэння, бедны, трапіўшы ў пастку дзікун ўстае на ногі; твар яго, наколькі відаць пад плямамі крыві, жахліва белы; ён пачынае раўці, як бык; гэтыя жудасныя крыкі збольшага паслаблялі маё спачуванне – мне здавалася, што зараз гэта ўсяго толькі звер, і дарма я перажываў за яго, нібы за сабе падобнага. Чым гучней выў гэты чалавек, тым мацней робіцца жорсткім маё сэрца – бо нельга адмаўляць, што па-сапраўднаму спачуваць жывой істоты і падзяляць яе пакуты можна, толькі калі гэтая істота хоць збольшага захоўвае пачуццё ўласнай годнасьці!.. Жаль ёсць суперажыванне – а які чалавек, наколі б ён ні быў спагадлівы, захоча суперажываць таму, кім ён пагарджае?

Грузчык супраціўляецца адчайна і даволі доўга, але нарэшце здаецца; хутка падплывае маленькая лодчанка, прыгнаная ў той жа момант іншымі паліцэйскімі, арыштанта звязваюць і, сцягнуўшы яму рукі за спіной, кідаюць ніц на дно лодкі; за гэтым другім падзеннем, не менш жорсткім, ідзе цэлы град удараў; але і гэта яшчэ не ўсё, папярэдняе катаванне не скончылася – гарадавы, які злавіў яго, ледзь убачыўшы сваю ахвяру ляжачай, прыгае на яе нагамі; я падышоў бліжэй і таму апавядаю пра тое, што бачыў на свае вачы. Кат спусціўся ў лодку і, ступіўшы на спіну няшчаснаму, стаў штурхаць нагамі гэтага небараку больш чым раней і таптаць яго так, нібы гэта былі вінаградныя гронкі ў давільні. Спачатку дзікія крыкі вязня аднавіліся з падвоенай сілай; але калі па ходу гэтай жахлівай экзэкуцыі яны сталі слабець, я адчуў, што сілы пакідаюць і мяне самога, і сьпешна сышоў; я не мог нічому перашкодзіць, але бачыў занадта шмат...

Вось што здарылася на маіх вачах, пасярод вуліцы, у той самы момант, калі я хацеў прагулякцца і хаця б некалькі дзён адпачнуць "ад свайго рамяства вандроўнага пісьменніка”. Але як тут ўтрымаць сябе ад абурэння? Яно адразу прымусіла мяне зноў ўзяцца за пяро.

~288~

Што мяне абурае, дык гэта відовішча самай вытанчанай элегантнасьці, якая суседнічае з такім агідным варварствам. Калі б у жыцці свету было менш

раскошы і сьпешчанасьці, становішча простага люду выклікала б у мяне менш жалю. Тут жа багатыя – не суайчыннікі бедным. Праз падобныя факты і ўсяго таго, што, як можна здагадацца, за імі стаіць, я зьненавідзеў бы і найцудоўнейшую на свеце краіну – тым больш агіднымі паўстаюць для мяне із-за іх выфарбаваны стэп і абтынкаванае балота. Што за перабольшанне! – усклікнуць рускія!.. – Такія высокія словы із-за сапраўднага глупства! Я ведаю, вы лічыце падобныя рэчы глупствам, але менавіта гэта я і стаўлю вам у папрок; вы звыклыя да такога роду жахаў, і звычка тлумачыць вашу абыякавасць да іх, але не апраўдвае іх. Вяроўкі, якімі на вашых вачах звязваюць чалавека, маюць для вас не большае значэнне, чым ашыйнікі, што надзяваюць на вашых паляўнічых сабак.

Падобныя дзеянні, згодзен, адпавядаюць вашым нораваў, бо на тварах гледачоў гэтых гнюснасьцей, а сярод іх былі людзі розных станаў, я не заўважыў ні цені асуджэння або жаху. Калі ў выглядзе прабачэння вы спашлецеся на гэта маўклівае адабрэнне натоўпу, то тут мне запярэчыць няма чаго. Да сьмерці забіваць чалавека сярод белага дня, на людней вуліцы, перш, чым ён паўстане перад судом, – усё гэта здаецца пецярбургскай публіцы і мясцовым збірам[469] справай цалкам натуральнай. Буржуа, вяльможы, жаўнеры, гараджане, бедныя і заможныя, знаць і дробны люд, шчогалі і мужыкі, вяскоўцы і дэндзі – усе як адзін дазваляюць, каб у іх на вачах здзяйсняліся падобныя рэчы, ані не клапоцячыся пра тое, наколькі яны законныя. У іншых краінах усе абараняюць грамадзяніна ад прадстаўніка ўлады, якія злоўжываюць ёю; тут жа паліцэйскі чыноўнік заўсёды абаронены ад справядлівых пратэстаў чалавека, над якім ён здзекваўся. Бо раб ніколі не пратэстуе.

Імператар Мікалай стварыў звод законаў[470]! Калі факты, пра якія я апавядаю, адпавядаюць гэтым законам, то тым горш для заканадаўцы, а калі гэтыя факты процізаконныя, то тым горш для кіраўніка. І ў тым, і ў іншым выпадку адказнасць ляжыць на імператары. Прыняць на свае плечы цяжар, належны бажаству, быўшы ўсяго толькі чалавекам, – што за няшчасце! А ён жа вымушаны яго прыняць! Абсалютную ўладу варта давяраць толькі анёлам.

На дакладнасці фактаў, мною апісаных, я настойваю; у апавяданні, якае вы толькі што прачыталі, не дададзены і не скажоны ніводзін жэст; я вярнуўся дадому, каб дадаць яго да свайго ліста, калі гэты выпадак яшчэ стаяў перад маім разумовым поглядам ў драбнюткіх падрабязнасцях[471]*. Калі б можна было абнародаваць у Пецярбургу падобныя



[469] судовыя і паліцэйскія стражнікі ў Італіі і іншых краінах; тут - паліцыянты.

[470] Першы поўны збор законаў у 15 тамах быў выдадзены ў 1832 г. і ўступіў у сілу 1 студзеня 1835 года; у рэцэнзіі на брашуру Я. Н. Таўстога “Погляд на расійскае заканадаўства” (гл. заўв. да т. 2, с. 22) гэты звод законаў падаваўся як шэдэўр заканатворчай думкі, які не саступае кодэксу Напалеона (гл.: La France. 22-23 студзеня 1840).

[471] Нялішне паўтарыць, што гэты ліст, роўна як і амаль усе астатнія, я старанна захоўваў у таямніцы ўвесь час, пакуль быў у Расіі.

дэталі – з каментарамі, неабходнымі, каб іх заўважылі розумы, перанасычаныя ўсякага роду зверствамі і беззаконьнямі, – яны б не зрабілі таго дзейснага ўплыву, на якое можна было б разлічваць. Рускія ўлады загадалі б гарадской паліцыі выказваць з гэтага часу больш мяккасьці ў абыходжанні з простымі людзьмі, хаця б дзеля таго, каб патрафіць поглядам чуйных замежнікаў – вось і ўсё!.. Норавы народа – вынік паступовага ўздзеяння законаў на звычаі і звычаяў на законы; яны не змяняюцца па ўзмаху чароўнай палачкі. Норавы рускіх жорсткія, нягледзячы на ўсе прэтэнзіі гэтых паўдзікуноў, і яшчэ доўга будуць заставацца такімі. Яшчэ не прайшло і стагоддзя з таго часу, як яны былі сапраўднымі татарамі; толькі Пятро Вялікі стаў прымушаць мужчын браць з сабой жонак на асамблеі, і шмат хто із гэтых выскачак цывілізацыі захавалі пад цяперашняй сваёй вытанчанасьцю мядзвежую шкуру: яны ўсяго толькі вывернулі яе навыварат, але варта іх паскрэбці, як воўна з'яўляецца зноў і ўстае дыбам[472]*.

Зараз, калі гэты народ мінуў эпоху рыцарства, з якой нацыі Заходняй Еўропы ў юнацтве атрымалі для сябе столькі карыснага, яму патрэбна была б рэлігія незалежная і пераможная; ў Расіі ёсць вера – але вера палітычная не разнявольвае дух чалавека, яна замыкае яго ў цесным коле прыродных запалаў; пераймі рускія каталіцкую веру, яны б ўспрынялі неўзабаве і тыя агульныя ідэі, у падставе якіх ляжыць разумная адукаванасць і свабода, адпаведная ступені асветы гэтага народа; што да мяне, то я перакананы – калі б рускія здолелі дасягнуць гэтых вышынь, яны ўзвысіліся б над усім светам.

Хвароба ў Расіі запушчана, а лекі, што ўжываліся да гэтай пары, ўздзейнічалі толькі на паверхню скуры, яны не лячылі рану, але хавалі яе ад вачэй. Сапраўдная цывілізацыя распаўсюджваецца з цэнтра на ўскраіны, тады як цывілізацыя руская распаўсюдзілася з ускраін ў цэнтр: яна не што іншае, як падфарбаванай варварства. Із таго, што дзікун надзелены ганарыстасьцю

---

[472] Гэта словы арцыбіскупа Тарантскага, чый вельмі займальны і вычарпальны партрэт нядаўна стварыў сп-р Валеры у сваёй кнізе "Італьянскія анекдоты і славутасьці". Па-мойму, тую ж думка яшчэ больш энергічна выказваў імператар Напалеон. Зрэшты, яна прыходзіць у галаву кожнаму, хто блізка назірае рускіх. У кнізе Валеры (сапр. імя і прозв. Антуан Клод Паскен; 1789-1847) «Італьянскія славутасьці і анекдоты» (1842) раздзел 36 прысвечаны таронтскаму архібіскупу Джузэпэ Капяцэ-Латро (1744-1836); гэты раздзел не мог не звярнуць на сябе ўвагу Кюстына, бо ў ім намалявана надзвычай чуллівая і ўхвальная выява Дэльфіны дэ Кюстын, якая была ў ліку блізкіх людзей і карэспандэнтак арцыбіскупа, адукаванага, па-свецку гасьціннага і касмапалітычна адкрытага для рознанацыяльных стасункаў. У кнізе Валеры прыведзенай Кюстынам фразы пра рускіх няма (магчыма, што пісьменнік сам чуў яе ад Капяцэ-Латро), аднак наогул гэтае меркаваньне карысталася вялікай папулярнасьцю і неаднаразова сустракаецца ў літаратуры. Пар., напрыклад, у Ансэло: «Рускія падобныя на збудаваныя іхнымі рукамі цагляныя будынкі, якія першы ж няшчасны выпадак пазбаўляе пакрываючага іх роўнага пласта белай фарбы: пад бліскучай абалонкай цывілізацыі, так заўчасна іх накрыўшай, няцяжка выявіць татараў» (Ancelot. P. 308) або ў палкоўніка Гагерна са спасылкай на Напалеона: «Прыпадыміце скуру – і вы выявіце татарына» (Расія. С. 671). Падобную думку пра несупадзенне вонкавага выгляду і ўнутранай сутнасьці выказвалі і іншыя замежнікі – але не выкарыстоўваючы эфектнага параўнання з татарамі: пар., напрыклад, у сакратара, а затым паверанага ў справах французскай амбасады ў 1775-1780 гг. шевалье дэ Карбэрона: «Спачатку вы бачыце з аднаго боку варварскі народ, а з другога – адукаванае, асвечанае дваранства з манерамі ветлівымі і пачцівымі, але, прыгледзеўшыся, заўважаеце, што дваране па-сутнасьці – тыя ж варвары, толькі апранутыя і размаляваныя; ад чэрні яны адрозніваюцца толькі з выгляду” (Voyage. P. 808).

свецкага чалавека, ані не вынікае, што ён валодае і адпаведнай культурай. Я ужо казаў і паўтару яшчэ раз, і, магчыма, не апошні: рускія значна больш заклапочаны тым, каб прымусіць нас паверыць у сваю цывілізаванасць, чым тым, каб стаць цывілізаванымі на самай справе. Да тых часоў, пакуль гэтая хвароба, славалюбная прыхільнасць да ўсяго паказнога[473], будзе раз'ядаць іх сэрца і скажаць розум, у іх будзе некалькі вяльможаў, здольных разыгрываць элегантнасць як у сябе на радзіме, так і за мяжой, але па сутнасці



сваёй яны застануцца варварамі; на няшчасце, у гэтых дзікуноў ёсць агнястрэльная зброя.

Прыклад імператара Мікалая пацвярджае маю ацэнку; ён яшчэ раней за мяне падумаў пра тое, што час паказной культуры для Расіі прайшоў і што ўвесь будынак цывілізацыі ў гэтай краіне патрабуе перабудовы; ён падвёў пад грамадства новы падмурак; Пятро, празваны Вялікім, не пакінуў бы ад яго каменя на камені і выбудаваў зноўку – Мікалай дзейнічае танчэй. Каб дакладней дасягнуць мэты, ён яе хавае. Ўва мне падымаецца хваля павагі да гэтага чалавека: усю моц сваёй волі ён накіроўвае на патайную барацьбу з тым, што створана геніем Пятра Вялікага; ён абагаўляе гэтага вялікага рэфарматара, але вяртае да натуральнага стану нацыю, якая больш за стагоддзе таму была зьбіта са свайго сапраўднага шляху і заклікана да рабскага пераймальніцтва.

Думка цяперашняга імператара знаходзіць ўвасабленне нават на вуліцах Пецярбурга: ён не узводзіць для ўласнай забавы хуткаспелых каланад з абтынкаванай цэглы; паўсюль ён замяняе ўяўнае на сапраўднае, паўсюль камень выцясняе гіпс, а будынкі магутнай, грунтоўнай архітэктуры выганяюць спакуслівую, але ілжывую веліч. Каб народ змог засвоіць сапраўдную цывілізаванасць і зрабіўся варты яе, бо без гэтага ні адна нацыя не зможа працаваць для будучыні, яго варта абавязкова вярнуць спачатку да спрадвечнага яго характару; каб народ змог вырабіць усё тое, на што здольны, трэба не прымушаць яго капіяваць замежнікаў, а развіваць яго нацыянальны дух ва ўсёй яго самабытнасці. Бліжэй за ўсё да Боскасьці ў гэтым свеце знаходзіцца прырода. Прырода кліча рускіх да вялікіх спраў, тады як за ўвесь час іхнага, так званага, далучэння да цывілізацыі іх займалі рознымі цацкамі; імператар Мікалай зразумеў пакліканне рускіх лепш за сваіх папярэднікаў, і ў яго валадаранне ўсё вярнулася да праўды і таму набыло веліч.

---

[473] Дыягназ, які ставілі і іншыя падарожнікі; пар. у Ансэло: «із усіх чалавечых слабасцей рускім найбольш уласціва ганарыстасць; яна ў іх у крыві. Размаўляючы з замежнікам пра помнікі сваёй краіны, рускі ніколі не скажа: “Якая цудоўная рэч!” Ён скажа: “Гэта лепшая рэч у сьвеце!” (Ancelot. P. 226) ці ў Гагерна: «Яго памеры (маскоўскага Вялікага тэатра) такія, што нічога добра не пачуеш і не пабачыш, але рускія ўсё-такі вельмі задаволены; толькі б можна было сказаць: наш тэатр самы вялікі”(РС. 1891. No 1. с. 14). Можна выказаць здагадку, што пра рускую цывілізацыю як цывілізацыю паказную, якая ўводзіцца толькі із ганарыстасьці, Кюстын гутарыў і з Барантом, у чыіх «Нататках» захаваўся характэрны эпізод: Мікалай I выдаў маніфест, у якім падзякаваў палякаў-дваран Кіеўскай губерніі - за вернасць Расіі падчас польскага паўстання 1830-1831 гг., але адразу пасьля гэтага пачаліся ганенні на тых жа дваран, якім генерал-губернатар Левашоў патлумачыў такую “непаслядоўнасць» афарызмам: «Маніфест - для Еўропы, а для вас – пуга» (J^fotes . P. 364).

Над Пецярбургам высіцца калона: гэта самы вялікі кавалак граніту, калі-небудзь апрацаваны чалавекам, уключаючы і егіпецкія помнікі. У адзін выдатны дзень на плошчу перад імператарскім палацам сцякліся, не перашкаджаючы адзін аднаму, без цісканіны, семдзесят тысяч жаўнераў, двор, увесь горад і частка прыгарадных вёсак, каб у поўным глыбокай павагі маўчанні назіраць за цудоўным узвядзеннем гэтага помніка[474], задуманага, выкананага і дастаўленага на месца французам, сп-м дэ Монферанам – бо французы ўсё яшчэ патрэбны рускім. Казачныя машыны працуюць спраўна; механізмы ажыўляюць камень, і ў той момант, калі, вызваляючыся ад путаў і нібы жывучы сваім уласным жыццём, рухаючыся сама па сабе, калона падымаецца на вышыню, усё войска, натоўп, нават сам імператар падаюць на калені, каб падзякаваць Богу за такі самы цуд і ўзнесьці яму хвалу за тыя вялікія справы, якія ён дазваляе ім здзяйсняць. Вось што значыць для мяне нацыянальнае свята: гэта не ліслівасць, занадта

**~291~**

падобная на сатыру, як маскарад у Пецяргофе, гэта не жанравая сцэнка, гэта гістарычнае палатно, і прытым у самым высокім стылі. Вялікае і малое, дрэннае і ўзвышанае – няма такіх супрацьлегласцеў, якіх не ўключала б у сябе уладкаванне гэтай ні на што не падобнай краіны, а агульнае маўчанне не дае скончыцца цуду і зламацца адладжанай машыне.

Рэформа імператара Мікалая закранае нават мову яго атачэння – цар патрабуе, каб пры двары гаварылі па-руску. Большасць свецкіх дам, асабліва ўраджэнкі Пецярбурга, не ведаюць роднай мовы, аднак жа яны вывучаюць некалькі рускіх фраз і, каб не здавацца непаслухмянымі, прамаўляюць іх, калі імператар праходзіць па тых залах палаца, дзе яны ў дадзены момант выконваюць свае абавязкі; адна з іх заўсёды вартуе, каб своечасова падаць умоўны знак, папярэджваючы аб з'яўленні імператара – гутаркі па-французску тут жа змаўкаюць, і палац напаўняецца рускімі фразамі, прызначанымі ўлагодзіць слых самаўладца; гаспадар ганарыцца сабой, бачачы, як распаўсюджваецца ўлада яго рэформаў, а яго непакорлівыя гарэзы-падданыя рагочуць, як толькі ён выйдзе за дзверы... Не ведаю, што больш ўразіла мяне ў відовішчы гэтай велічэзнай магутнасьці – сіла яго ці слабасць! Аднак, як кожны сапраўдны рэфарматар, імператар надзелены той настойлівасцю, якая ў рэшце рэшт заўсёды прыносіць поспех.

На ускрайку велізарнай, велічынёй з цэлае поле, плошчы, пасярод якой высіцца калона, перад вашым позіркам ўстае гранітная гара – пецярбургскі сабор Святога Язэпа[475]. Гэты помнік не такі пышны, не такі выдатны па абрысах і не так багата ўпрыгожаны, як сабор Святога Пятра ў Рыме, аднак не менш дзіўны. Ён яшчэ не завершаны, так што мяркаваць аб ім у цэлым немагчыма, аднак гэта будзе твор, ніяк не суадносны з тым, на што дух нашага стагоддзя

---

[474] Кюстын, відаць, кантамініруе дзве падзеі – ўладкаванне маналіта Аляксандраўскай калоны на пастамент (30 жніўня 1832 г.) і адкрыццё калоны, адсвяткаванае роўна праз два гады з куды большай пампезнасьцю (гл. заўв. да цяп. тома, с. 174). Падымалі калону з дапамогай 60 кабестанаў і сістэмы блокаў.

[475] Каментарыі Грэча: “А самы галоўны матэрыял, мармур, ён нават не заўважыў” (Gretch. P. 49).

натхняе сёння іншыя народы. Матэрыялы яго – граніт, бронза і жалеза: нічога больш. Яго колер уражвае, але змрочны: гэты дзіўны храм, закладзены пры Аляксандры, неўзабаве будзе завершаны пры Мікалаю – тым жа французам, сп-ром дэ Монферанам, што узвёў слуп.

Колькі намаганняў – і ўсё дзеля царкоўнага культу, знявечанага палітыкай![476] Ну дык што ж? Хіба не прагучыць пад гэтымі скляпеннямі слова

[476] Негатыўнае ўспрыманне Кюстынам праваслаўнай царквы было абвострана адбыўшымся амаль непасрэдна перад яго прыездам у Расію, у сакавіку 1839 г., далучэннем да праваслаўнай царквы двух мільёнаў вернікаў із Беларусі і Літвы, якія перш належалі да Уніі, гэта значыць пры захаванні праваслаўных абрадаў вызнавалі каталіцкае вучэнне пра сыходжаньне Святога духу і прызнавалі папскае першынство над царквой. Пасьля далучэння былыя уніяты «сталі падпарадкоўвацца Сіноду і столькі ж клапаціцца пра папу, колькі пра Далай-ламу». (А. Я. Тургенеў - Н. Я. Тургенева, 26 жніўня 1839 г.; РА ИРЛИ. Ф. 309. No 706 . Л. 28 аб.). Руская прапаганда адлюстроўвала далучэнне як цалкам добраахвотнае, але ў надрукаванай у 1842 кнізе д'Аррэра і вялікіх рэцэнзіях на яе ў «Journal des Debate» у кастрычніку 1842 (гл. заўв. Да т. 2, с. 3) прыводзіліся шматлікія выпадкі пераследу каталікоў і уніятаў, якія не жадалі мяняць веравызнанне (гэты пераслед, каментаваў Барант, часцяком «тлумачацца падставамі зусім не рэлігійнымі, бо імператар і тыя із міністраў, хто падштурхоўвае яго да гэтых захадаў, зусім не належаць да ліку шчыра веруючых і не знаходзяцца пад уплывам святарства; тут уся справа ў палітычных меркаваннях"- гэта значыць у русіфікатарскай палітыцы царскага ўрада, які пераследваў каталікоў, таму што атаясамляў іх з рэвалюцыянерамі і іншымі ворагамі парадку. Пар. падобную трактоўку насаджэння праваслаўя ў Польшчы ў газеце "Siecle" (21 лістапада 1837 г.). Будзь у аснове ўсіх гэтых дэспатычных разлікаў рэлігійнае перакананне, іх, мабыць, можна было б дараваць. Але празелітызм імператара Мікалая толькі ў апошнюю чаргу заслугоўвае назвы празелітызму рэлігійнага. Грэцкая рэлігія, паступова пранікаючая ў Польшчу, ёсць прылада палітычная, закліканая адабраць у народа самыя жывыя рысы яго старажытнага патрыятызму". Наогул становішча каталіцкай царквы ў Расіі бянтэжыла нават самых дбайных прыхільнікаў царскай імперыі із ліку французкіх легітымістаў. Яны неахвотна прызнавалі, што, кажучы пра пераслед католікаў у Расіі, Кюстын не грашыў супраць ісьціны, і падкрэслівалі, наколькі падобная палітыка кампраметуе царскі ўрад. «С-р дэ Кюстын пакіне ў розумах глыбокі след, - пісаў 11 жніўня 1843 г. рэдактар легітымістцай газеты "Quotidienne" П. С. Ларанці рускаму міністру народнай асветы С. С. Увараву. "Вядома, руская нацыя вышэй паклёпаў, але чалавечыя меркаванні не вольныя ад набываемых людзьмі ўражанняў. Што да мяне, с-р граф, я вельмі мала размешчаны слухаць паклёпы, будзь яны нават вельмі дасьціпнымі. Ёсць рэчы, якія значна лепшыя чым дасьціпнасьці; гэта пачуццё справядлівасьці, а ў выпадку адсутнасці такога – добры густ. Гэта, аднак, не перашкодзіць мне выказаць пажаданне, каб прадузятасць, паклёп і абразы не мелі ні найменшага дачыненя да рэчаіснасьці, асабліва калі гаворка ідзе пра пытанні, такім важныя ў дачыненні да філасафічных, пытанняў, ад якіх залежыць сама веліч рускай манархіі. Гісторыя вучыць нас, што калі ўзмацненне Царквы на шкоду магутнасьці каралеўскіх дынастый заўсёды выяўлялася згубным, то яшчэ больш згубным - прычым не толькі для Царквы, але і для манархіі - выяўлялася ўзмацненне каралеўскай улады на шкоду Царквы. Вось чаму мне балюча было чытаць усё, што ў апошнія два гады пісалі ў Парыжы пра Расію. Я мог выказаць здагадку, што скаргі каталікоў перабольшаныя, але я мог дапусціць таксама, што натуральным імкненнем такога ўрада, як ваш, з'яўляецца імкненне падпарадкаваць свайму ўплыву ўсё, што мае ўплыў на чалавецтва. І дапушчэнне маё, с-р граф, не мела ў сабе нічога абразлівага, але, тым не менш, прымушала баяцца, як бы падобнае ўздзеянне на розумы не вылілася спачатку ў прымус, а самы поспех прадпрыемства не спарадзіў бы аднойчы рэакцыю тым больш моцную, чым больш магутнай будзе перамога манархіі. Вось мой погляд на пытанні, якія давалі іншым аўтарам падставы для складання кніг супраць Расіі і яе гаспадара" (BN. NAF. No 16604. Fol. 170). Такога ж меркавання быў і А. Я. Тургенеў: "Адказвайце на артыкул у «Дэбатах" 11 кастрычніка (трэццяга дня) пра святара Дамброўскага, якога высеклі пугай 150 ударамі! І які на 147-м памёр! - патрабаваў ён 25 кастрычніка 1844 ад свайго карэспандэнта, рэдактара "Часопіса міністэрства народнай асветы" К. С. Сербіновіча. – Гэтая смерць абудзіла тут абурэнне ў лепшых розумах і добрых сэрцах, я ледзь супакоіў Рэкам'е і Шатабрыяна, патлумачыўшы ім, што і пры міласэрднай Елісавеце Пятроўне, якая скасавала смяротнае пакаранне, - рпрызначалася не больш за 101 ўдараў за смертазабойства, а што цяпер значна менш, што святарства зусім не падпадае пад цялесныя пакаранні, што гэты артыкул – відавочны паклёп, і інш. Із пачцівасьці мне паверылі, але не зусім. Абвясьціце ісьціну або растлумачце факт: мы не маем права грэбаваць паклёпам, асабліва калі

Божае? Але з амбонаў візантыйскіх храмаў ісціна больш не абвяшчаецца. Грэбуючы запаветамі Афанасія Вялікага, Яна Златавуста[477], рускія святары не прапаведуюць рэлігію сваім суайчыннікам. Грэка-маскоўская царква скарачае колькасць слоў у набажэнстве, пратэстанты ж, наадварот, усё богаслужэнне зводзяць да адных слоў, – але ні тыя, ні другія не жадаюць слухаць Хрыста, які, ззываючы з усіх канцоў зямлі сваю заблудзіўшуюся паству, з крыжом у руках абвяшчае з кафедры сабора Святога Пятра: "Прыйдзіце да мяне ўсе, чыстыя сэрцам, якія маюць вушы, каб чуць, і вочы, каб бачыць!..[478]"

**~292~**

Імператару дапамагаюць цэлыя полчышчы жаўнераў і мастакоў, але колькі б ён ні напружваў свае намаганні, яму ніколі не надзяліць грэцкую Царкву той магутнасьцю, у якой ёй адмовіў Бог; яе можна зрабіць караючай, але нельга зрабіць апостальскай, прапаведуючай, інакш кажучы, цывілізуючай і перамагаючай ў свеце маральным – прымусіць людзей падпарадкоўвацца яшчэ не значыць звярнуць іх у сапраўдную веру. У гэтай Царквы, палітычнай і нацыянальнай, няма ні маральнага жыцця, ні жыцця нябеснага. Той, хто пазбаўлены незалежнасьці, пазбаўлены, на прыканцы, ўсяго. Схізма, разлучыўшая святара з яго незалежным, вечным уладаром, неадкладна перадала яго ў рукі ўладара часовага, мінучага: бунт, такім чынам, караецца рабствам. Калі б прылада падаўлення стала адначасова і прыладай вызвалення[479], давялося б сумнявацца ў тым, што Бог існуе.

Каталіцкая Царква і ў самыя крывавыя гістарычныя эпохі не спыняла працу над духоўным вызваленнем народаў; пастыр-здраднік прадаваў Бога нябеснага Богу зямному, каб тыранаваць людзей імем Хрыста – але грэшны пастыр, нават аддаючы смерці цела, працягваў выхоўваць дух: колькі б ён ні аддаляўся ад праўдзівага шляху, ён, аднак, належаў да Царквы, надзеленай жыццём і святлом ісціны; грэцкі святар не даруе ні жыцця, ні смерці: ён сам мярцвяк.

Хросныя знакі, прывітанні на вуліцах, ставенне на калені перад капліцамі, набожныя бабулі, разпасьцёртыя ніц на падлозе царквы, цалаванне рукі; а яшчэ жонка, дзеці і ўсеагульная пагарда – вось і ўсе вынікі, што пажынае поп за сваё адрачэнне; гэта ўсё, чаго ён здолеў дамагчыся ад самай вернай на свеце нацыі... Які ўрок! І якое пакаранне! Углядвайцеся і схіляйцеся: у той самы момант, калі бярэ верх схізма, пастыра-схізматыка напаткае бязсілле. Калі святар жадае

---

дзейнічаем на розумы самыя безстаронніх. Чым аспрэчваць праўду і байкі Кюстына, лепш бы знішчаць такія паклёпы словам і справай" (РС. 1882, No 5 С. 45). У нататцы «Journal des Debats» распавядалася пра польскага каталіцкага святара, які пасьля рэвалюцыі 1830 г. эміграваў у Парыж, але на пачатку 1844 г. пераапранутым вярнуўся ў Польшчу для ўладкавання сямейных спраў , быў пазнаны, схоплены і забіты.

[477] Афанасій Вялікі (296-373) - арцыбіскуп александрыйскі, «бацька праваслаўя»; Ян Залатавуст, святой (347-407) - бацька царквы, майстар царкоўнага красамоўства.

[478] Кантамінацыі евангельскіх казаняў (Матф., 10, 28; 5, 8; 11, 15)

[479] Заўвага Кюстына да трэцяга выдання 1846: «Глядзі кнігу пра пакуты каталіцкай царквы абодвух абрадаў, напісаную па-нямецкі святаром-аратарыянцам і перакладзеную на французскую у 1843 г. графам дэ Манталамберам". Аўтарам гэтай кнігі быў нямецкі багаслоў, сябар кангрэгацыі аратарыянцаў Аўгустын Тэйнер (1804-1874); перакладчыкам – граф Шарль Форб дэ Манталамбер (1810-1870), сябра палаты пэраў, каталіцкі публіцыст, перакладчык Міцкевіча і абаронца прыгнечанай Польшчы. Шырокія урыўкі із гэтай кнігі, працытаваў Кюстынам ў трэцім выданні, гл.: т. 2, дадатак 2.

захапіць у свае рукі часовую, праходзячую ўладу, ён гіне, бо яго позірк не дасягае тых вышынь, з якіх адкрываецца шлях, прызначаны Госпадам; калі святар дазваляе, каб цар пазбаўляў яго кафедры, ён гіне, бо яму не хапае смеласьці прытрымлівацца гэтага шляху: абодва роўна не могуць выканаць свайго вышэйшай прызначэння.

Хіба не абцяжарыў Пятро I сваё сумленне вялікім грузам адказнасці, узваліўшы на сябе і сваіх нашчадкаў тое падабенства незалежнасьці, тыя рэшткі свабоды, што яшчэ захоўвала за сабой няшчасная Царква[480]? Справа, ім задуманая, была большай за магчымасьці чалавека; з таго моманту пакласці канец схізме стала немагчыма, – калі, вядома, судзіць з пункту гледжання розуму і калі разглядаць род чалавечы з чыста чалавечага боку[481].

Я не перашкаджаю вольнаму бадзянню сваёй думкі, бо, дазваляючы ёй пераскокваць з аднаго на другое, з ідэі на ідэю, я выяўляю Расію ўсю цалкам: калі б я быў больш паслядоўным ў сваіх апісаннях, я рызыкаваў бы ўпёрціся ў занадта відавочныя



супярэчнасці і, каб пазьбегнуць папроку ў нелагічнасці, адступленні ад тэмы або ў блытаніне, пазбавіўся б магчымасці паказаць вам ісціну такой, якая яна мне бачыцца, – разам ва ўсіх сваіх праявах. Становішча простага люду, веліч імператара, знешні выгляд вуліц, прыгажосць архітэктурных помнікаў, атупенне розумаў з нагоды выраджэння рэлігійных пачаткаў – усё гэта дзівіць мой позірк у адзінае імгненне і, так бы мовіць, разам кладзецца на паперу пад маім пяром; і ўсё гэта – сама Расія, чый галоўны жыццёвы прынцып адкрываецца маёй думцы у сувязі з рэчамі, з выгляду, самымі нязначнымі.

Гэта яшчэ не ўсё, пакуль я яшчэ не скончыў сваіх сентыментальных вандровак. Учора я прагульваўся разам з адным вельмі памяркоўным і разумным французам, добра ведаючым Пецярбург; месца настаўніка ў даволі знакамітым сямействе[482] дазваляе яму наблізіцца да спазнання ісціны, якую мы, праезныя чужаземцы, дарэмна спрабуем зразумець. Дык вось, ён лічыць, што мае меркаванні пра Расію занадта добрыя. Пры думцы аб тых папроках, якія

---

[480] Падначаленне праваслаўнай царквы свецкаму ўладару (пасьля скасавання Пятром I патрыяршаства – гл. заўв. да цяп. тома, с. 85 і 101) ўяўлялася французскім каталіцкім публіцыстам адной із галоўнейшых заганаў расійскай сістэмы; «Gazette de France» 2 студзеня 1838 года жадала Мікалаю I ў якасьці навагодняга падарунка заваяванне Канстантынопаля, усталяванне крыжа над Труной Гасподняй ў Іерусаліме, а пасьля гэтага – злучэнне двух цэркваў, каталіцкай і праваслаўнай, і абавязковае прызнанне імператарам духоўнага першынства папы рымскага, бо першынства над рускай царквой самога імператара «ненармальна ў духоўным дачыненні».

[481] Заўвага Кюстына да трэццяга выдання 1846: «Апошні плён гэтай ўзурпацыі, выяўлены пад час цараваньня Кацярыны і Мікалая, апісаны ў названай вышэй кнізе, поўнай фактаў цікавых і малавядомых». Гаворка пра кнігу Тэйнера (гл. заўв. да цяп. тома, с. 293).

[482] Лабэнскі, прылічваючы «выхавальнікаў і выхавацельніц , якія служаць у шляхетных сем’ях”, да ліку тых людзей, чые апавяданні Кюстын дарэмна прымаў на веру, характарызуе іх як “людзей адукаваных, шаноўных, часцяком добрага паходжання, якія займаюць, аднак, ілжывае становішча ў грамадстве, з якім яны датыкаюцца, але не змешваюцца, і вымушаных, часам міжволі, судзіць гэта грамадства, дзе раз-пораз знаходзяцца дурні, якія паказваюць ім на іхнае месца, пільна і несправядліва” (Labinski. P. 97).

пазбавілася цемры, яе больш няма, як схавацца на раўніне, калі лясы ў агні? Ад вогненнай буры, разліваўшайся адусюль, няма надзейнай схаванкі, усюды пануе смяротны жах; цемра, выгнаная з успалымнёных лясных зараснікаў, рассеялася, ноч адступіла, – але і сонца не паднялося!

Працэсія, якая вяла палоннага Хведара, разрасталася: у яе ўліваюцца ўсе гойсаючыя па акрузе марадзёры. Нарэшце вялікі натоўп спыняецца на пляцоўцы перад замкам.

Што за карціна паўстала погляду палоннага!

Валагодская сядзіба, выбудаваная цалкам із дрэва, ператварылася ў гіганцкае вогнішча, полымя якога ўздымалася прама да неба! Сяляне, абступілі з усіх бакоў старадаўні палац і падпалілі яго, думаюць, што Аксіня згарэла прама ў жыллі бацькі. Кола наземнай блакады замыкаецца на возеры цесна стаячымі паўколам лодкамі. Войска мяцежнікаў акружае сядзібу, а пасярэдзіне прывязаны да слупа няшчасны Целенеў; яго сілай дасталі з прытулку і прывалаклі сюды, на плошчу, дзе і павінна было адбыцца катаванне. З усіх бакоў да палаца сцякаецца натоўп пераможцаў, прадчуваючы цікавае відовішча.

Войска, толькі што даставіўшае сюды жывых ахвяр, колам абступае здабычу, выстаўляючы напаказ ў зарыве пажару свае агідныя сцягі – Божа літасцівы, што за сцягі! То былі акрываўленыя рэшткі ранейшых ахвяр, іх неслі на шаблях і піках. Бачныя былі жаночыя галовы з трапяткімі валасамі, абрубкі насаджаных на вілкі цел, знявечаныя дзеці і агіднейшыя шкілеты... Здавалася, гэтыя жудасныя прывіды вырваліся із пекла, каб патрапіць на вэрхал, які ўчынены апошнімі насельнікамі зямлі. Гэтая, так званая, ўрачыстасць свабоды ўяўляла сабою выяву канца свету. Языкі полымя і гукі, якія даносіліся з сядзібы, ачага пажару, выклікалі ў памяці вывяржэнне вулкана.. Народная



помста – нібы лава, што доўга закіпае ў зямных нетрах перад тым, як выліцца вонкі з вяршыні гары. Невыразны гул коціцца па натоўпе, але асобныя галасы неадметныя, чутны толькі голас ахвяры, і яе праклёны весяляць катаў. Усе гэтыя нелюдзі большай часткай сапраўдныя прыгажуны, іхныя твары ад прыроды высакародныя і лагодныя: гэта лютыя анёлы, дэманы з нябеснымі рысамі. Хведар і сам прыгажосьцю падобны са сваімі ганіцелямі. Паміж усімі рускімі, калі яны чыстакроўныя славяне, існуе як быццам фамільнае падабенства; і нават калі яны нішчаць адзін аднаго, відаць, што гэта браты – праз што разьня становіцца яшчэ жудасней. Вось у што можа ператварыцца натуральны чалавек, калі аддаецца на волю запалаў, абуджаных ў ім ілжывай цывілізацыяй.

Але тады гэта ўжо не натуральны чалавек, гэта чалавек, чыя прырода перайначана яго мачахай – грамадскім жыццём. Натуральны чалавек існуе толькі ў кніжках; ён – тэма для філасофскіх разважанняў, нейкі ідэальны тып чалавека, пра які маралісты разважаюць прыкладна так жа, як матэматыкі выкарыстоўваюць пры некаторых разліках ўяўныя велічыні, а затым скарачаюць іх, каб атрымаць станоўчы вынік. Для чалавека, як першабытнага, так і ўжо перарадзіўшагася, прыродай становіцца тое ці іншае грамадства, і, што там ні кажы, чым яно цывілізаваней, тым усё ж лепш.

Пагібельнае кола размыкается на імгненне, прапускаючы Хведара і суправаджаючую яго агідную працэсію; Целенаў быў павёрнуты так, што спачатку не заўважыў свайго юнага вызваліцеля. Катаванне яго вось-вось павінна была пачацца, як раптам шолах жаху пранёсся над натоўпам.

– Прывід!.. Прывід!.. Гэта яна!.. – ускліцаюць з усіх бакоў.

Кала людзей зноў расступаецца і рассейваецца; каты бягуць перад прывідам!..

Жорсткасць нярэдка ходзіць рука аб руку з забабонамі. Аднак некалькі апантаных утрымліваюць уцекачоў:

– Калі ласка, вярніцеся, вярніцеся; гэта ж яна, гэта Аксіня; яна не памерла!

– Спыніцеся! Спыніцеся! - душараздзіраючы ўскрыквае жаночы голас, чый гук адклікаецца ва ўсіх сэрцах, але асабліва ў сэрцы Хведара. - Прапусьціце мяне, я хачу іх бачыць! Гэта мой бацька! Мой брат!.. Вы не перашкодзіце мне памерці разам з імі.

І з гэтымі словамі Аксіня, проставалосая і растрапаная, падае без пачуццяў каля ног Хведара. Няшчасны юнак стаяў, як пабіты громам; ён перастаў адчуваць свае повязі.

Мы адчуваем, што трэба скараціць апісанне гэтага жахлівай выявы. Яна працягвалася доўга, мы перададзім яе ў некалькіх словах – але ўсё-такі перададзім, бо мы знаходзімся ў Расіі. Загадзя просім прабачэння за тое, што засталося нам апісаць.

Мы пакінулі Аксіню ў хаце; спачатку яна дала сябе ўгаварыць



і маўчала, баючыся наклікаць яшчэ большую небяспеку на Хведара які, убачыўшы яе ў руках забойцаў, страціў бы усякую меру і вытрымку; акрамя таго, яна баялася выдаць карміцельку. Але як толькі жанчыны засталіся адны, дзяўчына ўцякла жадаючы падзяліць долю свайго бацькі.

Катаванне Целенева пачалася. Божа міласэрны, што за катаванне. Каб смерць для няшчаснага стала яшчэ горшай, перад ім, перш за ўсё, пасадзілі звязаных Хведара і Аксіню, спешна збудаваўшы для гэтага ледзь наводдаль грубыя падмосткі... а потым... потым яму ў некалькі прыёмаў адрэзалі адну за другой нагі і рукі, і калі гэты абрубак амаль пазбавіўся крыві, яго пакінулі паміраць, б’ючы яго, па шчоках яго ж ўласнымі рукамі і, каб заглушыць дзікія крыкі заткнула яму рот яго ж нагой. Жанчыны з прадмесьця Кана, якія з'елі сэрца с-ра дэ Бельзенса на Воксельскім масту, былі ўзорам чалавечнасьці ў параўнаньні з тымі, хто спакойна сузіраў смерць Целенева[517]*. Вось што адбывалася не так даўно ў некалькіх днях язды ад пышнага горада, куды цяпер сцякаецца ўся Яўропа, каб павесяліцца на найпрыгажэйшым у свеце свяце - свяце такім пышным, што краіна, дзе іх задаюць, магла б набыць славу самай цывілізаванай на свеце - калі б не заўважаць у ёй нічога, акрамя палацаў.

Давядзем да канца, наша апавяданне. Калі бацька адпакутаваў, то, згодна з праграмай гэтай вакханаліі надышла чарга дачкі; нехта із катаў падыходзіць да

---

517

Аксіні збіраючыся схапіць яе за раскіданыя па плячах валасы але яна застаецца нерухомай і халоднай; ні пад час, ні пасьля катавання бацькі яна не варухнулася і не прамовіла ні гуку. У Хведары робіцца нейкі звышнатуральны пераварот, да яго раптам зноў вяртаюцца сілы і прысутнасць духу – ён нейкім цудоўным чынам разрывае свае путы, вызваляецца із рук вартаўнікоў, кідаецца да каханай сястры, сціскае яе ў абдымках, падымае з зямлі і надоўга прыціскае да сэрца; затым, зноў паклаўшы яе з павагай на траву, звяртаецца да катаў спакойна, з тым прытворным спакоем, які ўласцівы ўсходнім людзям нават у самыя трагічныя хвіліны іхнага жыцця:

– Яе вы не кранеце, Гасподзь працягнуў над ёю сваю далонь яна згубіла розум.

– Згубіла розум! – паўтарае забабонны натоўп. – З ёю Бог.

– Гэта ён, здраднік, ён, яе палюбоўнік, параіў ёй прыкінуцца вар'яткай! Не, не, пара скончыць з усімі, і з ворагамі Божымі і чалавечымі, – крычаць самыя азвярэлыя – да таго ж мы звязаны клятвай! Выканаем жа наш абавязак, гэтага хоча Гаападар, ён нас ўзнагародзіць.



– Падыдзіце, калі не пабаіцеся, – таксама крычыць Хведар у прыпадку адчаю, – яна ж дазволіла мне абняць яе і не супрацівілася. Вы самі бачыце, што яна сышла з розуму!! Але яна нешта кажа: слухайце!

Усе падступаюць бліжэй і чуюць адну толькі фразу:

– Дык значыць, ён кахаў мяне!

Толькі Хведар разумее сэнс яе слоў; ухваліўшы Бога, ён падае на калені і пачынае галасіць. Каты з міжвольнай пашанай адступаюць ад Аксіні. "Сышлі з розуму!" – шэптам паўтараюць яны...

З таго дня яна кожную хвіліну ўсё паўтарала адны і тыя ж словы: "Дык значыць, ён кахаў мяне!.."

Шмат хто, бачачы, якая яна спакойная, сумняваюцца ў яе вар'яцтве: яны мяркуюць, што каханне Хведара, у якім той мімаволі прызнаўся, абудзіла ў сэрцы сястры нявінную і гарачую пяшчота, якую бедная дзяўчына даўно ўжо адчувала да яго, хаця яны абодва пра тое і не ведалі, і што гэта запозненае прасвятленне разбіла ёй сэрца. І дагэтуль ніякія ўгаворванні не здольны перашкодзіць ёй паўтараць гэтыя словы, механічна злятаючыя з яе вуснаў з дзіўнай лёгкасцю і без перадышкі: "Дык значыць, ён кахаў мяне!" Яе думка, яе жыццё спынілася, засяродзіўшыся на міжвольнага прызнанні Хведара, і яе розум, які працягвае, так бы мовіць, па інэрцыі сваю дзейнасць, падпарадкоўваецца, нібы ў сне, той апошняй рэштцы волі, што загадвае яму зноў і зноў паўтараць загадкавую, святую фразу, якая падаўжае ёй жыццё.

Хведара не забілі ўслед за Целеневым, але выратаванне прыйшло да яго не праз стомленасць катаў, а праз стомленасць гледачоў, бо бяздзейнічаючы чалавек стамляецца ад злачынства хутчэй, чым чалавек, які яго здзяйсняе: натоўп, насыціўшыся крывёю, запатрабаваў, каб катаванне юнака была адкладзеная да заўтрашняй ночы. За гэты час з усіх бакоў падаспела значнае вайска. Ужо з самай раніцы павет, дзе зарадзілася паўстанне, быў акружаны; па

ўсіх вёсках каралі кожнага дзясятага; найбольш вінаватых прыгаворвалі не да сьмерці, а да ста дваццаці udaраў бізуна, і яны гінулі; астатніх затым выслалі ў Сібір. Аднак жа насельнікі суседніх з Волагдай краёў не змірыліся: кожны дзень мы бачым, як сялян, з розных губерніяў у масавым парадку, цэлымі сотнямі выпраўляюць у сібірскую высылку. Землеўласнікі, якія валодаюць гэтымі спустошанымі вёскамі, цяпер спустошаныя, бо тут багацце гаспадароў вымяраецца колькасцю іх сялян. Багатыя ўладанні князя *** ператварыліся ў пустыню.

Хведару з маці і жонкай давялося ўслед за іншымі жыхарамі сваёй бязлюднай вёскі выправіцца ў Сібір. Аксіня прысутнічала пры выпраўленні сасланых, але нават не развіталася, бо гэтая новая бяда ні на імгненне не вярнула ёй розум.

**~329~**

У тую фатальную хвіліну жорсткія пакуты Хведара і яго сям'і яшчэ ўзмацніліся праз нечаканае здарэнне. Яго жонка і маці ўжо сядзелі на павозцы; ён быў гатовы вось-вось далучыцца да іх і назаўсёды пакінуць Волагду; аднак ён нічога не бачыў, акрамя Аксіні, яго сэрца аблівалася крывёю за сястру, сірату, якая згубіла ўсе пачуцці, ці, прынамсі, памяць, і якую ён вымушаны быў пакінуць адну на яшчэ не астыўшым папялішчы роднай вёскі. Зараз ёй увесь час патрэбна дапамога, думаў ён, а абароны шукаць не будзе ў каго, акрамя чужых людзей; і яго слёзы вычарпаліся ад роспачы. Тут з воза даносіцца нямы крык, Хведар кідаецца да жонкі і знаходзіць яе без пачуццяў: хтосьці з жаўнераў аховы толькі што панёс яго дзіця.

– Што ты робіш? – Крычыць бацька, ашалеўшы ад болю.

– Хачу пакласці яго тут, каля дарогі, хай хто-небудзь пахавае[518]*. Ён жа памёр, ты што, не бачыш? – адказвае казак.

– А я хачу забраць яго з сабой!

– Не мае сэнсу.

У гэтую хвіліну збягаюцца на шум іншыя жаўнеры і хапаюць Хведара; саступаючы гвалту, ён спачатку ўпадае ў здранцьвенне, потым плача, моліць:

– Ён не памёр, ён проста ў забыцці, дазвольце мне яго пацалаваць, – паўтарае ён, рыдаючы, – абяцаю, што калі ў яго сэрца не б'ецца, я не вазьму яго з сабой. Можа быць, і ў вас ёсць сын, і ў вас ёсць бацька, так злітуйцеся нада мною, – просіць няшчасны юнак, забіты столькімі ўдарамі лёсу.

Памякчэўшы, казак аддае яму дзіця; але варта бацьку дакрануцца да яго ледзянога цела, як валасы яго ўстаюць дыбам; ён азіраецца крутым, погляд яго сустракаецца з натхнёным звыш позіркам Аксіні - ніщто на свеце, ні гора, ні несправядлівасць, ні смерць, ні вар'яцтва не можа ўзвесці перашкоду паміж двума сэрцамі, народжанымі, каб разумець адзін аднаго: то Божая воля.

Хведар робіць Аксіні знак, жаўнеры паважна расступаются перад беднай вар'яткай, тая падыходзіць і бярэ із рук бацькі цельца дзіцяці, але, па-ранейшаму, нічога не гаворыць. Дачка Целенева моўчкі здымае з сябе хустку,

---

518

аддае яе Хведару, а потым сціскае ў абдымках немаўля. Поўная глыбокай пашаны трымаючы сваю ношу, яна стаіць нерухома да таго часу, пакуль яе каханы брат, седзячы паміж плачучай маці і паміраючай жонкай, назаўсёды не знікае ўдалечыні. Яна доўга праводзіць вачыма абоз сасланых мужыкоў; нарэшце, калі апошняя фурманка знікае на дарозе, якая вядзе ў Сібір, і яна застаецца адна, яна нясе з сабой дзіця і пачынае гуляцца з яго халоднымі парэшткамі і клапаціцца пра іх з найвялікшай вынаходлівасцю і пяшчотай.

– Значыць, ён не памёр! – казалі навакольныя. – Ён уваскрэсьне, яна яго ўваскрэсіць!.. О магутнасць кахання!.. Хто пакладзе табе мяжу?

**~330~**

Маці Хведара не магла не вінаваціць сябе за тое, што не здолела ўтрымаць Аксіню ў хаціне старога вар’ята.

– Ва ўсякім разе, ёй бы не давялося глядзець на пакаранне сьмерцю бацькі, – паўтарала добрая Лізавета.

– Вы б захавалі ёй здароўе, і яна пакутавала б яшчэ больш, – адказаў маці Хведар, і абодва зноў апуціліся ў панурае маўчанне.

Бедная старая доўга і, здавалася, пакорліва знасіла ўсё; ні разня, ні пажар не вырвалі з яе грудзей ніводнай скаргі; але калі ёй, разам з іншымі жыхарамі Вологды, прыйшлося ў пакаранне ехаць у высылку, пакінуўшы хату, дзе нарадзіўся яе сын, дзе памёр бацька яе сына, калі яе разлучылі з вар'ятам братам, мужнасць пакінула яе: дарэшты знясілеўшы, яна чаплялася за бярвенні хаты, цалавала іх, у роспачы вырывала са шчылін насычаны дзёгцем мох. Гэтая жанчына, не скардзячыся, страціла ўсе, але разлучэнне з сямейным вогнішчам зрабіла яе няўцешнай. Нарэшце яе адцягнулі і прывязалі да павозкі, дзе, як мы бачылі, аплакала яна навароджанага сына свайго дарагога Хведара.

Цяжка паверыць, але клопаты Аксіні, яе жыватворнае дыханне, магчыма, яе малітва вярнулі да жыцця дзіця, якое Хведар лічыў памёршым. Дзякуючы гэтай цудоўнай пяшчоце ці набожнасьці, чужынцы-паўночнікі, прысланыя, каб засяліць пустынныя развалiны Вологды, шануюць Аксіню як святую. Нават тыя, хто лічыць яе вар'яткай, ніколі б не адважыліся забраць у яе дзіця брата; нікому і ў галаву не прыходзіць забіраць у яе каштоўную, у сьмерці выкрадзеную здабычу. Гэты цуд, створаны любоўю, паслужыць суцяшэннем высланаму бацьку, і сэрца яго яшчэ адкрыецца для шчасьця, калі ён даведаецца, што яго сын выратаваны, і выратаваны ёю!! Па пятах за Аксіняй ходзіць каза; яна корміць дзіця. Часам можна бачыць нібы ажыўшую выяву: панна-маці сядзіць на сонейку каля чорных руінаў роднай сядзібы і па-братэрскі ўсміхаецца сыну сваёй душы, дзіцяці высланага. З чыста дзявочай грацыяй яна калыша малога на каленях, і ўваскрэсшае дзіця з анёльскай радасьцю паварочвае да яе сваю невымоўную ўсмешку. Сама аб тым не падазраючы, яна перайшла ад міласэрднасьці да кахання, ад кахання да вар'яцтва, а ад вар'яцтва да мацярынства; Бог захоўвае яе; анёл і вар'ятка цалуюцца, лунаючы над юдоллю плачу - так пералётныя птушкі сустракаюцца за воблакамі.

Часам раптам здаецца, што яе наведвае нейкі мяккі сумны ўспамін: тады вусны яе, нячулае рэха мінулага, машынальна шэпчуць загадкавыя словы,

адзінае і вышэйшае адлюстраванне яе жыцця, і сэнс гэтых слоў не можа зразумець ні адзін із новых насельнікаў Волагды: "Дык значыць, ён кахаў мяне!"

**~331~**

ЗАКАНЧЭННЕ ГІСТОРЫІ ЦЕЛЕНЕВА

Ні рускі паэт, ні я не спыніліся перад тым, каб дапасаваць да Аксіні словы "панна-маці"; ні ён, ні я не лічым, што чым-небудзь абразілі ўзнёслы верш каталіцкага паэта: О, панна-маці, Ноч свайго ж сына [519] * або апаганілі найглыбейшую таямніцу, выяўленую ім у гэтых кароткіх словах.

# Ліст дзевятнаццаты

*Пецярбург у адсутнасць імператара. – Хібы архітэктараў. – Жанчыны рэдкія на пецярбургскіх вуліцах. – Государава вока. – Хваляванне прыдворных. – Метамарфозы. – Асаблівы склад рускага славалюбства. – Ваенны дух. – Неабходнасць, якойпадпарадкоўваецца нават імператар. – Чын. – Дух гэтага ўстанаўлення. – Пятро I. – Яго разуменне чыну. – Расія ператвараецца ў полк. – Дваранства знішчана. – Мікалай больш руская, чым Пятро I. – Чын падзяляецца на чатырнаццаць класаў. – У чым перавага чалавека, які належыць да апошняга стану. – Адпаведнасць грамадзянскіх станаў вайсковым званням. – Прасоўванне па службе залежыць адзіна ад волі імператара. – Дзіўная магутнасць славалюбства. – Яго наступствы. – Думка, якая падпарадкавала сабе рускі народ. – Розныя думкі адносна будучыні гэтай імперыі. – Погляд на характар рускага народа. – Параўнанне паміж просталюдзінамі ў Англіі, у Францыі і ў Расіі. – Бядотнае становішча рускага жаўнера. – Небяспека, якой падвяргаецца Яўропа. – Рускае гасціннасць. – Якая яго мэта.– Цяжкасьці, якія выклікае жаданне агледзець што-небудзь самастойна. – Фармальнасці, якія лічацца праявамі пачцівасьці. – Памяць аб Усходзе. – Хлусня па неабходнасці. – Уздзеянне спосабу кіравання на нацыянальны характар. – Сваяцтва рускіх з кітайцамі. – Апраўданне няўдзячнасьці. – Манеры людзей, набліжаных да двара. – Прадузятасць рускіх супраць замежнікаў. – Адрозненне паміж рускім і французскім характарам. – Усеагульны недавер. – Словы Пятра Вялікага аб характары сваіх падданых. – Візантыйцы. – Меркаваньне Напалеона. – Самы шчыры чалавек ва ўсёй імперыі. – Сапсаваныя дзікуны. – Маніякальная прыхільнасць да вандраванняў. – Памылка Пятра Вялікага, якую паўтаралі і яго пераемнікі. – Імператар Мікалай адзіны хто паспрабаваў яе выправіць. – Дух яго кіраваньня. – Выказванне сп-ра дэ ла Ферон. – Лёс гаспадароў. – Бессэнсоўная архітэктура. – Прыгажосць і карысць пецярбургскіх набярэжных. – Апісанне Пецярбурга,*

[519] "Рай" Дантэ, песьня XXXIII, 1-й верш.

*зробленае Вэберам ў 1718 годзе. – Тры плошчы, якія зліваюцца ў адну. – Сабор Сьвятога Язэпа. – Чаму васпаны часцей, чым народы, памыляюцца, выбіраючы месца для гарадоў. – Казанскі сабор. – Грэцкія забабоны. – Царква ў Смольным. – Жаночая кангрэгацыя з вайсковым статутам. – Таўрычаскі палац. – Антычная Венера. – Дар папы Клімента XI Пятру I. – Меркаванні з гэтай нагоды. – Эрмітаж. – Карцінная галерэя. – Імператрыца Кацярына. – Партрэты, напісаныя с-няй Лебрэн. – Статут гуртка, збіраўшагася ў Эрмітажы, складзены імператрыцай Кацярынай II.*

**Пецярбург, 1 жніўня 1839 года[520]**

Калі я апошні раз пісаў вам, я абяцаў, што не вярнуся ў Францыю, пакуль не дабяруся да Масквы; з тых часоў вы не можаце



думаць ні аб чым іншым, акрамя гэтага легендарнага горада - легендарнага насуперак гістарычным фактам[521]*. І на самай справе, няхай назва "Масква" гучыць вельмі сучасна і выклікае ў памяці даставернейшыя падзеі нашага стагоддзя, - аддаленасць былой сталіцы і веліч гэтых падзей надаюць ёй паэтычнасць, як ніякаму іншаму гораду. У гэтых эпічных сцэнах ёсць нешта велічнае і дзіўным чынам кантрастуе з духам нашага стагоддзя, стагоддзя геаметрыі і гандляроў каштоўнымі паперамі. Так што я з велізарным нецярпеннем чакаю, калі апынуся ў Маскве: такая зараз мэта майго падарожжа; я выязджаю праз два дні, аднак у гэтыя дні буду пісаць вам больш рупліва, чым калі-небудзь, бо абавязкова хачу даць наколькі магчыма поўную выяву гэтай шырокай і ні на што не падобнай імперыі.

Вы не можаце нават уявіць, наколькі сумнае відовішча ўяўляе сабой Пецярбург у адсутнасць імператара; гэты горад, па праўдзе кажучы, і ў іншы час не назавеш вясёлым; але пазбавіўшыся двара, ён ператвараецца ў пустыню, - да таго ж, як вы ведаеце, яму пастаянна пагражае гібеллю марская стыхія. І вось сёння раніцай, шпацыруючы па яго бязлюдных набярэжных і апусцелых праменадах, я казаў сабе: "Значыць, Пецярбург хутка затопіць; людзі збеглі з яго, і вада вернецца на сваё законнае месца - на балота; на гэты раз прырода аддасць належнае хітрыкам мастацтва". Нічога падобнага: Пецярбург вымер, таму што імператар адбыў у Пецяргофе - вось і ўсё.

Мора выштурхоўвае ваду Нявы, і яна паднімаюцца так высока, а берагі яе такія нізкія, што шырокае, з бясконцым мноствам рукавоў вусце падобна на застылую паводка, на багну, - ракой Няву называюць праз недахопам больш дакладных тэрмінаў. Нява ў Пецярбургу – гэта ўжо мора; вышэй па плыні – гэта водаспуск даўжынёю ў некалькі лье, сцёк Ладажскага возера, вада якога цячэ праз яе ў Фінскі заліў.

У той час, калі будаваліся пецярбургскія набярэжныя, у рускіх панавала мода на нізкія будынкі - мода вельмі неразумная для краіны, дзе вышыня сьцен змяншаецца на шэсць футаў праз снег, які пакрывае зямлю восем месяцаў на

---

520 Згодна старога стылю 20 ліпеня.

521 Гэтыя словы - адказ на ліст, атрыманы із Парыжа.

год, і дзе ні адно ўзвышша не надае пейзажу маляўнічасьці і не парушае роўнага кола - нерухомай лініі гарызонту, якая атачае горады, плоскія, як марская роўнядзь.

Шэрае неба, стаялая вада, згубны для жыцця клімат, топкая глеба бясплоднай, слякатнай нізіны, манатонная, плоская раўніна, дзе зямля падобная на ваду толькі крыху больш цёмнага адцення, – толькі перамогшы ўсе гэтыя непрыемныя абставіны, чалавек мог надаць маляўнічасць Пецярбургу і яго наваколлям. Без сумневу, толькі капрыз, прама супрацьлеглы пачуццю прыгожага, мог прымусіць

**~334~**

кагосьці размясціць радамі на роўнай паверхні вельмі плоскія збудаванні, ледзь выступаючыя з балотнага моху. У юнацтве я быў у захапленні, стоячы каля падножжа гарыстых берагоў Калабрыі[522]: перада мной быў пейзаж, усе лініі якога, за выключэннем мора, былі вертыкальнымі. Тутэйшая ж зямля, наадварот, - плоскасць, акрэсленая абсалютна гарызантальнай лініяй, што праведзена паміж небам і вадой. Домы, палацы і прысутныя месцы, якія стаяць па берагах Нявы, здаецца, амаль зліваюцца з зямлёй, ці, дакладней, з морам; сярод іх ёсць і аднапавярховыя, а самыя высокія – у тры паверхі: на выгляд ўсе яны як быццам спляжаны. Карабельныя мачты уздымаюцца вышэй дахаў; гэтыя дахі крытыя жалезам і пафарбаваныя, адсюль іх чысьціня і лёгкасць; але іх зрабілі вельмі плоскімі, на італьянскі манер - і зноў насуперак здароваму сэнсу! Для краін, дзе шмат снегу, падыходзяць толькі вастраверхія дахі. У Расіі вас на кожным кроку дзівяць наступствы непрадуманага пераймальніцтва.

Паміж чатырохкутных будынкаў нібыта раманскай архітэктуры вашым вачам адкрываюцца шырокія праёмы, прамыя і пустынныя; яны называюцца вуліцамі; з выгляду яны нікольки не падобныя на паўднёвыя, нягледзячы на атачаючыя іх класічныя калоны. Вецер бесперашкодна гуляе па гэтым дарогах, выпрастаных і шырокіх, нібы алеі ўнутры ваеннага лагера. Сумны выгляд горада яшчэ ўзмацняецца ад таго, што тут рэдка сустрэнеш жанчын. Тыя, што нядрэнныя сабою, ніколі не ходзяць пешшу. Людзі заможныя, калі ім захочацца прайсьціся, не праміне ўзяць з сабой лакея, каб ён суправаджаў іх, - звычай, які заснаваны на абачлівасьці і неабходнасьці. Аднаму імператару пад сілу засяляць гэтае сумнае месца, адзін толькі ён здольны стварыць натоўп на гэтым бівуаку, што неадкладна пусьцее, як толькі яго пакіне ўладар. У механізмы ён ўдыхае жывапісны запал і думку; карацей, гэта чарадзей, чыя прысутнасць абуджае Расію, а адсутнасць апускае ў сон: ледзь двор пакідае Пецярбург, як пышная сталіца ператвараецца ў залу для гледачоў пасьля пастановы. Імператар – гэта запаленая лямпа. Пасьля вяртання з Пецяргофа я не магу пазнаць Пецярбург; чатыры дні таму я ад'язджаў з зусім іншага горада – але калі б сёння ўначы імператар вярнуўся, раніцай усё тое, што зараз наганяе нуду, абуджала б

[522] Падарожжа па Калабрыі (паўднёвым ускрайку Італіі), здзейсненае ў 1812 г., Кюстын апісаў у кнізе "Успаміны і падарожжы" (1830).

жывую цікавасць. Трэба быць рускім, каб зразумець магутнасьць государавага вока: гэта нешта зусім іншае, чым вока закаханага, пра якое казаў Лафантэн[523].

Вы думаеце, дзяўчына ў прысутнасьці імператара думае пра свае сардэчныя справы? Вы памыляецеся: яна думае, як дамагчыся павышэння для брата; старая, ледзь адчуўшы блізкасць двара, забываецца пра свае хваробы; няхай у яе няма сям'і і ёй няма пра каго клапаціцца - усё роўна, бо царадворствам займаюцца дзеля задавальнення, рабалепнічаючы бескарысліва, так, як гулец бескарысліва любіць гульню дзеля



самой гульні. У лісьлівасьці няма ўзросту. І вось, скінуўшы з сябе цяжар пражытых гадоў, гэтая маршчыністая лялька губляе і годнасць, якая адрознівае старасць: ніхто не зжаліцца над мітусьлівай старасьцю, бо яна смешная. Пад канец жыцця варта было б асабліва рупліва выконваць тое, чаму вучыць нас час, - а ён вучыць нас вялікаму мастацтву адрачэння. Шчаслівыя тыя людзі, якія з юных гадоў ўмелі атрымоўваць карысць ад гэтых настаўленняў!.. адрачэнне ёсць доказ душэўнай сілы: адмовіцца па сваёй волі, перш чым страціць гэта ж па чужой – вось у чым какецтва старасці.

У прыдворных яно не ў вялікім ужытку, так што ў Пецярбургу да яго звяртаюцца радзей, чым дзе б там ні было. Жвавыя бабулькі ўяўляюцца мне сапраўдным бедствам для рускага двара. Сонца господаравай міласьці слепіць славалюбаў, і асабліва славалюбаў у спадніцы; праз яго яны не бачаць сапраўднай сваёй выгады, а яна ў тым, каб, хаваючы ўбоства душы, не страціць сваёй годнасьці. Рускія ж прыдворныя, падобна святошам, не ведаючым нічога, акрамя Бога, выхваляюцца убогасьцю духу: яны нічым не грэбуюць і адкрыта займаюцца сваім рамяством. У гэтай краіне лісьлівец гуляе, паклаўшы ўсе карты на стол, і, што самае дзіўнае, выкарыстоўваючы ўсім вядомыя прыёмы, прымудраецца яшчэ і выйграваць! У прысутнасьці імператара хворы вадзянкай пачынае дыхаць, паралізаваны стары набывае спрыт, не застаецца ні аднаго хворага, ні адзінага падагрыка, ні палкага закаханага, ні ласага да забаў юнака, ні вострага на язык мысляра – чалавека не застаецца наогул!!! Гэта аплявуха ўсяму роду чалавечаму. Душу, гэтым падабенствам на людзей, замяняюць рэшткі скупасьці і ганарыстасьці, якія падтрымліваюць іх аж да самага скону; двума гэтымі запаламі жыве ўсякі двор, аднак тут яны захопліваюць сваіх ахвяр у нейкае ваеннае спаборніцтва – усе паверхі грамадства агорнуты спарадкаваным суперніцтвам. Падняцца яшчэ на прыступку ў чаканні лепшага – вось адзінае жаданне гэтага абвешанага цэтлікамі натоўпу.

Але які ж надыходзіць ўсеагульны заняпад сіл, калі зорка, якая прыводзіць у рух ўсе гэтыя атамы, знікае за гарызонтам! Перад вамі нібы начная раса, якая

[523] Рэмінісцэнцыя з байкі Лафантэна "Гаспадарскае вока" (Байкі, IV, 21); спасылаючыся на Фёдра, Лафантэн кажа ў фінале гэтай байкі, што пільнае толькі гаспадарскае вока і дадае ад сябе: а таксама вока закаханага.

падае ў пыл, або манашкі Роберта Д'ябла[524], што вяртаюцца ў свае грабніцы – каб чакаць сігнал да новага карагоду. Пакольki розум ва ўсіх і кожнага накіраваны на павышэнне па службе, усякая гутарка становіцца немагчымай: вочы вялікасвецкіх рускіх – палацавыя сланечнікі; рускія гавораць з вамі, не надаючы вымаўляемым словах ніякага значэння, – позірк жа іх застаецца паранейшаму прыкаваны да сонца манаршай міласьці.

Не думайце, што ў адсутнасць імператара размова набывае больш свабодны характар: ён заўсёды стаіць перад унутраным поглядам, так што ў сланечнік ператвараюцца не вочы, але думкі. Адным словам, для

**~336~**

гэтага няшчаснага народа імператар – гэта Гасподзь Бог, гэта само жыццё і само каханне. Менавіта ў Расіі варта было б без стомы паўтараць малітву мудраца: "Госпадзі, захавай мяне ад улады дробязяў!"

Ці можаце вы сабе ўявіць, каб усё жыццё чалавека звялося да надзеі пакланіцца ўладару ў падзяку за адзін яго погляд? Бог ўклаў залішне шмат запалу ў сэрца чалавечае для таго ўжывання, якое гэтаму сэрцу знаходзяць тут. Калі мне здараецца паставіць сябе на месца таго адзінага чалавека, за кім тут прызнаюць права жыць вольным, я баюся за яго. Што за жудасная роля – мець значэнне Прывіду для шасцідзесяці мільёнаў душ! Гэтае бажаство, спараджэнне палітычных забабонаў, стаіць перад выбарам із двух магчымасцей: альбо даказаць сваю чалавечую прыроду і даць сябе знішчыць, альбо накіраваць асоб сваёй секты на заваёву свету, каб пацвердзіць сваю боскасць; таму-та ў Расіі ўсё жыццё становіцца школай славалюбства.

Але які ж шлях прыйшлося прайсьці рускім, каб дасягнуць падобнага самаадрачэння? Якім, із маючыхся ў чалавека сродкаў можна было атрымаць такі палітычны вынік? Якім? Вось якім: гэта сродак – чын; чын ёсць гальванізуючая сіла, бачнасць жыцця рэчаў і розумаў, гэта запал, што перажыве усякі іншы!.. Я паказаў вам ўздзеянне чыну, зараз самы час растлумачыць, што ён сабой уяўляе.

Чын – гэта нацыя, падзеленая на палкі, гэта ваеннае становішча, на якое пераведзена ўсё грамадства, і нават тыя яго станы, што вызвалены ад вайсковай службы. Адным словам, гэта дзяленне грамадзянскага насельніцтва на станы, адпавядаючыя вайсковым званням. З тых часоў, як была ўсталявана гэтая іерархія званняў, чалавек, у вочы не бачыўшы вучэнняў, можа зрабіцца палкоўнікам.

Пятро Вялікі, да якога нязменна даводзіцца звяртацца, каб зразумець цяперашнюю Расею, – дык вось, Пятро Вялікі, якому надакучылі некаторыя нацыянальныя забабоны, у чымсьці паходзячыя на арыстакратызм і перашкаджаўшыя яму ў ажыццяўленні яго планаў, прыйшоў аднойчы да думкі, што яго паства залішне шмат думае і залішне незалежная; ў імкненні ліквідаваць

[524] Роберт Д'ябал – галоўны герой оперы Д. Мейербера згодна слоў Э. Скрыба і Г. Делавіня (1831), адно з дзеянняў якой адбываецца сярод руінаў старажытнага манастыра, дзе па начах цені бязбожных манашак паўстаюць із магіл і займаюцца непатрэбствамі.

гэтую перашкоду – найбольш прыкрую для розуму актыўнага і празарлівага ў сваёй вобласці, але занадта вузкага, каб усвядоміць перавагі свабоды, якую б карысць ні давала яна нацыям і нават іхным кіраўнікам, – гэты вялікі майстар па частцы самавольства, са сваім глыбокім, але абмежаваным разуменнем рэчаў, не прыдумаў нічога лепшага, як падзяліць статак, г. зн. краіну, на розныя станы, якія не залежаць ад імя асобнага чалавека, яго паходжання і славы яго роду; так, каб сын самага шляхетнага ў імперыі вяльможы мог быць далучаны да найніжэйшага стану, а сын якога-небудзь із належачых



яму сялян – узведзены ў адзін з першых станаў, буде на тое здарыцца воля імператара. Пры такім падзеле народа кожны чалавек атрымлівае месца па міласьці гаспадара; вось як Расія ператварылася ў полк з шасцідзесяццю мільёнамі чалавек, вось гэта і ёсць чын – найвялікшае з тварэнняў Пятра Вялікага.

Бачыце, як гэты гаспадар, нарабіўшы сваёй паспешнасьцю столькі зла, пазбавіўся ў адзін дзень ад векавых кайданоў. Гэты тыран, усталёўваючы дабро і пажадаўшы абнавіць свой народ, не ставіў ні ў што ні прыроду, ні гісторыю, ні мінулае людзей, ні іхныя характары і жыццё. Падобныя ахвяры дазваляюць без працы дасягнуць вялікіх вынікаў; Пятро І дасягнуў іх, але вельмі дарагой цаной, а справы такія вялікія рэдка бываюць добрымі. Ён выдатна разумеў, ён лепш, чым хто – альбо, ведаў, што пакуль у грамадстве існуе дваранскі стан, дэспатычная ўлада аднаго чалавека ніколі не стане ў ім абсалютнай; і тады ён сказаў сабе: каб ажыццявіць мой спосаб кіравання, трэба знішчыць феадальны рэжым без астатку, а лепшы спосаб дасягнуць гэтага – ператварыць дваран ў карыкатуры, падкупіць знаць, прымусіць яе залежаць ад мяне, гэта значыць знішчыць: і адразу ж дваранства было калі не разбурана, то, ва ўсякім выпадку, пераўтворана ў нешта зусім іншае: новая ўстанова адмяніла яго, замясціўшы, але не папоўніўшы страты. У гэтай іерархіі ёсць такія касты, у якія дастаткова патрапіць, каб здабыць спадчыннае дваранства. Такім-та чынам Пятро Вялікі – якога я б больш ахвотна назваў бы Пятром Моцным, – больш чым на паўстагоддзе апярэдзіўшы сучасныя рэвалюцыі, расправіўся з феадальнай шляхтай. Яна была ў яго, па праўдзе сказаць, не такая магутная, як у нас, і вельмі хутка ўпала пад цяжарам напалову грамадзянскай напалову вайскавой ўстановы, з якой вырасла цяперашняя Расія. Пятро І валодаў розумам праніклівым, але недальнабачным. А таму, узвёўшы сваю ўладу на адных руінах, ён не знайшоў нічога лепшага, як выкарыстоўваць набытую неабсяжную магутнасць для таго, каб з большай лёгкасцю падобна малпе, пераймаць еўрапейскую цывілізацыю. Творчы розум, звярнуўшыся да таго вобразу дзеянняў, што засвоіў сабе гэты гаспадар, стварыў бы зусім іншыя цуды. Але руская нацыя, пазней за іншых ўзышоўшая на вялікія падмосткі свету, сваім геніем абрала пераймальніцтва, а прыладай – вучня цесляра! Будзь на чале яе хто-небудзь менш добрасумленны, менш пагружаны ў дэталі, гэтая нацыя прымусіла б пра сябе гаварыць – праўда, некалькі пазней, затое з большай магутнасьцю. Яе улада, будзь яна заснаванай

на ўнутраных патрэбах, прынесла б свету карысць; пакуль яна яго толькі здзіўляе.

Нашчадкі гэтага заканадаўцы ў рымскім сагуме[525] за стагоддзе дадалі да бездапаможнай звычкі пераймаць сваім суседзям яшчэ і ганарысты намер іх скарыць. І вось цяпер імператар Мікалай нарэшце спасціг, што Расіі прыйшоў час адмовіцца ад пераймальніцтва



чужаземных узораў дзеля панавання над светам і яго заваёвы. Ён першы праўдзіва рускі гаспадар, якія кіравалі Расіяй пачынаючы з Яна IV. Пятро I, рускі па сваім характары, не быў рускім у палітыцы; Мікалай, прыродны немец, - рускі па разліку і па неабходнасьці.

Чын складаецца з чатырнаццаці разрадаў, прычым кожны разрад мае свае асаблівыя прывілеі. Чатырнаццаты - самы нізкі разрад. Ніжэй яго знаходзяцца толькі прыгонныя, і адзіная яго перавага ў тым, што у яго залічаны людзі, названыя свабоднымі. Іхная свабода выяўляецца ў тым, што іх нельга пабіць, бо той, хто ўдарыў такога чалавека перасьледуецца згодна закона. Затое кожны, хто належыць да гэтага разраду, абавязаны напісаць на дзверы нумар свайго разраду, каб не ўвесьці ў спакусу альбо ў зман каго-небудзь із вышэйстаячых; той, хто, не надаўшы ўвагі гэтым паведамленням, нанясе пабоі свабоднаму чалавеку, становіцца злачынцам і павінен панесьці пакаранне. Чатырнаццаты разрад складаецца з ніжэйшых урадавых чыноўнікаў – паштовых служачых, пасланнікаў і іншых падначаленых, у чые абавязкі ўваходзіць перадаваць альбо выконваць загады вышэйстаячых начальнікаў; ён адпавядае званню ўнтэр-афіцэра ў імператарскім войску. Людзі, уключаныя у гэты разрад, служаць імператару, гэта ўжо не прыгонныя; ў іх ёсць пачуццё ўласнай годнасці - грамадскай, бо чалавечая годнасць, як вы ведаеце, у Расіі невядома.

Паколькі ўсякі разрад чыну адпавядае воінсковаму званню, вайсковая іерархія выяўляецца, так бы мовіць, паралельнай таму парадку, якому падпарадкавана дзяржава ў цэлым. Першы разрад размешчаны на вяршыні пірамiды і складаецца зараз з аднаго-адзінага чалавека – фельдмаршала Паскевіча, намесніка царства Польскага.

Прасоўванне кожнага асобнага чалавека ў чыне залежыць, паўтараю, адзіна ад волі імператара. Так што чалавек, падняўшыся з прыступкі на прыступку да самага высокага становішча ў гэтай штучна наладжанай нацыі, можа па смерці заслужыць ваенных ушанаванняў, ніколі не служыўшы ні ў адным із радоў войска. Аб міласьці павышэння ў чыне ніколі не просяць, але дамагаюцца яе заўсёды.

Менавіта ў гэтым складаецца страшная сіла закісання, якой карыстаецца кіраўнік дзяржавы. Лекары скардзяцца, што не могуць выклікаць ліхаманку ў некаторых пацыентаў, каб вылечыць іх ад хранічных хвароб, – цар жа Пятро прышчапіў ліхаманку ганарыстасьці ўсяму свайму народу, каб зрабіць яго згодлівым і кіраваць ім па ўласнаму меркаванню.

---

[525] Сагум – кароткі вайсковы або дарожны плашч ў рымлян.

Ангельская арыстакратыя таксама не залежыць ад нараджэння, таму што заснавана на двух рэчах, якія можна купіць, - пасадзе



і зямлі. Але калі нават гэтая бязвольная арыстакратыя да гэтага часу надзяляе карону велічэзнай уладай, то якою ж павінна быць магутнасьць спадара, ад якога залежаць усе гэтыя рэчы разам, і на паперы, і на справе? З падобнага грамадскага ўладкавання вынікае такая магутная ліхаманка зайздрасьці, такое неадольнае свярбенне славалюбства, што рускі народ павінен страціць здольнасць да ўсяго, акрамя заваёвы свету. Я ўвесь час вяртаюся да гэтага намеру, бо той лішак ахвяр, на які выракае тут грамадства чалавека, не можа тлумачыцца нічым іншым, акрамя падобнай мэты. Бязладнае славалюбства высушвае чалавечае сэрца, але яно роўна можа знясіліць і розум, адбіць у нацыі здольнасць да меркавання настолькі, каб яна ахвяравала свабодай дзеля сваёй перамогі. Не ведай я гэтай задняй думкі, няхай не выказанай ўслых, – думкі, якой, магчыма, не аддаючы сабе ў тым справаздачы, падпарадкоўваецца мноства людзей, я б палічыў гісторыю Расіі за невытлумачальную загадку.

Тут узнікае галоўнае пытанне: што такое гэтая думка пра заваёву, складаючая таемнае жыццё Расіі, - ці прынада, здольная больш ці менш доўга спакушаць грубы народ, ці ж у адзін цудоўны дзень ёй наканавана ўвасабіцца ў рэчаіснасць? Гэты сумнеў не пакідае мяне ні на хвіліну, і нягледзячы на ўсе свае намаганні, адказу я не знайшоў. Усё, што я магу сказаць, - гэта тое, што з таго часу, як я ў Расіі, будучыня Еўропы бачыцца мне ў чорным колеры. Аднак жа сумленне загадвае мне не хаваць і таго, што людзі вельмі мудрыя і вельмі дасьведчаныя прытрымліваюцца іншага меркавання.

Гэтыя людзі кажуць, што я перабольшваю магутнасьць Расіі, што кожнаму грамадству наканаваны свой лёс, што лёс рускага грамадства – распаўсюдзіць свае заваёвы на Усход, а затым распасьціся самому. Розумы, упарта не жадаючыя верыць у бліскучую будучыню славян, прызнаюць, як і я, што гэты народ даравіты і ласкавы; яны згаджаюцца, што ён успрымальны да ўсяго маляўнічага; яны аддаюць належнае яго прыроджанай музычнасьці і прыходзяць да высновы, што падобныя схільнасьці могуць да пэўнай ступені спрыяць развіццю прыгожых мастацтваў, але іх недастаткова для таго, каб ажыццявіліся дамаганні на сусветнае панаванне, якія я прыпісваю рускім або падазраю ў іх ўрады.

"Рускія пазбаўлены навуковага генія, - дадаюць гэтыя мысляры, - у іх ніколі не выяўлялася здольнасьці да творчасьці; розум іх ад прыроды гультаяваты і павярхоўны, і калі яны і шчыруюць ў чым, то хутчэй праз баязнь, чым із захаплення; баязнь надае ім гатоўнасць пайсьці на ўсё, накідаць па-чорнаму што заўгодна, але ён жа і перашкаджае ім рушыць далёка наперад па якому б там ні было шляху; геній, падобна геройству, па прыродзе адважны, ён жыве свабодай, тады як царства і сфера дзейнасьці баязні і рабства абмежаваныя - як і ў пасрэднасьці, прыладай якой яны выступаюць. Рускія -

добрыя жаўнеры, але кепскія маракі; яны, як правіла, больш пакорлівыя, чым вынаходлівыя, больш схільныя да рэлігіі, чым да філасофіі, у іх больш паслушэнства, чым волі, і іхнай думцы не хапае энергіі, як іхнай душы – свабоды[526]*. Самае цяжкае для іх і найменш натуральнае – гэта чымсьці сур'ёзна заняць свой розум і на чымсьці засяродзіць сваё ўяўленне, так, каб знайсьці яму карыснае прымяненне; вечныя дзеці, яны змогуць на нейкі момант адолець усіх з дапамогай мяча, але ніколі з дапамогай думкі; а народ, якому няма чаго перадаць іншым народам, тым, каго ён хоча заваяваць, нядоўга будзе заставацца наймацнейшым. Нават французскія і англійскія сяляне фізічна мацней, чым насельнікі Расіі: рускія больш спрытныя, чым мускулістыя, больш лютыя, чым энергічныя, і больш хітрыя, чым прадпрымальныя; ў іх ёсць нейкая сузіральная адвага, але ім не хапае дзёрзкасьці і настойлівасьці; іхнае войска, паказваючае на парадах хвацкую дысцыпліну і выпраўку, складаецца, за выключэннем некалькіх абраных частак, з людзей, якія перад публікай з’яўляюцца ў прыгожай форме, а за сьценамі казармаў ўтрымліваюцца у брудзе. Колер твараў змардаваных жаўнераў выдае іх пакуты і голад – бо пастаўшчыкі абкрадаюць гэтых няшчасных, а тыя атрымліваюць занадта бедны заробак, каб, марнуючы яго часткова на лепшую ежу, задавальняць свае патрэбы; абедзве турэцкія кампаніі досыць выразна выявілі ўсім слабасць гэтага калоса[527]; карацей кажучы, у грамадства, якое пры сваім нараджэнні не зведала свабоды, якое не ведала іншых палітычных узрушэнняў, акрамя навеяных чужаземным уплывам, грамадства, неспакойнага ў самой сваёй аснове, няма даўгавечнай будучыні...".

З усяго гэтага робіцца выснова, што Расія, магутная ў сваіх уласных межах, наводзячая жах, пакуль яна змагаецца толькі з азіятамі, зломіць сабе шыю ў той самы момант, калі ёй захочацца скінуць маску і аб'явіць вайну Яўропе - у пацверджанне сваёй пагардлівай дыпламатыі. Такія, наколькі я ведаю, самыя моцныя довады, што вылучаюць супраць маёй боязі палітычныя аптымісты. Я нікольki не паслабляў аргументацыю маіх праціўнікаў; мяне яны абвінавачваюць у тым, што я перабольшваю небяспеку. Кажучы па праўдзе, ёсць людзі, і людзі ані не менш годныя, якія падзяляюць маё меркаванне і нястомна дакараюць аптымістаў за слепату, угаворваючы іх прызнаць зло, пакуль яно яшчэ не стала непапраўных. Я паказаў вам абодва бакі пытання; зараз слова за вамі – ваша меркаванне будзе мець у маіх вачах вялікую вагу; аднак жа папярэджваю: калі ваш прысуд будзе адрозны ад майго, я ўсё роўна доўга і ўпарта, пакуль хопіць магчымасьцей, буду адстойваць сваё меркаванне, спрабуючы знайсьці найлепшыя довады для яго падмацавання. Я бачу гэтага калоса



[526] Глядзі выяву рускіх ў лісьце трыццаць другім, із Масквы. Апіска Кюстына; трыццаць другі ліст напісаны не ў Маскве, а па дарозе ў Ніжні Ноўгарад. Выява рускіх гл ў т. 2,с. 225-226.

[527] Маюцца на ўвазе руска-турэцкія вайны 1806-1812 гг. і 1828-1829 гг. Абедзьве вайны былі пераможнымі; скептычныя адзносіны Кюстына да іхных вынікаў заснаваны, верагодна, на тым, што ні адна з іх не скончылася поўным разгромам Турцыі і захопам Канстантынопаля (гл. заўв. да цяп. тома с. 111). У выданні 1854 г. Кюстын зрабіў заўвагу да гэтага месцы: "Што ж сказаць пра трэццюю вайну з туркамі?"

паблізу, і мне цяжка сабе ўявіць, каб гэтае стварэнне божага Промыслу мела на мэце толькі паслабіць азіяцкае варварства. Мне ўяўляецца, што галоўнае яго прызначэнне – пакараць дурную еўрапейскую цывілізацыю з дапамогай новага нашэсця; нам няспынна паграажае спрадвечная ўсходняя тыранія, і мы станем яе ахвярамі, калі наклічам на сябе гэтую кару сваімі дзівацтвамі і крывадушшам.

Вы не чакайце ад мяне вычарпальнай справаздачы аб падарожжы; я не пішу вам пра мноства знакамітых альбо проста цікавых рэчаў, таму што яны не зрабілі на мяне моцнага ўражання; мне хочацца застацца свабодным і апісваць толькі тое, што жыва мяне дзівіць. Абавязковыя апісанні адбілі б у мяне густ да вандраванняў: на свеце даволі каталогаў, і мне не абавязкова дадаваць да вялікай іх колькасьці яшчэ і ўласны пералік.

Тут нічога нельга агледзець без цырымоній і папярэдняй падрыхтоўкі. Выправіцца куды б там ні было, калі вам прыйдзе ахвота гэта зрабіць, - рэч немагчымая; прадбачыць за чатыры дні, куды вас завабіць ваша фантазія, - усё роўна што зусім не мець фантазіі, аднак, жывучы тут, з гэтым у рэшце рэшт даводзіцца змірыцца. Руская гасціннасць, натапырыўшаяся фармальнасцямі, ўскладняе жыццё нават тым замежнікам, якім тут больш за ўсё спрыяюць; яна толькі прыстойная падстава, каб абмежаваць вандраўніка ў рухах і абмежаваць свабоду яго назіранняў. Вас ўшаноўваюць, так бы мовіць, па рускаму звычаю, і праз гэтую маркотную пачцівасць назіральніку нельга нікуды пайсьці і нічога разгледзець без праваднiка; ён ніколі не застаецца адзін, а таму яму цяжэй судзіць пра ўсё самастойна – але менавіта гэтага і не хочуць яму дазволіць. Заязджаючы ў Расію, трэба сваю свабодную волю пакінуць разам з пашпартам на мяжы. Вам хочацца зірнуць на славутасьці якога-небудзь палаца? Да вас прыставяць камергера, які прымусіць вас аддаць належнае ўсяму палацу, зверху данізу, і сваёй прысутнасьцю вымусіць разглядаць ўсякую рэч у падрабязнасьцях – гэта значыць на ўсё глядзець яго вачамі і захапляцца ўсім без разбору. Вам хочацца прайсьціся па ваенным лагеры, уся цікавасць якога для вас – у размяшчэнні баракаў, у маляўнічых мундзірах, у прыгожых конях, у жаўнерах, што ўладкаваліся па сваіх палатках? Вас будзе суправаджаць афіцэр, а то і генерал; ў шпіталі вашым праваднiком будзе галоўны лекар; умацаванне вам пакажа – дакладней, ветліва яго ад вас схавае – камендант; дырэктар ці інспектар школы альбо іншай публічнай ўстановы, якому павядомлена загадзя аб вашым візіце, сустрэне вас у поўным узбраенні і выдатна падрыхтаваным да адказаў на ўсе пытанні, каб не баяцца вашага агляду; архітэктар, які пабудаваў будынак, сам правядзе вас па ўсіх яго частках і сам патлумачыць усё, пра што вы не пыталіся, - каб утаіць тое, што вам цікава даведацца. Усе гэтыя ўсходнія цырымоніі прыводзяць да таго, што, каб не



марнаваць увесь свой час на запытанне дазволаў, вы адмаўляецеся ад думкі пабачыць вельмі шмат із таго, што хацелі: вось вам і першая іх перавага!.. Альбо, калі ваша цікаўнасць настолькі моцная, што прымушае ўпарта дапякаць людзям, вы, ва ўсякім выпадку, будзеце весьці свае пошуку пад такім пільным наглядам, што яны не дадуць ніякага выніку; вы будзеце мець справу толькі з начальнікамі

так званых публічных устаноў, і толькі афіцыйнымі; вам пакінуць толькі свабоду выказваць законнай уладзе сваё захапленне, прадыктаванае ветлівасьцю, абачлівасьцю і падзякай, да якой рускія вельмі раўнівыя. Вам ні ў чым не адмаўляюць, але паўсюль суправаджаюць: ветлівасць тут ператвараецца ў разнавіднасць сляжэння. Вось так вас і тыраняць, пад той падставе, што выказваюць вам гонар.

Такая доля абраных падарожнікаў. Што ж да падарожнікаў, якія не маюць заступнікаў, то яны зусім нічога не бачаць. Гэтая краіна пабудавана так, што ні адзін іншаземец не можа раз'язджаць па ёй не толькі бесперашкодна, але нават проста бяспечна без прамога ўмяшання прадстаўнікоў улады. Спадзяюся, вы пазнаеце ўсходнія норавы і ўсходнюю палітыку, што хаваюцца тут пад маскай еўрапейскай выхаванасьці. Хаўрус Захаду і Усходу, з наступствамі якога сутыкаешся на кожным кроку, – адметная рыса рускай імперыі. Недацывілізаванасць ўсюды стварае фармальнасьці; вытанчаная цывілізацыя знішчае іх; гэта як вышэйшая ветлівасць, якой чужая ўсякая напружанасць. Рускія да гэтага часу вераць у дзейснасць хлусні; і мне дзіўна бачыць падобны памылковы погляд ў людзей, столькі разоў да яе выкарыстоўваўшыя... Не тое каб іхны розум быў недастаткова тонкі або пранікліві; але ў краіне, дзе ўлада да гэтага часу не зразумела пераваг свабоды нават для сябе самой, падуладныя людзі нехаця палохаюцца бліжэйшых наступстваў шчырасці, якая стварае іншы раз некаторыя нязручнасьці. Не магу не паўтараць кожную хвіліну: усё тут, і народ, і моцныя гэтага свету, выклікаюць у памяці візантыйцаў.

Магчыма, я не адчуваю дастатковай падзякі за тыя паказныя клопаты, якімі рускія атачаюць усякага вядомага чужаземца; проста я бачу іх патаемныя думкі і, сам таго не жадаючы, кажу сабе: уся гэтая стараннасць – праява не столькі дабразычлівасьці, колькі схаванай трывогі. Яны хочуць, ідучы ўслед за разумнай парадай Манамаха[528]*, каб чужынец пайшоў з краіны задаволены[529].

Не тое каб рускую нацыю ў цэлым турбавала, што пра яе гаворать і думаюць, не; але некалькі самых уплывовых родаў палаюць дзіцячым жаданнем выправіць еўрапейскую рэпутацыю Расіі.



Зазіраючы яшчэ далей, прыадчыняючы завесу, якімі тут любяць ахутваць усякую рэч, я выяўляю густ да таямніцы дзеля самой таямніцы; гэта вынік звычкі і склаўшыхся нораваў... Стрыманасць тут у парадку рэчаў – як неасцярожнасць ў Парыжы.

У Расіі паўсюль пануе сакрэт – адміністрацыйны, палітычны, грамадзкі; ўтоенасць, карысная і бескарысная, залішняе замоўчванне дзеля таго, каб змаўчаць пра неабходнае, – такі непазбежны вынік спрадвечнага характару гэтых людзей, умацаваны ўздзеяннем тутэйшага ладу кіравання. Кожны падарожнік не сьціплы; за замежнікам з яго вечнай цікаўнасьцю трэба

[528] Глядзіце эпіграф да кнігі і "Кароткую справаздачу аб падарожжы".

[529] Кюстын цытуе словы із павучання Ўладзіміра Манамаха (гл. заўв. да цяп. тома с. 9) недакладна.

зусім не дробяззю. Думаць пра тое, каб наведаць крэпасць, якая стала гістарычнай з часу зняволення і сьмерці ў ёй Яна VI[558], што здарылася пад час валадарання імператрыцы Лізаветы – якая нечуваная дзёрзкасць!.. Я зразумеў, што, сам таго не падазраючы, зачапіў нейкую адчувальную струну, і змоўк. Праз некалькі дзён, а менавіта пазаўчора, рыхтуючыся ўжо да ад'езду ў Маскву, я атрымаў пасланне ад ваеннага міністра; ў ім паведамлялася, што мне дазволена агледзець Шлісельбургскія шлюзы.

Гэтае старажытнае шведскае умацаванне, якую Пятро I назваў ключом да Балтыйскага мора, размешчана як раз каля вытокаў Нявы, на адной з выспаў Ладажскага возера, водаспускам якога, уласна кажучы, і з'яўляецца рака: яна свайго роду натуральны канал, па ім воды возера перацякаюць ў Фінскі заліў. Але акрамя таго гэты канал, рака Нява, сілкуе багаты водны струмень, які і лічыцца адзінай крыніцай ракі; із Шлісельбурга відаць, як гэты ключ б'е пад накрываемымі яго водамі возера, прама пад сьценамі ўмацавання, і азёрныя хвалі, сцякаючы па вадасьцёку, адразу перамешваюцца з водамі крыніцы, убіраюць іх у сябе і захапляюць за сабой; гэта адна з найвялікшых прыродных славутасцей, якія ёсць у Расіі; а тутэйшы пейзаж, хоць і зусім плоскі, як і наогул рускія пейзажы, усё ж адзін з цікавых у ваколіцах Пецярбурга. Спускаючыся па шлюзе, караблі пазбягаюць небяспекі: яны праходзяць ўздоўж возера, не праплываючы над крыніцай Нявы, і, не перасякаючы возера, трапляюць у раку[559] прыкладна ў полулье ніжэй яго.

Вось гэтае-та выдатнае збудаванне мне і дазволілі вывучыць з усімі падрабязнасьцямі – я прасіўся ў дзяржаўную турму, а ў адказ атрымліваю шлюзы. У канцы сваёй запіскі ваенны міністр паведамляў, што генерал-адзьютант, начальнік над усімі шляхамі стасункаў у імперыі, атрымаў загад прасачыць, каб маё падарожжа прайшло без усялякіх цяжкасцяў. Без цяжкасцей!.. О, Божа! На якую дакуку асудзіў я сябе сваёй цікаўнасьцю! І які атрымаў ўрок абачлівасьці, трываючы



[558] Ян VI Антонавіч (1740-1764), імператар у 1740-1741гг. (за яго кіравала яго маці Ганна Леапольдаўна, траюрадная пляменіца Пятра I, і бацька Прынц Антон Ульрых Брауншвейгскі), быў пазбаўлены пасада ў ноч з 24 на 25 лістапада 1741 года, калі гвардзейцы, якія ўварваліся ў палац, абвясьцілі імператрыцай Лізавету Пятроўну. "Брауншвейгскае сямейства" - прынцэсу Ганну, прынца Антона і іхных дзяцей: Яна і Кацярыну - накіравалі ў Рыгу, а затым у Дынамюндскае ўмацаванне, дзе ў іх нарадзілася яшчэ трое дзяцей; падчас апошніх родаў (1746) прынцэса памёрла, пасьля чаго Яна Антонавіча перавялі ў Шлісельбург, дзе ён ў 1764 г., г. зн. падчас царавання Кацярыны II, быў забіты пры спробе афіцэра В. Я. Міровіча вызваліць яго. Такім чынам, сцвярджэнне Кюстына, неаднаразова паўторанае ніжэй, што Ян VI загінуў падчас царавання Лізаветы, памылковае. Сваякоў жа скінутага імператара выправілі ў Халмагоры, дзе яны заставаліся пад наглядам і без права выходзіць за межы саду, атачаючага іхны дом, да 1780 г., калі Кацярына нарэшце дазволіла перавезці іх у Данію, да каралевы Юліі Марыі, роднай сястры Антона Ульрыха. Некаторыя звесткі пра Яна Антонавіча і пераварот 1841 г. Кюстын мог здабыць із "Гісторыі Расіі" Левека (Levesque. т. 5. p. 241-246; аб Левек гл. заўв. да цяп. таго, с. 368).

[559] Стараладажскі канал уздоўж паўднёвага берага возера быў пабудаваны ў 1718-1730 гг. Ён дазваляў караблям праходзіць із прытока Ладагі Волхава ў Няву, абыходзячы возера; у 1799-1800 гг.. на абодвух канцах канала для павелічэння яго прапускной здольнасці былі пабудаваны новыя шлюзы.

ўсе гэтыя цырымоніі, што выдаваліся за ветлівасць! Не скарыстацца дазволам, калі па ўсіх дарогах разасланы адносна мяне загады, азначала б заслужыць папрок ў няўдзячнасьці; агледзець жа з рускай датошнасьцю шлюзы, нават не пабачыўшы Шлісельбургскага замка, азначала па добрай волі трапіцца ў пастку і страціць цэлы дзень – страта немалаважная, улічваючы, што набліжаўся канец лета, а я меў намер яшчэ шмат чаго пабачыць у Расіі, не застаючыся, аднак, тут зімаваць.

Я толькі выкладаю факты: высновы вы зробіце самі. Свабодна абмяркоўваць беззаконні, здзейсненыя пад час валадараньня Лізаветы, тут пакуль не дазволена; усё, што наводзіць на разважанні аб законнасьці сучаснай улады, лічыцца блюзьнерствам; пагэтаму, маю прашэнне трэба было прадставіць перад вочы імператара; той не жадае ні задаволіць маю просьбу, ні адмовіць у ёй; ён змяняе яе змест і дазваляе мне захапляцца цудам тэхнікі, пра якое я нават і не думаў; ад імператара гэты дазвол зноў спускаецца да міністра, ад міністра да главнаўправіцеля шляхамі стасункаў, ад яго да галоўнага інжынера і, нарэшце, да унтэр-афіцэра, якому даручана мяне суправаджаць, служыць мне правадніком і адказваць за маю бяспеку на працягу ўсяго падарожжа – ласка, збольшага нагадваючая турэцкі звычай у выглядзе ўшанавання прыстаўляць да замежнікаў янычараў... Гэты знак заступніцтва занадта быў падобны на праявы падазронасьці, а таму не столькі ліслівіў, колькі скоўваў; так што я, хаваючы прыкрасць і мнучы ў руках рэкамендацыйны ліст міністра, казаў сабе: "Князь ***, якога я сустрэў на караблі ў Травемюндэ, цалкам меў рацыю, усклікаючы, што Расія – гэта краіна безсэнсоўных фармальнасцей".

Я накіраваўся да генерал-адзьютанта, галоўнага загадчыка шляхамі стасункаў, і г. д.[560] – прасіць пра выкананне найвышэйшага загаду. Начальнік ці то не прымаў, ці то яго не было дома; мне загадваюць прыйсці заўтра, я, не жадаючы губляць лішні дзень, праяўляю настойлівасць, і мне адказваюць, каб я прыходзіў ўвечары. Я прыхожу і застаю нарэшце гэтую важную асобу; ён прымае мяне з той пачцівасьцю, да якой я ўжо быў прывучаны тутэйшымі службовымі асобамі, і пасьля чвэрцьгадзіннага візіту я выдаляюся, забяспечаны ўсімі неабходнымі загадамі, адрасаванымі, заўважце, не каменданту замка, а шлісельбургскаму інжынеру! Правёўшы мяне да пярэдняй, гаспадар дома абяцаў, што назаўтра ў чатыры раніцы каля дзвярэй гатэля мяне будзе чакаць унтэр-афіцэр[561].

---

[560] У 1833-1842 гг. гэтую пасаду занімаў граф Карл Фёдаравіч Толь (1777-1842).

[561] Пярэчанне Грэча: "Маркіза суправаджаў не фельд’егер, а фарэйтар, свайго роду ганаровы эскорт, які даецца для падарожжа не толькі замежнікам, але і рускім дамам. Фельд’егеры у нас суправаджаюць толькі міністраў і генерал-адз'ютантаў ў асобных выпадках, заручыўшыся папярэдне найвышэйшым дазволам"(Gretch. p. 9). Іншыя крытыкі Кюстына, не аспрэчваючы самой назвы фельд’егер, высмейваюць жахі Кюстына, які прыняў акт гасціннасьці за падступства дэспата (Labinski. P. 35; Chaudes-Aigues. P. 332-333). Інакш ацаніў засьцярогі Кюстына Герцэн: "Горка ўсміхаешся, чытаючы, як на француза дзейнічала бязмежная ўлада і мізэрнасць асобы перад ёю; як ён хаваў свае паперы, баяўся фельд’егера і г. д. Ён, праязджаючы, чужы, ледзь не паскакаў ад удушша - у нас грудзі мацней арганізаваны. Мы прывыкаем жыць, як сяляне каля агнядыхаючага кратэра" (Герцэн А. І. Збор. Мн. ў 9-ці т. М., 1959 т. 9 с. 125). Адна із магчымых літаратурных крыніц жаху перад фельд’егерам – фрагмент

Я не заснуў ні на хвіліну; я быў уражаны адной ідэяй, якая вам здасца вар'яцкай, – ідэяй, што мой дабрадзей можа выявіцца катам. А што калі гэты чалавек не адвязе мяне ў Шлісельбург, за васемнаццаць лье ад Пецярбурга, а замест гэтага пасьля горадзкой мяжы пакажа загад пераправіць мяне ў Сібір, каб я выкупляў там сваю непрыстойную цікаўнасць – што я тады буду



рабіць, што скажу? Для пачатку патрэбна будзе падпарадкоўвацца; а потым, калі дабяруся да Табольска, калі дабяруся, я стану пратэставаць... пачцівасць мяне не супакойвае, насупраць: я ж зусім не забыўся, як адзін з міністраў[562], аблашчаны Аляксандрам, быў схоплены фельд'егерам прама на парозе кабінета імператара, які аддаў загад выслаць яго ў Сібір з палаца, не даўшы ні на хвіліну заехаць дадому. Мноства іншых прыкладаў падобнага ж роду пакаранняў падмацоўвалі мае прадчуванні і ўзбуджалі ўяўленне.

Тое, што я іншаземец, зусім не гарантуе мне бяспеку[563]*: я аднаўляў ў памяці акалічнасьці зняволення Коцебу[564], які ў пачатку нашага стагоддзя таксама быў схоплены фельдъегерам і адзіным духам, як і я (сябе я бачыў ўжо ў дарозе), завезены ў Табольск. Вядома, высылка нямецкага паэта доўжылася ўсяго паўтара месяца, так што ў юнацтве я смяяўся над яго скаргамі; але ў гэтую ноч мне было не да смеху. Ці то верагоднае падабенства нашых лёсаў прымусіла мяне перамяніць погляды, ці то ўзрост дадаў мне справядлівасьці, але мне ад усяго сэрца было шкада Коцебу.

Нельга узважыць падобнае катаванне па яго працягласьці: падарожжа на павозцы па дарозе даўжынёю ў тысячу васемсот лье, брукаванай бярвёнамі, ды яшчэ ў гэтым клімаце, – фізічная мука, нясцерпная шмат каго; але нават калі не браць яе ў разлік, хто не паспачувае беднаму замежніку, адарванаму ад сяброў, ад сям'і і на працягу паўтары месяца лічыўшаму, што яму наканавана скончыць свае дні ў безыменных, бязмежных пустынях, сярод зламыснікаў і іхных турэмшчыкаў, ды хоць бы і сярод больш-менш высокапастаўленых чыноўнікаў? Падобная перспектыва горш за смерць, яе цалкам дастаткова, каб памерці альбо ва ўсякім разе страціць розум.

---

"Тлумачэнняў паэта", якія заканчваюць трэцюю частку "Дзядоў": "Фельд'егеры, або царскія "палявыя паляўнічыя ", нешта накшталт жандараў; яны палююць галоўным чынам на асобы, якія знаходзяцца на падазрэнні ва ўрада. (...) Фельд'егер з'яўляецца звычайна ноччу і імкліва вязе падазроную собу, ніколі не паведамляючы, куды ён яе прывязе. Павозка фельд'егеря забяспечана паштовым званочкам. Хто не жыў у Літве, той з цяжкасьцю можа ўявіць сабе, які жах ахоплівае жыхароў таго дома, каля брамы якога зазвоніць падобны званок. (...) У Расіі існуе упэўненасць у тым, што цар можа схапіць і павезьці ў гэтай павозцы ўсякага іншаземнага гаспадара" (Міцкевіч. т. 3 с. 287-289; Mickiewicz p. 49 c 499.).

[562] Маецца на ўвазе Міхал Міхайлавіч Сперанскі (1772-1839). У 1808-1812 гг. бліжэйшы дарадца Аляксандра I. 17 сакавіка 1812 г., пасьля размовы сам-насам з імператарам, ён сустрэў у сябе дома міністра паліцыі і выслухаў ад яго найвышэйшае прадпісанне неадкладна выправіцца ў высылку ў Ніжні Ноўгарад.

[563] <u>Глядзі ніжэй гісторыю пра тое, як адзін француз, сп-р Пернэ, быў у Москве пасаджаны ў турму.</u>

[564] Аўгуст Фрыдрых Фердынанд фон Коцебу (1761-1819), нямецкі літаратар, які знаходзіўся на рускай службе; у 1800 г. па падазрэнні ў складанні антыпаўлаўскага памфлета быў схоплены і высланы ў Сібір, але, дзякуючы напісанаму там вернападданніцкаму твору ў 1801 г. вернуты назад у сталіцу і прызначаны дырэктарам пецярбургскага нямецкага тэатра. Знаходжанню ў Расіі Коцебу прысвяціў кнігу "Выдатны год майго жыцця" (1801; фр. пер. 1802).

Пасол запатрабуе майго вызвалення; так, але паўтара месяца я буду адчуваць, што для мяне пачалася вечная высылка! Дадайце да гэтага, што, нягледзячы ні на якія пратэсты, калі тут ўгледзяць вышэйшы інтарэс у тым, каб ад мяне пазбавіцца, то распусцяць слых, быццам лодка, у якой я катаўся па Ладажскім возеры, перавярнулася. З такімі рэчамі сутыкаешся кожны дзень. Ці стане французскі пасол здабываць мяне са дна гэтай бездані? Яму скажуць, што маё цела шукалі, але безпаспяхова, і паколькі годнасць нашай нацыі не вельмі сапсуецца, ён будзе задаволены, а я – знішчаны.

У чым вінаваты Коцебу? Яго сталі баяцца, таму што ён адкрыта выказваў свае погляды, а ў Расіі палічылі, што не ўсе яны роўна спрыяльныя ў дачыненні да ўсталяваўшайся тут рэчаіснасьці. Але хто пераканае мяне, што я сапраўды не заслугоўваю падобнага ж абвінавачвання альбо – гэтага ўжо дастаткова – такога ж падазрэньня?

Вось што казаў я сабе, не ў сілах заставацца ў ложку і крочучы



ўзад-наперад па пакоі. Хіба я не апантаны той жа маніяй - думаць і пісаць? Калі я пасею найменшы сумнеў у сабе, хіба магу я разлічваць на тое, што са мной абыйдуцца паважней, чым са шмат якімі людзьмі, куды больш уплывовымі і прыкметнымі, чым я? Дарэмна паўтараў я ўсім, што не буду нічога публікаваць пра гэтую краіну: маім словам, хутчэй за ўсё, тым менш веры, чым больш захапляюся я ўсім, што мне паказваюць; як ні суцяшайся, нельга ж думаць, што ўсё мне падабаецца ў роўнай меры. Рускія – знаўцы па частцы абачлівасьці і хлусні... Да таго ж за мной сочаць, як сочаць тут за кожным замежнікам – а значыць, ім вядома, што я пішу лісты і захоўваю іх; вядома ім і тое, што, калі з'язджаю з горада нават на дзень, я заўсёды бяру з сабой гэтыя загадкавыя паперы ў вялікім партфелі; магчыма, ім прыйдзе ў галаву даведацца сапраўдныя мае думкі. Мне уладкуюць засаду дзе-небудзь у лесе; на мяне нападуць, абрабуюць, каб адабраць паперы, і заб'юць, каб прымусіць маўчаць.

Вось такія жахі асільвалі мяне ўсю пазаўчарашнюю ноч, і хоць учора я без усялякіх прыгод агледзеў Шлісельбургскае ўмацаванне, яны ўсё ж не такія недарэкі, каб я вызваліўся ад іх да канца падарожжа. Дарэмна паўтараў я сабе, што руская паліцыя, асцярожная, асвечаная, добра дасведчаная, дазваляе сабе надзвычайныя меры толькі тады, калі лічыць гэта неабходным; што я надаю занадта шмат значэння сваім нататкам і сваёй асобе, калі ўяўляю, быццам яны могуць патурбаваць людзей, кіруючых гэтай імперыяй, – усе гэтыя, і яшчэ шмат якія іншыя падставы адчуваць сябе ў бяспецы, ад апісання якіх я ўстрымаюся, ўяўляюцца мне хутчэй добрапрыстойнымі, чым абгрунтаванымі; па вопыту мне занадта добра вядома дробязная прыдзірлівасць, уласцівая вельмі і вельмі ўплывовым асобам; для таго, хто хоча схаваць, што яго панаванне заснавана на страху, няма нічога малаважнага; а той, хто надае значэнне чужым думкам, не можа грэбаваць меркаваннем чалавека незалежнага і пішучага: ўрад, які жыве таямніцай і магутнасць якога ў таемнасьці, каб не сказаць у прытворстве, ўпадае ў лютасць ад усякай дробязі; ўсё яму здаецца істотным; адным словам, мая

ганарыстасць разам з разважаннямі і ўспамінамі пераконваюць, што тут я падвяргаюся вядомай небяспецы.

Я таму так падрабязна спыняюся на сваіх трывогах, што яны дадуць вам разуменне гэтай краіны. Можаце лічыць мае жахі толькі гульнёй ўяўлення; я хачу сказаць адно – падобная гульня ўяўлення, несумненна, магла збянтэжыць мой розум толькі ў Пецярбургу або ў Марока. Аднак усе мае трывогі знікаюць бясследна, ледзь прыходзіць пара дзейнічаць; прывіды бяссоннай ночы пакідаюць мяне, калі я выпраўляюся ў шлях. Маладушны я толькі ў думках, а ва ўчынках адважны; для мяне цяжэй энергічна разважаць, чым энергічна дзейнічаць. Рух надае мне адвагі – сапраўды гэтак жа, як нерухомасць прымушае быць недаверлівым.

**~361~**

Учора раніцай, у пяць гадзін, я выехаў з дому ў калясцы, запрэжанай чацвёркай коней; калі ў рускіх адпраўляюцца ў вёску або падарожнічаюць на паштовых, фурманы запрагаюць коней па-старадаўняму, ў шэраг, і кіруюць такой чацвёркай спрытна і смела.

Мой фельд’егер размясьціўся наперадзе, на аблучку, побач з фурманам, і мы вельмі хутка прамчаліся па Пецярбургу, пакінуўшы ззаду спачатку заможную яго частку, затым квартал мануфактур, дзе знаходзіцца, сярод іншага, пышная шкляная фабрыка[565], потым велічэзныя паперапрадзільні[566] і яшчэ шмат іншых заводаў, якія кіруюцца пераважна ангельцамі. Гэтая частка горада падобная на калонію: яе насяляюць фабрыканты.

Чалавека тут цэняць толькі па тым, у якіх стасунках ён знаходзіцца з ўладамі, а таму прысутнасць у маім экіпажы фельд’егера выраблялa дзеянне захапляльнае. Гэтая адзнака найвышэйшага заступніцтва ператварала мяне ў важную асобу, і мой уласны фурман, што возіць мяне ўвесь той час, як я знаходжуся ў Пецярбургу, здавалася, раптам заганарыўся годнасьцю гаспадара, патуль яму невядомай; ён глядзеў на мяне з такой павагай, якой ніколі раней не выяўляў; можна было падумаць, што ён узяўся вярнуць мне ўсё ўшанаванні, якіх да гэтага часу праз няведаньне мяне пазбаўляў. Пешыя сяляне, фурманы дрожак, рамізнікі – на ўсіх выказваў магічнае уздзеянне мой унтэр-афіцэр; яму не было патрэбы пагражаць сваёй камчой – адным узмахам пальца, нібы па чараўніцтве, ён знішчаў усе перашкоды; і натоўп, звычайна не падатны, станавіўся падобным на зграю вугроў на дне садка: яны звіваюцца ў розныя бакі, імгненна уварочваюцца, робяцца, так бы мовіць, незаўважнымі, здалёк заўважыўшы астрогу ў руцэ рыбака, – сапраўды гэтак жа паводзілі сябе людзі пры набліжэнні майго унтэр-афіцэра.

---

[565] У 1780-х гг., згодна загаду Пацёмкіна, якому належала сядзіба Азёры на поўдзень ад сучаснага Абводнага каналу, ва ўсходняй яе частцы, непадалёк ад Шлісельбургскага гасцінца, былі пабудаваны шкляны і люстэркавы заводы і паўстала слабада, заселеная прыгоннымі працоўнымі людзьмі (Шкляны гарадок); пасьля сьмерці Пацёмкіна (1791) заводы былі ўзяты ў казну і на іх базе быў створаны Пецярбургскі казённы шкляны завод.

[566] прадзільна-ткацкая фабрыка Паля была ўладкавана на Шлісельбургскім тракце ў 1837; там жа знаходзіўся заснаваны ў 1744 г. фарфоравы завод.

Я з жахам назіраў цудоўную магутнасьць гэтага прадстаўніка ўлады і думаў, што, атрымай ён загад не абараняць мяне, а знішчыць, яму падпарадкоўваліся б з той жа акуратнасьцю. Пранікнуць у гэтую краіну цяжка, гэта выклікае ў мяне прыкрасць, але амаль не палохае; куды больш дзівіць мяне, наколькі цяжка адсюль з'ехаць. Простыя людзі кажуць: "Як ўваходзіш у Расію, дык вароты шырокія, як выходзіш, дык вузкія". Пры ўсёй неабсяжнасьці гэтай імперыі мне ў ёй мала прасторы; турма можа быць і шырокай – вязню заўсёды будзе ў ёй цесна. Згодны, гэта чарговы вынік уяўлення, але паўстаць ён мог толькі тут.

Пад аховай свайго жаўнера я хутка ехаў уздоўж берага Нявы; із Пецярбурга выязджаеш па нечым накшталт вясковай вуліцы[567], крыху менш аднастайнай, чым тыя дарогі, па якіх мне даводзілася ездзіць у Расіі да гэтага часу. Від на раку, які на імгненне выяўляўся дзе-нідзе скрозь бярозавыя алеі; чарада даволі шматлікіх фабрык і заводаў, якія працуюць, мяркуючы па ўсім, на поўную магутнасць; бярвеністыя вёсачкі - усё гэта збольшага ажыўляла пейзаж. Не думайце, быццам гаворка ідзе аб прыродзе, маляўнічай ў звычайным



разуменні гэтага слова, – проста ў гэтай частцы горада мясцовасць не такая ўбогая, як у іншых, вось і ўсё. Зрэшты, маркотныя віды чымсьці асабліва цягнуць мяне; ў прыродзе, ад сузірання якой апускаешся ў мары, заўсёды есць нейкая веліч. У якасьці паэтычнага пейзажу берагі Нявы падабаюцца мне больш, чым схілы Манмартра з боку раўніны Сен-Дэні або ўрадлівыя нівы ў Бос і Бры.[568]

Я быў здзіўлены вонкавым выглядам некаторых вёсак: іх адрознівае непадробнае багацце і нават свайго роду вясковая вытанчанасць, прыемная для позірку; усе дамы тут драўляныя; яны стаяць у шэраг уздоўж адзінай вуліцы і выглядаюць цалкам дагледжанымі. Па фасадзе яны пафарбаваныя, а ўпрыгожванні на каньку іх дахаў, можна сказаць, прэтэнцыёзныя – бо, параўноўваючы ўсю гэтую знешнюю раскошу з амаль поўнай адсутнасьцю зручных рэчаў і з той неахайнасьцю, якая кідаецца вам у вочы ўнутры гэтыга цацачнага жылля, вы шкадуеце аб народзе, яшчэ не ведае пра неабходныя рэчы, але ўжо пазнаўшым смак да празмернасцяў. Пры бліжэйшым жа разглядзе бачыш, што на самой справе гэтыя адрыны вельмі кепска пабудаваныя. Амаль не абчасаныя бярвенні, з выразам ў выглядзе паўкола на абодвух канцах, устаўленыя адно ў другое, ўтвараюць вуглы хаціны; паміж гэтымі тоўстымі, дрэнна прыгнанымі балькамі застаюцца шчыліны, старанна заканапачаныя прасмоленых мохам, рэзкі пах якога адчуваецца па ўсім доме і нават на вуліцы.

Дахі хатак ўпрыгожаны чымсьці накшталт драўлянай карункі; гэтая размаляваная разьба падобная на ўзорныя паперкі із кандытарскіх. Гэта дошкі,

---

[567] Гаворка ідзе пра Шлісельбургскі прашпект, або тракт, які паўстаў на пачатку XVIII стагоддзя як дарога на Архангельск праз Шлісельбург.

[568] Манмартр – пагорак ў Парыжы вышынёй 130 метраў; квартал, на пачатку XIX ст. захоўваў маляўнічы вясковы выгляд. Паводле легенды, на гэтым узгорку каля 150 г. загінуў святой Дэні, заступнік Францыі, у гонар якога ў парыжскім прадмесьці Сен-Дэні быў пабудаваны сабор, які стаў магільным склепам французскіх каралёў; Бос і Бры – раўнінныя раёны Парыжскага басейна.

прыбітыя да шчыпца даху, які нязменна павернуты ў бок вуліцы; з канька яны спускаюцца ўніз. Усе прыбудовы знаходзяцца на засланым дошкамі двары. На слых гэта гучыць прыгожа, ці не праўда? але на вока выглядае маркотным і брудным. Тым не менш, калі я гляджу звонку на гэтыя хаціны, гэтак размаляваныя з вуліцы, яны забаўляюць мяне; але я не ў сілах паверыць, што іх прызначэнне – служыць жыллём для сялян, якіх я бачу на нівах. З усім сваім неверагодным аздабленнем із дошак, прсверленых наскрозь і бліскаючых тысячай фарбаў, яны нагадваюць абвітыя гірляндамі кветак клеткі, а іхныя насельнікі ўяўляюцца мне гэтакімі кірмашовых гандлярамі, чые намёты прыбяруць, як толькі скончыцца свята.

Паўсюль той жа густ да ўсяго, што б'е ў вочы! З селянінам яго гаспадар звяртаецца гэтак жа, як і з самім сабой: і тыя, і іншыя мяркуюць, што ўпрыгожыць дарогу натуральней і прыемней, чым прыбраць свой дом унутры; ўсе тут жывуць тым, што выклікаюць у іншых захапленне, а магчыма, зайздрасць. Але дзе ж задавальненне, сапраўднае задавальненне? Самі рускія, калі б задаць ім гэтае пытанне, прыйшлі б ў вялікае замяшанне.

У Расіі заможнасць – прадмет непамернай ганарыстасьці; я ж люблю пышнасць, толькі калі яна існуе не для бачнасьці,



і ў думках праклінаю ўсё, што тут спрабуюць зрабіць прадметам майго захаплення. Нацыі ўпрыгожвацелей і абівальнікаў не атрымаецца выклікаць у мяне нічога, акрамя асцярогі быць падманутым; ступаючы на гэтыя падмосткі, у гэтае царства дэкарацый, я адчуваю адно-адзінае жаданне – трапіць за кулісы, мной валодае спакуса падняць край палатнянай занавескі. Я прыязджаю, каб ўбачыць краіну – а трапляю ў тэатр.

Я загадаў прыгатаваць мне перамену коней у дзесяці лье ад Пецярбурга, і ў адной із вёсак мяне чакала свежая, у поўнай збруі чацвёрка. Там я выявіў нешта накшталт рускай venta[569] і зайшоў у сярэдзіну. Калі я падарожнічаю, то не люблю выпускаць нічога із першых уражанняў; я для таго і раз'язджаю па сьвеце, каб іх адчуць, а апісваю, каб асвяжыць іх у памяці. Такім чынам, я выйшаў з каляскі, каб зірнуць на рускую ферму. Упершыню перада мною сяляне ў сябе дома. Пецяргоф – гэта яшчэ не сапраўдная Расія: сабраўшыся там святочны натоўп перамяняе звычайнае аблічча мясцовасьці, пераносячы ў вёску гарадскія звычкі. Так што ў вясковай мясцовасці я апыняюся ў першы раз. Шырокі, увесь з дрэва хлеў; з трох бакоў дашчаныя сьцены, пад нагамі дошкі, над галавой таксама дошкі – вось што перш за ўсё кідаецца мне ў вочы; я іду пад дах гэтага велічэзнага склада, які займае большую частку вясковага жылля, і, нягледзячы на скразнякі, у нос мне б'е пах цыбулі, кіслай капусты і старых мазаных ботаў, якія маюць ўсе вёскі і іх насельнікі ў Расіі.

---

[569] Кюстын прыпадабняе рускі сялянскі дом тым італьянскім фермам, дзе праходзілі сходы італьянскіх рэвалюцыянераў-карбанарыяў; літаральна "карбанарый" азначае вугальшчык, а vente - продаж (у дадзеным выпадку - вугалю)

Увага некалькіх чалавек цалкам накіравана на завадзкога жарабца, прывязанага да слупа: яны падкоўвалі яго, што было не так-такі лёгка. У руках у гэтых людзей былі вяроўкі, каб стрыножыць буяную жывёлу, кавалкі воўны, каб закрыць яму вочы, капцун і закрутка, каб утаймаваць яго шалёны нораў. Гэта выдатны конь – з коннага завода суседняга пана, сказалі мне; у глыбіні той жа адрыны селянін, стоячы на вельмі маленькім, як усе рускія павозкі, возе, кідае на гарышча не звязаную у снапы салому, вілкамі падымаючы яе над галавой; другі селянін падхоплівае яе і тапча пад дахам. Чалавек восем па-ранейшаму важдаюцца вакол каня – усе яны вызначаюцца ростам і знешнасьцю і прыкметна апранутыя. Аднак жа ў абласцях, прылеглых да сталіцы, насельніцтва непрыгожае; уласна, яго нават нельга назваць рускім, бо тут мноства прадстаўнікоў фінскай расы, якія нагадваюць лапландцаў. Кажуць, што ва ўнутраных землях Расійскай імперыі мне зноў сустрэнуцца тыя людзі, падобныя аблічча на грэцкія статуямі, якія трапляліся мне некалькі разоў у Пецярбургу: сталічныя спадары з вышэйшага грамадства набіраюць сабе прыслугу із выхадцаў са сваіх аддаленых валоданняў.

Да вялікай адрыны, пра якую я вяду гаворку, прымыкае нізкае, не занадта прасторнае памяшканне; я захожу



ў яго і быццам бы трапляю ў галоўную каюту якой-небудзь плывучай па рацэ пласкадонкі ці ж ўнутр бочкі; сцены, столь, падлога, лаўкі, стол – усё тут драўлянае і ўсё ўяўляе сабою груду бэлек і бачарных дошак рознай даўжыні, але роўна груба абчасаных. Па-ранейшаму смярдзіць кіслай капустай і смалой. У гэтым закутку, душным і цёмным, паколькі дзверы ў ім нізкія, а акенцы не большыя чым паддашкавыя, бачу я старую, якая разлівае гарбату чатыром-пяці барадатым сялянам, якія апрануты ў барановыя футры мехам унутр (ужо некалькі дзён, з 1 жніўня, стаяць даволі моцныя холады); гэтыя людзі, пераважна нізкарослыя, сядзяць за сталом; іх мехавыя футры выглядаюць на кожным па-рознаму, у іх ёсць свой стыль, але значна больш ад іх смуроду – нічога няма горш яго, акрамя хіба панскіх духаў.

На стале зіхаціць медны самавар і заварачны гарбатнік. Гарбата і тут такая ж добрая, умела завараная, а калі вам не хочацца піць яе проста так, усюды знойдзецца добрае малако. Калі такое вытанчанае пітво падаюць у каморы, абстаўленай, нібы гумно - "гумно" я кажу із ветлівасьці, – мне адразу ўспамінаецца іспанскі шакалад. Гэта ўсяго толькі адзін з тысячы кантрастаў, уражваючых вандраўніка на кожным кроку, які ён робіць, апынуўшыся ў гасцях у двух гэтых народаў, роўна незвычайных, але адрозніваючыхся адзін ад аднаго гэтак жа моцна, як і клімат, у якім яны жывуць.

Мне зноў надаецца выпадак нагадаць: рускія маляўнічыя ад прыроды; мастак знайшоў бы сярод атачаючых мяне людзей і жывёл сюжэт для не для адной цудоўнай карціны. Чырвоная альбо блакітная сялянская кашуля з зашпількай на ключыцы, сцягнутая на сьцёгнах поясам, верх якой мае выгляд гэтакага своеасаблівага ваеннага плашча спадаючага антычнымі складкамі, тады як ніжняя яго частка разлятаецца, нібы туніка, засланяючы сабой штаны (яе ў іх

не запраўляюць)[570]*; доўгі, на пярсідзкі манер кафтан, часцяком незашпілены, які надзяваюць паверх блузы ў гадзіны вольнага часу; доўгія валасы, што падаюць на шчокі і падзеленыя над ілбом праборам, але ззаду, ледзь вышэй патыліцы, коратка стрыжаныя і адкрываючыя магутную шыю, – ці не праўда, усё гэта разам ўтварае ўбор непаўторны і хупавы?.. Лагоднае і разам лютае аблічча рускіх сялян, не пазбаўлена вытанчанасьці; статность, магутнасць, не парушаючая лёгкасьці рухаў, гнуткасць, шырокія плечы, лагодная ўсмешка на вуснах, тая сумесь пяшчоты і лютасьці, што чытаецца ў іх дзікім, сумным позірку, – усё гэта надае ім выгляд, настолькі ж адрозны ад выгляду нашых земляробаў, наколькі месцы, у якіх яны пражываюць, і зямля, якую яны апрацоўваюць, адрозныя ад астатняй Яўропы. Для замежніка ўсё тут навіна. У тутэйшых людзях ёсць нейкае відавочнае, але невыказальнае хараство, спалучэнне ўсходняй



млявасьці з рамантычнай летуценнасьцю паўночных народаў, – і ўсё гэта апрануцца ў першародныя, неадшліфаваныя, аднак высакародныя формы, праз чаго набывае каштоўнасць прыроджаных дараванняў. Гэты народ выклікае да сябе спагаду, але не давер – вось яшчэ адно адценне пачуццяў, які я спазнаў у Расіі.

Тутэйшыя просталюдзіны – пацешныя прайдзісветы. Іх можна было б шмат чаму навучыць, але тады іх не трэба падманваць; калі ж сяляне бачаць, што спадары альбо іхныя прыслужнікі хлусяць часцей, чым яны самі, то працягваюць яшчэ мацней замацоўвацца ў хітрасьці і нізасьці. Каб здолець прынесьці цывілізаванасць ў народ, трэба чагосьці каштаваць самому: варварства раба выкрывае сапсаванасць гаспадара.

Калі вас здзіўляе непрыязнасць маіх меркаванняў, здзіўлю вас яшчэ больш і дадам, што ўсяго толькі выказваю агульнае меркаванне: я толькі прастадушна прамаўляю услых тое, што ўсе тут хаваюць з асцярожнасьці, якой бы вы перасталі пагарджаць, калі б бачылі, як я, наколькі гэтая цнота, якая выключае мноства іншых, неабходная кожнаму, хто хоча жыць у Расіі.

У гэтай краіне неахайна усё і ўся; аднак у хатах і на адзенні бруд кідаецца ў вочы мацней, чым на людзях: сябе рускія ўтрымліваюць даволі добра; па праўдзе кажучы, іх парныя лазні выглядаюць агідна: у іх мыюцца выпарэннямі гарачай вады – я б аддаў перавагу проста чыстай вадзе, і пабольш; аднак жа гэты кіпячы туман абмывае і ўмацоўвае цела, хоць і старыць перш часу скуру. Дзякуючы звычцы да гэтых лазняў вам нярэдка сустракаюцца сяляне з чыстай барадой і валасамі, чаго не скажаш пра іх вопратку. Цёплыя рэчы каштуюць дорага, таму іх па неабходнасьці носяць доўга, і яны станавяцца бруднымі на выгляд значна раней, чым зносяцца; пакоя, прызначаныя служыць толькі абаронай ад холаду, выветрываюцца, натуральна, радзей, чым жыллё паўднёўцаў. Як правіла, неахайнасць у паўночнікаў, вечна замкнёных у хаце, глыбей і агідней, чым у народаў, якія жывуць на сонцы: дзевяць месяцаў на год рускім не хапае ачышчальнага паветра.

[570] Глядзі ў лісьце васемнаццатым апісанне касцюма Хведара князем *** ў гісторыі Целенева.

У некаторых губернях працоўны люд носіць на галаве картуз цёмна-сіняга сукна у форме мяча. Ён падобны на галаўны ўбор бонзаў; рускія ведаюць і мноства іншых спосабаў пакрываць галаву, і ўсе гэтыя капелюшы і каўпакі даволі прыемныя на выгляд. Колькі ў іх густу – у параўнанні з выклікаючай нядбайнасьцю простага люду ў ваколіцах Парыжа! Калі рускія працуюць з непакрытай галавой, то доўгія валасы могуць стаць ім перашкодай; каб пазбавіць сябе ад гэтай нязручнасьці, яны прыдумалі вянчаць сябе дыядэмай [571] *, інакш кажучы, завязваць вакол галавы стужку, тасьму, камышынку, сцябло трасніка, скураную папружку; гэтая дыядэма, грубая, але заўсёды хупава павязаная, ідзе праз лоб і не дае разпадацца валасам; маладым

**~366~**

людзям яна да твару, а паколькі ў мужчын гэтай расы галава, як правіла, авальная і прыемнай формы, то з рабочай прычоскі яны зрабілі сабе ўпрыгожванне.

Але што вам сказаць пра жанчын? Усе тыя, што сустракаліся мне да гэтага часу, выглядалі агідна. У гэтай сваёй паездцы я спадзяваўся ўбачыць хоць некалькі прыгожых сялянак. Аднак тут, як і ў Пецярбургу, яны тоўстыя, нізкарослыя, а сукенка падпаясана пад пахамі, вышэй грудзей, якія свабодна боўтаюцца ў іх пад спадніцай – брыдка! Дадайце да гэтага не маючага формы аблічча, узятага па добрай волі, вялікія мужчынскія боты са смярдзючай, тоўстай скуры і нешта накшталт кажуха з барановай шкуры, падобнага на той, з якой пашыты футры іхных мужчын, і ў вас складзецца ўяўленне пра істоту цалкам непрывабную; да няшчасьця, гэтае ўяўленне будзе абсалютна дакладным. У давяршэнне ўродства футравая вопратка ў жанчын не такога вытанчанага пакрою, як паўшубак ў мужчын, і да таго ж звычайна мацней з'едзеная чарвякамі – што, верагодна, тлумачыцца пахвальнай ашчадлівасьцю; гэта ў літаральным сэнсе лахманы!.. Такі жаночы ўбор.

Без сумненняў, ні ў адной краіне прыгожая палавіна чалавецтва так не пазбягае ўсякага какецтва, як сялянкі ў Расіі (кажу пра той куток краіны, які бачыў); і, тым не менш, гэтыя жанчыны ёсць маці жаўнераў, якія з'яўляюцца гонарам імператара, і тых прыгажуноў фурманаў, якіх бачыш на пецярбургскіх вуліцах і на якіх так добра сядзіць бравэрка і пярсідзкі кафтан. Шчыра кажучы, большасць жанчын, якія сустракаюцца ў ваколіцах Пецярбурга, належаць да фінскай расы. Мяне запэўнівалі, што ў глыбінных абласцях краіны, куды я яшчэ паеду, ёсць сялянкі рэдкай прыгажосці.

Дарога, што вядзе з Пецярбурга ў Шлісельбург, на некаторых участках даволі кепская: то трапляеш на ёй у глыбокі пясок, то ў вадкі бруд, павех якога накіданы дошкі, нічым не дапамагаючыя пешаходам і ствараючыя перашкоды для карэт; гэтыя блага прыгнаныя кавалкі дрэва, разгойдваючыся, абліваюць вас пырскамі нават у глыбіні каляскі - і гэта яшчэ самая малая із нязручнасцей, якія адчуваеш на гэтай дарозе; тут ёсць нешта і горшае за дошкі: я кажу пра круглыя неабчэсаныя бярвенні, якія так, неапрацаванымі, пакладзены папярок дарогі на

[571] Глядзі гісторыю Целенева ў лісьце васемнаццатым.

некаторых багністых участках, якія вам даводзіцца час ад часу перасякаць: іхная зыбучая глеба паглынула б усякі іншы матэрыял, акрамя бярвення. На бяду, гэты грубы, ходзячы ходарам паркет, пакладзены паверх бруду, складзены з дрэнна прыгнаных і няроўных па велічыні кавалкаў дрэва; і ўся гэтая пабудова скача пад коламі ў вечна раскіслай глебе, якая не мае дна і прасядае пры найменшым націску. Пры тых хуткасьцях, з якімі падарожнічаюць ў Расіі, карэта на падобных дарогах неўзабаве разлятаецца на кавалкі; людзі ламаюць сабе косткі, і на кожнай вярсце з калясак з усіх



бакоў вылятаюць балты; жалезныя абады колаў расколваюцца, рысоры разлятаюцца; праз усё гэта экіпажы па неабходнасьці зводзяцца да свайго найпрасцейшага выгляду, да чагосьці цалкам прымітыўнага, накшталт павозкі. Калі не ўлічваць знакамітай шашы паміж Пецярбургам і Масквой, дарога на Шлісельбург[572] – адна з тых, дзе менш за ўсё гэтых страшэнных круглякоў. І ўсё ж па шляху я налічыў мноства кепскіх дашчаных мастоў, адзін з якіх здаўся мне проста небяспечным. У Расіі чалавечае жыццё не ставіцца ні ў што. Як можна адчуваць бацькоўскія пачуцці, маючы шэсцьдзесят мільёнаў дзяцей?

У Шлісельбургу мяне чакалі, і я быў сустрэты інжынерам, што кіраваў працамі на шлюзах. Ладажскі канал у цяперашнім сваім выглядзе ідзе ўздоўж той часткі возера, што размешчана паміж горадам Ладага[573] і Шлісельбургам; гэтае збудаванне пышнае; служыць яно для таго, каб засцерагчы караблі ад тых небяспек, якім яны некалі падвяргаліся праз буры на возеры; цяпер лодкі абгінаюць гэтае бурнае мора, і ўраганы больш не пагражаюць навігацыі, якая ў свой час лічылася надзвычай рызыкоўнай у асяроддзі нават самых адчайных маракоў[574]*.

---

[572] умацаванне, заснаванае ў 1323 г. наўгародцамі на выспе на пачатку Нявы як фарпост для барацьбы са шведамі; у 1612 г. перайшло ў рукі шведаў і змяніла першапачатковую назву Арэшак на Нотэбург; у 1702 г. у ходзе Паўночнай вайны адваяванае ў шведаў войскам пад камандаваннем П. Б. Шарамецева і атрымала назву Шлісельбург. У 1703-1715 гг. на выспе былі пабудаваны пяць земляных бастыёнаў (у сярэдзіне XVIII ст. перабудаваныя ў каменныя), а пасад на левым беразе быў ператвораны ў горад Шлісельбург.

[573] На самай справе гэты горад, заснаваны пры ўпадзенні ракі Волхаў у Ладажскае возера ў 1704, называецца Новая Ладага; ён быў пабудаваны замест скасаванай Старой Ладагі, якая размяшчалася 12-ю вёрстамі вышэй па плыні Волхава.

[574] "Злучыўшы каналам Мету з Цверру, Пятро I наладзіў стасункі паміж Каспійскім морам (Маецца на ўвазе Марыінская водная сістэма, якая злучае Волгу з Нявой; будаўніцтва яе было пачата пры Паўле I, а закончана ў 1815, пры Аляксандры I.) і Ладажскім возерам, інакш кажучы, паміж берагамі Персіі і Балтыйскага мора; аднак на возеры часта здараліся буры, і яно шчацінілася падводнымі камянямі, праз што Расія кожны год губляла ладную колькасць караблёў. Імператар Пятро I задумаў пазбавіць гандлёвыя судны ад гэтага згубнага праходу па возеры, злучыўшы з дапамогай новага канала Волхаў і Няву. Ён прыступіў да дзяйснення задумы, але яго памочнікі выявіліся кепскія. Інжынеры, якім ён давяраў, дапусьцілі памылку і падманулі яго самога; яны блага правялі нівеліроўку, і гэта карыснае збудаванне было завершана толькі пад час валадарання Пятра II" ("Гісторыя Расіі і асноўных нацый Расійскай імперыі" П'ера Шарля Левека, 4-е выданне, падрыхтаванае Мальт-Брэнам і Дзеппінгам). Я даю гэты ўрывак з пачуцця справядлівасьці. Я суджу пра Пятра I інакш, чым большасць пішучых людзей, і палічыў, што ў сувязі са здзяйсненнямі, якія зрабілі гонар наступным кіраваньням, дарэчы прывесці рысачку, якая наглядна паказвае праніклівасць розуму заснавальніка цяперашняй Расійскай імперыі. Ён

Надвор'е было воблачнае, халоднае, ветранае; ледзь паспеў я выйсьці з каляскі перад домам інжынера, добрым драўляным жыллі, як ён сам правёў мяне ў цалкам прыстойную гасцінную і, прапанаваўшы злёгку перакусіць, са своеасаблівым шлюбным гонарам прадставіў маладой прыгожай жанчыне; то была яго жонка. Яна ўжо чакала мяне ў адзіноце, седзячы на канапе, і не паднялася, калі я зайшоў; яна ўвесь час маўчала, бо не ведала па-французску, і не адважвалася паварушыцца, ужо не ведаю чаму; магчыма, яна прымала нерухомасць за выяву ветлівасьці, а нацягнуты выгляд за сведчанне добрага густу; прымаючы мяне ў сябе дома, яна выказала мне гонар па-свойму – не дазваляючы



сабе ні адзінага руху; здавалася, яна старанна малюе перада мною статую гасціннасьці, убраную ў белы з ружовым падбоем муслін; яе выгляд быў хутчэй пераборлівы, чым элегантны; разглядаючы яе затканую ўзорамі спадніцу на шаўковай падкладцы, адкрытую спераду, і ўсе тыя пампоны, якія яна навесіла на сябе, каб асляпіць замежніка, – гледзячы, паўтараю, на гэтую васкавую фігуру, ружовую, абыякава размясціўшуюся на вялікай сафе, ад якой яна нібы не магла адарвацца, я ўяўляў яе грэцкай Мадонай на алтары; для поўнаты ілюзіі ёй не хапала толькі не такіх ружовых вуснаў і не такіх свежых шчок, акладу ды залатых і срэбных накладак. Я моўчкі еў і грэўся; яна ж глядзела на мяне, ледзь толькі асмельваючыся адвесьці погляд, накіраваны кудысьці вышэй маёй галавы – гэта значыла б паварушыць вачамі, а нерухомая пастава была ёю прынятая так цьвёрда, што самы позірк яе нібы застыў. Калі б я западозрыў, што нагодай гэтага незвычайнага прыёму была сарамлівасць, я б прасякнуўся да яе некаторай сімпатыяй; але я не адчуў нічога, акрамя зьдзіўлення, а ў падобных выпадках нюх ніколі мяне не падманвае – у сарамлівасці я разбіраюся выдатна.

Гаспадар даў мне магчымасць сузіраць колькі душы заўгодна гэтага цікавага фарфоравага балванчыка, які стаў для мяне лішнім падцверджаннем таго, што я ўжо ведаў, – а менавіта, што паўночніцы рэдка бываюць натуральнымі і што іхная наігранасць, здараецца, выдае сябе нават і без слоў; слаўны інжынер быў, здавалася, ўсцешаны ўражаннем, выробленым яго жонкаю на замежніка: здзіўленне маё ён прыпісваў захапленню; аднак жа, спрабуючы цалкам выканаць свой абавязак, ён нарэшце сказаў:

– Шкадую, але я вымушаны прыспешыць вас, у нас не так шмат часу, каб агледзець збудаванні, якія мне было загадана паказаць вам ва ўсіх падрабязнасцях.

Я загадзя быў гатовы да гэтага ўдару і, не маючы магчымасьці адхіліць яго, прыняў з пакорай і дазволіў праводзіць сябе ад шлюза да шлюза, неадступна і з бескарысным шкадаваннем думаючы пра крэпасць, магільным склепе юнага Яна, да якога мяне не пажадалі падпускаць. Я ні на хвіліну не забываўся пра

памыліўся ў агульнай накіраванасьці сваёй унутранай палітыкі, аднак у дэталях кіравання выяўляў бясхібнасьць меркаванняў і тонкі такт.

гэтую мэту свайго падарожжа, хоць і хаваў яе; хутка вы даведаецеся, як мне ўдалося яе дасягнуць.

Вас зусім не цікавіць колькасць кавалкаў граніту, якія я бачыў за гэтую раніцу, шчытоў, устаўленых у жолабы, што вытачаны пасярэдзіне гранітных кускоў, гранітных жа пліт, якімі выкладзена дно канала, – і дзякуй Богу, бо паведаміць яго я б не змог; ведайце толькі, што за першыя дзесяць гадоў працы шлюзы ні разу не запатрабавалі рамонту. Для такога клімату, як на Ладажскім возеры, дзе самы трывалы граніт, камень, мармур вытрымліваюць толькі некалькі гадоў, падобная трываласць дзіўная.

Гэтая цудоўная пабудова прызначаная для таго, каб выраўняць ўзровень вады Ладажскага канала і рэчышча Нявы каля яе



вытока, на заходнім ускрайку водаспуску, які праз некалькі зліваў злучаецца з ракой. Каб зрабіць навігацыю, якая праз суровыя зімы магчымая ўсяго толькі тры-чатыры месяцы на год, колькі магчыма лёгкай і хуткай, лік водаспускаў быў памножаны з марнатраўнасьцю, годнай захаплення. Выкарыстоўваліся ўсе магчымасці для таго, каб выканаць працы надзейна і дакладна; дзе толькі выпадала, для мастоў, парапетаў і нават, паўтараю з захапленнем, для рэчышча канала бралі фінскі граніт; драўляныя пабудовы па сваёй дасканаласьці адпавядаюць гэтаму раскошнаму матэрыялу, – карацей, тут выкарысталі ўсе вынаходкі, усе дасягненні сучаснай навукі, і ў Шлісельбургу былі зроблены працы, настолькі дасканалыя ў сваім родзе, наколькі дазваляюць тутэйшая суровая прырода і няўдзячны клімат.

Унутраная навігацыя ў Расіі вартая таго, каб прыцягнуць да сябе пільную ўвагу ўсіх спецыялістаў; гэта адна з галоўных крыніц багацця краіны; дзякуючы каласальнай, як усё, што вяршыцца ў гэтай Імперыі, сістэме каналаў тут з часоў Пятра Вялікага здолелі злучыць Каспійскае мора з Балтыйскім праз Волгу, Ладагу і Няву, пазбавіўшы караблі ад небяспекі. Тым самым воды, злучаючыя поўнач з поўднем, цякуць праз усю Яўропу і Азію. Із гэтай ідэі, дзёрзкай па задумцы і дзівоснай па ажыццяўленні, нарадзілася на свет адно з цудаў цывілізаванага сьвету: ведаць пра гэта выдатна і карысна, аднак я знайшоў, што глядзець на гэта вельмі сумна, асабліва пад кіраўніцтвам аднаго з выканаўцаў гэтага шэдэўра; спецыяліст адчувае да свайго тварэння пашану, якую яно, бясспрэчна, заслугоўвае, але ў простага назіральніка, накшталт мяне, захапленне згасае пад грузам нікчэмных падрабязнасцей, ад якіх я вас пазбаўляю. Вось яшчэ пацверджанне таго, пра што я ўжо меў выпадак вам пісаць: калі у Расіі падарожнік пакінуты сам сабе, ён не бачыць нічога; калі яму спрыяюць, інакш кажучы, даюць суправаджаючых і не зводзяць з яго вачэй, ён бачыць занадта шмат – што ў канчатковым рахунку адно і тое ж.

Нарэшце я палічыў, што выдаткаваў і часу, і пахвалаў роўна столькі, колькі заслугоўваюць тыя цуды, якія давялося мне агледзець дзякуючы так званай выказанай мне міласьці, і вярнуўся да першапачатковай мэты свайго падарожжа, хаваючы яе, каб тым самым дакладней яе дамагчыся; я з нявінным выглядам папрасіў паказаць мне выток Нявы. Маё падступства не дапамагло

мне цалкам схаваць нясціпласць свайго жадання, і напачатку мой інжынер зусім ухіўся ад адказу, сказаўшы:

– Крыніца знаходзіцца пад вадой, на выхадзе з Ладажскага возера, на дне глыбокага канала, якім возера аддзеленае ад выспы, дзе ўзведзена крэпасць.

Гэта я ведаў.

– Тут адна са славутасцей рускай прыроды, – настойваў я. – Ці няма магчымасьці зірнуць на гэтую крыніцу?

**~370~**

– Зараз занадта моцны вецер; мы не ўбачым, як бурліць крыніца; каб вачы маглі адрозніць брую вады, якая б'е пад хвалямі, патрэбна ціхае надвор'е; аднак я зраблю ўсё, што ў маіх магчымасьцях, каб задаволіць вашу цікаўнасць.

З гэтымі словамі інжынер паклікаў прыгожую лодку з шасцю хупава апранутымі весьлярамі, і мы выправіліся – быццам бы зірнуць на выток Нявы, а на самой справе каб наблізіцца да сцен умацавання, а дакладней, зачараванай турмы, патрапіць у якую мне не давалі на рэдкасць спрытна і ветліва; але перашкоды толькі распальвалі мой запал; калі б мне прапанавалі вызваліць адтуль якога-небудзь няшчаснага вязня, нават і тады нецярпенне маё не магло б стаць больш мацным.

Шлісельбургскай крэпасць пабудавана на плоскай выспе, накшталт скалы, толькі трохі ўзвышаючайся над узроўнем вады. Гэты ўцёс дзеліць раку напапалам; яшчэ ён аддзяляе раку ад уласна возера, паказваючы, дзе менавіта іхныя вады змешваюцца паміж сабой. Мы абмінулі крэпасць, каб, казалі мы адзін аднаму, падысьці як мага бліжэй да вытоку Нявы. Неўзабаве наш човен апынуўся як раз над вірам. Весляры пераадольвалі хвалі так па-майстэрску, што, нягледзячы на дрэннае надвор'е і малыя памеры нашага судна, мы ледзь адчувалі гайданку, пры тым што валы ў гэтым месцы ўздымаліся, нібы ў адкрытым моры. Не здолеўшы адрозніць бурленне крыніцы, схаванай ад нас неспакойнымі, зносячымі нас хвалямі, мы спачатку здзейснілі шпацыр па возеры, а затым, на адваротным шляху, калі вецер злёгку прыціх, разгледзелі на даволі вялікай глыбіні нейкія шматкі пены: гэта і быў праславуты выток Нявы, над якім мы праплывалі.

Калі, пры заходнім ветры, на возеры бывае адліў, канал, што служыць водаспускам для гэтага ўнутранага мора, амаль перасыхае, і гэтая выдатная крыніца выходзіць на паверхню. Такія моманты вельмі рэдкія – на шчасце, бо жыхары Шлісельбурга тады разумеюць, што ў Пецярбургу паводка, і з гадзіны на гадзіну чакаюць вестак аб новым бедстве. Гэтая вестка нязменна даходзіць да іх на наступны дзень, бо той самы заходні вецер, што выштурхоўвае ваду Ладажскага возера і агаляе рэчышча Нявы паблізу ад вытокі, выклікае, пры вядомай магутнасьці, прыліў вады з Фінскага заліва ў вусце Нявы. Рака неадкладна спыняе сваю плынь, і вада, чый ток перагароджваецца морам, шукаючы абыходны шлях, затапляе Пецярбург і яго наваколлі.

Ўдосталь назахапляўшыся выглядам Шлісельбурга, рассыпаўшыся ў хвалах гэтай прыроднай славутасьці, наглядзеўшыся ў падзорную трубу на пазіцыі батарэі, з якіх Пятро Вялікі вёў абстрэл шведскага ўмацавання, нарэшце,

назахапляўшыся ўсім, што мне было зусім не цікава, я сказаў з самым нязмушаным выглядам:

– Давайце паглядзім на крэпасць знутры; як мне здаецца, яна



размешчана вельмі маляўніча, – дадаў я ўжо не так спрытна, бо калі справа мела дачыненне да хітрасьці, нельга рабіць нічога лішняга. Рускі кінуў на мяне дапытлівы позірк, і я зразумеў, што ён азначаў; матэматык на вачах ператварыўся ў дыпламата і запярэчыў:

– Гэтае ўмацаванне для замежніка зусім не цікавае, пане.

– Гэта ўсё роўна, у такой цікавай краіне, як ваша, цікава ўсё.

– Але калі камендант не чакае нас, нас туды не пусцяць.

– Вы папрасіце ў яго дазвол ўпусціць ва ўмацаванне падарожніка; зрэшты, я думаю, ён нас чакае.

І сапраўды, нас упусьцілі па першым слове інжынера, што навяло мяне на думка пра тое, што пра мой  візіт папярэдзілі – калі не абвясьцілі аб ім станоўча, то, ва ўсякім выпадку, нагадалі пра яго магчымасць.

Нас прынялі з ваеннымі ўшанаваннямі і, прапусьціўшы праз дастаткова кепска абробленыя вароты ў двор, парослы травой, правялі праз яго ў... турму, думаеце вы? Зусім не, у апартаменты каменданта. Па-французску ён не ведаў ні слова, але выкаказаў; мне цалкам годны прыём; зрабіўшы выгляд, што мой візіт ён прымае за выяўленне пачцівасьці ў адносінах асабіста да яго, ён - прымусіў інжынера перакласьці мне словы падзякі, якую не мог выказаць сам. Яго хітрыя кампліменты здаліся мне не столькі прыемнымі, колькі забаўнымі. Давялося прыняць свецкі тон і для парадку пагутарыць з жонкай каменданта, таксама не ведаўшай французай мовы; прыйшлося выпіць шакаладу – карацей, займацца чым заўгодна, акрамя як аглядаць турму Яна, казачную ўзнагароду за ўсю працу, хітрасьці, ветлівыя словы і нягоды гэтага дня. Нікому і ніколі так горача не хацелася трапіць у чароўны замак, як мне – у гэтую вязьніцу.

Нарэшце, калі я палічыў, што час, прыдатны для візіту, прайшоў, то спытаў у майго правадніка, ці можна агледзець умацаванне знутры. Камендант і інжынер хутка абмяняліся некалькімі словамі і поглядамі, і мы выйшлі з пакоя. Мне здавалася, што я каля мэты; нічога жывапіснага ў Шлісельбургскім умацанні няма; гэта прастора, абгароджаныя нізкімі шведзкімі сьценамі якая знутры нагадвае сад, па якім раскіданы розныя будынкі, усе вельмі прыземістыя, а менавіта: царква, жыллё каменданта, казарма і, нарэшце, непрыкметныя для погляду вязніцы - іх хаваюць вежы, па вышыні не большыя ўмацавальнага вала. Нішто тут не паказвае на гвалт, таямніца закладзена ў сутнасьці рэчаў, а не ў вонкавым іхным аблічча.

Згодна майго меркавання, гэтая з выгляду амаль ціхамірная дзяржаўная турма палохае хутчэй розум, чым вочы. Рашоткі, пад'ёмныя масты, амбразуры – увогуле, усе тыя палохаючыя і некалькі тэатральныя збудаванні, што ўпрыгожвалі сабой сярэднявечныя замкі, тут адсутнічаюць. Калі мы пакінулі гасцінную каменданта, мне для пачатку сталі паказваць

пышнае ўбранне царквы! Калі верыць таму, што знайшоў патрэбным паведаміць мне камендант, чатыры царкоўныя мантыі, урачыста развешаныя перад маімі вачамі, абышліся ў трыста тысяч рублёў. Стаміўшыся ад усяго гэтага крыўляння, я наўпрост загаварыў пра магілу Яна VI; ў адказ мне паказалі пралом, зроблены ў сьценах крэпасці гарматай Пятра Вялікага, калі ён асабіста вёў аблогу гэтага шведскага ўмацавання, ключа да Балтыкі.

– Але дзе ж магіла Яна? – Паўтарыў я, не даючы сябе збіць. На гэты раз мяне адвялі за царкву, да бенгальскага ружовага куста, і сказалі:

– Яна тут.

Я заключыў, што ў ахвяр у Расіі няма сваіх магіл.

– А дзе камера Яна? – працягваў я з настойлівасьцю, якая для гаспадароў, павінна была б здавацца такой жа незвычайнай, як для мяне ўвесь іхны неспакой, хітрыкі і вілянні.

Інжынер адказваў мне напаўголасу, што камеру Яна паказаць немагчыма, бо знаходзіцца яна ў той частцы ўмацавання, дзе цяпер ўтрымліваюць дзяржаўных злачынцаў. Тлумачэнне здалося мне законным, я быў да яго гатовы; але што мяне ўразіла, дык гэта гнеў тутэйшага каменданта; ці то ён разумеў па-французску лепш, чым казаў, ці то рабіў выгляд, быццам не ведае нашай мовы, каб мяне падмануць, ці то, нарэшце, разгадаў яе сэнс дадзенага мне тлумачэння, але ён сурова адчытаў майго правадніка, дадаўшы, што нястрыманасць можа аднойчы дорага яму абысціся. Пра гэта, знайшоўшы зручны момант, распавёў мне сам інжынер, ўражаны вымовай, і дадаў, што камендант вельмі выразна папярэдзіў яго, каб надалей ён устрымліваўся ад выказванняў аб грамадскіх справах, а таксама не вадзіў замежнікаў у дзяржаўную турму. У гэтага інжынера ёсць усе задаткі, каб стаць сапраўдным рускім, проста ён яшчэ малады і не ведае ўсіх тонкасцей свайго рамяства... Я маю на ўвазе зусім не інжынернае рамяство.

Я адчуў, што прыйдзецца саступіць; я быў слабейшы за ўсіх іх, я прызнаў сябе пераможаным і адмовіўся ад наведвання камеры, дзе няшчасны спадчыннік рускага прастола памёр, пазбавіўшыся розуму, – таму, што хтосьці вырашыў, што зручней зрабіць із яго ідыёта, чым імператара. Стараннасць, з якой служаць рускаму ўраду яго агенты, выклікала ў мяне бясконцае здзіўленне. Мне згадаўся выраз твару ваеннага міністра, калі я ў першы раз адважыўся выказаць жаданне наведаць замак, які стаў гістарычным дзякуючы таму злачынству, якое было ў ім здзейснена ў часы імператрыцы Лізаветы, – і я з захапленнем, да якога прымешваўся жах, параўноўваў сумятню ідэй, якая пануе ў нас, з той адсутнасьцю усякай думкі, усякага асабістага меркавання, з тым сляпым падпарадкаваньнем, у якім заключаецца галоўнае правіла паводзін людзей, якія ўзначальваюць рускую адміністрацыю, роўна як і служачых, ім



падначаленых; такі трывалы хаўрус чыноўнікаў і ўрада выклікаў у мяне жах; з уздрыганнем любаваўся я на маўклівую змову начальнікаў і падначаленых, што мелі на мэце зьнішчыць усякія ідэі і нават самыя факты. Наколькі хвілінаю раней я гарэў нецярпеннем сюды патрапіць, настолькі ж цяпер мне хацелася адсюль сысьці; нішто не ў сілах было больш прыцягнуць маю ўвагу ва ўмацаванні, дзе

мне зрабілі ласку паказаць адно толькі царкоўнае начыненне, і я папрасіў даставіць мяне назад у Шлісельбург. Я баяўся, як бы мяне сілком не зрабілі адным з насельнікаў гэтай юдолі таемных слёз і нікому не вядомых пакут. Мая трывога ўсё ўзрастала, я ўсім сэрцам хацеў толькі аднаго – рухацца, дыхаць на поўныя грудзі; я забыўся, што ўся краіна тут – тая ж турма, і турма тым больш страшная, што памеры яе значна большыя і дасягнуць яе межаў і перасекчы іх значна цяжэй.

Рускае ўмацаванне!!! Пры гэтых словах уяўленне малюе зусім іншыя выявы, чым пры наведванні ўмацавальных замкаў ў народаў сапраўды цывілізаваных і непрытворна гуманных. Тыя дзіцячыя меры засьцярогі, якія уладкоўваюцца ў Расіі, жадаючы не выдаць так званую дзяржаўную таямніцу, мацней усякіх актаў непрыкрытага варварства ўмацоўваюць мяне ў меркаванні, што тутэйшы вобраз праўлення ёсць усяго толькі крывадушная тыранія. З таго часу, як я трапіў у рускую дзяржаўную турму і на сабе адчуў, наколькі немагчыма там казаць пра рэчы, дзеля якіх, уласна, кожны замежнік і прыязджае ў падобныя месцы, я кажу сабе: за такой ўтоенасьцю абавязкова хаваецца найглыбейшая нялюдзкасць; дабро так дасканала не маскіруюць.

Калі б, замест таго каб спрабаваць хаваць праўду ў адзенні пачцівай хлусні, мяне проста адвялі ў тыя месцы, якія паказваць не забаронена; калі б мне адкрыта адказвалі на пытанні аб падзеі, якая адбылася стагоддзе таму, мяне б значна менш цікавіла тое чаго я не здолеў убачыць; але залішне мудрагелістая адмова пераканала мяне не ў тым, што ў ва мне спрабавалі выклікаць, а ў прама супрацьлеглым. У вачах спрактыкаванага назіральніка ўсе гэтыя марныя хітрыкі ператвараюцца ў выкрыцці. Тое, што людзі, якія выкарыстоўваюць ў гутарках са мною падобныя выкруты, маглі паверыць, быццам я падмануся іхнымі дзіцячымі хітрыкамі, прывяло мяне ў абурэнне. З дакладных крыніц я ведаю, што ў Кранштацкіх падводных казематах сярод іншых дзяржаўных злачынцаў ўтрымліваюцца няшчасныя, якія былі накіраваныя туды яшчэ пад час валадарання Аляксандра. Небаракі пазбавіліся розуму ад катаванняў такіх жорсткіх, што ім няма ні апраўдання, ні прабачэння; калі б яны з'явіліся цяпер із-пад зямлі, то ўзніклі б, нібы прывіды помсты, і ў жаху адхіснуўся б перад імі сам дэспат, і паваліўся б будынак дэспатызму; з дапамогай прыгожых слоў і нават разумных меркаванняў можна абгрунтаваць што заўгодна; ні адна з кропак гледжання, якая раздзірае на часткі свет палітыкі, літаратуры і рэлігіі, не ведае недахопу ў аргументах;



але кажаце што хочаце: рэжым, які заснаваны на такім прымусе і патрабуе для свайго падтрымання падобнага роду сродкаў, ёсць рэжым глыбока заганны.

Ахвяры гэтай гнюснай палітыкі страцілі чалавечае аблічча: няшчасныя, якія выпалі з вобласці грамадскага правы, гніюць у змроку зняволення, чужыя свету, усімі забытыя, пакінутыя нават самімі сабой, і іхнае вар'яцтва – плён бясконцай тугі і апошняе іхнае суцяшэнне; яны страцілі памяць і амаль пазбавіліся розуму, гэтага светача чалавечнасьці, які ніхто не мае права гасіць ў душы бліжняга. Яны забыліся нават сваё імя, турэмшчыкі ж, жорстка і заўсёды беспакарана

здзекваючыся над імі, дзеля забавы пытаюцца, як іх клічуць, – у глыбінях гэтай прорвы беззаконня пануе такі беспарадак, а прыцемкі у ёй такі непраглядныя, што ў іх нельга заўважыць ніякіх слядоў правасуддзя.

Аб некаторых вязнях невядома нават, якое злачынства яны здзейснілі, аднак іх па-ранейшаму трымаюць пад вартай, таму што ніхто не ведае, каму іх вярнуць, і ўсе лічаць, што абнародаваць злачынства больш нязручна, чым дазваляць яму доўжыцца далей. Тут баяцца, што запозненая праява справядлівасьці выкліча непрыстойную рэакцыю, і пагаршаюць зло, каб не апраўдвацца за яго лішак... Гэтая жорсткая маладушнасць называецца выкананнем прыстойнасцей, абачлівасьцю, паслухмянасьцю, мудрасьцю, ахвярай на карысць грамадства або дзяржаўных інтарэсаў і ўжо не ведаю як яшчэ. На словах дэспатызм сціплы – бо кожную рэч у чалавечым грамадстве можна назваць па-рознаму! І вось нам на кожным кроку паўтараюць, што ў Расіі няма смяротнага пакарання. Пахаваць чалавека жыўцом не азначае яго забіць! Калі думаеш, што з аднаго боку існуе столькі гора, а з другога – столькі несправядлівасьці і крывадушнасьці, перастаеш лічыць вінаватым каго-небудзь із тых, хто пасаджаны ў турму: злачынцам выглядае толькі суддзя, і, што для мяне ўсяго страшней, я разумею: гэты неправедны судзьдзя зусім не атрымлівае задавальнення ад уласнай лютасьці. Вось што можа стварыць благі вобраз праўлення з людзьмі, зацікаўленымі ў яго ўстойлівасці!.. Аднак Расія выконвае сваё прызначэнне – і гэтым усё сказана. Калі мерацъ веліч мэты колькасьцю ахвяр, то гэтай нацыі, бясспрэчна, нельга не прадказаць панавання над усім светам.

Па вяртанні з гэтай сумнай вандроўкі мяне чакала новая бяда: ўрачысты абед у інжынера з людзьмі, якія належаць да сярэдняга стану. У мой гонар інжынер склікаў да сябе некалькіх навакольных памешчыкаў і сваякоў жонкі. Мне падалося б цікаўным назіраць падобнае грамадства, калі б з самага пачатку не было відавочна, што я не змагу даведацца нічога новага для сябе. У Расіі не так шмат буржуа; аднак тут месца нашай буржуазіі займае стан дробных чыноўнікаў і землеўладальнікаў, вельмі цёмнага паходжання, хоць і ўзнагароджаных дваранствам. Гэтыя людзі



зайздросцяць вышэйшым чынам, але і самі з'яўляюцца прадметам зайздрасьці для ніжэйстаячых; яны, дарма што называюцца дваранамі, знаходзяцца ж сапраўды ў такім жа становішчы, у якім апынуліся французскія буржуа напярэдадні рэвалюцыі: аднолькавыя перадумовы паўсюль прыводзяць да аднолькавых вынікаў.

Я адчуў, што гэтымі людзьмі кіруе дрэнна прыхаваная варожасць у дачыненні да ўсяго праўдзіва вялікага і вытанчанага, дзе б яно ні ўзрасло. Іхныя няветлівыя манеры і непрыязныя пачуцці, што прарываліся скрозь саладжавы тон і лісьлівы выгляд, занадта выразна нагадалі мне, у якую эпоху мы жывём – маючы ў Расіі справу толькі з прыдворнымі, я паспеў забыцца пра гэта. Цяпер я быў сярод славалюбаў-падначаленых, заклапочаных тым, што могуць пра іх падумаць, а гэтыя людзі ўсюды аднолькавыя.

Мужчыны са мной размову не пачыналі і, здавалася, амаль не звярталі на мяне ўвагі: французкую мову яны ведаюць роўна настолькі, каб чытаць, ды і то з цяжкасьцю; сышоўшыся ўсе разам у куце пакоя, яны балбаталі паміж сабой па-руску. Адна-дзве сваячкі гаспадыні дома неслі на сабе ўвесь цяжар размовы на французскай мове. Да свайго здзіўлення, я выявіў, што ім вядомы ўсе творы нашай літаратуры, акрамя тых, якім руская паліцыя не дазваляе пранікаць у краіну. Ва ўборах дам – усе яны, за выключэннем гаспадыні дома, былі ўжо ў сталым узросьце, – як мне здалося, не хапала вытанчанасьці; касцюмы мужчын былі яшчэ больш абыякавымі: замест нацыянальнага адзення яны насілі доўгія, амаль да падлогі карычневыя сурдуты, якія, аднак, прымушалі са шкадаваннем згадваць пра рускую сукенку; але яшчэ больш, чым нядбайнасць іхнага адзення, мяне ўразіў у людзях із гэтага грамадства з'едлівы, вечна з кімсьці спрачаючыся, тон размовы і недобразычлівасць прамоваў. Рускі лад думкі, які людзі з вышэйшага свету ўмела хавалі за тактоўнасьцю, тут выяўляў сябе ва ўсёй сваёй галечы. Гэта грамадства было больш шчырае чым прыдворнае і не такое ветлівае, і я выразна ўбачыў тое, што раней толькі цьмяна адчуваў, а менавіта: што ў адносінах рускіх да замежнікаў пануе дух выпрабоўваючы, дух сарказму і крытыкі; яны ненавідзяць нас – як кожны пераймальнік ненавідзіць ўзор, за якім ідуць; дапытлівым позіркам яны шукаюць у нас недахопы, аж гараць ад жадання іх знайсьці. Уразумеўшы для сябе кірунак іх розумаў, я адчуў, што зусім не схільны да паблажлівасьці.

Магчыма, думалася мне, з гэтага самага грамадства выйдуць людзі, якія складуць будучыню Расіі. Клас буржуазіі ў гэтай імперыі толькі зараджаецца, і, як мне здаецца, менавіта ён закліканы кіраваць светам.

Я палічыў сваім абавязкам папрасіць прабачэння ў дамы, што спачатку ўзяла на сябе абавязак гутарыць са мной, за сваё няведанне рускай мовы; ў завяршэнне сваёй прамовы я сказаў, што кожны падарожнік павінен быў бы ведаць мову той краіны, куды ён накіроўваецца,



пакольні для прыезджага натуральней размаўляць так, як людзі, да якіх ён прыбыў, чым прымушаць іх размаўляць так, як ён. У адказ мне было сказана незадаволеным тонам, што прыйдзецца, тым не менш, змірыцца і слухаць, як рускія перакручваюць французскую мову, а інакш я буду вымушаны падарожнічаць ў поўным маўчанні.

– Як раз пра гэта я і шкадую, – запярэчыў я, – калі б я ўмеў як след коверкать рускую мову, вам бы не прыйшлося праз мяне адмаўляцца ад сваіх звычак і размаўляць на маёй мове.

– У свой час мы інакш, як па-французску, і не размаўлялі.

– Гэта была памылка.

– Не вам нас папракаць.

– Я перш за ўсё імкнуся казаць праўду.

– А хіба ў Францыі праўда яшчэ на нешта вартая?

– Не ведаю; ведаю толькі, што праўду трэба любіць бескарысліва.

– Такая любоў не для нашага стагоддзя.

– У Расіі?

– Дзе б там ні было, а асабліва ў краіне, дзе ўсім запраўляюць газеты.

Я думаў пра тое самае, што і дама, і таму мне захацелася змяніць тэму размовы: я не жадаў ні казаць таго, чаго не думаў, ні далучацца да думкі асобы, якая, пры ўсім падабенстве напрамку нашых думак, тлумачыць свой светапогляд так з'едліва, што была здольная адхіліць мяне ад маёй уласнай. Не забуду дадаць, што казала гэтая асоба пявучым, ненатуральным голасам, да крайнасьці салодкім і непрыемным, нібы загадзя выставіўшы шчыт супраць французскай насмешлівасьці і хаваючы за ім ўласную варожасць.

Адно здарэнне, якое трапілася як нельга дарэчы, адцягнула нашу ўвагу ад гутаркі. Шум даносячыхся з вуліцы галасоў прымусіў усіх падысці да вакна – там лаяліся перавозчыкі; яны, здавалася, былі ў шаленстве, лаянка пагражала ператварыцца ў праліцьцё крыві; але вось інжынер выходзіць на балкон, і ад аднаго выгляду яго мундзіра адбываецца нешта неверагоднае. Лютасьць гэтых грубых людзей суціхае, прычым для гэтага не спатрэбілася ніводнага слова; самы паднаторыўшы ў крывадушшы прыдворны і той не здолеў бы лепш схаваць сваё раздражненне. Падобная паслужлівасьць вяскоўца прывяла мяне ў здзіўленне.

– Што за слаўны народ! – усклікнула дама, з якой я гутарыў.

"Небаракі, – падумаў я, сядаючы на месца, – я ніколі не стану захапляцца цудамі, створанымі жахам", – аднак жа абачліва прамаўчаў.

– У вас, павінна быць, такі парадак не адродзіш, – працягвала мая нястомная непрыяцелька, упіваючыся ў мяне выкрываючым позіркам. Падобная нявятлівасць была для мяне навінай; як правіла, я бачыў



рускіх, якія трымаліся нават залішне абыходліва, тоячы хітрыя думкі за лісьлівымі прамовамі; тут перада мною была згода паміж пачуццямі і іхным выяўленнем - і гэта выявілася яшчэ больш непрыемным.

– Наша свабода мае некаторыя выдаткі, але ў яе ёсць і перавагі, – запярэчыў я.

– Якія ж?

– У Расіі іх не зразумець.

– Абыдземся і без іх.

– Як абыходзіцеся без усяго, што вам невядома.

Абражаная мая непрыяцелька, імкнучыся схаваць прыкрасць, неадкладна змяніла тэму размовы.

– Ці не пра ваша сямейства распавядае так падрабязна спадарыня дэ Жанліс ва "Ўспамінах Фелісіі", і ці не пра вас згадвае ў сваіх мемуарах?

Я адказваў сцвярджальна, але выказаў здзіўленне, што гэтыя кнігі вядомыя ў Шлісельбургу.

– Вы нас трымаеце за лапландцаў, – адказвала дама з глыбокай з'едлівасьцю, якую мне ніяк не ўдавалася ў ёй перамагчы і пад дзеяннем якой я ў рэшце рэшт сам прыняў такіж ж тон.

– Не, шаноўная пані, я трымаю вас за рускіх, у якіх ёсць справы і больш важныя, чым марнаваць свой час на плёткі французскага свету.

– Спадарыня дэ Жанліс зусім не пляткарка.

– Зразумела, але мне здавалася, што тыя з яе твораў, дзе яна ўсяго толькі міла пераказвае дробязныя анекдоты са свецкага жыцця свайго часу, могуць зацікавіць толькі французаў.

– Вы не хочаце, каб мы шанавалі вас і вашых пісьменнікаў?

– Я хачу, каб нас паважалі за нашы сапраўдныя заслугі.

– Адбяры у вас той ўплыў, які выказаў на ўсю Яўропу ваш свецкі дух, і што тады ад вас застанецца?

Я адчуў, што маю справу з моцным супернікам.

– Ад нас застанецца наша слаўная гісторыя і нават збольшага гісторыя Расіі, бо імперыя ваша па-новаму ўплывае на Яўропу толькі дзякуючы той моцы, з якой яна адпомсціла за ўзяцце французамі сваёй сталіцы.

– Ніхто не спрачаецца, вы, хоць і самі таго не жадаючы, зрабілі нам выдатную паслугу.

– Вы страцілі на гэтай жудаснай вайне кагосьці з блізкіх?

– Не, пане.

Я спадзяваўся, што змагу растлумачыць агіду да Францыі, заўважаючуюся ў кожным слове гэтай суровай дамы. Я ашукаўся ў сваіх чаканнях.

Размова наша, якая не магла стаць агульнай, вяла цякла аж да самага абеду; вялася яна ўсё ў тым жа абвінаваўчым, непрыязным тоне з аднаго боку, вымушаным і па неабходнасці стрыманым – з другога. Я быў поўны рашучасьці заставацца



у належных рамках, і мне гэта ўдавалася, за выключэннем тых выпадкаў, калі гнеў у ва мне браў верх над асьцярогай. Я паспрабаваў пераключыць размову на нашу новую школу ў літаратуры; тут ведаюць аднаго Бальзака, якім бясконца захапляюцца і пра якога судзяць вельмі дакладна... Амаль усе кнігі нашых сучасных пісьменнікаў у Расіі забаронены: гэта сведчанне таго, якую магутнасць ўздзеяння ім прыпісваюць. Магчыма, хто-небудзь із іх усё ж вядомы ў Расіі, бо мытня, здараецца, робіць паслабленьні; проста лічыцца, што згадваць гэтых аўтараў неабачліва. Зрэшты, гэта ўжо чыстыя здагадкі.

Нарэшце смяротнае чаканне скончылася, і ўсе селі за стол. Гаспадыня дома, па-ранейшаму выступаючая ў ролі статуі, зрабіла за ўвесь дзень толькі адін рух – перанесла сябе з канапы ў салоне на крэсла ў сталовай, не варухнуўшы пры гэтым ні вачамі, ні вуснамі; гэтае раптоўнае перамяшчэнне пераканала мяне ў тым, што ў фарфоравага балванчыка маюцца ногі.

Абед прайшоў даволі прымусова, але быў не доўгім і, на мой густ, цалкам добрым, за выключэннем супу, своеасаблівасць якога пераходзіла ўсякія межы. Гэта быў халодны суп з кавалачкамі рыбы, якія плавалі ў воцатным бульёне, вельмі крэпкім, пераперчаным і перасалоджаным. Не лічачы гэтага пякельнага рагу і кіслага квасу, мясцовага напою, усе астатнія стравы і напоі я адведаў з апетытам. Падалі хвацкае бардо і шампанскае; але я выдатна бачыў, што мяне вельмі моцна саромеюцца, і таму мучыўся сам. Віны інжынера ў гэтай прымусовасьці не было: ён быў увесь заняты сваімі шлюзамі і дома зусім

бянтэжыўся, аддаўшы цешчы справу прымання гасьцей; вы маглі скласці ўяўленне, як міла яна гэта рабіла. У шэсць гадзін вечара мы развіталіся з гаспадарамі з узаемным і, трэба прызнаць, непрыхаваным задавальненнем, пасьля чаго я накіраўся ў маёнтак ***, дзе мяне чакалі.

Шчырасць гэтых буржуазак пагадніла мяне з манернасьцю некаторых свецкіх дам: нічога няма горш непрыемнай шчырасьці. Са штучнасьцю ёсць надзея справіцца; адштурхоўваючаяся ж існасць неператможная – сапраўды гэтак жа як існасць прывабная. Такое было маё першае знаёмства з сярэднім станам, і так я ўпершыню паспрабаваў такую хваленую ў Яўропе рускую гасціннасьць.

Калі я прыехаў у ***, усяго ў шасці-васьмі лье ад Шлісельбурга, было яшчэ светла; рэшту вечара я правёў, гуляючы ў прыцемках па парку, вельмі прыгожаму для гэтых месцаў, катаючыся ў маленькай лодачцы па Няве, а галоўнае, атрымліваючы асалоду ад вытанчанай і ветлівай гутаркі з чалавекам із вышэйшага грамадства. Мне неабходна было абстрагавацца ад успамінаў пра буржуазную ветлівасць, ці хутчэй пра няветлівасць, якую я толькі што адчуў на сабе. У гэты дзень я зразумеў, што найгоршыя дамаганні не зьяўляюцца самымі неабгрунтаванымі; ўсе



тыя, што абрынуліся на маю галаву, былі цалкам апраўданымі, і я з пацешнай прыкрасьцю гэта прызнаваў. Жанчына, з якой я размаўляў, прэтэндавала на добрае веданне французскай мовы – яна і сапраўды вымаўляла нядрэнна, хоць і надоўга змаўкаючы пасьля кожнай фразы і з акцэнтам ў кожным слове; яна прэтэндавала на веданне Францыі – і сапраўды разважала пра яе даволі дакладна, хоць і з прадузятасьцю; яна прэтэндавала на любоў да сваёй радзімы – і любіла яе нават занадта моцна; нарэшце, яна хацела паказаць, што здольная без фальшывага самапрыніжэння прыняць у доме сваёй дачкі парыжаніна – і падавіла мяне грузам свайго пераўзыходжання: нязломным апломбам, гасціннымі словамі, не столькі пачцівымі, колькі цырымоннымі, але так ці інакш бездаганнымі ў вачах нікому невядомай рускай правінцыялкі.

Я прыйшоў да высновы, што тыя пацешныя небаракі, над якімі так часта смяюцца, здаецца, усё ж на нешта вартыя – хаця б на тое, каб вярнуць душэўны спакой тым, хто мяркуе, быццам яго пазбаўлены; людзі ж, з якімі я сустрэўся ў Шлісельбургу, былі агідна варожыя. Аднак гутарка з імі была цяжкай толькі для мяне і зусім не выклікала жадання пасмяяцца над суразмоўцамі, як, бывае, цешацца ў іншых краінах пры падобных жа абставінах над прастадушнымі, наіўнымі людзьмі; тут людзі пільна і няўхільна сачылі і за сабой, і за мной і я пераканаўся, што для іх нішто не магло стаць нечаканасьцю; ўсе іхныя перакананні склаліся дваццаць гадоў таму; праз гэтыя перакананні я, ў рэшце рэшт, адчуў сябе адзінокім у іхнай прысутнасьці, адзінокім настолькі, што пашкадаваў аб тых прастадушных розумах – я ледзь не сказаў: легкаверных дурнях, – якіх так не цяжка ўсхваляваць і суцешыць!.. Вось да чаго давяло мяне залішне відавочная нядобразычлівасць рускіх правінцыялаў. Пасьля таго, з чым я сутыкнуўся ў Шлісельбургу, я ўжо не стану шукаць выпадку зноў трапіць пад такі допыт, якому падвергнулі мяне ў тамтэйшым грамадстве. Падобныя салоны

падобныя на поле змагання. Вялікі свет з усімі яго заганамі пераважней для мяне гэтага малога свету з усімі яго цнотамі.

У Пецярбург я вярнуўся за поўнач, праехаўшы за дзень крыху менш трыццаці шасці лье па пяшчаных і брудным дарогах на двух паштовых запрэжках. Патрабаванні, якія прад'яўляюць тут да жывёл, цалкам адпавядаюць стаўленню да людзей: рускія коні не вытрымліваюць даўжэй васьмі-дзесяці гадоў.

Трэба прызнаць, што пецярбургская маставая згубна дзейнічае на жывёл, на карэты і нават на людзей; ледзь вы зварочваеце з драўлянай мазаікі, якой выкладзена вельмі невялікая колькасць вуліц, як галава ў вас пачынае разколвацца. Праўда, рускія, якія ўсё робяць блага, але не без раскошы, выкладаюць на сваіх агідных маставых прыгожыя ўзоры із вялікіх камянёў, але гэтыя ўпрыгожванні толькі павялічваюць

**~380~**

зло, бо вуліцы праз іх становяцца яшчэ больш няроўнымі. Калі колы трапляюць на гэтыя стыкі камянёў, з выгляду падобныя на малюнак паркету, як карэта, так і тыя, хто ў ёй сядзіць, атрымліваюць руйнуючы штуршок. Але хіба для рускіх мае значэнне, каб зробленая імі рэч служыла свайму прызначэнню? Ва ўсіх рэчах яны шукаюць толькі аднаго: вядомай знешняй вытанчанасьці, уяўнай раскошы, паказнога багацця і велічы. Працу цывілізацыі яны пачалі з празмернасьцей; калі б такім быў спосаб прасунуцца далёка наперад, то варта было б усклікнуць: "Хай жыве славалюбства! Далоў здаровы сэнс!" Каб дасягнуць сваёй мэты, ім прыйдзецца пайсьці іншым шляхам.

Паслязаўтра я ўжо напэўна еду ў Маскву; падумайце толькі, у Маскву!